УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-44
А90

ISBN 978-985-562-???-?



*Сколько нежных слов я не сказал…*
*Сколько их ненужных обронил…*
Юрий Левитанский

# Праўды не скажу, Але і хлусіць не буду

Пачуццё гумару я зрабіў сваім заняткам, у якім хачу дабіцца поспеху. Калі моцна нечага прагнеш — рана ці позна жаданне абавязкова спраўдзіцца. Калі ж раптам яно не здзейснілася — значыць, проста не хапіла цярпення дачакацца фанфараў у свой гонар. Закопваць талент у зямлю — самы бяздарны занятак, які толькі можа дазволіць сабе чалавек.

На шляху да пісьменніцкай дасканаласці стараюся быць бязмежна настойлівым і цярплівым. Адданы той літаратуры, якую задумаў стварыць, не лянуюся, не ашукваю ні сябе, ні іншых. У кожнага аўтара свае «прусакі» ў галаве, якіх ён любіць, песціць і лашчыць. Тое, што для адных падаецца лагічным, для іншых — ідыятызм. Слухаючы крытыку ў свой адрас, стараюся атрымліваць задавальненне. Крытыка для мяне — дадатковы стымул мяняцца ў лепшы бок.

Творчы працэс непрадказальны. Загадзя пралічыць поспех практычна немагчыма. Але, калі першы крок не прывёў да поспеху, гэта не нагода ўпадаць у дэпрэсію і пасыпаць галаву попелам спаленага рукапісу. Бо, па сутнасці, нічога не змянілася. Унікальная магчымасць працягнуць рух да вызначанай мэты па-ранейшаму існуе. Хто ідзе — дарогу асіліць! Шчыра веру ў гэтую праўду.

Пісаць смешна атрымліваецца тады, калі злоўлены кураж. Кураж нараджае адчуванне, быццам хтосьці нябачны водзіць маёй рукой, напаўняючы радкі іроніяй і вясёлым скепсісам. Люблю знаходзіць смешнае ў звычайных жыццёвых сітуацыях. Чым сур'ёзней сітуацыя, тым больш у ёй камедыйных элементаў.

Глядзець на дзікасць і дзіўнасць рэальнага свету стараюся пад нечаканым ракурсам, вачыма, у якіх скачуць чорцікі. Гэтак успрымаць навакольны свет мяне навучыў жыццёвы досвед.

Мне пашанцавала ўбачыць жыццё як справа, так і злева. На вялікі жаль, сёння ў ім занадта шмат цынізму, змяніліся прыярытэты, вечныя каштоўнасці ўспрымаюцца як атавізм. Людзі закanaпаціліся ў сваіх шкарлупінах і дастукацца да іх вельмі няпроста. Яны думаюць, што з Богам можна лёгка дамовіцца, калі паставіць у царкве пудовую свечку. Бога ашукаць нельга!

Кожнаму пад сілу зрабіць жыццё лепшым. Дастаткова не шкадаваць высілкаў на здзяйсненне шчырых учынкаў. Напісаць кнігу — таксама ўчынак.

Мая кніга распавядае пра тое, што па-сапраўднаму хвалюе большасць людзей, прымушае іх захапляцца, трымцець, баяцца, — пра каханне і сэкс.

*З павагай,*
*Віктар Асіпенка*



## Генерал Бум-Бум

Лагодныя вераснёўскія дзянькі, якія не паспелі яшчэ набрацца восеньскай шэрасці, ствараюць рамантычны настрой не горш, чым вясёлы звон сакавіцкага капяжу. Такой парой жаданне пажыць напоўніцу накатвае гэтак імкліва, што няма часу думаць пра наступствы. Чорт падмывае легкадумна і бессаромна сысці ў вар'яцкі загул, змяняючы ў апраметнай цемры маладзенькіх рагатушак на бывалых цётак. Потым, схіліўшы галаву ў пакаянні, ізноў прыкіпець да маладух і з непадробнай жарсцю, калі мурашкі бягуць па целе, а ў жываце трапечуць крыльцамі матылькі, з усіх сіл кахаць неўтаймаваны маладняк.

— Госпадзі, Божа ты мой! — шапчу ў прадчуванні непадробнай млосці. — Як хочацца ў Парыж! Пасваволіць на бульварах, выбрукаваных кінутымі жонкамі. Далучыцца да паломнікаў, што вясёлым гуртам бяруць у аблогу Манмартр. У пошуках незабыўных уражанняў выпадкова зайсці ва ўтульную кавярню, дзе ў інтымным прыцемку дзяўчынкі з тварамі непрыгожых хлопчыкаў шэпчуць песні пра дзёрзкае і гарачае каханне.

Эх, мары-летуценні! Яны заўсёды імглістыя і прывідныя. Затое рэальнае жыццё можа заткнуць за пояс любыя фантазіі. У праўдзівасці гэтага сцверджання можна лёгка пераканацца, асабліва калі атрымліваеш з рук прадзюсара дзярмовы сцэнар.

— Кузюкін! — грозна хмурыць бровы прадзюсар. — Чакаю ад цябе не прыгладжаную версію для хатніх гаспадынь, а шалёны драйв, у якім цана вока — жмут апошніх валасоў! Мне патрэбны ўлётны фільм, побач з якім і Галівуд не стаяў. Ты зразумеў мяне, рэжысёр?!

— Усе хочуць фільм-цукерку. І нікому няма справы, што неверагодныя патугі на здымачнай пляцоўцы прывялі мой духоўны сад у запусценне.

— Ну-ну! З такім настроем за фільм лепш не брацца. Мяняй сябе, каб не прыйшлося змяніць цябе. Трымай авансік! Ён узбадзёрыць куды лепей за натацыі. Акцёраў падбярэш з валанцёраў, якія з'явіліся па аб'яве. Бюджэт не гумовы. Разумная эканомія — не пусты гук.

Дзесяць чалавек, якія ўявілі сябе артыстамі, мяне не натхнілі, але атрыманы аванс прымушаў дзейнічаць.

— Слухайце мяне, мудакі, уважліва, — без сантыментаў прыступаю да справы. — Ты, барадач, будзеш граць ролю гаспадара. Будзеш енчыць і ліць горкія слёзы па барану, якога ўкраў Шэры Воўк. Ты, акулярык, Ваўком будзеш. Злёгку паскавычаш па тых баранах, якіх не здолеў зацягнуць у сваё логава. Усе, хто застаўся без ролі, дружна біце Ваўка! Я сказаў біце, а не забівайце. У нас серыял, а не рэкламны ролік. Стаміліся?! Патрэбны вецер! Ды падзьміце ж хто-небудзь, ё-маё! Ды не задніцай, прыдуркі! Усё! Хопіць! Працаваць у павільёне без скразняку немагчыма.

Раптам шальная думка разанула па мазгах: хочацца чагосьці. А каго — зразумець не магу. Тупеючы з кожнай секундай, утыкаюся поглядам у непрыгожую, але ладную грымёрку.

— Ты хто?



— Маша.

Падпарадкоўваючыся ўнутранай позве, якая перамагла розум, хутка прапаную:

— Маша! Пайшлі да мяне піць каву.

Нахабства — маё другое шчасце, якое заўсёды выручае.

— Да вас дахаты я не пайду. У нас няма агульных знаёмых.

— Не дуры, Маша! Бо я магу падумаць, што ты не ведаеш Федзю Бандарчука.

— Бачыла на кінапаказе ў вялікай ад мяне недасяжнасці.

— О'кейчык, Маша! Зараз, калі ў нас ёсць агульныя знаёмыя, усё ў нас з табой зладзіцца. Толькі не ўздумай гарадзіць новыя перашкоды. Пакрыўджуся і пайду піць каву сам з сабой.

— У мяне ёсць муж. Зусім малады. Выйшла за яго, каб іншым не дастаўся.

— Вельмі малады?

— Вельмі. Ледзь-ледзь рожкі азначыліся.

— Не бядуй! З тваім шчасцем яго рожкі хутка падрастуць.

— Відаць, вы прымаеце мяне за прастытутку?

— Пра гэта на працы можаш не марыць. І ўвогуле, хіба я згадваў грошы?! Запомні, мілая, грошы — зло. А зла на ўсіх не хапае. Ішачу, як вярблюд, а стаўку далі, як тушканчыку. Табе да мудрасці трэба імкнуцца. А шлях да жаночай мудрасці ляжыць праз мужчынскія яечкі. Іншых варыянтаў Бог жанчыне не даў.

— Абяцайце, што падчас піцця кавы будзеце паводзіць сябе прыстойна.

— Абяцаю. Больш таго, скажу, не крывячы душой, што запаў на цябе, бо ты — чужая жонка. А кожная чужая жонка мае хоць адну, але несумненна добрую якасць, дзякуючы якой яна

здабыла мужа. Да таго ж новыя ўражанні сілкуюць ўва мне творчы пачатак.

— Гена, апамятайся! — адцягнуў мяне ўбок намеснік рэжысёра. — Гэта не дзяўчына, а конь. Такую пацалуеш — год ікаць будзеш. Яе татка быў, відаць, не ў гуморы, таму так нязграбна састругаў дачку.

— Супакойся, Толя. На халяву і воцат салодкі. Жыву з гумарам. Гумар дапамагае быць на кані, а не пад канём. Наш свет, Толя, таму ацалеў, што жывуць у ім вясёлыя людзі. Смеючыся, я кажу, што сёння Маша — лепшая дзяўчына на свеце. У яе ногі даўжэйшыя за ўзлётную паласу ў Дамадзедава. Не дазволю сабе раскошы адкласці на заўтра тую, якую можна сёння. Заўтра захаплюся кімсьці іншым, і адпасцеліць Машу ніколі не змагу. А ў выніку пасею ў сабе цяжкае пачуццё незадавальнення сабой, якое Гейнэ называў «зубным болем у сэрцы». Хау! Я ўсё сказаў. Маша, памахай Толіку ручкай. Мы вернемся толькі заўтра.

Пераступіўшы парог кватэры, я горда абвясціў:

— Гэта мой бярлог.

— Дзявяты паверх, непрацуючы ліфт, гэта хутчэй гняздо, чым бярлог, — усумнілася Маша ў слушнасці маіх слоў. — Дзіўны надпіс у вас на сцяне ў вітальні: «Пакінь адзежу, хто сюды ўваходзіць».

— Прабач, забыўся папярэдзіць. Завёў шчанюка, а ён, як шалёны, ірве гасцям калготкі. Лепш знімі іх адразу. Цалей будуць.

Маша не захацела вяртацца дахаты ў падраных калготках, таму, не кажучы ні слова, паслухмяна іх зняла.

— Я б на тваім месцы спадніцу таксама зняў. Заадно і блузку, яна зусім новая. Паспяшайся: Фунцік дзесьці стаіўся і можа ў любы момант выскачыць з засады і з прыгожай вопраткі зрабіць лахманы.



У трусіках і станіку Маша падалася такой безабароннай, што, доўга не думаючы, бяру яе на рукі і нясу ў ложак. Загарнуўшыся ў коўдру, Маша замерла, чакаючы з'яўлення раз'юшанага Фунціка.

Распрануўшыся, я залез да яе пад коўдру.

— Лягу з табой. Удваіх лягчэй са страхам змагацца.

— А шчанюк дзе? Хоць бы раз гаўкнуў.

— Даруй фантазёру. Няма ў мяне сабакі.

— Ашуканец! Як жа мне вас абазваць адным, але ёмістым словам?!

— Нават не спрабуй. У адно слова я не ўкладваюся.

— Вы сваю жонку вось гэтак жа будзеце ашукваць? — спытала Маша, вывучаючы якасць манікюру на левым мезенцы.

— Канешне буду. Сама падумай, каго ж яшчэ ашукваць, як не сваю жонку?! Кожны мужчына марыць пра жанчыну ў доме, якую можна кахаць, паважаць і ашукваць.

Я замаўчаў і паклаў рукі на Машыны грудзі, уяўляючы, што маю дачыненне да нейкай таямніцы з містычнай начынкай.

— Чаго мы чакаем? Камусьці з вас дваіх даўно пара ўстаць.

— Маша, які сёння дзень тыдня?

— Пятніца.

— Пятніца, а барабан маўчыць. Дзіўна.

— Які барабан? Вы зноў мяне разыгрываеце?!

— Сусед у мяне — чалавек з вялікай, але дрэннай літары «Г». Генерал. Па пятніцах, п'яны як бэля, барабаніць ваенныя маршы. Яго

трам-трам-тарарам, трам-трам-тарарам даўно выелі маю пячонку. За былыя заслугі адстаўнік Кухлаты Антон Палікарпавіч адсудзіў сабе права барабаніць па пятніцах. Шум калясніцы старога Зеўса падасца лёгкім рыпеннем дачнай брамкі ў ціхую месяцовую ноч побач з барабанным дробам Палікарпыча. Задзяўбаў генерал сваёй музыкай. Лепш бы страўса ўсынавіў на Дзень птушак. Парой мне здаецца, генерал — «чайнік». І калі «кіпіць», то стукае ў барабан — пару такім чынам выпускае. Пакуль крэтын не адбарабаніць, я не змагу засяродзіцца на табе.

Паўза зацягнулася, як мае быць нацягнуўшы мае нервы. Чакаць на генеральскі фортэль ужо бракавала цярпення.

Раптам нехта з нуднай аднатоннасцю забарабаніў у дзверы. Той, хто грукаў, быў цвёрда ўпэўнены, што я дома.

— Хто б гэта мог быць? — занепакоілася Маша. — У цябе сапраўды няма жонкі?

— Успомні д'ябла, і ён з'явіцца! — на маёй фізіяноміі з'явілася крывая ўсмешка. — Зараз будзе малаціць у дзверы, пакуль не адчыню. Генерал — тая асоба, ад якой праблемы сёрбаеш поўнай лыжкай.

Загарнуўшыся ў коўдру, я пайшоў адчыняць дзверы.

— Добры вечар, Антон Палікарпавіч! Думаю, здарылася нешта неверагоднае?! Вы з'явіліся ў мяне ў парадным мундзіры, нападпітку, але ўпершыню без ордэнаў!

— О-*ба*-на! — не менш за мяне здзівіўся генерал. — Пракляты склероз памяць у скатку скруціў. Забыўся перакалоць ордэны з піжамы на кіцель. Не дай Бог дабрацца да вяршыні рассеянасці, калі аднойчы забудуся прачнуцца.



— Ды што вы, Антон Палікарпавіч, не намаўляйце так на сябе.

— Усе мы смяротныя, Геначка, пакуль жывыя. У старасці кожны дзень сустракаеш, як Дзень Перамогі. Я прыйшоў за табой. Трэба ўвязаць адну справу.

— Важная справа?

— Вельмі важная!

— Тэрміновая?

— Вельмі тэрміновая!

— Тады рапартуйце пра справу прама тут. Сцісла, ясна, быццам зводку з фронта чытаеце. Мяне дзяўчына ў ложку чакае.

— Гена, выпіць хочаш?

Я быў у завязцы, таму не павёўся на дармовую сотку, налітую ў гільзу ад снарада.

— Мне ваша гарэлка зараз неяк па барабану.

— У мяне бяда. Унучка ў істэрыцы прабіла барабан абцасам.

Давялося мне прыкласці немалыя намаганні, каб запхнуць пад дыванок свядомасці пачуццё радасці.

— Дык ты кажаш, што не адзін? — з доляй нейкай задуменнасці прамовіў генерал.

— Так, так, так!

— А я дасягнуў узросту, калі згода жанчыны палохае больш, чым адмова. Барабан зможаш направіць? Падару пару афіцэрскіх хромавых ботаў з лыжным мацаваннем і баян на запчасткі.

— Я ў барабанах, Антон Палікарпавіч, ні бум-бум, карацей, пень пнём.

— Што, зусім ні бум-бум?

— Зусім.

— Эх ты, неўдалоцце. Табе б толькі дзевак на прасцінах абкатваць. Але хочаш не хочаш, а за-

хацець да мяне пайсці прыйдзецца. Аб'яўляю мабілізацыю: будзем гуляць у вайнушку.

— Якая вайнушка, Антон Палікарпавіч! У мяне жанчына без коўдры ў ложку мерзне.

— Божа мой, заладзіў: «Жанчына, жанчына!». Калі цябе не хвалюе гвардзейскі марш, трэба паглядзець, ці расце ў цябе барада. Калі цябе не цягне прымерыць армейскую фуражку, значыць штаны — не твая адзежа. Жанчына таксама лішняй на полі бою не будзе. Нехта мусіць параненага байца з-пад куль на сабе вынесці. Камандаваць жанчынай таксама можна. Ёсць два спосабы. Але я іх не ведаю. У Акадэміі такую навуку не выкладалі. Гуляючы ў вайну, я не даю мяшчанскаму балоту засмактаць сябе. Спаць, сцаць, есці, галіцца, мыцца, працаваць — лёс разгільдзяяў. Паважаю ў людзях жалезную дысцыпліну і самакантроль. Трымаць сябе ў руках трэба, нават калі хочацца дзяцей. Жыць, як бутэлька, калі ўсякая сволач спрабуе за горлачка схапіць, не жадаю. Прапанавалі мне пайсці працаваць у рэстаран зачыншчыкам дзвярэй. Мне! Баявому генералу! Ды бачыў я іх усіх у белых тапках у сасновай скрыні іхняга памеру. Утрапёнасці адважных — ура! Ура! Ура!

Генерал схапіў мяне за руку і пацягнуў у сваю кватэру.

— Я — генерал! А генералы абавязаны ваяваць. Няма вайны — трэба яе прыдумаць.

— Што я павінен рабіць?

— Ты салдат! Будзеш ваяваць, гінуць, і абеліск табе будзе ўзнагародай.

— Я не ўмею ваяваць.

— Ніколі не бойся рабіць таго, чаго не ўмееш. Я запрасіў цябе, рэжысёр, не на сцэнічныя падмосткі, дзе можна выдаваць глупства за мастацтва, а ў тэатр ваенных дзеянняў, дзе дылетантам няма месца.

— Добра! Цяпер пакажыце, з кім я буду ваяваць?

— З танкам! Танк! Слухай маю каманду. Наперад, марш!

Са спальні на карачках, натужліва крэкчучы, выпаўзла баявая сяброўка генерала Зоя Мікалаеўна.

— Добры дзень, Зоя Мікалаеўна! Усё ваюеце?

— Ох, ваюю, Геначка, ваюю.

— Антон Палікарпавіч, без падтрымкі авіяцыі мне танк не перамагчы. Патрэбны самалёт.

— Хітры, Гендос! Хвалю за кемлівасць.

— Можна, самалётам буду я? — тоненькім галасочкам падкінула сваю вязанку галля ў кволае вогнішча завязанага бою забытая мною Маша. Замахаўшы рукамі, яна прабеглася па пакоі і замерла насупраць генерала, лыпаючы вачыма:

— Так добра будзе?

— Як ты нас знайшла? — здзівіўся я.

— Дзверы кватэры наросхрыст, — і Маша захінула на сабе крыссё майго турэцкага халата.

— Адна лётная баявая адзінка ёсць! — задаволена пацёр рукі Антон Палікарпавіч. — На штурмавік падвесім бомбачкі, — і ён паклаў у кожную Машыну руку па курыным яйку.

— Салдату патрэбна гармата! — не здаваўся я.

— З гарматай у мяне гэтым разам парадак! — узрадавана ўсклікнуў генерал. — Васіль Іванавіч, выязджайце.

Са спальні на дзіцячым ровары выкаціўся Васіль Іванавіч, паплечнік генерала.

— Сёння Васіль Іванавіч здольны зрабіць залпавы агонь. Я яго гарохавым супам зарадзіў.

— О-о-о! — скрывіўся я. — У такім разе мне трэба бегчы.

— Стой, дэзертыр! Вярніся на поле бітвы.

— Вярнуся! Толькі вазьму ў сваёй шафе процівагаз.

## А раніцай ён абудзіўся

Тое, што п'яная жанчына больш даступная, чым цвярозая, Макафаеў ведаў не па чутках. Не раз з падвыпіўшымі сяброўкамі яму даводзілася паводзіць сябе так, нібыта ён быў сапраўдным халасцяком: старанна выконваць валявыя каманды: «Хутчэй! Глыбей! Далікатней!»

Жаданне падпаіць каго-небудзь прыходзіла да Макафаева звычайна ў пятніцу пасля пяці. У справе падпойвання яму дапамагала вера ў сілу простага, але надзейнага заклінання: «Кладзіся, дзеўка вялікая, кладзіся, дзеўка малая!»

З прыходам першых замаразкаў Макафаеў пачынаў паляванне на таўстушак. У яго разуменні таўстушкі служылі натуральным сродкам ратавання ад начных халадоў.

Усе, хто ведаў Макафаева, лічылі яго рэдкай сволаччу, сволаччу не паводле выхавання, а сволаччу ад нараджэння. Дзіця органаў з няздейсненай сям'і, ён так і не знайшоў татку, які меў дачэненне да гэтых органаў, каб адпомсціць за ўжыўленую загану.

Карыснасцю Макафаеў не вылучаўся і заслужана лічыўся чалавекам цяп- ляп. У яго руках добра глядзеліся рыдлёўка, граблі, сякера. Калі на ўчастку знікаў шанцавы інструмент, брыгадзір падазрона касіўся на рабацягу.

— Не браў! — гыркаў той, быццам ляскаў згорнутай газетай, каб прыбіць надакучлівую муху.

— Значыць, не аддасць! — уздыхаў брыгадзір, злы ад бяссілля.

Раздзёўбаныя сякеры, рыдлёўкі, граблі Макафаеў падкідваў у капцёрку. Гэтаксама ціха і незаўважна ўкладваў у кішэні чыіх-небудзь штаноў скарыстаныя прэзерватывы з надзеяй, што жонкі ганарыстых рабацяг саб'юць з іх пыху.

Працэс спойвання выпадковых сяброўак Макафаеў давёў да неверагоднай дасканаласці. Пасля мноства вопытаў ён выявіў ледзь прыкметную мяжу паміж жанчынай проста п'янай і вельмі п'янай. Памежная зона звычайна засялялася пакутамі сумлення: «Прыстойныя Дзяўчаты Так Сябе Не Паводзяць!», «Ой, Заўтра Мне На Працу!», «Ой, Што Ён Пра Мяне Раніцай Падумае?!»

Важную ролю ў спойванні жанчын Макафаеў адводзіў дакладна вымеранай дазіроўцы. За ўдалую дазіроўку ён нават не ленаваўся самому сабе пляскаць у далоні. Апладзіраваў, праўда, у думках. Проста папляскаць далонню аб далонь, атрымліваючы асалоду ад поспеху, не атрымлівалася. Воплескі глухім болем аддаваліся ў грудзіне. Неяк па п'яні ён даў сябе ўгаварыць паехаць з дайверамі здымаць падводныя кіношкі сярод каралавых рыфаў. У экспедыцыі Макафаеву даверылі прываджваць з лодкі кавалкамі сырога мяса крыважэрных акул. За працу абяцалі немалую суму, якую Макафаеў збіраўся выдаткаваць на ўдасканаленне майстэрства спойвання жанчын. Рыпенне ўключынаў, нібыта калыханка, напоўніла сэрца карміцеля акул радасцю і амаль незямным шчасцем. У гэты якраз момант подлая драпежніца, схапіўшы мяса, адцяпала яшчэ і два Макафаеўскіх пальца. З тых часоў небарака трохі накульгваў і няўважліва зашпільваў штаны.



У памяць пра паездку прывёз бедачына малпачку. Паглядзець на дзіва сабраўся ўвесь двор.

— Маклуха! Дзіця прывёз, а мамка дзе? Як ты без мамчынага малака дзіцё гадаваць збіраешся? — здзекаваліся яхідныя бесталачы.

Паўгода крыўдаваў Макафаеў на дурняў, пакуль не адкрыў для сябе ўвасабленне сапраўднай жаночай прыгажосці. Сапраўдная прыгажосць была ўвасоблена ў грудзях неймаверных памераў і ў гэткіх жа памераў дупе.

У адзін з халодных вечароў зіркастыя вочы Макафаева выглядзелі дзяўчыну Анэль, чые пышныя формы вабілі і спакушалі. Напаіць таўстушку аказалася няпроста. Анэль мела перакос разьбы ў галаве і была амаль цвярозніцай. Як асоба ўражлівая, яна звяртала ўвагу на розныя дробязі, забываючы пры гэтым аб налітай шклянцы. Аднак Макафаеў, валодаючы талентам вулічнага артыста, вырашыў, што ўражлівасць можа саслужыць яму добрую службу. У дадзеных абставінах як мага лепш падыходзіла роля ліслівага сабакі на кароткім ланцужку.

— Файна было б для пачатку ўламаць Ганульку абмакнуць вусны ў чарцы з гарэлкай, — падкручваў сябе настырны Макафаеў. — Далей усё пойдзе бы маслам памазаў.

Па характары Ганначка была падобнай да «жанчыны-коткі». Да жыццёвых мэтаў ішла павольна, мякка агінаючы перашкоды і падпарадкоўваючыся разумным спакусам. Затое Макафаеў меў характар «мужчыны-сабакі»: прывык бегчы да мэты з высунутым языком, не ўнікаючы ў тонкасці жаночай натуры. «Не дала баба — мацуйся, а дала — трымайся» — любіў ён прыгаворваць у чаканні плоцкіх уцехаў.

Ганначка, шатэнка з карымі вачыма, без таліі і з немалой масай цела на твары, сядзела за столікам у кавярні «Лукамор'е», запіваючы «Фантай» вялізны гамбургер. Увесь вечар ёй чагосьці хацелася, а дакладней кагосьці. Перашкаджалі загорнутыя ў джынсу вёрткія студэнткі, якія скрадалі аднаго за другім кавалераў, упадабаных пышкай.

Назіраючы за Ганкінай незапатрабаванасцю, Макафаеў драпежна шчэрыў зубы і паціраў рукі:

— Не можа быць, каб пераможаная ты да ног маіх не ўпала!

Вечар пачынаўся паэтычна, і адкладаць на заўтра тую, якую хацелася сёння, не адпавядала Макафаеўскім правілам. Не цырымонячыся, залётнік падсеў да дзяўчыны за столік. Два куфлі піва і бутэлька гарэлкі былі яго ўнёскам у фундамент размовы.

— Вам, дзядзька, што ад мяне трэба? — па-дзявочы наіўна сустрэла прыставалу таўстушка.

— Пакуль толькі разам выпіць. Яшчэ верш хачу расказаць. Сам напісаў.

Я іду па расе,
Я ў ёй ногі мачу.
Я такі ж, як усе,
Я гарэлкі хачу.

— Гэта добра, калі ў чалавека ёсць патэнцыя да творчасці! — ухвальна кіўнула галавой Ганначка. — «Іду, мачу, хачу» — не словы, а прабоіны ў маім сэрцы.

— Дзякуй, Аня. Высокае мастацтва не кожны зразумее. За паразуменне, якое ўзнікла, прапаную выпіць маю мяшаначку — смачную і заліхвацкую «півагарэліцу». Яна такая ж добрая, як і ўсё астатняе, што ёсць у мяне, — і Макафаеў пачаў дзьмуць у саломінку, змешваючы гарэлку ў піве.

— Ой! — пляснула ў пульхныя далонькі Ганулька. — Як прыкольна ты робіш бурбалкі! Сам баўтуху вып'еш?

— Не, з табой падзялюся! А рабіць гэта будзем так! — і Макафаеў проста з бутэлькі зрабіў некалькі глыткоў. — Гарэлку п'ю так, для паху. Дурноцця свайго хапае. А цяпер ты сербані мяккенькай «півагарэліцы», закусіўшы маім вершыкам.

Ганначка матнула галавой, аднеківаючыся ці то ад пітва, ці то ад вершыка.

— Ну, як хочаш! — і Макафаеў зноў прыклаўся да бутэлькі — я мог бы выпіць і больш, але пакуль выпіў да дна. А пад закуску будзеш піць?

— Закуску буду.

— Тады бяры з маёй талеркі. З'есці ўсю салату мне не пад сілу.

Пакалупаўшы кончыкам відэльца салату, Аня зморшчылася:

— На выгляд салата нешта не вельмі.

— Выгляд для салаты — не галоўнае. Галоўнае, яна не павінна пэцкаць «фэйс», калі пасля літру «півагарэліцы» падаюць у яе тварам, — паслужліва падказаў афіцыянт, які праходзіў міма.

— Ідзі, без цябе з салатай разбярэмся, — прагнаў Макафаеў афіцыянта, які паспеў залезці вачыма ў выраз Ганкінай сукенкі.

— Люблю салату, бульбу, шкварку, давай, Ганулька, выпі чарку! — панесла Макафаева па хвалях лірыкі. — Я ж, Аня, п'ю не таму, што выпіць люблю, а хачу, каб ты са мною выпіла. Калі

падвып'ем, пачнецца самае цікавае: ты палюбіш мяне ў сабе, я сябе ў табе, — сказаў Макафаеў і задумаўся: ці правільна ён размеркаваў любоўныя ролі.

— Я змагу палюбіць толькі прыгожага.

— Дурніца! Дзе ты прыгожых на ўсіх набярэшся?! Пі, многа пі! І не будзе для цябе брыдкіх людзей.

Хтосьці тузануў Макафаева за вуха.

— Ледзьве цябе знайшла. Ты чаго да таўстухі дакалупаўся? — гэта была жонка Макафаева, якая злавіла разгульнага мужа на месцы злачынства. — Яна не п'е і не дае. Ты на мяне паглядзі. Сказала ж, пацярпі трошкі, таксама патлусцею. Хіба дарэмна бакі наядаю? Для цябе ж, дурань, стараюся.

Макафаеў не чакаў такога напору і трохі збянтэжыўся. Але, спахапіўшыся, не стаў маўчаць:

— Кінь сваю паганую звычку шукаць мяне па кабаках і барах! Перад людзьмі сорамна. Хоць раз бы пашукала ў музеі, у бібліятэцы, у тэпэ і гэдэ.

— Пашлі дахаты, там я табе не толькі пра музей раскажу, але і пакажу тэпэ і гэдэ. Абы ты, паскуда, сам быў здольны на тэпэ і гэдэ!

Наташа рашуча пацягнула Макафаева за руку.

— Ты, сволач, і штаны паспеў расшпіліць. Напагатове сябе трымаў! Своечасова я падаспела.

— Ты пра штаны лішняга не мялі! Сама дапамагаеш зашпільваць. Не знайшоў цябе, калі з дому выходзіў. Вось і прыйшлося з расшпіленай прарэхай ад бара да бара калясіць.

— Няўжо?! Так хутка з хаты здрыснуў, што не адразу зразумела, куды ты падзеўся. А я, дурная, прасціну на ложку памяняла, каб на чыстай бялізне цябе, дурня, удаволіць.



Хлусня для Макафаеўскай жонкі была гэткім жа рамяством, як для самога Макафаева пісаць кароткія вершы, падобныя да цыдулак самагубцаў. Хлусні яна вучылася старанна, не прапускаючы ніводнага выпадку папрактыкавацца. Макафаеў, у сілу сваёй талерантнасці, прымаў кожнае жончына слова за чыстую манету, а ілгуха не давала падставы думаць інакш. Хлусіла яна з добрых памкненняў. Навошта мужу ведаць, што ў кагосьці разводны ключ большы і таўсцейшы.

— Будзеш піць са мной «півагарэліцу», тады пайду.

— Буду! Але толькі дзеля таго, каб табе, дурню, менш дасталося. Пасля выпітага твой любоўны запал хутка ператвараецца ў нішто. А без запалу мужыка мужыком не назавеш.

Раніца наступнага дня пачыналася да агіднасці звычайна і да болю знаёма. Галаву ад падушкі Макафаеў яшчэ змог адарваць, а вось нахабныя вочы расплюшчвацца не хацелі і на жадныя ўгаворы не паддаваліся. Прыпадняўшы пальцамі левае павека, ён даў воку трошкі прывыкнуць да святла, а потым узяўся за правае.

— Ты хто? — утаропіўся небарака ў голую спіну, якая тырчэла з-пад коўдры.

— Ніхто! — прагучаў глухі адказ.

— Ляжы ціха, Ніхто, — прыклаў палец да вуснаў Макафаеў і, як быў, у плавачках-абліпалачках паклыбаў на кухню. Кожны крок даваўся з болем, але да крана з вадой гнала засуха ў горле.

— Пралы галімыя, шпана дваровая, гаўрошы хрэнавы! — кляў Макафаеў незразумела каго. — Добра, што ў выцвярознік не заляцеў. А гэтая лежабока магла б проста сказаць: жонка я твая з шлюбным штампам у пашпарце. Не мо-

жа без выпендросаў жыць. Учора піў з ёй з адной шклянкі ўсё, што налівала, піў, апякаючы вусны, і за сяброў, і за ворагаў да зорнай ростані ў вачах. А потым залез з нагамі на стол і крычаў, як ашалелы: «Адыдзі, нячыста сіла, заставайся, чысты спірт!»

На кухні халадзільнік-падлюка сустрэў пустымі паліцамі. Графін на стале быў неверагодна сухім. З-пад стала пазіралі бутэлькі, поўныя нямога дакору. Макафаеў пусціў ваду і, прыпаўшы да крана, стаў смактаць, як смокча дзіця мамкіну цыцку.

І тут яго шандарахнула, быццам ток неймавернай сілы назапасіўся ў водаправодных трубах.

— Матухны мае, ды што ж я такое п'ю?! Быць такога не можа!!!

Асцярожна лізнуўшы струменьчык, Макафаеў прынюхаўся і зноў лізнуў. Паверыць у гэта было немагчыма, але з крана струменілася першакласная самагонка. Дрыжачымі рукамі ён напоўніў рондалі, міскі, кубкі, шклянкі, чаркі. Пакуль напаўняўся тазік, кінуўся ў ванную. Ішоў самагонны дожджык. Душ з вечара застаўся ўключаным, а хто мыўся, Макафаеў нават не спрабаваў успомніць. Намачыўшы ў самагонцы ручнік, ён прыклаў яго да галавы, не даючы думкам спаліць мозг. Падышоў да акна, пагледзеў на двор. Тое, што адбывалася ў двары, нагадвала эвакуацыяю, а выглядала нават страшней за ўсеагульную мабілізацыю.

Прайдзісвет-прапар падагнаў малакавоз і скрозь фільтры для ачысткі ядзернага паліва стаў яго напаўняць.

— Спатрэбіліся! — радасна паціраў ён рукі. — Калі краў, не ведаў, што з фільтрыкамі рабіць буду.



Ветэран рыбнагляду, ачмурэўшы ад пачуццяў, якія раптам нахлынулі, цягнуў з пляменнікам у дом дзесяцівёдзерны акварыўм.

Прыёмшчык шклатары згружаў з машыны скрыні з пустымі бутэлькамі. Ягонае сямейства сядзела ў двары на лаўцы і клеіла самаробныя этыкеткі «Асобая вадаправодная».

Група паўапранутых людзей з нязмытай мыльнай пенай і тазікамі ў руках слёзна маліла саступіць па пятнаццаць кропель на таз для прафілактычных мэтаў.

Каля пад'езда ўсёведная бабуленцыя раіла:

— Настойлівей прасіце! Чаго добрага, заглушку паставяць! — і ківала на акно халасцячкі Нюркі. — Яна за ўвагу да сябе па тазіку з ванны зачэрпне!

— Трафімыч! — паклікаў Макафаеў суседа. — Ты, як тэлевізар, канкрэтны і як кніжны чарвяк, усяведны. Адкуль у наш дом самагоннае шчасце прываліла?

— Чуў, Машка тройню нарадзіла?

— Не глухі. Вокны маёй спальні на радзільны дом выходзяць.

— Дык мужык яе, слесар водаканала, нагнаў самагонкі на агледзіны. І, відаць, п'яны ад радасці, не той вентыль адкрыў.

— Ну, народзец! — хмыкнуў Макафаеў і толькі цяпер пачуў трэль тэлефоннага званка. — Вось зараза! Ляжыць у ложку разамлелай падлай, а я павінен аб усім клапаціцца. Алё!

— Мілы ты мой! — пачуў Макафаеў знаёмы голас. — Хачу распавесці табе навіну! Наша сяброўства неверагодным чынам перарасло ў маю цяжарнасць.

— Чым далей, тым цяжэй, — праглынуў ліпкую сліну Макафаеў. — Пайду і павешуся.



— Хто тэлефанаваў? — данеслася са спальні.

— Ды так, хтосьці нумарам памыліўся.

Макафаеў змяніў кампрэс на галаве.

— Наташ! Давай кацяня завядзем.

— Ты мяне завесці не можаш, а з кацянём прасцей не будзе!

— Мая справа прапанаваць, а твая не пагадзіцца.

Макафаеў зноў падышоў да расчыненага насцеж акна.

— Чаго сумуеш, Макафаеў? Самагонкай запасціся паспеў? — крыкнуў з двара шчаслівы сусед.

Макафаеў няпэўна махнуў рукой. Згадалася вечна незадаволеная цешча.

— Праблемы ў мяне з цешчай, ніяк не ўжывуся. Вось і сумую.

— Ва ўсіх зяцёў з цешчамі праблемы. Трымай хвост пісталетам і пасылай усіх на тры літары. Думай пра здароўе і не грузіся па дробязях.

— Усе чужыя праблемы не вартыя маёй адной. Не ад кожнага зяця цешча цяжарае.



## Міця

Сумленне не дазваляе абазваць Палафаева бездапаможным мужыком і выцерці аб яго ногі. Стараецца жыць чалавек. Але пакуль сем разоў адмерае, іншыя і сабе адрэжуць, і сваякоў не пакрыўдзяць.

— Працуй, Палафаеў! Галавой працуй! — шалелі ўзлаваныя партнёры.

— Ды працую я, працую! — раздражняўся Палафаеў, не разумеючы, як можна працаваць тупым прадметам.

Звонку палафаеўская галава выглядала не горш, чым у іншых. Усе праблемы стварала ўнутранае напаўненне, асабліва калі з'яўлялася авантурная магчымасць узбагаціцца: Палафаеў губляўся і рабіў усё недарэчы. Аднак прызнаць сябе абсалютна недзеяздольным не давала шчырая вера ў сваю недазапатрабаванасць. Выратаваць няўдачніка магла надзейная апора, сапраўдная апора, апора з глуздам, з якой ён мог пасябраваць, а калі што, і ажаніцца.

Калі навакольны свет нічога не мог прапанаваць акрамя разладу, Палафаеў ішоў у клуб «Крэматорый» ратаваць свой унутраны свет. Непрыхаваны балдзёж марнатраўцаў жыцця не даваў разгуляцца думкам пра непазбежнасць будучай катастрофы.

Пятніца была не лепшым, але і не горшым днём тыдня. Яна была ні тое ні сёе. Пякучая туга ўчапілася ў Палафаева і злосна грызла за



поўную адсутнасць перамен. Пасля літра піва пад вэнджаныя асьміножкі Палафаеў, гнаны нясцерпным жаданнем, пабег у прыбіральню. Расшпіліўшы прарэх і прымасціўшыся ля пісуара, ён тупа ўтаропіўся на абвестку, прыклееную скотчам да да кафлі: «У выпадку бамбёжкі хавайцеся пад гэты пісуар — у яго яшчэ ніхто не трапляў». Палафаеў таксама аказаўся не самым лепшым снайперам.

— Загаворанае месца! — прамармытаў ён, спаласнуў рукі і ад граху далей паспяшаўся да свайго століка. І своечасова: пачыналася тое, за што ён любіў гэты клуб.

— Шаноўная публіка! — звонка выкрыкнуў гітарыст. — Прашу крышачку ўвагі, а то вымру, як конь Тпружэвальскага.

— Андруша! — Палафаеў махнуў рукой музыканту. — Збацай дзіцячую песеньку!

Палафаеў любіў усе дзіцячыя песні Андрэя. Яны вярталі яго ў той чароўны час, калі яшчэ не даводзілася думаць мацюкамі. Андрэй кіўнуў у адказ, прыкусіў губу, наліўся цёмнай вянознай крывёй і з размаху лупануў усёй пяцярнёй па струнах.

— Трррррах! — адазваўся следам барабаншчык. Гук быў настолькі звонкім і гулкім, што здавалася, недзе побач разарвалася проціпяхотная міна з металічным начыннем з гаек.

— Жжжжырррах! — дубовае вечка раяля з трэскам агаліла белыя і чорныя клавішы. Пад тонкімі пальцамі піяніста клавішы жаласліва залямантавалі,ператвараючы дзікую сумесь гукаў у чароўную мелодыю.

У такія хвіліны Палафаеў забываў пра піва і асьміножкі і быў гатовы да сапраўдных дзівацтваў: мог заскакаць ад радасці, запляскаць

ад захаплення ў далоні, завішчаць ад шчасця і нават расплакацца, успомніўшы ненаўмысную крыўду. Апускаючыся ў вір пачуццяў, ён шукаў вобразы, здольныя распаліць полымя рашучых учынкаў. Сёння яму прымроіўся велізарны буры воўк, які бяжыць па снезе. Гэта быў пасляховы воўк-рыцар без страху і дакору.

Пругкі, як далёкія грымоты, акустычны бас гітары і хвалюючы, з лёгкай хрыпатцой голас Андрухі выносілі Палафаева-ваўка на шчымлівы, шырокі прастор, на раўніну, бязмежную як мора.

— Я сягоння не такі, як заўжды, — матаўся па сцэне апантаны Андрэй, — ну а ўчора быў ніякі зусім…

Палафаеў заплюшчыў вочы і калыхаўся ў такт музыкі. Быццам наяве, ён убачыў неверагодна прыгожы разьбяны церам на фоне барвовага шара, які сыходзіў за небасхіл. У святліцы церама ў крышталёвай труне ляжала прынцэса неапісальнай прыгажосці. Ляжала, падла, на жываце, і Палафаеў разгубіўся, бо не мог зразумець, куды яе цалаваць. Секунднага замяшання хапіла, каб нечыя нахабныя вусны прысмакталіся да палафаеўскіх вуснаў.

— А?! Што?! — падскочыў ад нечаканасці фантазёр.

— Сядзі, сядзі! А то можна падумаць, табе ў азадак усадзілі шыла. У нагах праўды няма. Твая праўда значна вышэй.

Бесцырымоннасцю адзначылася маладая жанчына з моцнымі сцёгнамі, высокімі грудзьмі і пачатай бутэлькай віскара ў руках. Як гарачае танга не падобнае да мернага менуэту, так і яна была непадобнай да ранейшых палафаеўскіх інфантыльных сябровак.



— Сакалова! Незамужняя. Двойчы. Пасяджу з табой. Дасталі суцэльныя расчараванні. Толькі калі ўбачыла цябе, супакоілася. Твае вусны вельмі чулыя. Вялікая рэдкасць сустрэць чалавека з такімі вуснамі ў наш вар'яцкі час, час неверагодных узрушэнняў. Пакуль любавалася табой, не заўважыла, як «выдзьмула» трэць бутэлькі «Джоні Уокера». «Джоні» — клёвы малы. Калі мне цяжка, ён заўсёды са мной.

Палафаеў маўчаў, як мудры змей. Акрамя таго, успомніўся строгі мамчын наказ: «Сярожа! З незнаёмымі дзяўчынамі не знаёмся. У раёне лютуе разбэшчанасць, якая не шкадуе ні прыгожага, ні ўбогага».

— Ты ў маўчанку са мной не гуляй. Нетаварыскіх вялікіх хлопчыкаў цягне да бяздушных лялек з сэксшопных буцікоў. Падобная забава — шкодная звычка. Зваць цябе як? Не Міця, выпадкам? Імя Міця мне вельмі падабаецца.

— Не, не Міця! — выдушыў з сябе Палафаеў, спадзяючыся, што прыставалка памылілася і зараз пакіне яго ў спакоі. — Я праціўнік хуткаспелых клубных знаёмстваў.

— Я таксама, Міця, да фігляў-мігляў строга стаўлюся. Для мяне важная рэпутацыя. Разумееш, Міця, рэ-пу-та-цы-я. Яна мне далася не без дай прычыны. Я нарадзілася дзяўчынкай не са срэбнай лыжачкай у роце. Расла, як расце лапух ля агароджы Батанічнага саду. Колькі сябе помню, заўсёды чмурэла ад крутых тачак. «Ламбарджыні», «Феррары», «Бэнтлі»… Але купіць дарагую машыну было не па кішэні. Усё-ткі трыста штук баксаў — гэта не свіння з вушамі. Але памарыць было прыемна. Усё змянілася, калі зразумела, чым насамрэч адрозніваюцца хлопчыкі ад дзяўчынак. Сабраць багацце аднымі

сцёгнамі і каленямі не аказалася непасільнай працай. Балазе, акурат прыйшлі часы, калі ў паветры лунала адчуванне лёгкай нажывы ўперамешку з поспехам. Так, Міця, ёсць шмат рэчаў, якія важнейшыя за грошы. Але гэтыя рэчы, акрамя як за грошы, ніхто табе не аддасць. Зараз, калі я магу дазволіць сабе абсалютна любую тачку, мяне не ўстаўляюць дарагія пакупкі. Я стамілася быць босам. У мяне моцная задніца, якая, як і Радзіма, існуе для таго, каб яе любілі. Але хачу папярэдзіць цябе, Міця: маё сфарміраванае гадамі любоўнае крэда — быць зверху.

— Што ты заладзіла: Міця ды Міця?! Клуб вялікі, ідзі, шукай свайго Міцю! — рэзка абарваў Сакалову Палафаеў, успомніўшы мамчыны словы: «Калі дзяўчына захацела цябе асядлаць і ўстроіць радэа, значыць яна прапусціла паход у спартзалу і спрабуе забіць двух зайцаў: драпежна спарыцца з табой у сваё задавальненне і падкачаць мышцы сцёгнаў».

— Не будзь грубіянам, Міця! — Сакалова перакаціла цыгарэту з аднаго кута рота ў другі і інтымна падміргнула. — Я думала, такіх летуценнікаў, як ты, не сустрэну больш у нашым нікчэмным свеце. Але, бачыць Бог, памылілася. Сваёй памылцы вельмі радая. Я дзяўчына моцная. Моцная воляй, розумам і прозвішчам. Людзям падабаецца рабіць новых людзей. І табе не ўвільнуць ад гэтай важнай працы. У мяне дзелавая прапанова. Ты робіш мне дзіця, а я раз і назаўжды вырашаю ўсе твае праблемы. У маім доме ёсць усё, без чаго нам не абысціся: шырокі ложак, эратычная бялізна, паўзмрок, які вельмі ўзбуджае…

— Сакалова, ты на галаву не хворая? — вырашыў сапраўды нагрубіць Палафаеў, каб адшыць паддатую свавольніцу, хоць ніколі раней не грубіў жанчынам.



— Не, не хворая, Міця. Драбніца какетлівай капрызнасці ўласціва кожнай дзяўчыне. Каханне, Міця, не мае для мяне ні колеру, ні паху. Знайшла свайго — прыціснула да сэрца! Не знайшла — пайшла шукаць іншага. Я адчуваю, ты самотны. Павер, Міця, бізнэс з'есць цябе з трыбухамі. Ніхто не ўспомніць пра цябе, дурылка. Аднясуць бязлітасна выціснутага, як лімон, на цвінтар і забудуцца. Успомню толькі я. І то са шкадаваннем, што ты аказаўся глухім да маіх слоў. Я гатовая падставіць табе надзейнае плячо. Ты ж гэтага хочаш? Так ці не?

— Ну, хачу! Але чаму я павінен табе верыць пасля пяці хвілін знаёмства? І чаму табе ўздумалася дапамагаць менавіта мне?

— Спачатку адкажу на другое пытанне. Яно больш складанае. Я, Міця, наелася камерцыі. У жыцці акрамя бізнэсу павінны быць сям'я, дом, каханне і іншыя няхітрыя радасці. Я шукаю свайго чалавека, дзеля дабрабыту якога гатовая ахвяраваць усім! — на вачах Сакаловай праступілі слёзы. Слёзы былі сапраўдныя, буйныя, здольныя растапіць нават самае ледзяное сэрца. — Не стрымлівай сябе, Міця. Бо акрамя чакання поспеху ў гэтым зманлівым свеце павінны быць і прыемныя нечаканасці ад неспадзяванай сустрэчы.

— Няправільна ўсё гэта. Дзяўчына не павінна бегаць за жаніхамі. Дзе ты бачыла, каб пастка ганялася за мышшу?!

— Павінна не павінна, правільна не правільна. Каб я жыла па гэтых паняццях, то нічога б не здолела дамагчыся ў жыцці. Але з табой асаблівы выпадак. Пацягнула да цябе, як цягне па плыні

бязглуздае бервяно. Супрацiўляцца не стала, паверыла, што гэта лёс. А цяпер, Мiця, дазволь ушчыкнуць цябе, такога гладзенькага i дагледжанага. Хачу пераканацца, што ты сапраўдны, а не прывiд з ружовымi шчочкамi, якiя зводзяць з розуму.

Палафаеў слухаў балбатушку, як некалi мама слухала шкаляра Палафаева, зачараванага складнасцю таблiцы множання. Яму цяжка было паверыць, што ўсе яго праблемы могуць гэтак лёгка вырашыцца. Самотныя мужчыны вераць толькi ў надзейнасць уласных рук. Толькi дзякуючы ўласным рукам можна атрымаць тое задавальненне, якога не хапае самотнаму мужчыне. А цяпер яму прапануюць клопат iншых рук i кажуць, што горш не будзе.

— Паслухай… як там цябе…

— Сакалова!

— Паслухай, Сакалова! Не ведаю, як гэта магло здарыцца, але ты патрапiла ў самую кропку. Так, я мару пра моцнае, надзейнае плячо. Жыву чаканнем сустрэчы, дзеля якой гатовы зацягнуць паясок, пакласцi зубы на палiцу, сабраць волю ў кулак.

Сакалова засмяялася, адкiнулася на крэсле i яе грудзi захадзiлi ходырам. Здавалася, яшчэ трошкi — i гузiчкi ў пяцельках блузкi разляцяцца па баках, адкрываючы прыгажосць чароўнага цела.

— Ты мяне заёкаламанаў, Мiця. Паўтараю, табе не прыйдзецца нi пра што думаць. Я сама аб усiм паклапачуся.

— Адкуль у цябе столькi таннай бескарыслiвасцi да мяне?

— У мяне гэты тыдзень — «сэйл»!

— Тыдзень чаго? — насцярожыўся Палафаеў.



— Тыдзень распрадажы добрых намераў за бясцэнак. У мяне ёсць магчымасць усюды за цябе адрублiцца. Пацалуй мяне.

Нечакана i мiма сваёй волi ён паслухмяна крануўся вуснамi яе шчакi.

— Пацалунак бывае далiкатным, бывае патрэбным, а бывае мужным. Пара нам з табой разабрацца, якi з iх лепшы, пухленькi ты мой. А цi ведаеш ты, чым адрознiваюцца пракладкi з крылцамi ад сурвэтак з пухiркамi? Вось я i ўвагнала цябе ў фарбу просценькiм пытаннем. Пацешны ты.

— Прабач, Сакалова, але я абяцаў маме быць дома роўна ў восем.

— Раз абяцаў у восем, у восем i будзеш. Але ў восем ранiцы. Гэта я табе абяцаю. З тваёй мамай уладжу ўсё сама. У тваiм узросце пераблытаць восем вечара i восем ранiцы — звычайная справа. Нармальны мужчына, Мiця, абавязаны жанiцца, калi сустракае нармальную жанчыну. Яго да гэтага абавязваюць законы прыроды.

— Госпадзi, зрабi так, як мне трэба, а не так, як ёй хочацца, — узмалiўся ў думках набожны Палафаеў. А ўслых спытаў:

— Чаму я павiнен табе верыць?

— Ты мне адразу паверыш, як толькi пабываеш у мяне дома.

— У цябе што, дом асаблiвы?

— Не дом асаблiвы, а я асаблiвая.

Палафаеўская чара цярпення аказалася не самай вялiкай у свеце, i яго чыстая, крыху наiўная, замучаная пошукамi справядлiвасцi душа дала сябе ўгаварыць.

— Згодны! — неяк ужо вельмi асуджана прамармытаў ён. — Згодны пабываць у цябе дома.

— Весялей можаш сказаць пра значную ў нашым жыцці падзею?

— Пакуль нашае знаёмства не стала для мяне значным, весяліцца не бачу нагоды.

— Трымай цукерку «Пеўнік — залаты хрэнік». Табе прыйдзецца яе з'есці, перш чым ляжаш са мной у ложак. Цукерка надасць табе ўпэўненасці. Раніцай паедзем у ЗАГС. Не будзем утойваць ад дзяржавы, што маем намер надалей спаць разам. Але перш пабываем у тваёй мамы, я памятаю пра восем гадзін.

Як і абяцала, Сакалова прывезла Палафаева да мамы ў восем раніцы.

— Мама, знаёмся, гэта Сакалова, — з парога абвясціў Палафаеў, быццам бы і не было дванаццацігадзіннай затрымкі прыбыцця дадому. — Сакалова выратавала мне жыццё, таму зараз я абавязаны на ёй жаніцца.

— Дзякуй вам за сына! Ён у мяне такі безабаронны! Даражэнькі, распавядзі, як усё было!

— Сакалова прывезла мяне да сябе дадому, завяла ў спальню, наставіла стрэльбу і сказала: «Калі не жэнішся, прыстрэлю». Мама, што ты маўчыш?! Скажы хоць што-небудзь! Ты ж ведаеш, як я шаную тваё меркаванне.

— Лепш я прамаўчу. А то скажу якую дурасць, твая абранніца пакрыўдзіцца ды ўкакошыць мяне на пару з табой.

— Дык не кажы дурасць! Кажы разумныя рэчы.

— Добра. Тады слухайце абодва. Гэта не яна табе сустрэлася, а гэта ты ёй трапіўся. Больш нічога не скажу, бо твая Сакалова мяне зненавідзіць.

— Не, так не пойдзе. Вы лепш пытайце, а я адкажу, — не стала маўчаць Сакалова. — Не хачу выглядаць у вашых вачах бяздушным быдлам.



— Сакалова, чаму вы не замужам?

— Я ў тым узросце, калі прынца шукаць ужо позна, а ісці за каго папала яшчэ рана.

— Мама, гэты аргумент годны ўвагі?

— Калі я была ва ўзросце Сакаловай, то прынцып маіх дзеянняў быў просты: калі чагосьці няма дома — сапры гэта з працы. Так у мяне з'явіліся кампутар, кветка ў гаршку і муж. Будзьце шчаслівыя, дзеці. Гэта ўсё, што я магу вам сказаць.

Мінуў год, а можа нават больш. Галодны Андруша Каюраў з нязменнай гітарай за спінай уплятаў палафаеўскія катлеты.

— Сярожа, а Сакалова твая дзе?

Палафаеў не адразу адазваўся на Сярожу. Прывык адгукацца ў гэтым доме на Міцю.

— Пайшла лячыць нервы ў клуб. Сказала, будзе позна, п'яная, добрая, шчаслівая, магчыма, не адна. У такіх выпадках у нас прынята называць мяне братам. У мяне ідэальная жонка. Ад яе ніколі не робіцца дрэнна, яна ніколі не надакучае, яе не відаць, яе не чуваць.

Каюраў выцер сурвэткай губы.

— Уяві сабе, я таксама сустрэў добрага чалавека. Усё пры ёй. І партрэт твару, і фігура цела. Калі нашыя позіркі ўпершыню сустрэліся, я разгубіўся. Ці то ад таго, што закахаўся, ці ад таго, што ў гэты момант сядзеў на ўнітазе ў жаночай прыбіральні, куды п'яны зайшоў.

— Якое ўбоства! — абурылася яна.

— Зззайка! Ссспакойна!

— Называючы мяне зайкам, спачатку падумай, ці хопіць у цябе капусты, і ці добрая ў цябе морква.

Вось так я пазнаёміўся з Аняй. Да мяне яна была ў вольным пошуку і магла сабе дазволіць



невялікія свавольствы: то на Курылы злятаць, то на Бухалы. А зараз пакладзе бялявую галоўку мне на грудзі і з сумам у голасе шэпча: «Стамілася, Андруша, ад вар'яцкай летаніны. Адчуваю, надышоў час падумаць пра сямейнае гняздзечка». І слёзы, буйныя, як нармальны жэмчуг, па яе шчоках коцяцца. «Жаніся на мне, — шэпча далей, — табе са мной добра будзе». Што ты, Сярожа, з гэтай нагоды скажаш?

Памешваючы лыжкай закіпаючы ў каструлі боршч, а другой рукой калышучы каляску з маленькім Міцем, Палафаеў успомніў слёзы Сакаловай у клубе «Крэматорый».

— Андруха, дзявочым слёзам верыць нельга. Кракадзілы таксама плачуць, перш чым зжэрці сваю ахвяру. Але ў цябе няма выбару. Кожны мужчына ў душы дзіця, а дзеці любяць марожанае, глупствы, цуды і жаночую цыцку.

# Дуняша

— Айн, цвай, драй, фір! — адлічыў Міхась Каламазаў і расплюшчыў вочы. Раніца абяцала быць файнай. Прынамсі верыць у гэта вельмі хацелася. Учора на тэхнічнай нарадзе Каламазава ўключылі ў спіс на паездку ў Краснаярск.

Пасяджэнне ішло спакойна, без асаблівых эмоцый, карацей — сумна і нецікава. Здавалася, гэтай цягамоціне не будзе канца. Але выручыў Сцяпаныч, які аўтарытэтна заявіў:

— Любая храновіна, што патрабуе наладкі і рэгулявання, звычайна не паддаецца ні таму, ні другому. Прапаную выехаць на краснаярскі «хрэньзавод» і ў жорсткай форме засунуць прыладу ім у дупу. Прычым засунуць тэхнічна граматна.

Галоўны інжынер, які адказваў за тэхнічную граматнасць, падняўся і ўпэўнена заявіў:

— Блямба — самае слабое звяно прылады.

— Што за блямба? — ажывіўся Сцяпаныч.

— Блямба, як лічыць тэхнічны савет завода, — выпуклая храновіна, якая ўваходзіць у цвёрды стык з прыладай. Краснаярцы ж нам на злосць называюць блямбай увагнутую частку прылады. Калі з імі пагадзіцца, то тады блямбу храновінай увогуле назваць будзе цяжка.

— Канфлікт патушым у Краснаярску! — падсумаваў разбіралаўку Сцяпаныч. — Дзейнічаць будзем напорыста: без шуму, тлуму і пылу.



— Я не паеду! — падняўся з крэсла Пятакоў. — Мая пячонка не казённая, а нервы не жалезныя.

— Угаворваць нікога не буду! — Сцяпаныч, які не цярпеў пярэчанняў, заўважна пасуравеў. — Двое аднаго заўсёды знойдуць.

Калі разглядаць сітуацыю справядліва, Пятакова можна зразумець: далёкія паездкі знясільвалі, а аднаўляць сілы да чарговага ваяжу банальна не хапала часу. У камандзіроўках Сцяпаныч быў бязмежна строгі і не папускаў ні сябрам, ні выпадковым спадарожнікам. «Інтэлігентныя людзі ніколі не будуць піць з гарла, калі ёсць пустая бляшанка», — прыкладна так гучала любімая прымаўка шэфа.

Сцяпаныч нікога і нічога не баяўся. Мог п'яны як бэля прыцягнуцца на працу, а мог і зусім не прыйсці пасля глыбокага пахмелля. Заўваг яму ніхто не рабіў і з працы не выганяў. Ды і хто асмеліцца выгнаць дырэктара?!

Каламазаў на нарадах звычайна маўчаў, паспаліта сапучы ў дзве дзіркі. Яго меркаванне пры любых акалічнасцях не было вырашальным. Прамое пытанне Сцяпаныча заспела маўчуна знянацку:

— Каламазаў, гатовы паехаць у Краснаярск?

— А праца?! — здзівіўся Міхась.

— Праца не хрэн, сто гадоў прастаіць. Пара цябе, Каламазаў, у сапраўднай справе праверыць. Блешню знайдзі мне добрую. Для харыуса патрэбна яркая мушка. Пра сябе як след паклапаціся. Паедзеш без нянькі. На няньку ў прафсаюза няма фондаў. Прывыкай сам сабе быць нянькай. У далёкай дарозе кожная бутэлька гарэлкі з тваёй заначкі працуе на твой жа аўтарытэт.

Сярод восеньскай кругаверці працоўных будняў незаўважна надышоў час сапраўднай

рыбалкі. Камандзіроўку ў Краснаярск craраліся прымеркаваць да пуціны на харыуса. Ехаць са Сцяпанычам рыбачыць на Енісей — гэта значыла заручыцца вялікім даверам, таму Каламазаў з самай раніцы пачаў рыхтавацца да ваяжу.

«Стома забыта, калышуцца грудзі... — спяваў Міхась і аж свяціўся ад радасці, прыдзірліва аглядаючы надзьмутую гумовую ляльку. — Добра, халера, надзьмулася. Крышку рукі, ногі падкачаць і парадак!». Каб хутчэй выпрабаваць цацку, Каламазаў усеўся на яе верхам. «Прыг ды скок, прыг ды скок і без бабы жыць бы змог. О-о-о-х-х-х!» — зароў ён у прадчуванні задавальнення.

У самы неадпаведны момант увайшла маці і занепакоена спытала:

— Мне паказалася, ты «войкнуў», і я хачу ведаць, што здарылася — але разглядзеўшы пад Міхасём гумовую распусніца, выбухнула гневам — зноў «Дуньку» надзьмуў? Табе што, сапраўдных дзевак мала?

— Мама, па-першае, калі чалавек раніцай «войкае», гэта яшчэ не значыць, што чалавеку дрэнна. Можа, чалавеку добра і нават вельмі добра. Па-другое, бясплодныя намаганні забілі ўва мне ўсякае жаданне шукаць сяброўку сярод цеплакроўных дзяўчат. А «Дунька» заўсёды побач, пад ложкам, адно руку выцягні.

— Міхаська, мне патрэбныя ўнукі, а не пупсы. Заклінаю цябе, жаніся. Нават грамадзянскі шлюб мяне не спалохае, толькі б ён адбыўся на законных падставах.

— Ажанюся і захлынуся ў бясконцых папроках. Жонка — той жа камень на шыі, толькі з цыцкамі. А «Дунька» дурных пытанняў не задае, дарагіх падарункаў не патрабуе.



— Эгаіст! Сярод сябровак я адна не бабуля. Чакаю ад цябе ўнукаў, а ты гойсаеш на бяздушнай гуме. Зразумей, сынок, унукі — свята жыцця.

— Мама, жыць, калі кожны дзень — «Хэлоўін», немагчыма. Зрэшты, заўсёды знойдзецца свіння, якая спаскудзіць любое свята.

— Пакуль што ролю свінні выдатна выконваеш ты сам.

— Мама, давай хоць гэтай раніцай абыдземся без навешвання ярлыкоў. Мне з табой добра і ўтульна, як у хатніх тапачках. Не хвалюйся, я абавязкова ажанюся, раз ты так хочаш. Толькі не сёння. Сама паглядзі: касцюм не пагладжаны, я не паголены. Мой выгляд напалохае ўсіх нявест і яны з віскатам разбягуцца.

— Божа мой! Ты такі ж выкрутлівы, як і твой ганарысты татка. Але я гатовая паверыць табе на слова, калі ты гэтае слова заверыш штампам у пашпарце.

— Мама, калі я трошкі недзе і хлушу, то раблю гэта з лепшых памкненняў. Не хачу цябе нічым засмучаць. Свой выбар я даўно зрабіў — гэта Светка Панкрашына! Дзяўчына ў маім гусце, і табе, я ведаю, яна таксама падабаецца.

— Позна аб Светачцы ўспомніў. Яе ў радзільны дом на днях адвезлі.

— Сур'ёзна!? А што з ёй здарылася?

— Здарылася тое, што ніколі не здарыцца з тваёй «Дунькай».

Дзверы ў пакой прыадчыніліся, але ніхто не ўвайшоў. Міхась нагой хуценька запіхаў «Дуньку» пад ложак.

— Цёця Галя, што вы там прытаіліся? Мы ж ведаем, што ў кватэры больш няма каму падслухоўваць.

Цётка была яшчэ тая штучка! Любіла непрыкметна зазірнуць у шчыліну, каб паласавацца плёткай.

— Пра што шэпчацеся, мае мілыя? — цётка прамянілася ветлівасцю.

— Галя, ты не паверыш, наш хлопчык зноў паабяцаў ажаніцца, але пакуль не ведае на кім.

— Каб на тое была мая воля, я б даўно паказала дарогу да нявесты, а яшчэ б пачаставала добрым выспяткам. А пакуль бясплатна дару парачку каштоўных парадаў, — вучыць жыццю маладых быў любімы канёк цёці Галі, — запомні, Міхаська, дзяўчыны бываюць трох тыпаў: «проста прыгожыя», «нічога, сыдзе», ну і «нічога добрага, але бываюць і горай». Ніколі не знаёмся п'яным. У п'янага разуменне жаночай прыгажосці размыта алкаголем. П'янаму любая жанчына, якая яму падміргнула, можа падацца цудам прыгажосці. Памылак падчас знаёмства можна пазбегнуць, калі кіравацца залатым правілам цёці Галі: купляеш літр піва, пачак чыпсаў і арганізоўваеш сваёй пасіі рамантычную вячэру на дваіх у найбліжэйшым скверы.

— Галя, спыніся! Што за глупства ты вярзеш?!

— Супакойся, мілая! Галя глупствам на вынас не гандлюе. Тое, што я прапаную, — звычайная праверка кахання на трываласць. Што ў цвярозага ў галаве, то ў п'янай дурніцы на языку. Мяне саму не раз так правяралі. Карацей, нашаму хлопчыку патрэбна дзяўчына прыгожая, як я.

— Цёця, а хто сказаў, што ты прыгожая?

— Так кажуць усе мае мужчыны.

— Думаю, яны ўсё, як адзін, нястомныя палюбоўнікі!

— Адкуль ты ведаеш пра іх нястомнасць?! — расхвалявалася цётка.



— Падпітыя мужыкі заўсёды шукаюць шалёны сэкс на баку. Каб яго атрымаць, яны гатовыя бессаромна хлусіць аб прыгажосці жанчыны, нават калі гэтая жанчына — чыстакроўнае страшыдла.

— Грубіян! — успыхнула, нібыта лямпачка, цётка і запусціла ў пляменніка тапкам.

— Цёця Галя, ты зноў надзела мае тапкі!

— Хто раней ўстае, таму чужыя тапкі ў самы раз. Лепш адкажы на прамое пытанне: каго ты так старанна хаваеш пад ложкам? — і цётка бесцырымонна пацягнула «Дуньку» за пятку. — Ой, божачкі! І гэты таўкач яшчэ смее вякаць пра маю прыгажосць. Міхал! Ты злачынец!

— Цёця, твайму абвінавачанню не хапае аргументаў.

— Аргументы на мордзе ў гэтай гумовай пачвары. Ты разбазарваеш генафонд замест таго, каб напладзіць сваёй маці доўгачаканых унукаў.

— Галя, ты залішне строгая да Міхаські. Чым бы дзіцё не цешылася, абы не рукамі.

— Пакіньце мяне аднаго. Я хачу напісаць аб'яву, якая пераверне ўсё маё жыццё.

— Што ты задумаў? — насцярожылася маці.

— Згуляю ў любоўную рулетку. Дапамагу прыемна правесці вечар элітнай прастытутцы.

— Паяц! За сваю бесклапотнасць ты будзеш плакаць горкімі слязьмі. Маці пашкадуй.

— Цёця Галя! Я калі цыбулю рэжу, і то не плачу.

— Бяздушная скаціна!

— Мама, чаму цёця абзываецца?

— У самога язык як калаўротак.

— Не хвалюйся, Маша, знойдзецца дурніца і на нашага мудраца. Уся пыха з яго сыдзе, калі пазбудзецца сну, спакою і грошай. Навукай дака-

зана, што ў вар'ятаў атрымліваюцца таленавітыя дзеці. Не пашанцавала з сынам — пашанцуе з унукамі.

Абняўшыся, сёстры пайшлі на кухню дапіваць гарбату.

Пасля змарнаванай раніцы Каламазаву не хацелася заставацца ў кватэры. І ён, не кажучы ні слова, уцёк з хаты. Але і на вуліцы добрага было мала. Надвор'е без усякай прычыны сапсавалася. Рэзка пахаладала, і велізарнымі камякамі паваліў снег.

— Снег у кастрычніку — пачатак апакаліпсісу! — прашаптаў Міхась і, уцягнуўшы галаву ў каўнер, паспяшаўся схавацца ад непагадзі ў метро.

Адчуўшы пад нагамі рух эскалатара, Каламазаў супакоіўся. Наперадзе стаяла паненка з шыкоўнымі валасамі фантастычнага ружовага колеру. Паўтары хвіліны Міхась цішком любаваўся ружовай прычоскай і распрацоўваў у галаве неймаверны па дзёрзкасці план. Ён пазнаёміцца, спакусіць, зацягне ў ложак, а з першымі промнямі сонца, як злодзей, асцярожна адрэжа пасму яркіх валасоў. А потым! Потым ён акуратна абматае запаветны жмуток вакол трайніка «Аглія Лонг». Атрымаецца выдатная прынада. Харыус на такую блешню гронкамі будзе вешацца.

Дзяўчына, занятая балбатнёй па айфоне, не звяртала на Міхася ніякай увагі. Каламазаў напружыўся, ператварыўшыся ў слых. Шляхетная вытанчанасць перла з дзяўчыны фантанам. Гаворачы «істарычаскі» і «лірычаскі», яна загадкава ўсміхалася, і гэта рабіла неверагоднае ўражанне. Калі позіркі маладых людзей сустрэліся, Міхась адчуў лёгкі звон у галаве, быццам нехта пастук-



ваў пустымі паўлітровымі бутэлькамі аб такія ж пустыя чакушкі. Прасачыўшы за дзяўчынай, Каламазаў даведаўся, што цуд прыгажосці працуе ў бібліятэцы. Вытрымаўшы паўзу ў сем хвілін, ён увайшоў у храм слова.

— Дзе я магу знайсці кнігі пра самагубства? — спытаў Міхась. Ён быў абсалютна ўпэўнены, што незвычайнае пытанне зацікавіць дзяўчыну-бібліятэкара. Але нечакана прагучаў вельмі будзённы адказ, які не ўтрымліваў у сабе цікавасці да Каламазава:

— Паглядзіце ў раздзеле «Дом і быт», пяты стэлаж па левым баку.

— Тут няма ніводнай патрэбнай мне кнігі! — пракрычаў з глыбіні стэлажоў Міхась.

— Дзіўны збег абставінаў. Хто б ні ўзяў з паліцы кнігу пра самагубства, ніколі яе не вяртае. Пакіньце нумар свайго тэлефону і я перратэлефаную, калі нешта з'явіцца па тэматыцы, якая вас цікавіць.

Міхасёвы твар зрабіўся змрочны як хмара.

— Я не магу доўга чакаць. Жонка нарадзіла сёмае дзіця. Пасля шостага я, пагарачыўшыся, аб'явіў сябрам, што павешуся, калі жонка народзіць ізноў. Выканаць дадзенае абяцанне — справа гонару. Але ў справе павешання я дылетант, таму хацеў бы для пачатку вывучыць вопыт знакамітых шыбенікаў, каб задуманае абавязкова атрымалася і з першага разу. Убіты крук, надзейная вяроўка, пятля, якая б адпавядала памеру галавы, — кожная дробязь патрабуе адказнага падыходу. Нездарма мудрацы кажуць: «Д'ябал у дробязях».

— На жаль, нічым не магу вам дапамагчы. Зрэшты, пачакайце! Можа, да ўсяго, што адбываецца з вашай жонкай, вы не маеце ні якага

дачынення, і таму зусім неапраўдана збіраецеся павесіць не таго чалавека?!

— Шчыра кажучы, мазгоў не хапіла падумаць аб тым, што магу і не мець дачынення да нараджэння дзетак. За падказку вельмі вам удзячны. Прабачце, як вас завуць? Хочацца ўвекавечыць у памяці імя маёй збаўцы.

— Дуняша!

— Як?! Дуняша?! Вы не жартуеце?! — збянтэжана прашаптаў Каламазаў.

— Бібліятэка не месца для жартаў. Не разумею, чым не задавальняе вас маё імя?

— Уся справа ў неверагодным супадзенні! Я пісьменнік, і гераіню майго новага рамана клічуць Дунька. Гэта яна маці семярых дзяцей.

— Вы не пісьменнік. Вы — ідыёт. Як своечасова я вас раскусіла! Вас прыцягнуў незвычайны колер маіх валасоў, і вам карціць адцяпаць сабе на памяць яркую пасмачку. Я ж бачу, як вы ўтаропіліся сваімі вачыма-хапунамі ў маю прычоску. Вы — ідыёцік! Вам лячыцца трэба, а не хадзіць па бібліятэках.

— Кім я толькі не быў у гэтым жыцці! Але ідыёцікам мяне назвалі ўпершыню. Ідыёт, у маім разуменні, — гэта не абраза. Нармальныя жанчыны спяць і бачаць як бы ім выйсці замуж за мужчыну-ідыёта. Генетыкай даказана: таленавітыя дзеці нараджаюцца ад мужоў-ідыётаў. Так што жадаю вам знайсці сваё шчасце з ідыётам, які будзе годным вашай рукі.

Каламазаў развярнуўся праз левае плячо і парадным крокам на «аць-два левай» памаршыраваў да выйсця.

— Млды члвек! — паклікала Міхася не маладая, але яшчэ даволі прывабная дама за пяцьдзясят са швабрай у руках. — Ты на Дуняшу



не крыўдуй. Яна дзяўчына не зусім звычайная. З глузду з’ехала на антычнай літаратуры і зараз усім нам мазгі парыць: хто з кім жыў і чаму, хто з кім спаў і навошта. На наша шчасце зачасціў да Дуняшы паэт-рамантык. Вершы ёй чытаў. Мне пра восень спадабалася:

Восень — камяні і лістапад,
І карціна Рэпіна «Прыплылі»,
Сумны час падлічваць куранят,
А дакладней, тушкі іх на грылі.

Але аднойчы вершаплёт злапаў Дуняшу ў цёмным куце. Прыціснуў дзяўчыну спіной да поўнага збору твораў Карлы Марлы, запатрабаваў: «Была мне спадарожніцай жыцця меланхолія, а цяпер будзь спадарожніцай ты, Дуняша. А не будзеш, дык дай хоць адрэзаць на памяць пасму тваіх валасоў». І злавесна заляскаў нажніцамі.

У такі пераплёт Дуняша трапіла ўпершыню. Што рабіць — не ведала. Чакаць дапамогі ў пустой зале не было ад каго, і яна пагадзілася аддаць пасмачку. Апяклася адзін раз, цяпер больш строга да знаёмстваў ставіцца. Але надзеі не губляй! З выгляду ты хлопец, здаецца, добры. Раптам удача ўсміхнецца і з Дуняшай у цябе па-людску ўсё атрымаецца.

«Вось дык справы! — зажурыўся Міхась — відаць, камусьці таксама спатрэбілася пасмачка на мушку для лоўлі харыуса».

Выйшаў Каламазаў на вуліцу засмучаны. Пухнатая снежная бель ўсё яшчэ ляжала на шэрай траве, але растаць магла ў любы момант.

— Гэй, хлопцы! — крыкнуў Міхась дзятве, якая весялілася непадалёк — ляпі з мяне снегавіка!

Калыхнулася фіранка і Каламазаў ўбачыў у акне Дуняшу з кубкам кавы ў руцэ. Хвіліну-другую дзяўчына абыякава пазірала на снегавіка, але раптам яе твар пасвятлеў і яна рассмяялася. У туфліках на тонкай шпільцы Дуняша выскачыла з дзвярэй і, блізарука жмурачыся, падбегла да Каламазава.

— Сярожка, прыехаў!

Каламазаў строс з сябе снег.

— Сярожка не прыехаў. Гэта мяне абляпілі снегам.

— Зноў вы! Пісьменнік-прыдурак з дакучлівай ідэяй павесіцца. Вы яшчэ голым пад акно станьце. У ідыёта і жарты ідыёцкія. Чаму вы мяне праследуеце? Што вам ад мяне трэба?

— Ужо нічога! — буркнуў Каламазаў і пайшоў па хлюпкім снезе, не выбіраючы дарогі.

Было сыра і вельмі няўтульна. Ногі самі сабой прывялі да барчыка, дзе можна было абсушыцца і сагрэцца.

— Павесяліцца хочаш? — да Каламазава, які ўжо паспеў апаласнуць рот гарэлкай, падсела томная дама з мінаючым тэрмінам прыдатнасці.

— Мяне, мадам, нішто так не весяліць, як казытанне. Хочаш паспрабаваць?

— Давай без спробаў і адразу па-сур'ёзнаму. Але для смеласці мне трэба выпіць. Я як вып'ю, такой дурніцай раблюся — на ўсё згаджаюся без лішніх пытанняў. Ты не глядзі, што я выглядаю на пяцьдзясят. Я васямнаццацігадовая дзяўчына з трыццацідвухгадовым стажам. Для прастаты зносін называй мяне Сямёнаўнай.

— Прыйшла паласа няўдач, Сямёнаўна! Па праўдзе кажучы, няўдачы мяне даканаюць.

— Тваю паласу няўдач я зраблю ўзлётнай паласой, калі пагодзішся мне дапамагаць. Прапанную выпіць за твае вялікія перспектывы на ўзлётнай паласе! — і Сямёнаўна, заплюшчыўшы вочы, перакуліла Міхасёву чарку гарэлкі. — Закушу салам. Я страшная салаежка і сала заўсёды нашу з сабой. Мне, калі была маленькай, замест пустышкі давалі кавалачак сала пасмактаць: з тых часоў ні дня без сала не магу пражыць.

— Балбатушка ты, Сямёнаўна.

— Гарэлка і нямому язык развяжа! — і, нахіліўшыся да Каламазава, зашаптала ў самае вуха: — Ты ніколі не спрабаваў утрох: з маці і дачкой адначасова?

— Дочкі чыхсьці матак са мной былі, маці чыхсьці дочак таксама. А ўтрох, буду шчырым, не спрабаваў.

— А хацеў бы паспрабаваць?

— Ну, не ведаю. Хоць, думаю, гэта прыкольна.

— Значыць так, завязалі тары-бары і едзем да мяне. Гарэлку піць больш не будзем. Лішняя гарэлка замінае плесці вязь кахання.

Каламазаў павесялеў. Ці то ад выпітага, ці то ад жартаў настырнай цёткі. Усю дарогу, тупа ўтаропіўшыся ў патыліцу таксіста, ён бубніў пад нос, як заведзеная музычная шкатулка:

Блізарукім — лінзы ў рукі,
Розным жулікам — прыдуркі,
Качагарам — трус лагодны,
А мне — бабы голай сцёгны!

— Прыехалі! — скамандавала Сямёнаўна таксісту. — Разлічыся, мілы, з вадзілам і давай хутчэй за мной.

Падымацца давялося на пяты паверх. Як толькі ўвайшлі ў кватэру, Сямёнаўна зачыніла за Каламазавым жалезныя дзверы, ляснула засаўкай, накінула ланцужок і нягучна паклікала:

— Мама! Ты яшчэ не спіш?

## Япона бляха

У жыццё Антона Зарубіна няпрошаным госцем закуліўся няфарт. Не шанцавала страшна: не ўдавалася ні рублік сцягнуць, ні капейку сперці. З працы выгналі, жонка сышла, даўжнікі ў душу напаскудзілі. Ад расперазаных думак галава пад вечар рабілася падобнай да кантэйнера, набітага смеццем. Палюбоўніца і тая, пляснуўшы Зарубіна па плячы, помсліва нахаміла:

— Нагі маёй тут больш не будзе!

Удосыць нахлябаўшыся бруднай пены жыццёвых жарсцяў, вяртаўся Зарубін позна ноччу дахаты. Нязгаснае жаданне пасікаць прымусіла яго звярнуць у змрочную падваротню. Расшпіліўшы шырынку, Антон з дзелавой заклапочанасцю выкалупаў пісюнчык вонкі. Аднак памачыцца ад душы перашкодзіў глухі тупат, які неўзабаве данёсся з вуліцы. Цяжка дыхаючы, у паліто нарасхрыст, прабег міма падваротні незнаёмец, паспеўшы шпурнуць у яе цемрадзь тугі скрутак. Незнаёмца гнаў жывёльны страх: следам імчалася, даганяючы, маўклівая кодла абадранцаў.

Дачакаўшыся цішыні, Антон падабраў знаходку і, згараючы ад цікаўнасці, паспяшаўся дадому. У скрутку аказалася тоўстая папка з двухгаловым вензелем. Гартаючы пажаўцелыя з гадамі лісткі, Антон угледзеў у роўным пісарскім почырку панты загадкавай Лемурыі, а ў крыва выведзеных «яцях» — жахлівыя цені, якія напаўзалі на крамлёўскі пляцень. Трывожнае пазяханне напала на



Зарубіна. Страху дадала рагатая літара «у». Антон доўга не мог заснуць, а заснуўшы, дрэнна спаў. Часта прачынаўся: то крычаў ад страху, то задыхаўся ад смеху. Цэлую ноч яму снілася жахлівая літара «у», якая прагульвалася па рукапісных старонках у кампаніі дзвюх неразлучных сябровак.

Пасля вар'яцкай ночы нявыспаны Зарубін пайшоў блукаць па офісах у пошуках працы. Але ўдача падставіла азадак для пацалунку. Нават нікчэмнай работкі ніхто не прапанаваў. Затое ў спа-салоне лёгка падчапіў калматую заразу. Звалі заразу Лідухай. Уважліва паглядзеўшы на Зарубіна з-пад даўжэзных веек, загнутых дагары, яна задзірыста ўсміхнулася і, як бы незнарок, зачапіла краем расхінутага жоўтага халата за жывое і прамое рэнамэ Антона.

У поцемках прадзьмуванага скразняком калідора дзяўчына падалася Зарубіну гнуткай, прыгожай і на ўсё згоднай. З цікаўнасцю разглядаючы адзін аднаго, у думках яны задавалі пытанні, якія хвалююць усіх маладых людзей: «Цікава, колькі да мяне ў яе было?» — думаў ён. «Цікава, колькі сантыметраў ён у яго?» — думала яна. Нарэшце Антон адважыўся і прапанаваў:

— Мне патрэбны партнёр, каб адзін або два разы заняцца спортам. Хачу запрасіць цябе.

— Запрашай!

— Значыць, так. Паедзем да мяне. Але спачатку набяром бухла і курыва. Надзюбаемся да дурноты і абкурымся. Хачу пракаўбасіцца і вытрасці паганую хрэнь, якая замінае жыць.

— Ідэя добрая, і я не бачу прычыны адмовіць табе.

Уключыўшы яркае святло ў пярэднім пакоі, Антон як мае быць разгледзеў падарунак лёсу на бліжэйшую ноч.

— Выгляд у цябе нейкі затраханы! — незадаволена паморшчыўся ён.

— А калі так? — і дзяўчына насоўкай выцерла вусны.

— Так лепш. Праходзь і лягай на канапу ў звыклай для сябе позе.

Лідуха захмялела ад французскага пацалунку, як п'янее барыга, глюкнуўшы з рыльца цэлую пляшачку гарэліцы.

— Распранайся і паказвай, што з сабой прынесла, — падагнаў госцю Зарубін.

Нічога новага ён не ўбачыў і, скрыгатнуўшы зубамі, пагадзіўся на тое, што было.

Ноч аказалася падобнай на сапраўднае індыйскае кіно. У акне ззяў месяц, памерам з буханку. Антон, асядлаўшы Лідуху, апантана распальваў вогнішча кахання. У водбліску агню электрычнага каміна ярка-рудыя валасы шэльмы афарбаваліся ў шляхетны медны колер. Зарубін, рухавы як шарнір, спяшаўся скрасці прыгажосць, недазволеную сёння нікому іншаму.

— Заманала, баба, блін! Голы я, як бедуін! — зачаравана шаптаў ён у падстаўленае дзеўкай вуха.

— Не аб тым пада мной зараз ты запяеш! — пажадліва зашаптала Лідуха, усеўшыся конна на зарубінскі «кол праўды». — Расчасаў маю ты больку! Ох, як расчасаў! Зараз альбо зачашуся да смерці, альбо прынясу табе дзіцёначка пасля дзевяці месяцаў млоснасці.

— Не бар-зе-е-ей! — дабраўшыся да вяршыні асалоды, прахрыпеў Зарубін.

— Прабач, здурэла! Праўда, любоўная ліхаманка ў натуры дае ўскладненне ў выглядзе дзяцей.

— Наконт дзяцей не бойся! Я за бяспечны сэкс! — і Антон пляснуў сябе па нацельным крыжыку. — Вось мая абарона!



Лідуха зваліла за гадзіну да світання, загарнуўшы ў паліто выкручаную дужымі мужчынскімі рукамі постаць.

— Застанься! — стрымана папрасіў Антон. — Проста паспім разам. Мне для цябе нічога не шкада, акрамя грошай і ўсяго астатняга.

— Больш за ўсё хачу, каб мяне хацелі, калі я хачу. Пасля аргазму, як ні стараюся, не магу заснуць. Мне яшчэ трэба прыдумаць, як дома адбрахацца за ноч без начлегу.

— У пятніцу да якога часу будзеш занята?

— У пятніцу буду занята да панядзелку. Ну, пакуль. Не ўтрымлівай мяне. А то закахаюся ў тваю прыгажосць і сапсую табе жыццё.

— Жанчына, якая не п'е са мной раніцай каву, не будзе для мяне жаданай! — крыкнуў Антон наўздагон, помсцячы за ранішнюю адзіноту. — Ніколі не будзе. Чуеш?!

Пасля адыходу Лідухі Антон, стомлены як сабака, яшчэ дзве гадзіны спаў беспрабудным сном. Але калі за акном загудзеў смеццявоз, фантазія сну паволі згасла, а потым і зусім — хлабысь, разарвалася, падла, бліснуўшы на развітанне прабліскавым маячком. Пазяхаючы, Зарубін нацягнуў зацёртыя трэнікі і злосна ўтаропіўся ў люстэрка. Нічога добрага ён у ім не ўбачыў. Апушчаныя плечы, трывога ў вачах, няўпэўнены голас. Усё гэта наганяла беспрасветную тугу. П'яўкай прысмактаўся дэпрэсняк. Змагацца з ім не было ні сіл, ні здароўя.

«Была б мая воля, загадаў бы ставіцца да пахмелля як да сапраўднай хваробы: каб усё спачувалі, лекары выпісвалі бюлетэнь, а ўсхваляваныя сваякі бегалі ў аптэку за бясплатным нефільтраваным півам. А раз такога ў бліжэйшы час не прадбачыцца, то і жыць я не хачу. Завяжу

з гэтым светам і сыду ў іншы. Знікну назаўжды ў бяздонных каморах забыцця».

Вось так, ці прыкладна так, думаў Антон Зарубін, прасоўваючы галаву ў пятлю. Абводзячы запакой развітальным поглядам, ён раптам убачыў недапітую бутэльку гарэлкі, якая сіратліва стаяла на падваконніку.

— Непарадак. Нельга пакідаць гарэлку на волю лёсу. Раптам яна камусьці папярок горла стане.

Дапіваў Антон гарэлку па «дзюць-дзюць», смакуючы кожны глыток. Аблізаўшы вусны, павесялеў.

— Самая лепшая гарэлка — тая, што выпадкова засталася на раніцу. Толькі жыццё здалося лажай, а зараз, блін, ёсць адчуванне, што яно наладжвацца стала. Балван я, ледзь ласты не склеіў па ўласнай дурасці. Да шчасця без цярпення не падбярэшся. Ведаць бы толькі, дзе сапраўднае шчасце стаілася — у Мексіцы, на Доне, ці, можа, у жаўтатварым Пекіне. Аддаў бы за важную навіну апошнюю пару чыстых шкарпэтак.

Дваровае жыццё за акном пасвятлелай кватэры ішло сваім ходам. Здварняжаны нашчадак лабрадора па мянушцы «Жульен» сабачыўся ў сваё задавальненне з безыменнай псінкай. За даміношным сталом злосна дупліласе неапахмеленая братва. Нават наглуха забітыя дзверы з перакошанай старадаўняй шыльдай «Вінны склеп» не памнажала, як звыкла, нуду. Жаданне падзяліцца радасцю ад расплюшчаных павекаў авалодала Зарубіным і ён ва ўсю сілу сваёй глоткі загарлапаніў у расчыненае акно:

— Каб я так жыў, як да мяне з раніцы прыйшла вялікая радасць апахмелу!



— Антоніа! Ты чалавек без сумлення, — адазваўся нехта з даміношнікаў. — Чаму табе добра, калі ўсім дрэнна?!

— Вам таксама будзе добра. Я ведаю тры запаветныя словы: схадзіць купіць і выпіць.

Спусціўшыся ў двор, Зарубін прызыўна махнуў рукой, накіроўваючы аматараў даміно ў краму. Кампанія глядзелася самавіта. Саліднасці ёй надаваў шчакасты шчаслівчык Мішаня ў матроскім бушлаце. Хлопец хадзіў у загранку з правам выйсця на палубу карабля адзін раз у тыдзень. Мора — суровая школа жыцця, і матрос з веданнем справы задаваў рытм хадакам за здароўем.

— Здабыць нам трэба лоўка закуску з паўлітроўкай! — чаканячы словы, ён цвёрда ставіў ступню на асфальт, як быццам бы пад ім усё яшчэ гайдалася палуба.

Акулярык Таляша ледзь паспяваў за сябрамі. Хаду ўсёзнайкі абцяжарвалі думкі, краплёныя інтэлектам.

— Не ганіце вы, ё-маё! Лепш паслухайце, што скажу. Кожная другая жанчына здраджвае мужу.

— Давай, Толя, без абагульненняў, — пасуравеў тварам Зарубін. — Патрэбныя адрасы, тэлефоны, прозвішчы. Асабіста мне ў жанчынах падабаецца натуральная прыгажосць. Асабліва калі яна на пытанне: «Пераначуеш са мной?» адказвае: «Натуральна!»

— Магу табе персанальна ўсватаць кабетку, што ідзе нам насустрач з бананам у руцэ! — падскочыў падагрэты нецярпеннем Толік. — Класная цёлка! Проста — ух! Дзейнічаю хутка, пакуль яна не вырашыла, як паступіць з бананам: кусаць, лізаць альбо ламаць.

— Няма ў гэтым «слоніку» хвацкага «ух», — паморшчыўся Антон. — Цыцкі — во! Дупа — во! Мор-

да?! Наконт морды сціпла прамаўчу. Зрэшты, літр гарэлкі лёгка ператворыць самую страшную морду ў мілую мордачку. Для мяне ўсе бабы Манькі, а грошы — «мані». За «мані» са мной пойдзе любая Маня і ў маніі сэксуальна мяне загурманіць.

— Хопіць пра цёлках! — абарваў балбатуноў Мішаня. — Кож-на-я, нават самая класная цёлка даўно сядзіць у свайго мужыка ў пячонках. Нам парэбна піва. Піва — класная рэч! Вып'еш, вадкасць сальеш і кайфуй сабе ад градусу.

У краме ля піўной вітрыны Мішаня гучна абвясціў прыціхлай чарзе:

— Прывітанне півасосам ад матроса і ўсёй братвы, што з ім прыйшла!

— Ну, усё! Дарма сёння за півам прыйшоў! — прабубнеў мужык у туфлях на босую нагу.

Мішаня павярнуўся да сябрукоў і, ударыўшы сябе ў грудзі, закамандаваў:

— Віцька, грошы давай!

— Якія грошы? — пацiснуў плячамі Віцька.

— Тыя, што табе даручылі несці.

— Тыя грошы, што мне даручылі несці, даўно ўкралі.

— У якой кралі?!

— Укралі грошы тыя кралі, якіх мы ў бары паздымалі.

— Калі нашы грошы ўкралі, дык чаму ты свае куксы ў кішэні запхнуў. Я б на тваім месцы валасы на сабе рваў.

— А я што, па-твойму, раблю?!

— Прабач, браток! Людзі, дапамажыце пацярпелым ад зладзейскай анархіі, збярыце невялікую сумку грошай! Калі хто не зможа грашыма, возьмем з кожнага па бутэльцы піва.

Чарга папала на дзве скрыні піва і ўсе засталіся задаволеныя.



Піць піва дваровая шайка пайшла ў барчык «Упаенне». Пасля трэцяй бутэлькі акулярык устаў і сумленна прызнаўся:

— У прыбіральню хачу-у-у.

— Не скуголь. Прыбіральня ў доме насупраць. Дацягнеш да дому?

— Быў бы ў мяне гумовы, гора б не ведаў.

— Тады ідзі працаваць на металургічны камбінат. Ліцейшчыкі асвоілі прагрэсіўны метад хуткаснай адліўкі пасля піва.

— З раніцы падселі на піва, быццам усё іншае ў суботу піць забаронена, — ажывіўся Антон. — Гайда да мяне! Швагер спёр у краме скрыню гарэлкі і ў маёй кватэры зрабіў хованку. Але паколькі жонка ад мяне сышла, то яе брат мне ўжо не швагер. Яго гарэлка, такім чынам, нічыйная, а значыць мая.

— Швагер за гарэлку не даруе.

— Гэта яго праблема. Гарэлку вярну пазней, але ў вуснай форме.

— Гэта па-нашаму! Справядліва! — падтрымаў Мішаня сябра. — Жонка даўно сышла?

— На трэці дзень, як пачаўся тыдзень. Усплыла несумяшчальнасць поглядаў. Ёй падабаюцца мужчыны, мне падабаюцца жанчыны. Мітусня растання адабрала столькі часу, што пахваліцца як след не паспеў.

Шумным гуртом сябры падняліся на трэці паверх роднага дома. Антон звыкла запусціў руку ў кішэнь штаноў, але ключоў не намацаў.

— Ёкала-бабай! Дзверы зачыніў, ключы не ўзяў. Добрыя дзверы, выбіваць шкада. Прыйдзецца ў кватэру праз акно ўваходзіць. Але акно высакавата. Без эмэнэсу не абысціся.

— Ёсць ідэя! — зліўшы малую патрэбу ў раскурочаную слесарамі ацяпляльную сістэму, вы-

гукнуў Таляша. — Рускага мужыка губяць бабы, гарэлка, панажоўшчына. У японца той жа наборчык, але гучыць больш шляхетна: гейшы, сакэ, харакіры. Ёсць у японскім асяроддзі мужык самурайскай крыві, які бегае з дапамогай шаста па сценах. Ніндзя! О-о-о! Гэта як у тым кіне пра таго чувака, які гуляў у іншым кіне зусім іншага чувака! — праявіў эрудыцыю акулярык.

— Раз ты, Толя, усё пра ніндзю ведаеш, то і будзеш ніндзяй!

— Не буду. Я нават як на груд узлезу, потым на другі, то дух займае, дыхаць няма чым. У краму збегаць — я заўсёды калі ласка. А па сцяне не пабягу! Раптам хранова стане! Упаду, разаб'юся, каго за півам пасылаць будзеце?!

— Дык якога ты ражна па грудах лазіш?! Ідзі дахаты і ляжы на канапе. Антоніа! Акно тваё, ты да яго і пабяжыш.

— Антон-ніндзя — гэта крута! Слухайце далей, што рабіць будзем. Хапаемся за канец… не зырцеся! — Таляша спешна зашпіліў прарэх. — Хапаемся за канец шаста. Другі канец — у руках Антохі. Разам разганяемся. Антон скача на сцяну, не выпускаючы шаста з рук, а мы, задзіраючы шэст угару, дапамагаем яму дабегчы да патрэбнага акна.

— Не ўяўляю, што з гэтай задумы атрымаецца, але горш, чым ёсць, спадзяюся, не будзе, — сумна ўздыхнуў Зарубін.

Ролю шаста выконвала доўгая іржавая труба — апендыкс нядаўніх зварачных работ.

— Япона бляха! — дружна завыў кагал і, разбегшыся, ад усёй душы зафігачыў трубой у сцяну дома. Дом, як неўрастэнік, здрыгануўся, пляснуўшы форткамі бліжэйшых вокнаў. Прачнулася і заплакала дзіцё. Цікаўны сабачы хвост сігануў



за вугал. Адстаўны генерал Тужапуп адклаў разлінееннную пад катэджную забудову карту мінных палёў, надзеў папаху, уключыў тэлевізар і застыгнуў у чаканні балета «Лебядзінае возера» на музыку Чайкоўскага.

Антон балюча стукнуўся галавой аб сцяну, а ўся каманда бегуноў, абадраўшы рукі, выпусціла трубу на ногі.

— Разгон, як той казаў, атрымаўся не на ўсе грошы, — падагульніў забег былы вайсковец, мяркуючы па выпраўцы. — Ці, інакш кажучы, разгон выйшаў не на ўсю шклянку.

Група адстаўнікоў з трох чалавек з запасам гарэлкі, закускі і сумных думак прысела на лаўку каля дома.

— Любая задума, калі даручыць яе даўбакам, станецца небяспечнай! — кіўнуў у бок кампаніі штурмавікоў вусаты дзядзька.

— Ты, Санёк, на даўбакоў увагі не звяртай. Сваіх клопатаў хапае. Ніводнай сур'ёзнай справы за лета не пракруцілі. Жывём, як затраханыя мямлікі.

— Не думаў, што лета акажацца, як піва: здаецца, да фіга бралі, а яно ўзяло ды скончыся! — нязграбна апраўдваўся Санёк.

— Ты мусіў усё прадбачыць. Задача стаяла канкрэтная: не загубіць прадпрыемства. А ты… — і размоўца безнадзейна махнуў рукой.

— Праблемы павылазілі, як чарвякі пасля дажджу. Хацеў на іх плюнуць і ўтапіць, ды сліны ў перасохлым горле не хапіла.

— Перш чым за нешта бярэшся, падумай добра. Галавой падумай, а не задніцай.

— Пустая размова пайшла, — рэзка ўмяшаўся трэці, які да гэтага маўчаў, — пра Сашыну галаву мы яшчэ ў маі казалі. Без Анціпава не абыс-

ціся. Галава гэтага чалавека на месца стала, калі яго токам гвазданула. Зараз з магчымасцямі чалавек. Бактэрыю без мікраскопа бачыць. Нумар тралейбуса за два кварталы прадказвае. У тэатры з дваццаць першага рада ўсе вейкі ў Дэздэмоны пералічыў без калькулятара.

— Вытворчасць трэба запускаць, а не вейкі лічыць.

— Вытворчасць чаго?

— Ды хоць чаго! Кітайцы дзякуючы вытворчасці крута падняліся.

— Кітайцы фуфляк па ўсім свеце гоняць. У Кітаі самая развітая вытворчасць — вытворчасць кітайцаў.

— Ды зразумейце ж вы, час цяпер найбольш спрыяльны, каб крута падняцца, не азіраючыся на кітайцаў.

— На чым? На чым можна падняцца?

— Ды хаця б на тым, што кожнаму з нас знаёма: на вайсковай маёмасці і ваеннай тэхніцы.

— Тады самы час Байдакова ўспомніць. Ён крута падняўся на дынаміце. Апускаўся, праўда, павольна і па частках.

— Налівай! За Сашу Байдакова трэба выпіць.

Да лаўкі падышла бабуля і штурхнула таго, што гаварыў, ботам у нагу.

— Саступі месца пенсіянерцы.

— Не чапляйся, баба Лена. За мной уся лаўка пустая, сядай куды хочаш.

— Хачу сядзець там, дзе ты сядзіш. Пад табою месца нагрэлася. Паважай старасць, перасядзь.

— Пачну ўсіх паважаць, пра сябе паклапаціцца не будзе калі. Вось табе паўшклянкі гарэлкі — сагрэйся знутры.

— Капітан Казлоў! — узяў пад казырок міліцыянт, які з'явіўся невядома адкуль.



— Не зразумеў?! Якіх казлоў ты капітан?

— Саша, у капітана прозвішча Казлоў. Верна я кажу?

— Так точна. Чаму парушаем? Групавое спойванне бабулі. Кожная бабуля — залаты выбарчы фонд дзяржавы.

— Мы, Казлоў, як і ты, афіцэры. Ты капітан, мы падпалкоўнікі. Чатыры з чатырох — кворум афіцэрскага сходу. Прафесія наша — Радзіму абараняць. І ніхто не мае права забараніць піць за Радзіму. На, пі! — і міліцыянеру сунулі ў руку шклянку гарэлкі. — Пі за Радзіму!

— За Радзіму вып'ю, калі вы мне ў чыстую шклянку налілі.

— Шклянку пасля гарэлкі збачэнцы апаласкваюць. Пі. Пашчасціла табе з годнымі людзьмі выпіць. Выпіў? Малайчына. Зараз за Перамогу пі.

— За Перамогу вып'ю!

— Вось гэта па-нашаму! — усміхнуўся вусаты і прыгожа заспяваў:

Хмары над горадам сталі!
Мышы ў разведку пайшлі.
Котку злавілі, за хвост прывязалі
І на растрэл павялі…

— Ташшчыцэры!

— Слабак наш двухшкляннік. «Таварышы афіцэры» прамовіць пасля выпітага не можа. Няўстойлівых у міліцыю браць сталі.

— Ты, капітан, на сала націскай, пакуль не скончылася. Агурок салёны адважней бяры.

— Еш сала, еш. Сала — прадукт карысны. Табе без сала цяпер нельга.

— Без сала нам усім нельга, — адправіўшы ў рот кругляшок цыбуліны, згодна кіўнуў галавой падпалкоўнік Сашка.

— Ташшчыцэры! Якія ж вы добрыя мужыкі. З вамі я адчуў сябе сапраўдным лесбіянам. Заўсёды на баб цягнула, а аказалася побач так шмат добрых му-жы-коў.

— У цябе шклянка пустая. Не жадаеш яшчэ адну?

— А на храна мне дзве пустыя шклянкі?!

— Чулі?! Гэта словы мужчыны, а не хлопчыка. Напаўняй яму шклянку, хай праявіць сябе. З намі піць — не шпану песцікам палохаць, — і прамоўца кіўнуў у бок бегуноў з трубой.

Тыя, што штурмавалі сцяну, рыхтаваліся да другой спробы.

— Ты на сцяну павінен скакаць, а не прабіваць яе галавой. Так мы да гарэлкі і да вечара не дабярэмся.

— Буду скакаць! Давай трубу.

— Ну, ні пука табе, ні пяра!

Калі пабеглі ізноў, Антон не схібіў. Спрацаваў, як сапраўдны ніндзя. Да запаветнага акна заставалася некалькі крокаў, але трубу павяло ўбок, і Антон уляцеў у суседскае акно.

— Трах-бабах-бах! — зазвінела пабітае шкло. Следам данёсся злосны мацюк. У адкрытых вокнах вінаграднымі гронкамі павіслі разявакі і проста цікаўныя. Схамянулася закаханая парачка, якая драмала на канапе двума паверхамі вышэй.

— Чула? Да некага злодзеі ўлезлі!

— А раптам наступная кватэра наша будзе?

— Устань і хуценька надзень сукенку на ўсякі выпадак. Ну, чаго марудзіш?

— Не ведаю, якую сукенку надзець. Зялёную ці ружовую.

— Якая розніца! Рабаваць будуць, а не табой любавацца.



— Вялікая! Клаўка, сяброўка мая, спала адна ў кватэры, раптам шоргат. Запаліла начнік і бачыць: па пакоі шнырыць незнаёмая, але сімпатычная асоба. «Каб праз дзве гадзіны і духу вашага тут не было!» — смела і без ваганняў крыкнула яна злодзею.

— А злодзей?

— Паслухаўся. Клаўка каго хочаш угаворыць. Ты куды сабраўся? Не кідай мяне адну. Гэта Клаўка смелая, а я баюся.

— Спушчуся да суседзяў, можа, дапамога патрэбна, — і, адкруціўшы ад табурэта ножку, хлопец ціха спытаў:

— Ты кахаеш мяне?

— Хвіліну назад кахала!

— Будзеш плакаць, калі злодзей мяне заб'е?

— Так.

— Пакажы, як будзеш плакаць.

— Калі пачну слёзы пад заказ душыць, спацею. Вось калі цябе па-сапраўднаму заб'юць, тады і я па-сапраўднаму расплачуся.

— Сцерва.

— Сам сцярвятнік.

— Даў бы па дупе, ды дупу шкада. У дупу больш люблю, чым не ў дупу.

— Мужык сказаў — мужык зрабіў. Любі, як абяцаў, калі ты не цямця-лямця.

— Ну, трымайся! Цяпер ты ў мяне запяеш сцярвозную песню! — і парачка, зваліўшыся на канапу, залезла пад коўдру.

Антон, стаўшы на каленкі, агледзеўся. Незразумелая кватэра. Абадраныя шпалеры, счарнелая столь, у кутах павуцінне. На канапе ляжыць зда-ра-венная дзеўка.

— Мо ўштаць ш канапы, паглядзець, каго чорт у акно жакінуў.

— Уштань, дочка, паглядзі, мілая, — прыпаднялася з ложка старая маці.

— Ой, мама, мужыка да наш нячыштая прынешла. Шкакун акрабахнуты, як мае быць.

— А ты бедавала, родная, што жаніхоў няма.

— Дык хіба жаніхі ў вокны шкачуць?!

— Да прынчэшаў шкачуць. Гэта дакладна.

— Дык то, мама, не жаніх, а вырадак нейкі. У гашцях хвіліны не прабыў, а чыштае паветра жмарнаваў, шволач.

— Дык то ж, доня, Антошка, Вашыля Жарубіна шынок. Шапраўдная шволач. Ніколі пуштую бутэльку не пакіне, шам шпяшаецца ждаць. Гані яго, душачка, ж вачэй прэч.

Не чакаючы падсрачніка, Антон заўзята выскачыў у акно, але не ўтрымаўся на нагах, зваліўся і балюча стукнуўся каленкамі аб асфальт.

— Не магу больш! — завыў пакутнік ад болю.

— Падымайся, Антон. Да мэты пара крокаў заставалася.

— Разбягацца вам трэба не ў разнабой, а ўсім адразу! — падказаў падпалкоўнік Сашка. — У падмогу ад нашай лаўкі камандзіруем старпёра Казлова. Пальнеш у паветра, капітан! Задасі бегунам дружны старт.

— Пальнуць — гэта лёгка. Паліць я навучаны.

— А-а-а! Згарэў наш хлеў, гары і хата! — дружна завылі бегуны, не чакаючы стрэлу.

Трэцяя спроба нечым нагадвала катаванне.

— Высока ўзляцеў зямляк! — радасна загаманілі ўнізе. — Тошка прэ па сцяне, як заўзяты прусак!

У нейкі момант Антон паверыў, што яшчэ адзін крок — і яго закінуць на дах. На дах дома не вельмі хацелася. Рукі міжвольна расціснуліся. Палёт бегуна-няўдакі на зямлю быў кароткім, а прызямленне — жахлівым.

Ляжаў Антоша Зарубін на зямельцы ціха, як пламбір, у поўнай адключцы. Тыя, што былі на іншым канцы трубы, дабеглі да сцяны і, ляснуўшыся аб яе, выпусцілі трубу на недабітага хлопца. Карціна пабоішча ўзрушвала сваёй празаічнасцю: акружаны паплечнікамі і разявакамі, ляжаў чалавек у абдымку з іржавай трубой.

— Гэта яго наша ППА даўбанула. Нехрэн лётаць над жылым аб'ектам, — падагульніў забег адзін з вайскоўцаў.

— Гады тваё ППА. Самі не лётаюць і іншым не даюць, — вылаяўся матрос.

— ППА тут не прычым. Ва ўсім вінаваты закон подласці. Адзіны ў краіне закон, які працуе, — не даў разгарэцца сварцы іншы вайсковец.

— Людзі, Антон практычна адсутнічае ў нашай рэальнасці, а вы спрэчку ўчынілі, — занепакоіўся нехта з разявак.

— Я ведала яго бабулю. Моцная жанчына была, — уставіла свой «пятачок» баба Лена. — Трох мужоў пахавала. Апошнія два проста прылеглі з ёй побач падрамаць. Здароўем Антошка ў бабку пайшоў. Выжыве, не сумнявайцеся.

— Дык гэта мяняе справу! Значыць, ёсць нагода за Антона выпіць і яму наліць, — ажывіліся вайскоўцы.

Пры слове «наліць» вока Антона тузанулася, а вусны прашапталі:

— Адчуваю сябе, але адчуваю пакуль яшчэ дрэнна.

— Шырынку хлопцу расшпіліце, хай цела дыхае.

— Нашатыр патрэбны. Нашатыр дапаможа хутчэй ачухацца.

— Глядзіце! Антончык з нашатыру пену здзьмуць спрабуе, быццам піва яму паднеслі! Значыць, не ўсё так дрэнна, як мы паспелі падумаць.

— Сябры! Калі я раптам памру, прыходзьце на пахаванне. Запрашаю.

— Калі запрашаеш, прыйдзем. Ушануем, не турбуйся. Трымай шклянку. Гарэлка ў тваёй сітуацыі лішняй не будзе. Табе зараз дрэнна, як нікому з нас. Пі! Раствары свой боль.

— Шклянку ўзяў, значыць, сапраўды жыць будзе! — абрадаваўся матрос. — Наліце і мне ў шкляначку, хачу з сябрам чокнуцца.

— Будзь чалавекам, матрос. У ягоным чокнутым становішчы не да чоканняў. Яму гарэлку, як мікстуру, з піпетачкі ліць у рот трэба.

— Матроса назавуць чалавекам, калі яго за борт хваляй змые. «Чалавек за бортам!» — закрычаць астатнія і кінуць выратавальны круг. А піпетку пакінь для нямоглых! Антон — мужык! Яго шклянкай гарэлкі не спалохаеш.

— Шкляначку з гарэлачкай паднеслі, — расплыўся Антон у шчаслівай усмешцы. — Цікава, з якой вышыні я павінен зваліцца, каб мне ўся бутэлечка дасталася?

— Малайчына, Антоха! — па-ваеннаму скупа пахваліў пакутніка падпалкоўнік Сашка. — Тваё пытанне не супярэчыць закону жыцця. У жыцці ўсё ўзаемазвязана: жывеш — хочацца выпіць, выпіў — хочацца жыць!



# Соль жыцця

Гарэлка скончылася, і Фамічоў, тупа гледзячы на пустую бутэльку, заспяваў:

Вось заб'юць, пахаваюць
Злыя людзі ўначы,
І нікому не скажуць,
Дзе знайшоў я спачын.

— Гарэлкі няма, — задуменна прамовіў ён, — а выпіць хочацца! Мала таго, што хочацца, хочацца верыць, што будзе хацецца заўсёды. У гэтай веры мая праўда жыцця! Хоць насамрэч праўда жыцця ў тым, што ў жыцці няма праўды. Жонка ёсць, а праўды няма.

Згадаўшы жонку, Фамічоў асцярожна вызірнуў з гаража. У памяці яшчэ не сцёрся Насцін налёт. У той дзень ёй удалося заспець знянацку ўсю кампанію, якая загуляла ў гаражы. Яна не разбіралася, дзе чый муж, а панадавала па храпам моцнай ад злосці рукой усім траім.

У пустым двары гаспадарылі галубы. Яны то ўзляталі, то садзіліся, шамоцячы раскіданымі газетамі.

— «Швабода»! — багавейліва прашаптаў Фамічоў і глыбока ўдыхнуў усімі грудзьмі. Глыток «швабоды» быў прыемны на смак. Аднак непрыемная збянтэжанасць неўзабаве скавала аматара «швабоды».

— Паш-ш-ш-а! Страш-ш-шна мне. Двор пусты. Ні душ-ш-шы. Чэснае Фамічоўскае.

— Стаяць! — уладна крыкнуў нехта нябачны незразумела з якога акна. — Страляць буду!

Той, каму крычалі «стаяць», стаяць не захацеў. Пачалася шалёная страляніна. Застракатала, завухкала, завішчэла. Выглядала на тое, што ціхаму дому прыйшоў капец. Шум быў настолькі моцным, што здавалася, у гэтыя самыя хвіліны мноства нечых жыццяў пераломліваюцца адно за другім.

— Падлюка! — загарлапаніў нехта страшэнным голасам. — Жывым з жыцця не выйдзеш!

— Мама! — спалохана пралапатаў Фамічоў і зваліўся ніцма на зямлю, прыкрыўшы галаву рукамі.

— Фаміч, не дуры! — з гаража, выціраючы рукі рыззём, выйшаў Паўлуха Башаеў у загвэдзанай кацавейцы. — Па целеку ваенны серыял круцяць. Сёння трыста пяцьдзясят другая серыя. Нашы паўсталі супраць іхняга зла. Пайшла сіла на сілу, і чыя возьме, пярун яго ведае. Але мяне не кінуха турбуе, — Пашка задуменна агледзеўся па баках. — Каблукоў знік. Быў побач і знік. Пакрыўдзіўся, ці што? Я гаду па рукам даў. Але за справу даў. Дастаў, паскуднік, з рукава другою шклянку і падсунуў пад разліў. Але і я не лыкам шыты, шкляначкі заўсёды пералічваю. Куды гэты крыўдлівы дзеўся, не разумею. Ведае ж, падла, што гарэлку сумленна дзялю, без зніжак на сяброўства. Дармовых буляў яшчэ ніхто ад мяне не дачакаўся.

— Ды куды ён дзенецца! — атрасаючыся, падняўся з зямлі Фамічоў. — Закапаўся недзе ў анучы і дрыхне. Ён прызвычаены спаць абы дзе. Як у жонкі кашалёк сцягне, дык ідзе начаваць у неастыглы асфальтавы кацёл, — і Фамічоў нягучна паклікаў: — Каблук! Ты дзе? Канчай дурку валяць. Мы не ў хованкі тут сабраліся гуляць. У Пашкі ў заначцы паўпляшкі засталося. Зараз, Паша, убачым фокус: вяртанне блуднай авечкі ў родны статак. Быць такога не можа, каб Каблук на дармовую гарэлку не павёўся.

— А вось і я! — з аркі, як і было прадказана, выбег радасны Каблукоў.

Следам, з натужлівым гудзеннем і міргаючымі фарамі, заехаў самазвал, гружаны пяском.

— Прыдуркі! Хопіць вочы на мяне таращчыць! Лепш вадзіле дзякуйце, што згадзіўся да нас завярнуць.

— Сам ты прыдурак! — раззлаваўся Павел. — Няма ў нас для твайго вадзілы лішняй выпіўкі.

— Паша! Ты на мяне не раві. Для цябе ж стараюся. Я адзін з нас не п’янею, і памяць мая дакладная, як крамлёўскія куранты. Твая жонка, Паша, пяску ў дом прасіла прынесці. Я дакладна памятаю, як ты пра гэта яшчэ раніцай сказаў. Спадзяюся, аднаго самазвала ёй хопіць.

Павел успомніў, што Антаніна сапраўды прасіла пяску. Але колькі і навошта, ніяк не мог прыгадаць, марна напружваючы мазгі.

— Сяброў выручаць — мая планіда. За выручку шмат не вазьму. Нальеш шклянку — на тым і разыдземся. Маю памяць гарэлкай не заб’еш. А сваім рукам болей волю не давай. Я гарэлку ў лішнюю шклянку не для сябе прыхаваць хацеў. Для ўсіх стараўся: пахмельны запас зрабіць планаваў. Вадзіле не забудзься башлянуць за стаpанне.

Павел маўчаў, спрабуючы разабрацца, што стаіць за каблукоўскім жэстам добрай волі: клопат ці злы намер.

З кабіны высунуўся шафёр:

— Мужыкі! Грошы ганіце. Мне з вамі тары-бары разводзіць — толькі час губляць. Куды пясок валіць?

— Валі пасярод двара! — махнуў рукой Каблукоў і выцягнуў з гаража насілкі і лапату. — Выручым Пашку. Усе мы трохі коні, шкада не пародзістыя. Ты, Паша, з чалавекам разлік зрабі. Ён не за проста так стараўся. Кучу наваліў — залюбуешся.

Павел глянуў у кашалёк і пасуравеў:

— Не, нічога не дам. Пульс як шалёны лупіць, калі свае кроўныя ў чужыя рукі перацякаюць. Здаецца мне, пясок не кандыцыйны. Халтурная работа.

— Прабач, шафёрчык! — Каблукоў шырока развёў рукамі. — Не лёс за наш кошт узбагаціцца. Але не вешай галаву разам з носам. Нічога дрэннага не бачу, калі людзі робяць добрае за проста так. Я б тым, хто здолее ў Пашкі грошы ўзяць, медаль на грудзі вешаў: «Мужным і лоўкім за ўзяцце гатоўкі».

Вадзіла заскрыгатаў зубамі, але пайсці на траіх з манціроўкай не адважыўся. Чужы двор — не самае лепшае месца для сур'ёзных разборак. Сваё здароўе заўсёды даражэй за любую рызыку.

— Задушыцеся, скнары, дармаўшчынай!

У першую ходку насілкі з пяском панеслі Фамічоў і Павел.

— Паша, ты мяне прабач, не люблю я калупацца ў справах чужой сям'і, але незразумела мне, навошта твая жонка гару пяску замовіла?!

— Чорт яе ведае. Сам у здагадках губляюся. Можа, салярый задумала з пляжыкам зрабіць?! Яе задумкі не адразу магу зразумець, хоць і жывём дупа пры дупе другі дзясятак гадоў.

Дзверы ў кватэру Павел адкрыў сваім ключом. З залы данеслася перастрэлка, бухнула граната, за ёй іншая. Фільм быў зроблены па законах сапраўднай вайны: з морам крыві і з трыбухамі вонкі.

— У жыцці шмат пуцявін, — павучаў кіношны герой, — але толькі адзін паравоз.

— Мае рацыю дзядзька! — пагадзіўся Фамічоў. — Нам бы паравоз самім не перашкодзіў.

Несці пясок у пакой, дзе Антаніна глядзела тэлевізар, Павел не асмеліўся. Высыпалі на кухні ля акна.

Пасля дзесяці насілак Каблукоў задумаўся: «Цямніць Пашка з пяском. Праўду з такога і абцугамі не выцягнеш. Маўчун маўчуном, а да сябе за парог грабе, як бульдозер. Але справа нават не ў Паўле, а ў яго пранырлівай жонцы. Паскуда, якой свет не бачыў, але ўсё, што заўтра здарыцца, ведае за дзень наперад. І калі запас пяску стварыць вырашыла, наступіць хуткім часам пясочны дэфіцыт. Яшчэ сёння пясок нікому не патрэбны, а заўтра яго нідзе не знойдзеш».

Калі насільшчыкі вярнуліся, Каблукоў цвёрда выставіў ультыматум:

— Усё! Паўлуху пяском затарылі, зараз у маю хату панясём.

— За недасып пяску сам будзеш з Антанінай тлумачыцца, — захныкаў Павел.

— Не палохай! Гэта твая жонка, і ты сам абавязаны размаўляць з ёй як мужчына не з мужчынам!

— У мяне пасля падобных размоваў твар гладкім робіцца ад аплявух.

— Гадзіна твая Тонька. Змагацца трэба з тонькаўшчынай. А то іншыя бабы возьмуць з яе прыклад, і канец прыйдзе нашаму мужчынскаму братэрству.

На рэкламнай паўзе выглянула ў акно Кузьмінішна — пенсіянерка дваровага маштабу. Ак-

но ў двор ёй падмяняла інфармацыйнае агенцтва. Званне першай пляткаркі абавязвала быць у курсе дваровых справаў.

— Чуе маё сэрца, крыецца ў пясочнай мітусні нейкая таямніца, — здагадалася кемлівая бабулька. — Будуць, дзед, небывалыя перабоі з пяском. Змітрок, хоць і не сын шышкі і не круты, але прайдзісвет будзь здароў. Падняў пясок з залатаноснай жылы і маўчок. Яго ў дзяцінстве ў кут не ставілі, а адразу галавой аб кут білі. З тых часоў ён бачыць усё наскрозь і на тры метры ўглыб. Стопудова, хаўруснікі яму пясок з капальняў адгрузілі. Стала б у іншым выпадку гэтая бандыцкая зграя да хрыпаты спрачацца, каму колькі пяску ў хату несці. Нам, дзед, колькі пенсіі ні дай, а пры шалёных коштах яе хопіць толькі каб два раза ў краме кашлянуць. А залатыя каронкі, каб моркву грызці ды вітаміны ў арганізме назапашваць, лішнімі не будуць. Бяры, дзед, вядзерца і давай у двор за пяском. Чэрпай з непачатага краю. Старому адмовіць не асмеляцца. І па шыі не дадуць, пабаяцца, што рассыплешся.

Дзеда сустрэлі варожа, але адганяць ад кучы пяску, якая раставала літаральна на вачах, не сталі. Ушанавалі старасць. Калі скончыўся фільм, двор напоўніўся людзьмі. Дзед не выцярпеў і даклаў усім разявакам пра капальні, залатыя каронкі і будучыя ў краіне перабоі з пяском. Каблукоў і кампанія, услухаўшыся ў яго балбатню, запрацавалі лапатамі з яшчэ большым імпэтам. Верыць альбо не верыць дзедавай праўдзе, людзі разбірацца не сталі, але пяску на ўсякі выпадак кожны сабе адграб. Калі дачэрпалі апошнія «залатаносныя запасы», акно ў кватэры Паўла шырока расчынілася, і адтуль паказалася забігудзіраваная Антаніна, якая па пяску выпаўзла на падваконнік.

— Людзі добрыя! — завыла яна. — Ды што ж гэта робіцца на белым свеце! Нелюдзь мой запойны з глузду з'ехаў! Усю кватэру пяском заваліў!

— Ты сама, мля, галасістая, прасіла пяску ў хату прынесці, — не стаў адмоўчвацца Павел.

— Так, прасіла! Але прасіла насыпаць у каробку з-пад абутку, каб котцы было куды хадзіць.

Шчыра кажучы, на Паўла было балюча глядзець. Павольна адступаючы назад, Каблукоў стаў выкручвацца:

— Што зробіш, Паша! Соль жыцця ў тым, што яно не цукар. Усяго не запомніш.



# Інакенцій

Быў я верным і адданым адной жанчыне. Спаў з ёй заўсёды да першых сонечных промняў, калі няверныя сужонцы прабіраюцца, быццам цень, у свой сямейны ложак. Пасля таго, як развіднела, а жанчыны побач ужо не было, мой сон рабіўся спакойным і моцным. Аднак на гэты раз папесціцца ў пасцелі не даў званок мабільніка.

— Скачы, гад печаны! Ты зноў стаў таткам! — у голасе мамы маёй жанчыны не чулася жаднай радасці. — У Леначкі нарадзіўся першынец ад цябе. Каб весці ўлік тваіх дзяцей, мне не хапае матэматычных навыкаў. Але запомні, трахаблуд: прыйдзе час — і я раскручу клубок тваіх любоўных подзвігаў.

— Вас, мама, паслухаць, дык усе дзеці на вуліцы мае.

— Прайдзісвет! Не смей зваць мяне мамай! Альбо вядзі Леначку пад вянец, альбо я завяду цябе да пракурора!

На будучую цешчу я зла не трымаў — хапала больш сур'ёзных ворагаў. Проста адключаў мабілку, калі стамляўся яе слухаць.

Сын! Вось хто стане новым сэнсам майго жыцця! Разам з сынам я ізноў перажыву пачуццё нястрымнай прагі прыгодаў. Сын будзе сапраўдным сябрам, якога я навучу ўсім прамудрасцям жыцця. Калі падрасце, зважу ў Малайзію, дзе мы падымемся на восемдзясят трэці паверх хмарачосу Петронас Твін Таўэрс, каб скочыць удваіх на тарзанцы. Потым ірванём у Ашхабад на майскае свята туркменскіх дываноў. Хай убачыць, чым і як выбіваюць дурасць. Зрэшты, крыху дурасці хлапцу мець не пашкодзіць. Без дурасці цяжка стацца асобай і захаваць уласнае аблічча ў нашым безаблічным свеце.

Якое гэта шчасце — нараджэнне сына! Перапоўнены гэтым шчасцем, я натхнёна праспяваў бязглуздзіцу, што прыйшла раптам у галаву:

— Пойла ты свінням насіла. Чысціў я побач хлявок. Ты на нагу наступіла мне быццам так, незнарок.

— Усё спяваеш?! — у пакой уляцеў Андрэй Караваеў. — Спяваеш і не ведаеш, як дрэнна твайму сябру! Зусім дрэнна!

— Сёння мне да фіялетавай зоркі твае ныцці. У мяне сын нарадзіўся. Разумееш — сын!

Да Андрэя я добра ставіўся, прабачаў яму ўсё, чаго не прабачыў бы нікому іншаму. Змрочнае дзяцінства, цяжкія цацкі, слізкія падваконнікі і іншая чымчура зрабілі з майго сябра сапраўднага зануду. Часам вельмі хацелася, каб ён знік у імглістай смузе і вярнуўся абноўленым чалавекам. Але, на мой вялікі жаль, ён, хоць і неаднойчы знікаў, вяртаўся гэткім самым неўрастэнікам, якім быў раней. Дзеля сяброўства, вымеранага дзясяткамі гадоў, даводзілася трываць яго дзівацкі нораў, як трывае верны сабака выхадкі любімага гаспадара.

— Прашу цябе, хоць сёння не гундось пра хваробу свайго смаркатага шнобеля! — паспрабаваў я наставіць старога сябра. — Ты і так сваім прыходам абламаў увесь кайф.

— Ты — сапраўдны сябар! — рука Караваева да болю здушыла маё плячо. — Я вельмі шаную

нашае сяброўства, таму даверу табе тое, аб чым нават сам з сабою стараюся не гаварыць.

— Сёння ў мяне свята душы. І калупацца ў тваіх праблемах я не збіраюся.

Спіхнуўшы зануду з канапы, я цвёрда запатрабаваў:

— Не замінай мудрагеліць. Ува мне прачнуўся талент паэта-песенніка. Слухай і ганарыся сваім сябрам.

Табе я, дурніца, лапатай
Жартуючы даў па спіне,
Ты крыкнула: «Чорт паласаты!»
Пасля пасміхнулася мне.

Аднак нахабны Караваеў заціснуў далоняй мой рот.

— Як ты можаш спяваць нейкія куплеты, калі мне хранова. Сябры абавязаны спяшацца на дапамогу, дзе б іх ні заспела вестка аб бядзе сябра.

— Андрэйка, у мяне беспамылковы нюх на бяду. Гляджу я ў твае вочы, і мне цяжка паверыць, што табе па-сапраўднаму дрэнна.

Караваеў ускочыў з канапы і ўзбуджана пачаў хадзіць з кута ў кут.

— Прашу, не спяшайся з высновамі, пакуль не разабраўся, у чым справа. Лепш дапамажы вярнуць Іну. Яшчэ два тыдні назад яна клялася ў вечным каханні і абмяркоўвала са мной колер сценаў будуара ў нашым будучым доме…

— Паслухай! — я не стрымаўся і груба перабіў дасгавалу. — Як ты патрапіў у маю кватэру?

— Як-як?! Ты сам даў ключ і сказаў: «У маю адсутнасць прыходзь, калі хочаш, і прыводзь, каго ўздумаеш!»

— Менавіта, Андрэйка, у маю адсутнасць прыходзь і прыводзь! Іну, не Іну, Паліну, Галіну. А цяпер валі адсюль, не замінай музіцыраваць. Кажу табе як сябру, які выеў сваім ныццём плеш на маёй башцы. Не забівай сваёй нікчэмнай праблемкай свята бацькоўства ў маёй душы.

Я дастаў кашалёк, адлічыў некалькі «зялёненькіх» банкнот і, не без сумневу, дадаў да іх яшчэ адну.

— На! Ідзі напіся! Правераны спосаб атрымаць душэўнае палягчэнне.

Андрэй не запярэчыў, паклаў грошы ў кішэнь, але сыходзіць не спяшаўся.

— Вось ты халасцяк! — ткнуў ён пальцам мне ў грудзі.

— Так, халасцяк! І вельмі гэтым ганаруся. І не дазволю сябе пераканаць, што гэта дрэнна. Калісьці, у далёкія беспрасветныя часы, халасцяка лічылі панурым няўдачнікам на чужым свяце жыцця. Цяпер халасцяк з ізгоя грамадства ператварыўся ў бравага героя, якому ўсё па плячы і нават мора па калена.

— Халасцякуй, я не супраць. Твая хвароба не заразная. А вось я пасля доўгіх пошукаў нарэшце знайшоў дзяўчыну-сонца!

— Ха! Я не адзін раз абгараў ад такіх сонцаў. Ты раззлаваў мяне, таму я вымушаны распавесці табе неверагодна жахлівую гісторыю, якая, несумнеўна, хутка астудзіць твой жаніхові запал. Спадзяюся, ты нарэшце зразумееш, як гэта бывае па-сапраўднаму дрэнна. Слухай і не перабівай.

Адкашляўшыся, я прыступіў да абяцанага аповяду.

— Гэтым летам на вучэбна-трэніровачным зборы мяне рассеялі ў атрад «Кайло». Хлопцы ў атрадзе сабраліся бывалыя. Усе пасля тэхнічных ВНУ, але мала хто з іх быў падобным да інжынера. Сярод стажораў зачасаўся армянін па прозвішчы Бабаян.

— Іван! — знаёмлюся з ім у першы дзень. — Па-вашаму Аванэс.

— Акоп! — усміхаецца Бабаян. — Па-вашаму Траншэй.

Па-руску «Траншэй» размаўляў добра, але не так, як усе мы. Нават намёку на мацюк не гучала ў ягоны словах. Знайшоўся ў атрадзе «мацёры» мовазнавец, які прапанаваў за невялікія грошы навучыць Бабаяна нахабна-рускай мове. Але армянін далікатна ўхіліўся:

— Спасыба, таварыш. Нэ нуждаюс.

Гэтым «нэ нуждаюс» ён проста ўрабіў нас. Як можна ў асобым атрадзе мець зносіны без мацюка?!

— Можна! — запэўніў «Траншэй»: гэты год ён сам для сябе аб'явіў годам культуры і жанчыны.

Убачыўшы голага Бабаяна ў лазні, я зразумеў: «У такога і з такім няма паўзаў у жыцці. У яго кожны год — год жанчыны, прычым не адной». Мой нюх аказаўся, як заўсёды, на вышыні.

У мястэчку агмень культуры ледзьве тлеў, аж пакуль у «агеньчык» не падкінуў пару паленаў наш «Траншэй». Армянін адпальваў у начным клубе па поўнай праграме, здымаючы прыгажунь у парадку жывой чаргі. Змена ўражанняў, настрою, росту, вагі, трэба меркаваць, духоўна ўзбагачалі яго. У пытанні здыму сяброўкі Акоп дзейнічаў проста, словам, не спрабаваў нічога ўскладняць: калі ў сяброўкі быў дрэнны настрой, імкнуўся яго палепшыць, калі добры — хуценька гэтым скарыстацца.

Кожны вечар, сыходзячы ў ноч, ён выконваў рытуал, не падуладны нашаму разуменню: клаў у правую кішэнь штаноў банан.

Стаміўшыся ад здагадак, я спытаў:



— Банан — прынада для дзяўчат, якія любяць салодкае?

— Нэт, Вана, банан — кручок. Так я лаўлу грудастэнкых рыбак. Всо очэн проста. Іду танцэвац. Падстаўлаю свой правы бок. Ана к нэму лнёт. Чувствуэт банан. Смушчаэтца і шасц к маэму лэваму боку. А там мылашку паджыдает настаяшчый штукачок нэ чэта банану.

— Стратэг! — захапіўся я. — У параўнанні з табой, тактыка танкавых флангавых удараў Гудэрыяна ці дывановыя бамбардзіроўкі самалётамі «Б-52» — лухта сабачая.

Тая памятная ноч была па-летняму цёплай. Наша картачная кампанія засядзелася дапазна, гуляючы ў прэферанс і адначасна паглынаючы неверагодную колькасць піва. А трэцяй гадзіне з'яўляецца наш блудзень. Сам не свой. Рукі бязвольна апушчаныя, твар пакрамсаны беспрасветнай роспаччу. Мяркуючы па ўсім, уляпаўся гуляка са сваім «бананам» у нешта вельмі непрыемнае.

— Рэбята! Памагайтэ! Нада спасац чэлавэка. Паэдэм на таксі. Вазмытэ з сабой пару нажэй.

Нажы, штопар, відэльцы разышліся па руках, як бутэлькі мінералкі ў спякотны дзень. Сабралася дванаццаць дужых хлопцаў, нашпігаваных рашучасцю. Трынаццатым пасля пераліку аказаўся «Траншэй».

Толькі Пашка Афанасьеў не стрымаўся і псіхануў:

— Ні за якія пернікі нікуды не паеду.

Распальваючыся літаральна на вачах, ён пачаў лаяць паніклага «Траншэя»:

— Дагуляўся, сукін кот. Нябось, увесь вечар у Люські на хазе правёў. А я папярэджваў цябе: не хадзі ў яе шалман. Там кожны сантыметр вялікага ложка не толькі тваім потам паліты.

Напэўна, каб астудзіць кіпень абурэння, Пашка падскочыў да халадзільніка і выхапіў з яго халоднага ўлоння бутэльку піва.

— Я, — крычыць, — чалавек рэзкі, калі што здарыцца, не адмыюся ад юрыдычных прэтэнзій, — і з ходу ўсмактаўшы паўпляшкі, азвярэла пачаў шкерыць рыбу.

Пад такім націскам бравы гуляка «Траншэй» скурчыўся, як турэцкая шабля. Ад колішняга запалу і следу не стала.

— Не перажывай! — падбадзёрыў я Акопа. — Самі справімся!

Выклікаем другое таксі. Рассаджваемся. Трое хвацкіх хлопцаў асядлалі гоначны матацыкл.

— Едым на навастройка, праспэкт «Нэсгыбаэмых»! — акрыяў духам Бабаян.

На скрыжаванні матацыклістаў захацеў тармазнуць заспаны мент. Губляючы фуражку, выскачыў ён з кустоў з абураным жазлом. Аднак ездзюлі, не змяншаючы ходу, пракрычалі праз плячо:

— Спяшаемся мы! Ды і пасадзіць цябе з тваёй палкай няма куды!

Па будоўлі «Траншэй» ішоў, як вампір на пах маладой крыві. Тое, што давялося нам убачыць, пераўзышло ўсе мажлівыя спадзяванні. Маё красамоўства блякне перад неабходнасцю апісаць убачанае. Калі б не быў гэтаму дзіву сведкам, ніколі б не паверыў, што такое магчыма. Хвалюючае відовішча! Параўнальнае з эфектам разарванай клізмы, уваткнутай сам разумееш куды. Безнадзейна ўліплая азадкам і ўсім астатнім целам, на кучы гудрону ляжала зусім голая, а таму неверагодна прыгожая бландынка. Уляцела яна ў гудрон, як пчала ў сіроп. Месяцовая ноч агаліла ўсю паднаготную пачуццяў, якія ўтапталі яе туды. Армянскі майстар-надамнік пакінуў глыбокія сляды сваіх локцяў і каленак вакол дзівоснага па сваёй прыгажосці цела.

— Мір пахвіне тваёй, прыгажуня! — стрымана вітаюся. — Заціснута ты, быццам попка ў салдата-першагодка.

Выглядала дзяўчына больш чым фрывольна. Увесь яе выгляд недвухсэнсоўна паказваў, што не толькі твар упрыгожвае жанчыну. Каб пагасіць нашую цікаўнасць, на самае цікавае месца ў сяброўкі «Траншэй» паклаў пунсовую бейсболку.

— Ызвынытэ, рэбята, на Кавказэ парадачная дэвушка раздэваэцца для аднаво. Адэвацца ана можэт для всэх астальных.

— Карціна, тваю маць! — вырвалася ў кагосьці. — «Чырвоная шапачка і шэры полк».

— Вы што, хлопцы?! — стрымліваю ўзніклае ажыўленне. — Скульптура сапраўды ўражвае, але прыйшлі мы сюды не дзяўчынай у гудроне любавацца, а чалавека ратаваць. Акоп, як ты ўмудрыўся дзеву-красу ў гудрон закатаць?

— Выпылы брэнды, — як малалетка бацьку, стаў каяцца «Траншэй», — і збрэндылы. Аказалас, упытую дэвушку прошчэ давэсты да аргазму, чэм дамой.

— Мы з Акопчыкам адчулі ўзаемнае шалёнае прыцягненне ў гэтым трыклятым месцы. Ён кінуўся на мяне адчайна, як кідаецца навабранец у атаку! — прызналася дзяўчына.

— Я завёлса, кагда понэл, што тут самаэ нэабычнаэ мэста для занятыя сэксам. Тарчашчыэ страпыла, падатлывый тэплый гудрон, толстэнкые бочкы з алыфай нэвэраятна вазбуждалі.

Но да ночы гудрон застыл, а мы позна спахватылыс.

— Акопчык абудзіў ува мне жанчыну.

— З яго будзільнікам, мілая, гэта не складана, — пагадзіўся я.

Паакучваўшы нажамі гудрон вакол балбатушкі, мы вызвалілі прыгажуню з гудронавай няволі. Лапаць голую бабу і пры гэтым душыць у сабе жаданне завалодаць ёю — цяжкая для мужыка справа. Балазе, штаны хавалі хваляванне, якое ахапіла нас.

Бабаян дапамог нацягнуць сяброўцы завужаную сукенку і стаў складваць у сумачку жаночыя прычындалы: памадку, цені, хусцінку, фотку і астатні хлам, рассыпаны на месцы бестармазнога кахання. З фоткі ўхмыляўся вусаты мужык. «Траншэй» аслупянеў. І было ад чаго. Ён, бачыце, дзявуляй захапляецца, не шкадуе сябе ў палявых умовах, а яна, паскуда, шараёбіцца ў яго адсутнасць невядома з кім.

— Эта хто? — цвёрда спытаў ён, разумеючы, што пасля вар'яцкай ночы мае права на такое пытанне.

— Ужо ніхто.

— Нэт, ты мнэ скажы, эта хто?! — «Траншэя» раз'юшвала сама думка, што на яго сяброўку яшчэ хтосьці вока паклаў. — Эта хто?– упарта паўтарыў ён.

— Хто-хто! Конь у паліто! Не хвалюйся, мілы! Гэта ўжо ніхто! Павер мне, гэты ніхто для нашага кахання не перашкода.

— Нэт. Ты мнэ атвэт, эта хто?

— Добра! Адкажу! Гэта я да аперацыі!

Замоўкшы, я зрабіў геніяльную паўзу і паглядзеў на прыціхлага сябра.

— Андрэй! Спачываючы на вяршыні ціхамірнасці, ты ўвесь час пераконваў мяне, што твая Іна не такая, як усе. Зараз ты разумееш, адкуль бяруцца не такія, як усе! У мяне ёсць прадчуванне, што твая Іна — падробка. Як сябру раю: трымай сябе і сваю мужчынскую годнасць у руках і не губляй пільнасць. Магчыма, твая Іна — зусім не Іна, а Інакенцій.

# Людовік

Чалавечая камедыя заўсёды сумная, а чаму так адбываецца, пярун яго ведае.

Марына Жураўлёва, дзякуючы бойкай натуры, уласнаруч кавала сваё жаночае шчасце. Сярод майстрых «кавальскіх» спраў Марына стойка трымалася ў першых шэрагах. Праўда, калі такіх, як яна, турбаваў пошук надзейнага мужчынскага пляча, то Жураўлёва натхнёна кляпала пад сябе дужую мужчынскую шыю, прычым не адну, а з запасікам.

— Мітусні каля кавадла столькі, што не прадыхнуць! — бухцела Марына, хмурачы бровы. — Замуж пруцца, быццам з тармазоў зляцелі. Потым самыя шпаркія скуголяць, залiваючыся горкімі слязамі: «Ай-яй-яй! Як я магла ў ім так ашукацца!» Памыляцца — доля дурніц! Сапраўднае шчасце зусім не падобнае да жалеза. Пакуль яно гарачае, каваць яго небяспечна: апячэшся і атрымаеш рубец на ўсё жыццё. Шчасце трэба падпільноўваць! Набрацца цярпення і чакаць. І калі ўдалося высачыць тое, што менавіта патрэбна, дзейнічай упэўнена, як ільвіца на паляванні.

У апошні дзень адпачынку на экзатычнай выспе Жураўлёва раней, чым звычайна, выбралася паблукаць па пустым пляжы. Кідаючы далёка ў мора віягру, яна, скасіўшы вочы, назірала, як узыходзіць сонца і як зіхцяць промні на заценых шыбах пад'язджаючага лімузіна. Капот ліловага «Майбаха» падаўся зручным месцам для неўтаймаванага сэксу. Жарсць апанавала Марыну гэтак жа раптоўна, як некалі прыйшла шалёная думка перафарбавацца ў бландынку. Уладальніку алмазных капальняў з Кейптаўна Марына аддалася за вельмі неблагія грошы надзейным рускім спосабам: яна была адзінай жанчынай на пляжы, да таго ж напаіла алмазніка гарэлкай. Бутэльку гарэлкі шукальніца прыгодаў заўсёды мела з сабой, як дробныя грошы на чаявыя. Пасля дзікага сэксу эмоцыі проста захліствалі. Каб выплюхнуць іх, Марына скочыла за руль і амаль да непрытомнасці каталася ўздоўж узбярэжжа, затым ліха ўтыркнула машыну ў паркавальнае месца і спакойна пайшла ў сваё бунгала пералічваць грошы.

Свой адпачынак Жураўлёва прысвяціла звыклым жаночым глупствам. Выбар уцехаў быў не асабліва вялікім. То яна паўставала перад гламурнай тусоўкай гэткай сэкс-бомбай з багатым паслужным спісам, адводзячы сваім залётнікам ролю хлопчыкаў з масоўкі. То натхнёна ўвасаблялася ў знаўцу прыгожага жыцця, выстаўляючы сябе дамай з бездакорным густам і вытанчанымі манерамі. На нешта большае ў шараговай выпендрожніцы з невыносным свербам лёгкай нажывы і пастаяннай прагай разбагацець бракавала фантазіі.

За дні летняга адпачынку гламурніца адвыкла ад працы і зараз яе ад выгляду праклятых формаў, справаздач і зводак цягнула на ваніты.

— Жыла б далей у леце, ды восень скразнякамі дзьме! — прашаптала Марына, павольна апускаючыся на дно смутку.

— Марыш, ты чаго такая кіслая? — да стала Жураўлёвай падсеў Дзіма Кракін.

Марына лічыла Дзімона нармалёвым хлопцам. На карпаратывах, пасля тузіну выпітых на брудэршафт фужэраў шампусіку, парачка ішла весяліцца на танцпляц. Паддатая Марына была неверагодна файнай! Завужаная экстравагантная сукенка, дэкальтаваная з абодвух бакоў да мяжы прыстойнасці, аблямоўка мехам плэйбоеўскага зайчыка, чорныя ў дробную сетачку панчохі з пунсовым гваздзікам на гумцы і пантофлі на высачэзнай шпільцы.

Яркая знешнасць і надзвычай прыцягальны глыбокі кантральта пасля халоднага шампанскага нікога не пакідалі абыякавым. Рэдкаму мужчыну хапала розуму спакойна прайсці каля Марыны і не паддацца жаданню яе пакарыць.

Нават Кракін, калі запрашаў сяброўку на павольны танец, не мог не скарыстаць з аказіі запусціць пяцярню растапыраных пальцаў у раскошны жураўлёўскі парык. Пры гэтым заўсёды звальваў сваю раптоўную непрыкаянную бесцырымоннасць на гарачую магію халоднай выпіўкі.

— Цябе, душа мая, — шаптаў ён зачаравана, — з тваімі нагамі на руках насіць трэба! Такая прыгажосць павінна знаходзіцца на ўзроўні мужчынскіх вачэй!

Загіпнатызаваны водарам ласьёну, юрлівец апантана працягваў зачароўваць: «Ты — прыгажуня! Я б на табе жаніўся, слова гонару, але ЗАГС, на маю бяду, паспелі ўжо закрыць!»

— Я, Дзіма, сама балдзею ад сваёй прыгажосці! Адбалдзею з табой і пайду мужа любіць. Ёсць у мяне такая невытлумачальная фішка.

Успаміны былі прыемныя абодвум. Але ў першы пасляадпачынкавы дзень у душу Жураўлёвай нагадзіла туга.



— Дрэнна мне, чувак, дрэнна! — ледзь не плачучы, прастагнала Марына. — Дзіўныя рэчы са мной дзеюцца. Хацела патэлефанаваць Лёшу, але невядома як набрала нумар Сярожы. Разгубілася, спалілася, сказала: «Прывітанне, Андрэй!» Мне тэрмінова патрэбны выходны! Зашпіліла раніцай станік у руках, уставіла ў шлейкі ногі. Разумееш, но-гі! Пакуль я канчаткова не з'ехала з глузду, мне патрэбны выходны! Праца не воўк, а трус ашалелы. У лес не ўцячэ, але затрахаць можа.

— Марыш, як я цябе разумею! Не кожнае цемя вытрымае, калі свяціла праз цэлы месяц люта шпарыць цяплом.

— Калі разумееш, схадзі да Палыча, хай адпусціць мяне з працы.

— Палыч з раніцы не ў гуморы. Кідаецца на людзей, як поўны мудак. Яго ідыёцкія «пынжакі» і «трынвай» заманалі мяне. Глухое «ЫН» у словах шэфа — кепскі знак. Зайдзі да яго сама. Палыч кемлівы, адразу змікіціць, як табе дапамагчы.

— Ты непапраўны таўкач, Кракін! Прапанаваць такое, добра ведаючы, што ў мяне з Палычам прыязныя зносіны, можа толькі крэтын накшталт цябе. Мы з Палычам камунікуем, дыхаючы душою ў душу. Калі я зайду да яго вось такая прыгожая, то завісну ў яго кабінеце да самага вечара. Лысы вядзьмак дастане матывам, што ў пячонках сядзіць ужо: «Любовь нечаянно нагрянет, когда ее совсем не ждёшь…». Далей — горш! Прыставала пачне дамагацца: «Спой, свецік, не стыдзісь». Я стамілася тлумачыць балбатуну: «Няма ў мяне вакальных дадзеных, голас ёсць, але ён не для спеву». А Палыч, памяшаны на маім бюсце, упэўнены, што з такім бюстам я проста абавязана вакалам разьбу вы-

пілоўваць. Не аднойчы казала гэтаму ўпартаму, ледзве стрымліваючы грубасць: «Бюст, Сяргей Паўлавіч, не грудная клетка. Дзе вы бачылі, каб бюстам спявалі?!»

— Добра, Марын, супакойся. Палыч з раніцы таму шалёны, што ты да яго не зайшла паказаць свой шахматны загар на ягадзіцах.

— Зайду! Праз дзень. Нічога з маім загарам не здарыцца. Проста не хачу ягонай «нечаянной любовью» заляпаць прыемныя курортныя ўспаміны. Пагрымiць шэф саплямі і супакоіцца. А мне ў заапарк трэба. Сумленне грызе! Зебра, мой любы звярок, ужо засумаваў без мяне. Месяц расстання не кожнае жывое стварэнне вытрымае.

— Далася табе зебра! Не разумею, чым Палыч горшы. Хапай мужыка і любі ўволю. А з зебры які толк?

— Табе, Кракін, ва ўсім патрэбны толк. Такому, як ты, не зразумець, што зебра вельмі няшчасная. Ёй заўсёды сумна. Па вялікім непаразуменні небараку пасадзілі ў шкуру-клетку. Кракін, ты добры. Ты нават лепшы, чым я пра цябе думаю. У цябе ёсць дар даказваць самае неверагоднае і лагічна недаказальнае. Схадзі да шэфа і папрасі за мяне.

— Марын, калі цябе мучыць праца, вазьмі ў Светкі Членавай свежы нумар часопіса «Здароўе і жыццё». Там ёсць вясёлы артыкул пра страўнікава-кішэчныя захворванні.

— Ідыёт! У Светкі мужчынскае прозвішча і яна ўяўляе сябе мужыком у сукенцы. Яе «мужчынскую» ўвагу я не гатовая прамяняць на ўвагу сапраўдных мужчын.

Марына нахмурылася. Гэта быў выпрабаваны метад стаць яшчэ больш прывабнай. Кідкая прыгажосць усушанай тэмпераментам жанчыны



ў спалучэнні з залатым сэрцам наіўнай, але шчырай шаляніцы ўразілі Кракіна і ён зламаўся.

— Добра, пагавару з Палычам, але ў апошні раз. Нейкім незразумелым чынам нязменна трапляю ў настрой шэфа і заўсёды са сподняга боку. А я не хачу, разумееш, не хачу, каб маё жыццё было падобным да зебры, калі ўслед за белымі і чорнымі палоскамі абавязкова настае дупа! Прычым адказваць, у тым ліку і за цябе, даводзіцца, як правіла, маёй дупе.

— Пацярпі, Кракін, дзеля нашых незамырзаных адносін. Павер, што і на тваёй вуліцы некалі будуць прадавацца пончыкі з павідлам.

Бегчы ў заапарк Марыне прыспічыла пасля званка Ніны Караевай.

— Марго! — бадзёранька затрашчала Караева. — У вівaрыі заапарка прэзентацыя супермоднай праграмы. Не ведаю, чым будуць здзіўляць, але на ўсякі выпадак выдрала ў спекулянта два квіткa за шалёныя грошы.

Бетонная сцяна заапарка, як магніт, прыцягвала людзей і ўсялякі зброд. Бо тут альбо футбольныя фанаты сыдуцца, каб пагутарыць пра тое-сёе да крывавых бурбалак з носа, альбо дзяўчаткі-бунтаркі абвесцяць здымны дзень і набяжыць з усяго горада народзец, ахвотны палапаць маладое цела. У самім заапарку заўсёды было пуста, недакормленыя звяры з сумнымі пысамі ляжалі ў клетках. Затое віварый выглядаў зусім не так, як звычайна выглядаюць падобныя месцы. У куце таямніча чарнеў раяль. Уздоўж сцяны стаіліся падазроныя скрыні, накрытыя камуфляжным палатном.

— Нінуля! Павіншуй мяне! Я навучылася нагамі граць на раялі! — шапнула Жураўлёва на вуха сяброўцы.

— Твае ногі і без музыкі вартыя апладысментаў. Іх замест флагштокаў трэба выкарыстоўваць падчас вялікіх святаў.

На подыуме ў містычных промнях святлодыёдных лямпаў аб'явіўся мужчына-гальштук з не зусім прыстойнай бародкай клінком. Акрамя шырачэннага гальштука да каленаў, на яго целе нічога не было: ні трусоў, ні майкі. Мужчына выглядаў вельмі бадзёрым і ажно прамяніўся аптымізмам. У ім згадваўся прыроджаны тэмперамент, непадуладны ні часу, ні людзям у белых халатах.

— Быццам адна вялікая сям'я, мы сабраліся ў гэтым ціхім закутку пагаварыць пра бітву, якой няма роўных у гісторыі чалавецтва, — бодра загаварыў аптыміст. — Бітву, дзе на коне стаяць тры секунды законнага жаночага шчасця — бітву за жаночы аргазм. Магчымасць зведаць аргазм маюць слімакі. Пашанцавала трусам, тхарам і свінкам. Мы адабралі ў заапарку самыя экспрэсіўныя пары і будзем назіраць за працэсам спаравання. Мудрасць прыроды дапаможа наладзіць моцныя чалавечыя зносіны.

З-за парцьеры выйшлі асістэнты ў чорных гімнастычных трыко і па камандзе чалавека-гальштука сарвалі са скрынь камуфляж. Косячыся на скрыні, Ніна спытала Жураўлёву:

— Як твой Вітольд перанёс месяц расстання?

— Лепш пра яго не згадвай. Месяц, пражыты паасобку, не зрабіў яго лепшым. Ён стаў неверагодна пражэрлівым.

— Чым карміць будзеш свайго ўсеяднага?

— Асобнае меню аглаед не заслужыў. Падзялюся тым, што сама не з'ем. Ён ніколі не цаніў маю дабрыню. Уяўляеш, прыйшоў у аэрапорт з гамбургерам у зубах і падарыў каралі, якія я магу насіць толькі ў сумачцы. Вось яны!



— Міленькія. Такія і на шыі будуць весела глядзецца.

— Яшчэ чаго?! Зачэпішся, не дай бог, гэтымі каралямі за які-небудзь цвік, то і галаву адарвеш. Але майму мужлану не дачакацца такой радасці! — і Марына, злосна бліснуўшы вачыма, скруціла вытанчаную дулю. — Дабро, нажытае непасільнай працай, сама ведаеш, якім месцам, яму не дастанецца.

— Ты чаго завялася, як шалёная?

— Сама вінаватая. Навошта пра ідыёта спытала? Я стамілася чакаць ад Вітольда залатога дажджу. Прапрацаваўшы жнівень у лазні, ён ні разу там не памыўся. У спякотны поўдзень бегаў дахаты прыняць душ, начыста знішчыў увесь мой шампунь. Вітольд — небывалы эталон сумленнасці. Адзін раз у жыцці ўзяла яго ў казіно. Дала дзясятачку, каб паставіў на зеро. Мог дахаты прынесці дзвесце даляраў. Яны, нікім не заўважаныя, валяліся на падлозе. Падняўшы баксы памаім кіўку, гэты балван аддаў іх адміністратару.

— Дзяўчаткі! Спыняем гутарку! — чалавек-гальштук абняў Марыну і Ніну за плечы. — Адважней падыходзім да клетачкі. Звычайныя трусы. Два плюс адна. Трус-небарака, трус-забіяка і самачка. «Куй жалеза, пакуль гарачае, як астыне — не ўкуеш!» — пажадаем поспехаў першаму. «Хто паспеў, таго і пернік!» — пацешымся за другога. Усё як у людзей. Кольчыкі, дарэчы, вам не патрэбныя?

— Кольчыкі патрэбныя заўсёды! У тваіх якія каменьчыкі?

— Мае Кольчыкі — натуралы! Першы Кольчык-Коля — я сам. Другі Кольчык — таксама мачо з вялікай кукарачай, — гаварун змахнуў кончыкам гальштука кропелькі поту з ілба і прыліп

да Марыны. — У вас постаць стрыптызёршы. З такой попкай для поўнага шчасця вам засталося нажыць радыкуліт!

— Ішоў бы ты, дзядзька, шукаць радыкулітных на бальнічных койках.

Дадаць парачку гадкіх слоў Марыне перашкодзіў трывожны шум, які ўзнік неўзабаве, выклікаючы замяшанне сярод гасцей.

— Пані і панове! Не палохайцеся, — заскочыўшы на подыум, усклікнуў чалавек-гальштук. — Вы чуеце гукі джунгляў і трапічных ліўняў. Зліваючыся з прыродай, аддавацца неўтаймаванай жарсці значна прыемней. Усе мы выйшлі з дзікай прыроды. Непазбежна, але лепш, канешне, пазней, вернемся туды зваротна. Чалавек, апанаваны жарсцю, абавязаны заўсёды памятаць: сапраўднае любадзейства раўнасільнае мастацтву. Парой палюбоўнікі не здагадваюцца, што мужчына здзяйсняе свае фрыкцыі ў стылі барока, а партнёрка марыць пра стыль ракако. Барока з італьянскай азначае «мудрагелісты, дзіўны». Магу паспрачацца, вам не раз даводзілася думаць пра партнёра: «Божа мой, што за дзівак!»

Марына, згаджаючыся з гаваруном, кіўнула галавой.

— Ракако, сябры мае, у перакладзе з французскай азначае «дэкаратыўныя ракавіны і камяні». У дачыненні да сэксу, ракако — гэта праца з вібратарам і іншымі карыснымі штучкамі.

— А з чым можна параўнаць сэкс на капоце дарагога аўтамабіля? — задзірліва крыкнула Марына.

— Пакласці вас могуць куды заўгодна. Важна тое, як дзейнічае партнёр у дачыненні да вас: калі мэтанакіравана, не цырымонячыся задзірае спадніцу, адсоўвае трусы, менавіта адсоўвае,



а ні як інакш, і магутна, цвёрда, масіўна, груба працуе з вамі — гэта рустыка. Дадаўшы элементы «садамаза» ў ролевую гульню «жорсткі інквізітар катуе на капоце прыгожую ведзьму», вы атрымаеце заслужаную гаму эмоцый.

Сімпатычнае дзяўчо ў акулярах, з выгляду студэнтка-завочніца, падняла руку.

— Я запрасіла хлопца да сябе дахаты выпіць кавы. Ён каву выпіў і сышоў…

— Ваша памылка відавочная. Вы няправільна расставілі акцэнты. Кава — гэта нагода завабіць маладога чалавека да сябе дадому. Калі ён прыйшоў да вас, то непрыкметна пераканаўся, што ложак да сустрэчы не падрыхтаваны і іншых уцех таксама не прадбачыцца. Пакрыўдзіўшыся, ён сышоў. У іншы раз, альбо з іншым хлопцам, падобных памылак не паўтарайце. Вернемся да архітэктурных стыляў. Ідэя готыкі паўстала для таго, каб падкрэсліць, што чалавек — толькі пясчынка перад прыродай. Памятайце пра гэта заўсёды, у якую б позу вас не загнала сітуацыя.

— Нейкі трындзец! — шапнула Ніна на вуха сяброўцы. — Так доўга кажа пра сэкс, а ў самога пад гальштукам нічога не варухнулася.

— Ты маеш рацыю, Ніна. Дурнейшага дурноцця мне не даводзілася чуць. Кожны ведае: самая сэксуальная рэч на свеце — грошы. Іх усё любяць і заўсёды хочуць, не думаючы, у якім стылі здабыць — баракокай ці ракакокай. Мужчына, у рэшце рэшт, па сутнасці сваёй даволі прымітыўны. Як бы ён ні намагаўся, але прыгавораны скончваць свае патугі банальным семкавывяржэннем. Праўда, здараюцца цуды, але не так часта, як бы гэтага хацелася. Я сыходжу. Шкада марна патрачаных тваіх грошай.

— Пайшлі да цябе. Хачу патрапаць па карку непараўнанага Людовіка і пачаставаць сабачку каўбаскай.

Людовік, кабель рэдкай і цяжкавымаўляльнай пароды, дастаўся Жураўлёвай праз знаёмых чыіхсьці знаёмых дыпламатаў за вельмі сур’ёзныя грошы. Скуголіў, падла, грамчэй ад гавайскай гітары. Бульдогі, баксёры, таксы і іншыя кактусы сабачых парод не каштавалі і кончыка хваста выпешчанага сабакі. Марына абагаўляла Людовіка за ганарысты, манаршы выгляд. У бескампраміснай барацьбе за прэстыж ён стаў яе казырным тузом. Выгульванне сабакі цяжкай ношай лягло на Вітольда Жураўлёва. Не заўсёды ўдавалася справіцца з псінай «на выдатна».

— Людовік! — клікаў часам сабаку Жураўлёў з лёгкім здзекам у голасе. — Дай мне, дружа, на шчасце лапу! Ну, дай, паскуднік! Шкада табе, ці што? Падымі лапу і дай мне! Малайчына! Толькі чаму заднюю? А-а-а-а-а! Скаціна сцыклівая!

Гэты дзень быў такім, як і ўсе астатнія. Людовік, як звычайна, напаскудзіў. Атрасаючы штаны, Жураўлёў краем вока заўважыў незнаёмага мужыка, які праз двор накіроўваўся да яго. Мужык як мужык: грудзі абаранкам, кепка на патыліцы, плашч пад паясок, туфлі на босую нагу, а ногі без намёку на штаны.

— Здарова, суседанька! Сабаку мацней трымай. Баюся кусачых стварэнняў.

Прайшоў месяц, як Жураўлёвы ўехалі ў новы дом. Вітольд яшчэ не паспеў па-сапраўднаму ні з кім пазнаёміцца. Але на «суседаньку» адгукнуўся жыва. Свойскі зварот выклікаў прыхільнасць. Ды і сам выгляд мужыка вельмі зацікавіў.



— Не бойся, падыходзь! Зубы Людовіку дадзены, каб каўбасу жаваў, ды і то не ўсякую. Самую дарагую, паразіт, выбірае.

— Тады рызыкну падысці. Ад мяне дарагой каўбасой не пахне. Затое да цябе ёсць невялічкая справа, — і незнаёмец хітравата падміргнуў.

— Невялічкая справа? — насцярожыўся Жураўлёў. — Калі грошай пазычыць, то, прабач, браток, сам у жонкі з кашалька па рубліку на піва краду.

— Мне твае грошы не патрэбныя. Свой запасік маю. Пасля ўчарашняй вечарынкі галава ачыгунела і буркоча, быццам у ёй сядзіць дзікі звер «ракатун». Хачу расчыгуніцца і ўлагодзіць «звера» шклянкай гарэлкі. Учора піў у знак пратэсту супраць палітыкі міжнароднага валютнага фонду. Прыйшлося па гэтай прычыне выпіць асабліва шмат. Жонка ў палітыцы ні халеры не петрыць і прызнаць мяне патрыётам адмовілася. Мой ранішні апахмел не ўзаконіла, а гінуць, нічога не зрабіўшы для выратавання, я не згодны.

— У мяне з жонкай таксама падобныя непаразумелкі дзеюцца. Вырашыў неяк прыбіць інфекцыю народным сродкам — гарэлкай з соллю. Сваю меру гарэлкі без солі ведаю, а меру гарэлкі з соллю — не. Прапорцыю лавіў вопытным шляхам. З першага разу вопыт не атрымаўся. Прыйшлося паўтараць, чым і раззлаваў жонку.

— Калі людзі з аднаго цеста, ім лягчэй зразумець адзін аднаго. Я як у двор выйшаў, дык адразу ў цябе паверыў. Выручай! Зганяй у краму. Выгляд у мяне, каб самому бегчы, не адпаведны. Жонка шкарпэткі і касцюм схавала. А без шкарпэтак хто я такі?! Ніхто! Маіх грошыкаў хопіць, каб выпіць, закусіць і цябе пачаставаць, — расціснуўшы кулак, мужык паказаў скамечаныя рублёўкі.

Слова «пачаставаць» змыла з Жураўлёва ўсякую асцярожнасць.

— Гарэлка, як лазня: чыноў і саслоўяў не прызнае. Аматар выпіць для другога такога ж аматара раднейшы за брата бывае. Пакуль я збегаю, сабаку павартуй. Глядзі, волі паганцу не давай, не заслужыў.

— Да гарэлкі піва вазьмі, — крыкнуў услед Жураўлёву мужык, — гарэлка без піва — грошы на вецер!

Грошай, на радасць Жураўлёву, хапіла і на гарэлку з каўбасой, і на піва з кількай выдатнага рэзкага посолу.

Сяброўкі, якія не бачыліся цэлы месяц, увайшлі ў двор Марынінага дома, заўзята дзелячыся ўсім, што з імі здарылася за гэты час.

— Праблема ў сям'і намалявалася, — і Марына цяжка ўздыхнула. — Вітольд і Людовік не церпяць адзін аднаго. Я ў мамы не раз пыталася: што рабіць, калі Вітольду начхаць на Людовіка, а Людовік з задавальненнем сцыць на Вітольда?! Ты помніш маю маму! Яе шчырасць не ведае межаў.

— У цябе, дачушка, толькі адно выйсце — атруціць! — без долі сумневу заявіла яна.

— Каго, мама? — здзівілася я.

— Вырашай сама. У пытанні выбару я табе не дарадца.

Калі доўга выбіраеш, вялікая верагоднасць памыліцца. Усё сумняюся, раптам не таго абяру. Але сёння Вітольд нарываецца на вялікую непрыемнасць. Час выгульваць Людовіка, а ён сабаку ў кватэры трымае. Аб усім я павінна памятаць і сама ўсё рабіць. Загарадны дамок на пяцьсот квадрацікаў адбухала за немалыя грошыкі.

— Зайздрошчу табе, хутка гасцей пачнеш прымаць!



— Я не вар'ятка, каб гасцей клікаць. Звычайныя госці вымерлі, як дыназаўры. Божа, ратуй ад гасцей, якія заскочылі на паўгадзіны, а жывуць тыднямі, пахнуць шкарпэткамі, нясвежай бялізнай і потнымі целамі. Ежы на такіх гасцей не напасешся. Планіроўка пакояў у маёй хатцы разлічана пад здачу ў наём. Бюджэтны варыянцік прадумала: буду здаваць куты. Уяві, колькі на чатырох паверхах можна народу размясціць і грошай падняць. Ой, Нін! Штосьці на душы неспакойна! Дзверы ў кватэру насцеж расчынены.

— Вось і сужанка мая дахаты вярнулася! — раздаўся п'яны голас Вітольда.

— Ізноў насцябаўся?! — Марына ткнула нагой мужа, які сядзеў на падлозе ў вітальні.

— Марына, я, чэснае слова, цвярозы! Знайшлася бутэлька гарэлкі, якая вельмі сумавала, дык я развесяліў яе трыма чакушкамі.

— Паверу, што цвярозы, калі зможаш ляжаць на падлозе, не трымаючыся за яе. Людовіка карміў?

— Людзі пакормяць.

— Якія людзі?

— Тыя, з якімі ён з'ехаў.

— Як з'ехаў?

— З'ехаў. Нават лапай, сволач, не махнуў на развітанне. Вывеў Людовіка ў двор пагуляць. Падыходзіць да нас адзін вельмі бездапаможны мужык у паліто на голых плячах. Дае грошы і слёзна просіць купіць бутэлечку гарэлкі. Ну, не мог я гаротніку, такому, як сам, адмовіць. Аматар выпіць для другога такога ж аматара раднейшы за брата бывае. Вяртаюся з гарэлкай — ні мужычка, ні сабачкі. Угналі нашага Людовіка. Думаю, пад заказ. Хтосьці з зайздроснікаў пастараўся.



Марыне зрабілася блага. Толькі сілай волі яна ўтрымала сябе на нагах.

— Які ж ты падла! Толькі я займела нешта непаўторнае, вельмі прыгожае, чароўнае, адзінае! Тое, чаго няма ў іншых! А ты! А ты!

— Ну, я, я! Вунь мама прыйшла! Твая, дарэчы, мама!

— Марыначка! Нешта страшнае ў вас здарылася?! Ты сама да сябе не падобная!

— Ах, мама! Здарылася непапраўнае. Вітольд прамяняў майго ўлюбёнца Людовіка на бутэльку гарэлкі. Дай яму волю, ён і мяне на гарэлку абмяняе.

— Марыш, цябе на гарэлку не змагу абмяняць. Калі б людзям можна было жонак на гарэлку абменьваць, я нават не ўяўляю, якая б чарга атрымалася. У мяне ж на чэргі алергія. А калі б я кінуў піць, як ты таго хочаш, то наш сабака не меў бы суразмоўцы.

— Мама, ты чула, што пляце гэты гад?

— Марына, калі ты ведала, што Вітольд п'янчуга, навошта брала мужам?

— Бо дурной была, спадзявалася, раз чалавек з арыстакратычным імем кожны дзень п'е, значыць, ёсць на што піць. Думала, пажыву трошкі ў замужжы і без бабскай мітусні знайду чалавека-мару.

— Узялася трываць — трывай. За пакуты Бог абавязкова пашле табе годнага чалавека. А пакуль мучышся, не забывай выкідаць смецце з вядра, галавы і жыцця. Цярпенне зробіць цябе шчаслівай.

— Цярпенне, мама, магутная зброя. У гэтым я з табой цалкам згодная. Але парой шкадую, што гэтая зброя не агнястрэльная.

# Таямнічая місія

Нязмушана вечарэла. У падваротнях на стыку закона заціхарылася міліцыя. Бяззубы бомжык у нацягнутым на самыя вушы шыракаполым жаночым капялюшы тужліва граў на габоі. Водар смажанага на вуглях мяса маладога баранчыка казытаў ноздры выпівакам, і яны з зайздрасцю паглядалі на дымлівы мангал.

Падфутбольваючы нагой каштаны, па алеі восеньскага парку цягнуўся маркотны Сяргей Яўгенавіч Піскун. Як грызе згаладалы заяц прамерзлую капусту, гэтак і яго грызла тупая заклапочанасць. Жыццё беззваротна сыходзіла, а Сяргей Яўгенавіч так і не падабраўся да ўсведамлення таямнічай місіі, з якой Усявышні явіў яго на грэшную зямлю. Была надзея на дзядулю, але стары схібіў. На шляху ў іншасвет ён паспеў прашаптаць адну дзіўную фразу, аднак яе сэнс застаўся па-за дасяжнасцю разумення ўнука.

— Замяні ў прозвішчы Піскун дзве літары і тады зможаш даведацца, хто ты ёсць паводле Божай задумы…толькі дзве…ні літарай менш, ні літарай больш…

— Якія на якія літары трэба мяняць, дзядуля? — расхваляваўся Сяргей Яўгенавіч. Але дзедава душа разам з таямніцай фамільнага сакрэту ўжо знаходзілася ў іншым вымярэнні.

Па парку Піскун шпацыраваў з томікам Гегеля ў руках. Томік дапамагаў настроіцца на спазнанне яшчэ не спазнаных ісцін. Аднак вострае пачуццё трывогі за ўласны лёс замінала цешыцца жыццём.

— Таленавіты я. Творчых сіл маю цэлы вагон і яшчэ каляску. Але да чаго прыкласці свой неймаверны талент, не магу зразумець!

Спыніўшыся, Сяргей Яўгенавіч тупа ўтаропіўся на каларытны аркестрык з чатырох музыкантаў, прапахлых таннай гарэлкай. Два старых, пакрэмзаных баяна, бубен і барабан наярвалі шлягер, які набіў аскому за бархатны сезон. Парачка безнадзейных транжырак жыцця — Ляля Белая і Лёля Чорная выкаблучваліся на падтанцоўцы, гулка выкрыкваючы, быццам яны ў італьянскай оперы:

— Аглы-балды! Аглы-балды! Аглы-балды!

Пявуннямі пераваліла крыху за трыццаць пяць. У прарэхах плашчоў ззялі іх укормленыя фігуры, зацягнутыя ў залапаныя крэмавыя гарсэты.

— Таўстухі! — зморшчыўся Піскун. — Такія не распаляць гарэзлівы агонь у душы. Калі б не шырокія, шчырыя ўсмешкі музыкантаў, прыняў бы гэтую групу людзей за жалобную працэсію, якая прысела адпачыць.

— Гэй, дзядзька! — паклікала Піскуна Ляля Белая. — Мы каленкамі тут серабрым не за проста так. Пакуль не здох наш ебцізіазм, прабашляй, дзядзька! Паднімі дух каманды!

— Я падводнік! — з выклікам кінуў у адказ Сяргей Яўгенавіч, як быццам бы меў па гэтай прычыне стопудовае права бясплатна ўзірацца на выпендрожніц.

— Гэй, падводнік! Хадзі сюды. Дам табе выспятка пад зад за выёжыбістасць! — і патлаты баяніст падкасаў правую калашыну.

— Дай яму, Міця, дай! Абнаглеў ханурык! Пашкадаваў кінуць рублік на алтар мастацтва, —

падцкавала Ляля музыканта. — Бамжыху са стажам крыўдзіць. Я ў мамы ў заплечнай торбе бадзяцца пачынала, калі ён гаршчок у дзіцячым садку абжываў.

Пакамечаныя танцоркі не натхнілі Піскуна счапіцца ў славеснай баталіі. Іншая справа — перуанкі! Сяргей Яўгенавіч чытаў, што перуанкі ў навагоднюю ноч усе, як адна, фарсяць у жоўтых трусіках. «З'ездзіць бы ў Перуанію і праверыць! — аблізнуўся Піскун. — Няўжо ўсё так і ёсць, як у часопісе напісалі».

— Не чапайце прахожага! — уступіўся за Сяргея Яўгенавіча барабаншчык у цяльняжцы. — Чалавек — падводнік, значыць у аўтаномку хадзіў. Там сэкс палюцыямі не папоўніш. Рукі змазоліш, пакуль папрацуеш з канцом.

Неба зардзелася вузкай палоскай і Сяргей Яўгенавіч збочыў ад граху далей на цёмную алею. Усходняя мудрасць лічыла цёмнае сінонімам глыбіні. Прысутнасць цуду на цёмнай алеі паказалася Піскуну такім густым, хоць бяры нож і рэж гэты цуд на кавалкі, як рэжуць лусту апетытнага сала. Нешта падобнае здаралася з Піскуном, калі ён у кампаніі сяброў балбатаў, выпіваў, смяяўся, але ў нейкі момант заміраў і неўзабаве агучваў думку пра марнасць усяго існага. Асабліва ўрачыста сярод раптоўнай звонкай цішыні гучалі яго словы:

— Пракурор нарадзіўся!

Чаму пракурор, а не дэпутат, ніхто не вырашаўся спытаць. Але тое, што ўсе секунду назад перажылі момант ісціны, ніхто не падвяргаў сумневу.

Міжвольна зажмурыўшыся, Піскун нязграбна ўзмахнуў рукамі. Прыйшло адчуванне палёту. Было яно гэткім моцным, што здавалася, яшчэ імгненне — і Сяргей Яўгенавіч уварвецца ў расчыненую браму жаданых нябёсаў.

— Ты што вытвараеш, вырадак! Галава твая садовая! — няўрымслівы баяніст пагразіў узляцеўшаму Піскуну кулаком. — Мы, ёпць-пераёпць, п'ем з «мярзаўчыкаў» і «жулікаў», а ў цябе пясок з падэшваў нам на каўбаску сыплецца.

Піскун прыкусіў губу, баючыся выпадкова агрызнуцца і на шматкі парваць шчаслівае адчуванне палёту.

— Лятун! — не сцішаўся занудлівы аматар каўбасы. — Раз скочыў з гразі ў князі, спытай наверсе, чаму не магу намацаць рогі, хоць суседзі толькі пра іх і кажуць?

— Дурань! — здзеклівая ўхмылка запяклася на вуснах Піскуна. — Той, хто наверсе, — Бог, а не ветэрынар.

Зусім недарэчы з'явілася жаданне пасікаць, якое імгненна змыла таямнічнасць флёру лунання ў нябёсах.

— Тупеючы ад жыцця, усё менш разумееш, хто мае рацыю, а хто вінаваты, — уздыхнуў Сяргей Яўгенавіч і расплюшчыў вочы. На зямлі было таксама добра, а галоўнае — звыкла. Агледзеўшыся па баках, Піскун паспешліва расшпіліў шырынку.

— Бач ты, які пан! — пагразіў ён пальцам таму, хто хаваўся ў складках трусоў. — Толькі намякнеш на жаданне, а я мушу тут жа выконваць.

Толькі Піскун схаваўся ў кустах, як на алею выйшла сямейная пара. Трэцюю гадзіну запар Маша Глумлёва ў ахвотку грызла мужа:

— Калі мы нарэшце нармальна зажывём, як усе прыстойныя людзі?!

— Хіба дрэнна жывём, Маша?! — Глумлёў разгублена паціснуў плячыма. — Яшчэ не сціхла

шалясценне еўрыкаў за перапрададзены «Лэнд-крузер».

— Хто гэтае шалясценне чуе?! Бузьмікіных без шалясцення за паўтара года чатыры разы рабавалі, а ў нас газету з паштовай скрыні ніхто не выцягне. Не вераць людзі, што мы ямо на посудзе ад Ціфані і носім вопратку ад Гучы. Моташна ад чужых намёкаў! Чуткі, быццам я апранаюся на кітайскім блышыным рынку, памнажаюцца як прусакі. Я ў крыўдзе на ўвесь свет. Свет перада мной у даўгу.

Машу Ігар лічыў самай страшнай рэакцыйнай сілай у доме. Вывернуць сковытам чужую душу навыварат ёй было лягчэй, чым афіцыянту плюнуць у талерку з супам дакучліваму кліенту. Марыя марыла пра крадзеж стагоддзя ў сваім доме. Крадзеж даваў шанс стаць гераіняй гламурных тусовак. Страціўшы надзею засвяціцца ў шоу-бізнэсе, яна задумала перакваліфікавацца ў зорку крымінальных навін і нарабіць шуму на ўсю краіну.

— Уся справа ў маёй попе! — так тлумачыла яна Глумлёву сваё капрыз. — У мяне асаблівая попа. Ты сам мне не раз пра гэта казаў. Такой выдатнай попе патрэбныя прыгоды. Попа без прыгодаў ператвараецца ў маркотныя булкі. Маркотныя булкі разам з маёй паўнатой — гэта катастрофа. Скажы шчыра, я тоўстая?

— Ты зусім не тоўстая! — паспяшаўся супакоіць Машу Глумлёў.

— Не лжы.

— Кажу табе, не адводзячы вачэй, ты не тоўстая! Ты… добрапрыкметная.

Нескандальнага Глумлёва Маша шанавала, але ягоную вартасць старалася не завышаць. Яна лічыла сябе клапатлівай жонкай і, каб зберагчы



свайго мужа, часта мела справу з чужымі мужамі. Толькі тады, калі не было выбару, аддавала ўсю сваю паўнату Глумлёву, распальваючы ў ім агонь жарсці беспардоннай грубасцю.

— Ну чаго ты на мяне вочы вылупіў?! — гарлапаніла яна. — Не строй з сябе ўражлівага. Падумаеш, убачыў мяне без макіяжу! Мне што, зараз з заікам у ложак класціся?!

Абазваны заікам, Глумлёў усю ноч стараўся, не шкадуючы сіл. Распешчаная на ўсе сто, Марыя лёгка ішла на прымірэнне. «Трэба ўмець прабачаць, — казала яна свайму адбітку ў люстэрку. — Бо калі-небудзь прабачэнне можа спатрэбіцца і самой!»

Пасікаўшы ад душы, Піскун вылез з кустоў і стаў аддзіраць калючкі дзядоўніка, якія прыклеіліся да штаноў.

— Маньяк! — пралапатала Глумлёва. — Я зараз страчу прытомнасць. Пустыннае месца. Пануры мужык калупаецца ў расшпіленай шырынцы. Напэўна, там схаваны страшны пісталет.

— Маша, у цябе праблемы з фантазіяй. За шырынкай захоўваюць не зброю, а сама ведаеш што.

Пад чаравікамі Піскуна трывожна зашуршэла лістота. Маша ўся аж скурчылася ў прадчуванні жаданага разбою. Піскун заўважыў, што людзі, якія ішлі насустрач, насцярожана замерлі, таму прыязна ўсміхнуўся і памахаў ім рукой.

— Не палохайцеся! Я прыстойны чалавек. Патрэба ў кусты загнала. Прыйшлося схадзіць па-маленькаму, а пасля прыцерушыць гэты непарадак лістотай.

— Балван! Што ён пляце?!

— Маша, не нервуйся! Я не дапушчу халтуры. Мужчына, будзьце ласкавы абрабаваць маю да-

му. Шырынку зашпільваць не трэба. Пры выглядзе расшпіленай шырынкі ў жанчыны адрэналін зашкальвае. На маім твары пакіньце лёгкія сляды кулачнага гвалту, а ў штанах — вывернутыя кішэні. З маёй жонкай не цырымоньцеся. Груба забірайце гатоўку, а пасля здымайце ўсё, што блішчыць. Не сумнявайцеся — золата сапраўднае.

Піскун разгубіўся. Больш вар'яцкай просьбы яму не даводзілася чуць.

— Вы наконт рабавання сур'ёзна кажаце? Усякі гвалт супярэчыць майму ўспрыманню свету. Я спагадлівы і адданы сябар. Прыроду люблю ўзахлёб. Майскімі начамі слухаю на Чупахінскіх балотах пералівы трохактаўнага жаба-феномену. Натхнёны іхнімі песнямі, магу скласці добры дзясятак малафарматных апавяданняў, кароткіх, як цыдулкі самазабойцы.

— Пачакайце, пачакайце! Нам патрэбны налётчык, а не пісьменнік.

— Калі я не зразумею сэнс задумы, ніколі не вазьмуся яе выконваць.

— А вам разумець нічога не трэба. Зрабіце, што кажуць, ды валіце на ўсе чатыры бакі. Мы вам добра аддзячым. Толькі рабуйце сумленна, так, як мае быць.

— Разумееце, я чалавек не азартны, хоць у шашкі шанцуе часцей, чым належыць прыстойным людзям. Не скнара. Калі капаю камусьці яму, то адразу клапачуся пра выгоды, бо раптам сам туды звалюся. Час цяпер складаны, і якім бокам жыццё павернецца, прадказаць немагчыма. Загадзя гатовы да будучых непрыемнасцяў. Ад грамадскіх нагрузак не ўхіляюся, а да геройскіх учынкаў трэба падпіхнуць.

— Лічыце нашу просьбу грамадскай нагрузкай. Гэта ваш шанс змяніць цёплую вадзіцу



будняў на каламутныя хвалі адчайных учынкаў. Абрабуеце нас — і хвіліна славы вас не абміне. Кожны ўчастковы апісанне вашай знешнасці будзе насіць у кішэні ля самага сэрца. Як сумленны чалавек, можаце самі з'явіцца з пакаяннем. Вам прыпішуць жорсткае супраціўленне, таму прыйдзецца паклапаціцца пра аднаўленне формы твару. Пра нармальную працу нырак і зусім прыйдзецца забыцца. Затое вашае рабаванне будзе мець прысмак рамантыкі. Так рабаваў незабыўны Робін Гуд.

— Дзіўныя рэчы вы кажаце. Тое, што я нарадзіўся падобным не да маці, не да айца, а да заезджага малайца, не дае вам права ўцягваць мяне ў авантуру. Нарадзілі мяне не па правілах, каб тату было сорамна. У адплату тата не даў гарантый майму шчасцю і доўга спрабаваў выправіць мой твар, паклаўшы побач сваю фатаграфію. Так я навучыўся выжываць, але аказаўся далёкім ад разумення, як трэба жыць. Назапасілася маса пытанняў без адказу: хто я, дзе я, навошта я? Дзядуля абмовіўся, што таямніца роду схавана ў літарах прозвішча. Але таямніцу літараў панёс з сабой на нябёсы. Я на грані роспачы. Пажыццёвая камандзіроўка на грэшную зямлю можа ў любы момант абарвацца, а я да гэтага часу не ведаю, што Бог даручыў мне здзейсніць, калі пасылаў у гэты свет. Я кінуў піць і курыць. Стаў кахаць сваю жонку, а не чужую. Хоць чужая лёгка стала сваёй. Шукаючы змен, памяняў жонку з дзвюма дочкамі на жанчыну з дзвюма дзяўчынкамі. Аліментаў атрымліваю больш, чым аддаю.

— Лухта! Адназначная лухта!

— Вы першы пачалі.

— Ігар, ён вар'ят. Прагані яго.

— Як скажаш, дарагая. Правальвай! Ты надакучыў нам, зануда!

— Не разумею вашай агрэсіўнасці. Мала таго, што інфляцыя блыхой кусае, дык і вы палохаць задумалі. Сабраўся спакойна пагуляць, назапасіць светлыя ўражанні на чорны дзень, а тут вы са сваёй дакучлівай ідэяй пра рабаванне.

— Я ж сказаў, правальвай, балбатун! — Глумлёў са злосцю падчапіў нагой важкі камень, які праляцеў пару метраў і грукнуўся аб рэкламны шчыт.

— Раней людзі былі больш добрыя, — уцякаючы ўглыб алеі, пракрычаў Сяргей Яўгенавіч.

— Ты яшчэ ўспомні тыя часы, калі нельга было за грошы нічога купіць.

— Добры вечар! — ліслівы голас за спінай адцягнуў Глумлёва ад злоснай сваркі. — Чым не дагадзіў вам гэты чалавек? Зрэшты, можаце не адказваць, я ўсё пра яго ведаю і перастаў нечаму дзівіцца. Яго мазгі прыкметна перавышаюць аб'ём чарапной каробкі. Гэтая з'ява спарадзіла адзін, але істотны недахоп — празмерную пісьменнасць. Сяргей Яўгенавіч пакутуе ад запораў, таму шмат часу праводзіць за чытаннем кніг. Кнігі развілі ў ім лагічнае мысленне. Дзякуючы логіцы ён адзін не плакаў, калі патануў ягоны сябар. Сяргей Яўгенавіч лагічна разважыў: «Не ўмеў плаваць — вось і патануў. У дзяцінстве няправільна гуляў у бутэлечку — і спіўся. А спіўшыся, не паспеў навучыцца плаваць». У жалезнай логіцы Сяргея Яўгенавіча няма заганаў. Дзейнічаючы ў адпаведнасці з логікай, ён, як сябар, ажаніўся на ўдаве тапельца. Узяўшы за жонку былую жонку, ён, згодна з логікай, стаў гаспадаром рынка «сэканд хэнд». Ланцужок пераўвасабленняў Піскуна можна працягваць да бясконцасці. Але, па вялікаму рахунку, калі чалавек не мае недахопаў, гэта таксама пэўны недахоп. Гэтага чалавека гняце дакучлівае пытанне: хто ён, Сяргей Яўгенавіч Піскун, у гэтым жыцці? Ён мітусіцца, не разумеючы, як знайсці адказ, схаваны ў літарах ягонага прозвішча. Я ведаю таямніцу роду Піскуноў. Варта замяніць у прозвішчы літары «ск» на «зд» — і ўсё стане на свае месцы. Але калі я скажу яму пра гэта, то чалавек, страціўшы матывацыю да жыцця, назаўжды страціць жаданне рухацца да мудрасці. Так паступіць з ім мне не дазваляе сумленне. Хай сам разблытвае блытаніну, накручаную продкамі. А вас саміх, як разумею, таксама грызе нейкая праблема, з якой не атрымліваецца справіцца?

— Мая праблема — мая жонка, — ледзь чутна сказаў Глумлёў і пакасіўся ў бок Машы.

— Знаёмая сітуацыя.

— Калі я адзін, то малю Бога: «Пане! Прымі яе з гэткім жа задавальненнем, з якім я хачу адправіць яе да цябе!» Але далей слоў справа не ідзе. Духу бракуе на адчайны ўчынак.

— Набярыцеся цярпення, мой дружа. Сусвет ведае, як вырашыць вашу праблему. Рана ці позна ён звядзе вас з патрэбным чалавекам і развядзе з непатрэбным. Але пакуль жывеце ў цярпенні, не забывайце паклапаціцца пра захаванне ўстойлівай псіхікі.

— Як я магу пераканацца, што мая псіхіка не перасягнула мяжу ўстойлівасці?

— Ёсць просты спосаб разабрацца ў сваім стане. Калі, штурхаючы вас, лёс у чарговы раз ломіць сабе нагу, жывіце і далей у спакоі. Ваша псіхіка ўсё яшчэ ў поўным парадку.

# Бабскі бунт

Вечар выдаўся празрысты і ціхі. Працоўны дзень каціўся да свайго афігею. Начальнік Казляеўскага райаддзела міліцыі маёр Палажняк Ігнат Васільевіч смаркануў пад стол і вывеў на лісце паперы: «Акт пра патананне». Пасля закрэсліў і напісаў: «Акт пра ўтапленне».

— Суха. Не бачны размах праведзенай працы. А калі напісаць: «Акт пра ўваход цела ў ваду і нявыхад яго з вады»? Не, так увогуле падобна на задачу са школьнага падручніка. Пісака! Ваўчыную хватку опера забівае ўва мне канцылярршчына!

Маёр наліў з мельхіёравага чайніка паўшклянкі выратавальнага чыфіру. Як некалі, у маладыя гады, яму захацелася, сціскаючы песцік у руцэ, паганяць урак, пашчоўкаць сталёвымі бранзалетамі на запясцях у бандзюганаў. Нуднае сядзенне ў райаддзеле прызнавалася карысным толькі ў дні бязвоблачнага пекла, калі любое жывое стварэнне шукае выратавальны цянёк.

Хтосьці з павагай пастукаў у дзверы. Твар Палажняка прыняў заклапочана-дзелавы выраз. Увайшоў старшы лейтэнант Канарэйкін. Выглядаў старлей горш за тапельца.

— ЧП, таварыш маёр! Бунт! Затрымана паўтара дзясятка чалавек.

Бровы Палажняка сурова сышліся на пераноссі.



— Завадатараў у казамат! Дапытаць як след! Выпісаць кожнай істоце па мордзе! Калі пытанні застануцца без адказаў — па нырках! Кру-гом! Аб выкананні далажыць!

— Якія ныркі, таварыш маёр, бабы бунтуюць!

— Якога хрэна бабам трэба?!

— Чорт іх ведае! На ўгаворы растлумачыць сутнасць свайго бунту не паддаюцца. Начальніка патрабуюць!

— Якія ўгаворы?! Яны, што, на пляжы ў шэзлонгах ляжаць, а ты разносчык халоднага піва?! Галава ў цябе нашто?

— Ем галавою!

— Думаць галавою трэба, а карміць па заслугах.

— Так точна! — і Канарэйкін ліха шчоўкнуў абцасамі.

— Пайшлі. Пакажаш бунтарак.

Палажняка ў райаддзеле паважліва звалі «рэнтген». Калі маёр няміргаючым позіркам дзіравіў злачынцу, прамаўляючы легендарнае: «Я цябе, падла, наскрозь бачу», нікому не ўдавалася адмаўчацца.

У цеснай дзяжурцы дванаццаць жанчын ціха аб нечым шапталіся. Хутчэй за ўсё, аб сваім бабскім гаротным лёсе. Крыху ўбаку моўчкі сядзелі трое мужчын з каменнымі тварамі. Каларытная цётка ў весёленькай кофтачцы дзелавіта грызла яблык.

«Каларыціцца, зараза!» — без злосці падумаў маёр і ўпіўся славутым уедлівым позіркам у шустранькую з выгляду жанчынку. Жанчына здрыганулася і ледзь не папярхнулася кавалкам яблыка.

— Вы мяне вачыма так не страшце! Па вашай міласці ледзьве яблыкам не падавілася.

— Кофтачка на вас пухнатая, — знайшоў што адказаць Палажняк. — Вачэй не адарваць.

— Сапраўдная шэрсць ебіпцянскіх вярблюдаў.

— Тое, што шэрсць вярблюжая, я адразу зразумеў па двухм горбіках на вашых грудзях.

«Рэнтген!», падумаў з павагай Канарэйкін і зашаптаў шэфу на вуха:

— У пратаколе адзначаны факт групавога парушэння грамадскага парадку. Жанчыны на плошчы, нецэнзурна выражаючыся, заміналі людзям культурна адпачываць. Завадатар — Муратава Вольга Пятроўна, тая, што з яблыкам. Дваццаці васьмі гадоў, швачка. Па словах відавочцаў, так крыла матам, што заслухацца можна. Хвацкую лаянку выдавала! Крыніца натхнення пакуль не выяўлена.

— З дазнаннем валаводзіш, старлей! — нахмурыўся Палажняк і пераключыўся на аматарку яблыкаў і моцнага слова. — Давай, Вольга Пятроўна, выкладвай, як табе собіла ў хуліганкі запісацца! Бач ты, надумала мацюкамі крыць у грамадскім месцы! Табе што, кутоў у кватэры бракуе?! Уткніся носам у кут і мацюкайся колькі заўгодна — пазбаўляйся нечысці.

Муратава паклала абгрызак яблыка ў пакецік, выцерла далоняй сакавітыя вусны і залапатала:

— Грамадзянін начальнік, на плошчы праходзіў марш пратэсту непрыгожых жанчын супраць усталяванага мэрыяй сухога закону падчас святкавання «Дня горада». Матывацыя пратэсту змяшчаецца ў некалькіх словах: «Непрыгожая баба цвярозаму мужыку па абуху».

— Пачакай, пачакай! Твае словы з партрэтам твайго твару не стыкуюцца. З твару ты сімпатычная, ды і фігурай не абдзелена. Не магу зразумець, як ты патрапіла ў кампанію непадобных да сябе?

— Каб мяне зразумець, вялікага розуму не трэба. Душа бунтуе, бо стамілася чакаць нармальнага мужыка. Маньяк і той бесхрыбетны пайшоў! Згвалтаваць толкам не можа. Уздумала неяк бесхрыбетнае чмо абразіць мяне апоўначы на паркавай алеі. Плашч на сабе расхінула, а там замест мужчынскай годнасці нейкая ерунда лядашчая вісіць. Без бінокля цяжка разгледзець. «Што ж ты, паразіт, з пузам кавуновым да мяне сунешся! — накінулася я на маньяка. — Хвосцік твайго кавуна дзе?! Усох?!» Так напалохала маньячыну, што праклятты драпака даў, ажно толькі пяткі блішчэлі ў месяцовым святле. Чахарда ў мяне з мужыкамі пачалася, як ярмо замужжа на сябе павесіла. Але пакуль сілы ёсць і на здароўе не жалюся, хачу жыць паўнавартасным жыццём, каб потым не праклінаць сябе за дарэмна пражытыя гады. «Конь» майго мужыка скача заўзята толькі час ад часу. Шукаю мужыка з правільным «канём». Кожная жанчына хоча аднаго…

— Потым другога! — не стрымаўся маёр, якому надакучыла пустая балбатня. — Запомні, Муратава! Усе мужыкі добрыя, нават нізкааплатныя. Ты па справе кажы. Тут не тэатральныя падмосткі і апладзіраваць тваім байкам ніхто не будзе.

— Дык я па справе кажу! Калі мужык бабе даспадобы, хай сабе на ёй пацее. Але калі яго азадак ад крэсла нельга адарваць, то такі самазваны намеснік Бога бабе ў хаце не патрэбны.

— Бытавуха! — спакойна ацаніў Палажняк сітуацыю. — А ты, чудзіла, — маёр нядобра па-

касіўся на Канарэйкіна, — кіпеш падняў: «Бунт! Бунт!»

— Мой муж — сапраўдны злыдзень, — не супакойвалася Муратава. — Куды не пакладзі, усюды замінае. Колькі жанатыя, столькі мірымся. То ён крычыць: «Ты кроў маю п’еш». То я крычу: «Не п’ю я ўсякую дрэнь». «Ты ідыётка!» — лезе ён да мяне біцца. «Так, ідыётка! — згаджаюся. — Жыла б з генералам, была б генеральшай». Для жанчыны галоўнае, каб мужык талковы побач быў. Я ў вас спытаць хачу, грамадзянін начальнік, па якім такім праве мужчынам дазволена здраджваць, а жанчынам — ані-ні? Адразу шлёндрай абзавуць і пакрыюць нязмыўнай ганьбай.

— Тваё пустаслоўе, Вольга Пятроўна, прыходзіцца на мой службовы час. І тлуміць сабе галаву глупствам не дазволю. Але, паколькі бачу памылковасць тваіх меркаванняў, змаўчаць не магу. Па прыродзе сваёй мужчына — паляўнічы. І патрабаваць ад яго, каб ён быў верным адной жанчыне, тое самае, што ў лазню пайсці і венік забыцца. На гэтым дэмагогію спыняю. Адказвай на пытанне: чаму на плошчы мацюкі гарадзіла?

— Адказваю. У кожнай, што мацюкалася, ёсць свая сумная гісторыя. Пра чужыя гісторыі казаць не буду, распавяду сваю. З мужам жыву добра, калі судзіць па мэблі. За паўтара года, якія пражылі разам, нажылі тры аборты і выпадковае дзіця.

— Лепш адзін раз нарадзіць, чым кожны дзень галіцца! — не стрымаўся маёр, цярпенне якога амаль скончылася.

— Можа, яно і так, грамадзянін начальнік. Мне гэтую праўду праверыць цяжка. Але ў паўсядзённым побыце мой мужанёк сябе не праяўляе. У хаце з’яўляецца толькі калі жэрці захоча. І пайшло-паехала: то супец яму разагрэй, то тэфтэлю распаруй. І няма гаду ніякай справы да таго, што я ўся ўзмыленая ад працы, што з языком на плячы замест каўняра, што дахаты ледзьве ногі прывалакла. Дык я яму ў адплату дулю пад наздрулю, а не піражок з какавай.

— Дарма па дробязях сітуацыю дома нагнятаеш. Табе ў кватэры прыбрацца і абед прыгатаваць, што мужыку раз плюнуць.

— Пляваць ён мастак.

— Апошні раз пытаюся, чаго буяніла?

— Дык я ж вам тлумачу справядлівасць свайго буянства. Мой лозунг: кожная маці — бацька сямейства. Грудзі свае з годнасцю хачу несці, а не перацягваць з хаты на працу і з працы дахаты. Вось пра гэта і казала на плошчы. Казала шчыра і на зразумелай мужыкам мове.

— Згодны, што баба таксама чалавек, і ваду на ёй трэба вазіць хоць бы праз раз. Але мудрасць народную не правядзеш. Нездарма кажуць: калі здарылася нешта, адразу шукай вінаватую ў гэтым жанчыну. І што б яна там ні казала ў сваё апраўданне, мацюкацца ёй дазволена толькі сярод такіх, як сама, зачыніўшыся ў жаночай прыбіральні. Там яна можа адначасова гучна выпускаць газы, пляваць на падлогу, калупаць пальцам у носе, адрыгваць, распавядаць, як і каму нядаўна дала, і чухаць тое месца, дзе маглі быць яйкі, калі б яна была мужыком.

— Але ж мацюкаліся мы, каб мужыкам было зразумела, чаго мы ад іх хочам і як часта гэтага хочам.

— Калі б ты, душа мая, жыла ў пампасах, я б слова табе не сказаў. Мацюкайся, крыўляйся, хоць голая хадзі. Там клімат для гэтых штук спрыяльны. Але на плошчы з нятленным помнікам ды

яшчэ на вачах у людзей і міліцыі такое вытвараць не дазволена. Як вартавы закона, я абавязаны накласці штраф і выказаць грамадскае ганьбаванне. Сутачкамі ўзнагароджваць гэтым разам не буду. Але калі паўторыцца нешта падобнае, прыму меры па закону, якім бы строгім не быў яго артыкул.

Палажняк яшчэ раз прагледзеў рапарт аб здарэнні. Мацюкі, згаданыя ў дакладной, былі сапраўды сакавітымі. З цяжкасцю верылася, што прыстойна апранутыя жанчыны мелі такія глыбокія пазнанні ў мацюках. Сумненні грызлі маёра і не давалі паставіць тлустую кропку ў гэтай дзіўнай справе. Ківаючы ў задуменні галавой, ён злавіў на сабе позірк аднаго з затрыманых мужчын.

— Канарэйкін! А мужыкі за што сядзяць?

— За падказкі, таварыш маёр. Яны на плошчы дзеля пацехі навучалі жанчын майстэрству мацюкацца.

## Сто крокаў да апраметнай

**Д**арога пайшла лесам, і прапаршчык Грабяшын мацней сціснуў у руках «абаранак» «Камаза». У незнаёмым лесе, як і ў галівудскім блокбастары, любое глупства можа лёгка абярнуцца фатальнай выпадковасцю.

— Дзеўкі ў возеры купаліся, — спяваў крыху зморany служака, зорка ўзіраючыся ў грунтоўку, што бегла насустрач, — пэўна, ранкам абасцаліс…

У кузаве грузавіка ляжалі качаны капусты, накрытыя брызентам. Заквасіць прапаршчык капусту — і будуць салдаты ўсю зіму яе наярваць на булёне з маслакоў.

Гарэзлівая песня разахвоціла Грабяшына і ў ім ажыў дух гоншчыка. Гэта падштурхнула дадаць газку. Праязджаючы лужыны, прапаршчык падціскаў ногі і сакавіта мацюкаўся, а калі па лабавым шкле хвасталі яловыя лапкі, клаўся грудзьмі на руль, каб не атрымаць галінай па ілбе.

У разгар дурной весялосці па-заліхвацку варухнуўся прыдарожны куст, і на гасцінец, нахабна вільнуўшы шыкоўным хвастом, сiганула ліса.

— Пастой, рыжуха! — загарлапаніў Грабяшын, сквапна бліснуўшы вачыма. — Хвост аддай! Мая краля даўно марыць пра шыкоўны каўнер!

Прадаўшчыцу дыскаўнтэра «Еўраебць», Люську Шчаўкапёраву, Грабяшын залічыў у кралі зусім нядаўна. Люська паланіла ваяку цёплымі пругкімі цыцкамі. Кожная цыцка Люські была

памерам з кілаграмовы пакет цукру. Толкам пераспаць з новай знаёмай не атрымлівалася. Трывогі, камандзіроўкі, нарады перашкаджалі развіццю любоўных стасункаў. Куды часцей атрымлівалася проста вітацца. Вітаючыся, Грабяшын браў у рукі буханкі Люськіных грудзей і натхнёна іх мяў.

— Вітайце, мае мілыя! — прыгаворваў ён і аж млеў ад задавальнення. — Сумна мне было без вас! Як я рады нашай доўгачаканай сустрэчы!

— Пакінь, мяльшчык, мае грудзі ў спакоі! — злавалася Люська на хвацкага залётніка. — Ты не майго статка скаціна, каб я за проста так падпускала цябе да сваіх грудзей. Прынясеш падарунак, годны маёй фігуры, тады і дазволю тваім гарачым рукам пашчыраваць у маіх ніжніх засеках.

— Не сярдуй, Люся! Выказваць пачуцці словамі не ўмею. Мне прасцей з жанчынамі — з дапамогай рук. Ты не сумнявайся, я без усякай дурасці цябе люблю. Але магу і дурасць уключыць, калі будзе на тое твая згода.

— Заракацца не буду, магчыма і згаджуся, калі таго заслужыш. Жыццё хуткаплыннае, і ў ім усё можа здарыцца. Але перш скажы, што добрага ўва мне ты знайшоў?

— Цыцкі ў цябе добрыя!

— Малайчына, Грабяшын! За праўду хвалю. Іншыя імкнуцца сябе выпнуць, разумнасць паказаць, кішэні набітыя грашыма прад'явіць. Але грошы сёння ёсць, а заўтра іх няма. Затое грудзі мае нікуды не саскочаць. Другіх такіх грудзей ва ўсім гарадку не знойдзеш.

— Гэта праўда! А яшчэ ў цябе прыгожыя губкі, далікатны жывоцік і круглы пупочак.

— Інвентарызацыю на сваім складзе праводзь! Ты мяне зразумеў?!



— Не крыўдуй. Ты — маё першае сапраўднае каханне!

— Тыдзень толькі пачаўся, а ты ўжо лічыльнік палюбоўніц абнуліў?! Запомні, Грабяшын! Я жанчына творчая. Хачу — ствараю, хачу — вытвараю. Прыйдзеш да мяне з агурком — атрымаеш сто грам у адказ. Прыйдзеш, як агурочак, з падарункам у руках — і я адкажу належным чынам. Чым лепш мяне апранеш, тым хутчэй распранеш.

— Будзе падарунак, Люся! Будзе! Неверагоднай прыгажосці падарунак будзе.

— Усе вайскоўцы з маленечкімі зорачкамі на пагонах абяцаюць увесь свет, а купляюць марожанае. Чаму я павінна табе верыць, а паверыўшы, пакахаць?

— Я ведаю шмат любоўных позаў. Табе са мной ніколі сумна не будзе, — і Грабяшын перайшоў на шэпт, — я ведаю, як матылькі сэксам займаюцца.

Агеньчык цікаўнасці запаліўся ў Люськіных вачах.

— І як яны гэта робяць?

— Зграбна!

— Прабач, прапаршчык, але на сёння любоўныя дэбаты закрыты. Хачу, каб мяне хацелі, калі я хачу. Камандаваць у доме павінен хтосьці адна. Інакш парадку ў доме не будзе.

— Агонь-баба! — захоплена выгукнуў расчулены Грабяшын, спрабуючы наехаць колам на лісу. — Лягчэй войскам кіраваць, чым такой жанчынай!

Зусім не дарэчы вабнай зданню выплылі апетытныя грудзі прадаўшчыцы. Спакуса схапіць Люську за цыцку была настолькі вялікай, што прапаршчык не ўтрымаўся, кінуў руль ды хапа-

нуў паветра ў тым месцы, дзе прымроілася грудастая прыгажосць. Бездаглядны «Камаз» шмыгануў улева, зляцеў з дарогі і заглух у кювеце.

— Вось дык аблом, маць тваю! — завыў прапаршчык, мацаючы пальцамі набіты на ілбе гузак. Ад сур'ёзных непрыемнасцяў выратавала пухлая падушка бяспекі, якой Грабяшыну служыў раскормлены жывот.

Кювет быў глыбокім і даходзіў звычайнаму чалавеку да месца, якое ў вайскоўцаў вышэй калена і ніжэй партупеі. Грабяшын акуратна надзеў на выцятую галаву фуражку і вылез з кабіны ацаніць становішча, у якім апынуўся па ўласнай дурасці. Разумныя думкі, як звыкла, абышлі бокам дзябёлага прапаршчыка. Затое мацюкі гулліва звесілі ножкі з языка і чакалі апошняй каманды. Самае непрыемнае, што нават сагнаць злосць не было як: вакол — ніводнай жывой душы, адно пад нагамі мітусіліся працавітыя мурашкі. Але, на шчасце, з прасекі на гасцінец бестурботным трушком выскачыў жвавенькі конік, запрэжаны ў воз. На возе з важным выглядам сядзеў мужык у пінжаку і кепцы.

— Тпрррууу! — закамандаваў вазніца, як толькі параўняўся з загразлым у зыбкім пяску «Камазам». — Гэта як жа ты, служака, умудрыўся з дарогі зляцець? Драмаў, нябось, за рулём? Але не сумуй! Рукі цэлыя, ногі цэлыя, галава на месцы. Іншыя, не менш значныя часткі цела па кустах не валяюцца. Звыклая справа: даразяўляўся! А з разявакі, як і з немаўляткі, што возмеш.

— Не сумны я, а цвярозы, маць тваю, гаварун! — вылаяўся Грабяшын.

— Шмат п'еш?

— П'ю штодзень, але бываюць запоі.



— Значыць, меры сваёй не ведаеш?

— Меру ведаю. Калі дзьвесце выпіў грамаў, выпіць трыста трэ таксама.

— Запарышся, выпівака, «Камаз» з кювета выцягваць. Сіноптыкі да вечара абяцалі пацямненне. Здаецца мне, заначуеш ты ў гэтым кювеце.

— Давай твайго каня запражом у «Камаз»! Плюс нас двое. Упромся ў чатыры рукі, глядзіш, і выцягнем грузавік на дарогу.

— У мяне не проста конь, а цыркавы конь арыстакратычнага паходжання. Носіць шляхетнае імя «Конь Стань Цінь». Прывык на манежы кругі накручваць, а мне мучайся, перавучваючы каня па прамой бегаць. Да цяжкай працы ён не прывучаны і ў памагатыя табе не падыйдзе. Чаго так доўга маўчыш, служака?

— Думаю.

— Хіба думаюць, паклаўшы галаву на плячо?

— Так думаць прынята ў вайскоўцаў. Нахіл галавы ссоўвае абедзве клеткі мозгу, а іх судакрананне нараджае правільнае рашэнне, якое, праўда, выканаць не заўсёды атрымліваецца.

— І што табе клеткі ў гэты раз падказалі?

— Далі каманду «сумаваць». Калі б я меў цэглу, то напісаў бы на ёй пра свой сум і гэтай цэглай па тваёй галаве б пастукаў. Тады б ты зразумеў, як гэта балюча бывае, калі табе сумна.

— Нудны ты, служака, як восеньскі дождж. Але я чалавек не крыўдлівы. Магу парадай дапамагчы.

— Сотня тваіх капеечных парадаў і рубля не вартая. Але выбару няма. Паслухаю тваю параду. Раптам і сапраўды нешта слушнае скажаш. Але папярэджваю: казаць з розумам — гэта не каня пад хвастом балбатнёй пудрыць.

— Мая парада абыдзецца табе ў бутэльку гарэлкі. Закон майго жыцця абвяшчае: калі ёсць бутэлька, ёсць і нагода для свята.

Нахабства мужыка зашкальвала, і абураны прапаршчык ледзь не выскачыў з порткак.

— Ах ты суччын трыбух! Мяшок з цвікамі ў цябе замест сэрца. Выгаду надумаў шукаць у чалавечай бядзе?!

— Не гарачыся, служака. Не хочаш мяне слухаць, схадзі на станцыю. Там на тупіковай ветцы стаіць цыстэрна з удабрэннем. Папросіш абходчыка, ён вядзерца табе нацэдзіць.

— Навошта?

— Можа, падабрэеш.

— Устаў не дае мне права быць добрым з такімі, як ты. Але дзеля цябе пагаджуся парушыць устаў. Падыдзі да мяне, абдыму. Пара цябе задушыць у сяброўскіх абдымках.

— Няма калі з табой абдымацца, справы чакаюць. Трэба праверыць стан важнага для ўсёй вёскі аб'екта.

— Тады валі адсюль. Груз у мяне сакрэтны, і сунуць нос у ваенныя справы не раю.

— Як скажаш, служака. Табе з абцасаў лепш відаць! Але вечарэе, аднак. І мала хто паедзе гэтай дарогай. Кукаваць будзеш да самай раніцы. Машыну з грузам спецыяльнага прызначэння на волю лёсу не кінеш. Ці мала хто пад брызенцік зазірнуць надумае. Но-о-о, Конь Стань Цінь! — і мужык тузануў лейцы. — Калі знаходзішся на дарозе, трэба памятаць старую прыказку: «Памалу едзеш — таўсцей морда!»

— Памалу едзеш — хрэн прыедзеш! — агрызнуўся прапаршчык.

— Ну, тады мацней за шафёрку трымайся, баран!



Застаўшыся адзін, Грабяшын спахмурнеў. Шукаць прапаршчыка перад выхаднымі ніхто сутак двое не будзе. Капуста — не патроны, а сам ён не генерал. Ратуючыся ад пакутлівай бяздзейнасці, Грабяшын стаў аксаміткай начышчаць да фарсістага бляску хромавыя чаравікі.

— Калі б станожка насіла чаравікі, то ўпарылася б іх чысціць, — злосна працадзіў ён скрозь зубы.

На бляск адпаліраванага абутку выйшлі з лесу дзве бабулькі з поўнымі кошыкамі грыбоў.

— Божыя дзьмухаўцы, а мяркуючы па грыбах, кіламетраж добры па лесе наматалі. Шкада, «Камаз» гэтая парачка не пацягне. Цяглавая сіла ў іх нулявая.

— Малады чалавек! Да станцыі Разуваеўка мы гэтай дарогай выйдзем?

— Так, як вы ходзіце, не дайсці вам да Разуваеўкі да сканчэння свету. Галенастоп віхляе, удар ступні невыразны. Ды і ўвогуле! Перш у нагу навучыцеся хадзіць! — Грабяшын уваткнуў цяжкі позірк у згорбленыя фігуркі. — У калону пад аднаму стана-вісь! У Разуваеўку ша-гам марш! Аць-мать-дваць!

Абураны страявым бязладдзем, прапаршчык суцешыў сябе цыгарэтай. Закураная цыгарэта дадала думак пра жратву.

— Дарма з мужыком сквапнічаць стаў. Трэба было раскашэліцца на бутэльку гарэлкі. Глядзіш, быў бы ўжо на паўдарозе да дому. А дома запечаная галёнка і чыстая пасцель даўно чакаюць. Старых таксама дарма напалохаў. Лепш бы падмогу папрасіў са станцыі даслаць.

На радасць прапаршчыку зноў абвясціўся мужык з канём.

— Ваша благароддзе, дазволь далажыць. Заданне выканаў!

— Дык я табе, трухлявы пень, заданняў не даваў.

— А я і не думаў нічога выконваць. Але міма праехаць і слова не сказаць — не па-людску будзе. Ваўкоў не баішся? Як сцямнее, яны на дарогу выходзяць паласавацца запозненым падарожным.

— Няхай баіцца смяротна хворы, што не паспее прычасціцца. У мяне кулямёты ў кузаве, адаб'юся.

— Не зразумею я ўсё-ткі, як ты ўмудрыўся з роўнай дарогі ў кювет зляцець?!

— Гэта расплата за маю дабрыню. Ліса на дарогу выскачыла. Пашкадаваў рыжую прыгажосць і не стаў душыць. Рэзка налева руль крутануў, а што атрымалася, сам бачыш.

— Днём па гэтай дарозе могуць бегаць толькі даберманы-пінчары. Гэтых сабак фермер Васіль разводзіць для аховы сваіх угоддзяў. Вочы трэба мець, а не печкавыя засланкі. Тады б выразна бачыў, што за звер выскачыў цябе павітаць.

— Ты што мелеш?! Сабаку за лісу можа прыняць толькі скончаны ёлуп!

— Не гарачыся! Давай лепш паспяваем, тваю нуду развеем.

— Песні мяне ў сон уганяюць.

— Засынаюць ад павольных песень, а мы хуткімі адзін аднаго пацешым.

— Ад павольных я засынаю павольна, ад хуткіх — хутка.

— Дзіўная справа!

— Скуткі цяжкага дзяцінства. З фруктаў даводзілася есці толькі вінегрэт. Думаў, у войску ад'емся, а там тыя ж капуста, буракі, агуркі.

— У мяне з ежай тая ж пятрушка. Бадай усё жыццё малаком і мясам сілкаваўся. Іншых празмернасцяў, апроч гною, на ферме не бывае.



— Трошкі цягнеш з фермы ў сваю хату?

— Рады б што сцягнуць, ды красці няма чаго.

— Пaздыхала быдла, ці што?

— Не зусім пaздыхала. Вывелі нашы заатэхнікі новую мясамалочную пароду. Каровы гэтай пароды ядуць мяса і п'юць малако. Людзям за імі падабраць няма чаго.

— На храна вам патрэбна такая парода?

— Начальства кажа, для прэстыжу. Ва ўсім свеце такой пароды няма, а ў нас ёсць.

— Паслухай, толькі калі ты кепку зняў, разглядзеў сіняк у цябе пад вокам. Навошта ў бойку палез?

— Не сіняк гэта. Радзімы знак нашу.

— Кінь залiваць! На ўсё вока сіняга радзімага знака ў людзей не бывае.

— Бывае, калі родная жонка разбуяніцца!

— Часта з жонкай скандаліш?

— Мірыцца часцей атрымліваецца. Я сваю Машку, як быў маладым, у клубе на танцах падчапіў. Бачу скрозь прыцемак: стаіць ля сцэначкі ў атачэнні сяброўак дзяўчынёханька. Адзін і той жа твар з вядомай артысткай. Толькі раніцай наступнага дня, калі працверазеў, выявіў, што яе талія ў абхваце ў пяць разоў большая за талію артысткі. Змакрэеш, пакуль будзеш такую талію лапаць. Учора спрабаваў сумленне шукаць у сваёй таўстухі. Але спроба не прывяла да поспеху:

— Калі няма ў цябе сумлення, — кажу душэўна, — то чаго табе яшчэ трэба?

— Грошай!

— Не ў грошах шчасце! — па-філасофску заяўляю.

— Ты п'яны! — рэзка абсякае мяне. — Я шчаслівая, калі ў мяне шмат грошай. І мой нюх чуе грошыкі, якія ты ўтаіў.

— Дзіўна! Як ты змагла вынюхаць грошы, калі яны не пахнуць?

— Калі справа тычыцца грошай, ува мне прачынаецца дух дзядулі-мытніка. Прызнавайся! Грошыкі на шлюх збіраеш? — і як гваздане кулаком мне прама ў вока.

— Забалбатаў ты мяне, мужык. Кажы сваю параду і атрымлівай на гарэлку маю заначку.

— Скупы плаціць двойчы. З першага разу параду не прыняў, а з другога яна па падвойнай цане ідзе.

Грабяшын заскрыгатаў зубамі, але дастаў з кабуры грашовы дадатак.

— Думаў, толькі ў бумажніках грошы не затрымліваюцца. А як высветлілася, і ў кабуры яны не залёжваюцца. Хочацца верыць, што сябруеш ты з кемлівасцю і ведаеш нешта такое, чаго я не ведаю. Кажы параду, а не жмурся, як кітаец з пахмелля.

— Баюся, не хопіць грошыкаў на добрую выпіўку. Дарагую гарэлку ў прадмаг завезлі.

— Гэта ўжо нахабства! З тваёй сквапнасцю і шклянкай гарэлкі захлынуцца можна.

— Калі абяцаў параду даць, мушу стрымаць слова. Патрэбны табе, прапаршчык, трактар. Без трактара грузавік не выцягнеш.

— Не гнявi Бога, мужык! Аддавай грошы па-добраму. Не чакай, калі я з цябе блін камяком зраблю. Заманаешся збіраць зламанымі рукамі выбітыя зубы.

— Дурань ты, прапаршчык! Гарэлкі з табой хацеў выпіць за тваё выратаванне, якое нагадвае сапраўдны цуд. Чалавек я не сентыментальны, але паверыў, што ты ў кашулі нарадзіўся. Камусьці кювет пагібель, а ў цябе з яго новае жыццё пачалося. Ліса таксама не выпадкова табе пад колы кінулася. Веру, ёсць у тваім дарожным здарэнні Боскі намер. Пасля ўчорашняга ліўня паводка знесла мост праз Вертухайку. Праехаўшы наперад, я асабіста ў тым пераканаўся. Вертухайка — рэчка глыбокая і наравістая. Сто крокаў табе заставалася да пакатага размытага спуску да ракі. Утрымаць на такім спуску «Камаз», які нясецца на хуткасці, практычна немагчыма. Нырнуў бы ты з усяго размаху ў чорны вір і нават войкнуць бы не паспеў.

— Частуйся! — прыціхлы Грабяшын працягнуў мужыку цукерку ў яркім фанціку. — Абгортку ад ірыскі не выкідай. Я імі гарэлку занюхіваю.

— Лепш паедзем да мяне ў хату, там і закусім па-сур'ёзнаму. Пакуль малады, трэба добра сілкавацца і правільна піць. Тады не давядзецца ў старасці весці здаровы лад жыцця.

— Разумны ты! Прызнаю, не адразу ў табе гэта заўважыў.

— Мозг у мяне — другі любімы орган.

— А першы?

— Пра першы, як мужык у мужыка, мог бы не пытацца. З павагі да яго, я заўсёды кожнае раніцы ў свежых трусах красуюся.

# Бяссонне Клябанава

Бяссонне, калі на яго пакутаваць па начах, страшэнная справа. Днём Клябанаў спаў як пшаніцу прадаўшы. Нядрэнна атрымлівалася і вечарам каля тэлевізара. Затое ўначы Клябанаўскі сон швэндаўся невядома дзе. Яго гаспадар тым часам мучыўся, не змыкаў вачэй і пакутліва чакаў, што сон вернецца і абавязкова будзе прарочым.

— Меў я гэта ўсё! — вылаяўся аднойчы раніцай нявыспаны пакутнік і, плюнуўшы на ўмоўнасці, панёсся ў паліклініку як быў — у спартовых штанах і майцы без рукавоў.

— Здаецца, вы ў мяне былі! — ветліва сустрэў Клябанава доктар. — Нагадайце, калі ласка, прозвішча.

— Клябанаў.

— Прастатыт?

— Не. Мікалай.

— Прабачце, памыліўся. На што скардзіцеся, Мікалай?

— Нават не ведаю з чаго пачаць…

— Пачынайце з праўды! — усміхнуўся доктар. — Вялікі Вальтэр кожнаму, хто стаяў перад выбарам, раіў казаць праўду.

— Праўду дык праўду, — пацiснуў плячыма Клябанаў. — Замучыла бяссонніца-падла! Як папраўдзе, дык відавочных прычын для бяссоння няма. Любімая праца, верная жонка, шчырыя сябры. Здароўе, як бачыце, адбілася на мне не слабым румянцам.



— Вы памыляецеся! — доктар жартаўліва пагразіў Клябанаву пальчыкам. — Здароўе — гэта калі ўсё баліць, але хапае сілы не ісці да ўрача. А раз ужо вы прыцяляпаліся да мяне, значыць, не ўсё так адназначна добра, як вам здаецца.

— Можа быць, можа быць! Дазвольце, распавяду пра сваю больку, як магу. Я не мастак і маляваць не ўмею. Я — пісьменнік. Пісьменнік-добраахвотнік. Узяўся за пяро не па выраку суда, а па наказу сэрца. Са звычайнага набору слоў магу лёгка скласці інтрыгуючую завязку крымінальнага рамана. Прыкладна такую: «Цёмная, нібы валасы «пікавай дамы», ноч накрыла ціхі вір. Вір быў настолькі ціхім, што нават чэрці абыходзілі яго бокам. Сярод камянёў злавесна плёскаліся хвалі. Гадзіннік на барнай стойцы змрочнай карчмы, якая прытулілася да скалістага берага, прабіў поўнач…»

Згадзіцеся, доктар, фантастычны пачатак. Сітуацыя зачароўвае. Нават дурню зразумела: у змрочнай карчме ў глухую поўнач, калі гучна цікае гадзіннік, здарыцца можа што заўгодна. Аднак, нават калі маеш літаратурны талент, напісаць добрую кнігу неверагодна цяжка. Зрэшты, як доктару вылечыць чалавека пры ўсёй разнастайнасці пілюляў і пілюлькаў. Якімі толькі путамі не аблыталі мяне маральныя асновы грамадства! Як яны бессаромна душаць! Навязаная барацьба раздзірае пісьменніцкую больку. У такія імгненні зычу сабе, каб мая пісаніна не была пахавана ў глыбінях пыльных паліцаў і забытая нашчадкамі. Хапае, дарэчы, і ахвотнікаў, якія гатовыя з пачуццём неўтаймаванай лютасці рваць кожную маю кніжку. Нават самы злосны сабака, які вечна сядзіць на ланцугу, гэтак не грызе кінутую ў яго палку. Усякая набрыдзь бес-

саромна ананіміць пра мяне рознае паскудства, запэўніваючы, што мае кніжкі надаюцца толькі для таго, каб на іх ставіць гарачую патэльню. Місія пісьменніка — пісаць, а не гразнуць у звадах. У нашым свеце ўсё нявечна. Рана ці позна цвінтар прызаве ўсіх, незалежна ад сацыяльнага статусу. Адзін з маіх герояў добра сказаў: «Хочацца быць прызнаным яшчэ пры гэтым жыцці!» Я ж хачу шчыра падзяліцца з людзьмі найбольш асабістым, напісаць пра самае запаветнае: «Выхаджу адзін я на дарогу…» Згадзіцеся, калі напішу: «Мы выходзім на дарогу ўдвох …», то гэта хутчэй будзе асацыявацца з разбоем, чым з літаратурай.

— Так, так, так, я пачынаю разумець сутнасць вашай праблемы. Вы прагнеце вырвацца з чэзлай невядомасці і свята верыце, што годныя неймавернай чытацкай любові! Вы дрэнна спіце, бо баіцеся праспаць прыход славы. Вы з хваляваннем раскрываеце ранішнюю газету і марна шукаеце галоўную для сябе навіну. На жаль, і гэтым разам «народным» вас не абазвалі. Прызнавайцеся, я дакладна паставіў дыягназ вашаму начному няспанню? Зрэшты, можаце не прызнавацца! Дапамагаць такім, як вы, для доктара — справа гонару! Ёсць просты, але эфектыўны спосаб пагрузіцца ў глыхі сон і атрымаць жаданы спакой. Паклаўшы галаву на падушку, пачынайце лічыць авечак, якія скачуць праз плот.

— Доктар, мяне ванітуе ад авечак. Каб усіх пералічаных мною авечак можна было паставіць радамі, то на грэшнай нашай планеце не засталося б вольнага лапіка сушы. Калі я кладуся спаць, то сумленна прыступаю да пераліку авечак, аднак спакойна заснуць не магу. Варта пераскочыць праз плот першаму дзясятку, як мне надакучвае іх проста лічыць. Дзеля жарту, падымаю плот трохі вышэй. «Цоб-цобе! Цоб-цобе!» — крычу ў азарце і нарошчваю плот яшчэ вышэй. Калі плот падрастае на цэлы метр, авечкі не могуць яго пераскочыць. Стоўпіўшыся, яны крычаць дурным голасам, клічуць на дапамогу. О-о-о! Я не магу кінуць бедных авечак і дапамагаю няшчасным жывёлам усімі даступнымі спосабамі. Калі плот высокі, я капаю падземны ход, калі нізкі — падстаўляю драбіну. Авечкі караскаюцца па драбіне, але ў іх нічога не атрымліваецца. Гляджу на дарэмныя патугі млеючых і блеючых авечак, і мне становіцца смешна. Я рагачу, як вар'ят. Але весялосць груба абрывае Ніна, мая жонка: «Ты ненармальны! Толькі той, хто з'ехаў з глузду, можа начамі рагатаць». Зрэшты, нават сур'ёзны наганяй не ідзе мне на карысць. Чым больш авечак пераскочыла праз плот, тым менш хочацца спаць. Я выдумляю дзясяткі варыянтаў, як пераправіць праз плот свой статак, які дасягнуў неверагодных памераў. Каб усё выпрабаваць, мне бракуе ночы. І толькі пад самую раніцу, зусім знясілены, узрываю плот, даючы вольную і сабе, і авечкам.

— Та-а-ак! Да падліку авечак у вас творчы падыход. Вы сапраўдны пісьменнік. Шкада, не народны. Дарэчы, спіце ў чым?

— У любімай парфуме.

— Тады раю вам памяняць пах!

— Гэта немагчыма. Жонка падазрона ставіцца да новых пахаў. У кожным з іх ёй мроіцца мая здрада.

— Жонку не спрабавалі змяніць?

— Спрабаваў. У маладзенькай хапіла цярпення на суткі, а тады прыйшлося са спушчаным носам вярнуцца да старой «торбы».

— Трэба абхітрыць бяссонне. Перш чым легчы спаць, адчыніце дзверы ў ванную і пусціце душ. Уключыце вентылятар, і смела залазьце ў ложак. Заплюшчце вочы і ўявіце сябе на бязлюднай выспе. Лагоднае шапаценне пальмаў, лёгкі брыз з мора, а вы сабе спакойна ляжыце на цёплым жоўтым пясочку. Мяккія гукі залюляюць, і вы з пэўнасцю заснеце сном нявіннага немаўляткі.

— Выдатная ідэя! Але слухаць шум ветра і ляжаць пад пальмай мне хутка надакучыць. Я накірую да выспы каноэ з аголенай прыгажуняй. О, гэты мілы тварык мулатачкі, афарбаваны сонцам бяскрайніх прастораў! Яе постаць выразьбілі вялікія майстры: вада і вецер. Яна сыходзіць на бераг і вешае мне на шыю вянок з прыгожых кветак, а потым, калышучы сцёгнамі, пачынае танчыць палымяную «хулу-булу». Блізкасць цела, разгарачанага танцам, абпальвае мяне, як абпальвае лязо брытвы далікатную скуру ўсхваляванага падлетка пад час першага галення! Але гэтага мала! Мая фантазія высаджвае на выспу пару злых ведзьмакоў. Ведзьмакі хапаюць дзяўчыну і груба валакуць па пяшчаным беразе. Я кідаюся ў пагоню.

— Э-ге-гей! Прыдуркі! — крычу, не стрымліваючы сябе. — Адпусціце няпісаную прыгажуню!

Ведзьмакі раз'юшваюцца. Яны шэпчуць замовы і пускаюць у мяне атручаныя стрэлы. Каб ухіліцца ад смяротнай небяспекі, кручуся па ўсім ложку. Ніна зноў трасе мяне за плячо.

— Дзікун! — абураецца яна. — Спаць з табой — пакаранне, а не задавальненне.

Але пра які сон можна казаць, калі небяспека пагражае прыгожай мулатачцы!



— Шчыра кажучы, я б не змог так ліха закруціць сюжэт сну. У вас талент, несумнеўны талент! — доктар не хаваў свайго захаплення.

— Дзякуй! Але я, на жаль, нешчаслівы ў заручынах з талентам! Маё асабістае жыццё рвуць на часткі суровыя законы шоу-бізнэсу. Жаніцьба ператварылася ў камедыю, цяжарнасць сяброўкі ў драму, лётанне за папарацы ў дэтэктыў.

— Плюньце на дробную бязладдзіцу і свята верце ў надзею! Надзея, паводле даўніх прымхаў, памірае апошняй. Толькі той зможа дачакацца райскага жыцця, хто мае цярпенне.

— Доктар! Калі надзея памрэ апошняй, хто прыйдзе яе адпяваць?! Няхай надзея заўсёды застаецца надзеяй і будзе вернай спадарожніцай чалавека.

— Тады адкінем нудныя гіпотэзы. Вышэй галаву, шырэй усмешку і паспрабуем маю казырную фішку. Уявіце звычайную школьную дошку і цярпліва чакайце, калі назойлівыя думкі пачнуць вас даставаць. З'явіўся ваш люты вораг, накшталт думкі «заўтра трэба вярнуць даўгі» — не марудзьце, пішыце гэтую паскудную думку на дошцы і тут жа бязлітасна сцірайце вялікай мокрай анучай. Гэтак жа сурова паступайце з кожнай новай звар'яцелай думкай. Запісаў — сцёр, запісаў — сцёр. Рабіце так, пакуль галава не ачысціцца ад дзённага хламу. Цудоўны спосаб. Пакладзе спаць любога неўрастэніка.

— Я вам ахвотна веру, доктар. І для чысціні эксперыменту гатовы паспрабаваць ваш спосаб прама тут.

— Тады хуценька кладзіцеся на кушэтку. Заплюшчвайце вочы і дзейнічайце паводле маёй рэкамендацыі. Старайцеся запісваць усе думкі, аж да самых дзікіх, якія асмеліліся наведаць вас,

і не забывайце бязлітасна з імі распраўляцца мокрай анучай.

Клябанаў лёг на кушэтку і заплюшчыў вочы:

— Прыйшлі авечкі, — абвясціў ён, — сцёр. З пячоры выскачылі ведзьмакі — сцёр. Бандыты падлавілі мяне ў падваротні — даў кожнаму мокрай анучай па мордзе. Карагод тубылак вабіць мяне ў шалаш — ну іх да тубыльнай мамы! Аб'явілася вялікая луста хлеба з кавалкам сакавітай вяндліны. Доктар, няма сіл глядзець на гэты нацюрморт, які проста дражніць мяне.

— Чым хутчэй зможаце яго сцерці, тым хутчэй заснеце!

— Божа мой! Хлеб, вяндліна, салата — яны не сціраюцца, доктар. Няма сіл супрацьстаяць прадуктоваму нашэсцю.

Клябанаў адкрыў вочы.

— Доктар, прыкладна вось так я мучуся і дома. Стаміўшыся змагацца з бяссоннем, устаю з пасцелі і іду на кухню. Адкрываю халадзільнік і бязлітасна знішчаю вяндліну, фаршыраваную курыцу і ўвесь гастранамічны запас. Калі піва ў бутэльцы застаецца менш за чвэрць, за маёй спінай раздаецца поўны сарказму голас: «Ну, вядома, акрамя як у халадзільнік, табе ноччу няма куды больш рукі засунуць». Я нават не абарочваюся паглядзець, хто гэта гаворыць. Ва ўсякім разе, не тубыльская дзяўчына, якая мне прыснілася.



# Белыя каяблікі

Калі насядае сумная фармальная хрэнь, а даўгі пухнуць проста на вачах, падмывае плюнуць на ўсё і зладзіць выратавальную оргію ў артыстычным кафэ «Грыпозная курыца». Там у кожным закутку абкуранаму пастаяльцу мроіцца шабас ведзьмаў і жахі Вальпургіевай ночы.

— Малайчына, што прыйшоў! — задрыгаўся каля мяне ў малпіным танцы непаседлівы Васька Кучмараў. — Намячаецца прыкольная вечарынка, якая глыбокай ноччу пяройдзе ў дзікія скокі неліквіду шлюбнага рынку. Раз мы сёння тут, ёсць выдатная нагода прамыць ныркі вермутам.

— Піць «марганцоўку», якую ты завеш «вермутам», не згодны! Людзі, якія сябе паважаюць, п'юць выключна гарэлку. Гарэлка растварае назапашаную за дзень несусветную злосць.

— Тое, пра што ты кажаш, — небяспечная ілюзія. Магчыма, гарэлка дапамагае забыцца на старыя непрыемнасці, але яна стопудова дапаможа і новыя атрымаць. Гарэлка толькі на кароткі час прытупляе адчуванне жыццёвых няўзгодаў.

— Стоп, Вася! Калі ты сябар, а не прыкідваешся ім, перастань мяне дзяўбаць. Я ніколі не прамяняю чыстую, нібы сляза нявінніцы, гарэлку на фарбаванае пойла. Гарэлка, як карціны Пікасо: хтосьці яе разумее, а камусьці яна лёгка стане папярок горла. Я люблю Пікасо і шчаслівы з гарэлкай. А сюды прыйшоў прысвяціць вечар

старадаўняму таінству здабыцця новай сяброўкі паміж пятай і шостай чаркай. Ні чаркай раней, і ні чаркай пазней. Гэта маё правіла жыцця, мяняць якое я не збіраюся!

— Прапаную не распальваць спрэчку! Зараз музыкі дап'юць піва, раскачагарацца ды зладзяць для публікі раскошны сэйшн! — радасна пацёр рукі Васіль. — Група «Пракажоная вухавёртка», лідар чарта на гэтым тыдні. Гарачыя прыхільнікі бартару. Ганарары бяруць натурай. Ад ахвотнікаў з імі натурыцца няма адбою.

— Халера! — з захапленнем і зайздрасцю ўсклікнуў я. — Чаму я не музыка? Проста сусветная несправядлівасць! Жратва! Бухло! Гатэлі! Гаспадары клубаў спяць і бачаць, каб я, знакаміты і непрадказальны, патусаваўся ў іх, зазываючы кліентаў на танцпляц.

— «Белыя каяблікі!» — выгукнуў, узлезшы на подыум, адзін з гітарыстаў. — Рэмікс на папулярную хітушку. Наш свет суровы і бязлітасны. Калі б не было ў ім кахання, ён даўно б загнуўся. «Белыя-я-я ка-а-а-яблікі!»

Першыя гітарныя акорды зачаравалі сваёй мілагучнасцю. Паміж столікаў пайшоў блукаць абдзёўбаны і ўпораты народ, ахвотны да чужой пазітыўнай энергетыкі і добрага настрою. Незнаёмая кавярная вамп, задуменна пасмоктваючы мезенец, утаропілася на мяне размаляванымі вачыма.

— Добрая дзеўка, цыцастая! — паклаў руку мне на плячо Вася. — У дадатак да цыцак яна ўмее свістаць у два пальцы і вязаць марскія вузлы.

— Вася, я бачу яе наскрозь. Капрызлівая, наравістая, хітрая істота. Каб зразумець свет яе прыгажосці, дзвюх бутэлек гарэлкі мала будзе.



— «Белыя каяблікі!» — ізноў крыкнуў музыка і з надрывам заспяваў:

Мора, мора, мора,
Каяблікі плывуць.
Акулы зубы шчэраць,
Здабычу каб глынуць.

На палубе Джардэта
Бянтэжыць маракоў.
Бюст, сцёгны, ножкі, зубы —
Кручкі для даўбакоў...

Я слухаў песню і думаў: жыццё насамрэч не такое простае, як здаецца, а значна прасцейшае. Але, каб адпавядаць гэтай простасці і жыць спакойна, трэба круціцца кожны дзень. І шчодра плаціць за ўсё, а найбольш за тое, што на першы погляд падаецца цалкам бясплатным.

— Перапоўніў чарку, падстаўляй вядро! — раздаўся чыйсьці п'яны покліч.

— Пацешны малец! — разглядаючы крыкуна, усміхнуўся я.

— Гэтаму крыкуну надоечы прысудзілі міжнародную прэмію. Але сверб патрыятызму пераклініў шчаслівчыка, і ён смачна плюнуў на амерыканскія грошы. Гэты ідыёт проста ўрабіў сваёй сціпласцю заўсёднікаў «Грыпознай курыцы». Зараз вакол яго ўюцца ўсе дзяўчынкі, і нам не відаць сяброваў на ўсю бліжэйшую ноч. Дзяўчаты сунуць яму даляры і просяць: «Мілы, пакажы яшчэ раз, як ты не браў баксікі ў Сан-Францыска». Пасля чаго вішчаць і атрымліваюць незразумелае для мне задавальненне. Я акурат саспеў, каб пайсці надаваць выпендрожніку па рагах. Вось даем салату і пайду.

— Вася, з тваімі каменнымі кулакамі і сталёвым торсам адмачыць здыхляка — раз плюнуць. Глядзі, не перастарайся! — папярэдзіў я сябра.

— Ты маеш рацыю, раз плюнуць, але хочацца плюнуць культурна. Грубасць у дадзеным выпадку — не лепшы сродак. Касталомы тут не ў пашане. Чувака трэба абламаць інтэлігентна, без крыві і фінгалаў.

— Хачу піць настойку! — ізноў падарваўся патрыёт. — Настойка робіць чалавека настойлівым!

— Вася, чаго хоча бутафорысты герой?

— Настойку патрабуе. Гэта такая горкая фігня колеру гарбаты з аптэчным пахам «тысячы траваў».

Назюзюкаўшыся настойкі, гарлапан прысцябаўся да ўлюбёнца ўсёй кавярні — ката Наліка.

— Бурдзюк блышыны! — абазваў ёнганарыстую кіску. — Давай закурым, кацяра, па адной! — і ткнуў вусатаму ў морду цыгарэтай.

Васіль вырашыў ратаваць афігеўшага ката. Ён забраў мяўкаючае стварэнне і стаў адпойваць пакутніка вермутнай баландай.

— Мала чалдону дзевак, дык за ката ўзяўся, — коса паглядзеў Васька на патрыёта. — Слухай, прашу цябе, дзеля нашага сяброўства, абламі казла прыгожа. Такіх класных абломшчыкаў, як ты, я нідзе не сустракаў.

— Вася! Чалавек паводзіць сябе, як звычайны паддаты мужык. І я не бачу прычыны над ім здзеквацца.

— Ну, аб-ла-май! З цябе не ўбудзе! Інакш без дзяўчат застанемся!

Пятая чарка апякла горла. Перапынак паміж пятай і шостай быў у мяне заўсёды сцёртым. Бо ў гэтым прамежку меўся хуткі выбар сяброўкі



на ноч, і рабілася гэта, пакуль не рассмоктваўся кайфец. Але сёння крыклівы нахабнік улез на мае любоўныя соткі. Злёгку хістаючыся, я падышоў да паскудніка і, абняўшы ласкава за плечы, душэўна прамовіў:

— Дазволь з табой сфоткацца, народны герой. Сёння рэдка сустрэнеш чалавека, які сумленна і сціпла любіць Радзіму. Але мушу цябе папярэдзіць, як патрыёт патрыёта. Не ўзяўшы ў буржуяў даляры, ты здзейсніў лохаўскі ўчынак. Ты вар'ят, які неапраўдана рызыкнуў уласным азадкам.

— Свет наш далікатны і пагружаны ў туманныя няяснасці, адно ў ім відавочнае: грошы — зло, — ухмыльнуўся пантавіла, не ўрубіўшыся ў сэнс маіх словаў.

— Грошы злом абзываць небяспечна. Яны жорстка адпомсцяць. Войкнуць не паспееш, як дасведчаныя людзі абвінавацяць цябе ў падрыве асноў эканомікі. Пракурор дакажа, як двойчы два — чатыры, што грошы ты ўзяў і схаваў на афшорнай выспе. Дзяржава, якая не атрымала з тваёй прэміі падаходны падатак у асабліва буйным памеры, цырымоніцца не стане. І прыйдзецца табе, такому прыгожаму, адправіцца батрачыць на нумарны руднік за казённыя харчы.

— Ты гэта сур'ёзна? — патрыёт праз сілу паспрабаваў усміхнуцца.

— Больш чым сур'ёзна. Павер, людзі з мікрафончыкам у вушку і ордэрам на твой арышт ужо ў дарозе. Ім у кайф узяць цябе цёплага і кінуць на нары ў блыхоўнік.

— Што мне рабіць? — вочы нядаўняга героя забегалі.

— Залегчы на дно ў ціхім месцы і паводзіць сябе як мыш пад венікам, молячы Бога, каб на тваю дурасць хутка забыліся.

Нядаўні імяніннік спахмурнеў, моўчкі падняўся і растварыўся ў задымленым выйсці.

— Класна ты яго абламаў! — радасны Васька моцна паціснуў маю руку. — Зараз усе сяброўкі нашы!

— Лішняга не вазьму. Для старадаўняга таінства дзяльбы сяброўкі патрэбна толькі адна працаздольная адзінка.

— Я б тваім спосабам усіх абламаў, каму на Русі жыць добра.

— Усіх не атрымаецца. Тыя, каму на Русі жыць добра, даўно жывуць у Лондане.

З пераможным выглядам мы разваліліся на канапцы. Цёплы, нібы коўдра з найтонкай вярблюджай шэрсці, голас ахінуў нас песняй пра «Белыя каяблікі», якая выконвалася на біс.

— Клёвая песня. І хлопцы яе класна лабаюць.

Вакол нашай канапкі замігцелі панадлівыя попкі, зацягнутыя ў джынсу. Дзяўуля з пакрамсанымі на руках пазногцямі раптам падарыла мне бессэнсоўную ўсмешку аптымісткі.

— Усе ведаюць, што ў мяне аксамітная скура, адзін ты маўчыш, быццам яна цябе не хвалюе.

— Не хачу цябе засмучаць, мілая. Але ты сама напрасілася. Аксаміт — гэта варсістая тканіна. Галіцца трэба старанней, кіска!

— У-е-е-ес! — праенчыў Васька. — Малайчына, што адшыў Вольку Нетапыраву. Яна мне не адзін раз выплаквала на швэдар гісторыю цудоўнай дзяўчыны, кінутай нягоднікам. Я не рэпер, але хачу праспяваць рэпам. Клас-на мы сядзім. Ты не ў каз-цы, дзет-ка. Гэта жыццё, дзет-ка. Так што за-будзь пра ру-жо-выя слю-ні. Уклю-чы су-ку, і жыццё ста-не лёг-кім.

— Ой, вы зусім кавун не ясце! — падсела да нас на канапку іншая дзяўчына.



— Мы каку, якая пэцкае вухі, не ямо! — знайшоўся Васька.

— Я акуратная і цнатлівая. Аддам сваю цнатлівасць годнаму мужчыну.

— Не запісвай нас у годныя, — паперла Васіля, — бо вырабляем добрае ўперамешку з дрэнным. Дрэннае чамусьці заўсёды атрымліваецца лепш.

Хтосьці падкраўся ззаду і горача зашаптаў мне ў вуха:

— Уяві, як вецер развявае мае валасы. Павольна рухаючыся ў святле пражэктараў, я выпраменьваю цэлам цэлую гаму эмоцый. Гэта крута! Па-сапраўднаму крута. Я люблю спантаннасць, раптоўнасць. Іду па вуліцы, нічога не загадваючы і раптам: бах, ба-бах! Бліскучы сэкс! Адкуль?! Як?! Нічога не разумею! Толькі адчуваю, як апускаюся ў таямнічы і вусцішны свет містыкі і жаху! Страшна, але так прыкольна!

— Давай без дзівацтва, — хуценька перабіў я дзяўчыну, — прапаную заняцца сэксам традыцыйна — за грошы. У мяне ёсць трошкі бабла.

— Не лезь да мяне са сваім «трошкі», бо пакрыўджуся. Магу нават бойку ўчыніць.

— Чаму? Хіба для шчаслівага жыцця табе не патрэбныя грошы? Калі браць патрошку, але часта, можна зрабіць немалы запасік на светлую будучыню.

— Я жыву не ў моргу. І вакол жывыя людзі. А ў мяне прыроджаны талент даследчыка. Я даследую сваю сэксуальнасць. Малыя ж грошы толькі адцягваюць увагу. Увыніку я не змагу дакладна зразумець, чаго вартая.

— Скажы шчыра, каб я спецыяльна не правяраў, попа ў цябе цвёрдая? У сэнсе пругкая?

— Ну, калі ў прыбіральню хочацца, а да яе не дабегчы, то як камень становіцца.

— Своечасова ты пра прыбіральню ўспомніла. У мяне такое адчуванне, быццам мой стул у стул упёрся.

— Пачакай! Не бяжы! Кажуць, ты кароль абломаў? А цябе абламаць магчыма?

— Нават не спадзявайся, дзетка! Я даўно нічога не баюся. Аднойчы зайздроснікі паспрабавалі выліць на мяне карыта расплаўленага дзёгцю. Але выратавала выпадковасць. Яны так доўга сядзелі ў засадзе, што дзёгаць паспеў зацвярдзець. Пакуль! Секунду прамаруджу — і маім белым штанам прыйдзе каюк.

Тэлефон па законе подласці зазваніў не ў самы лепшы час. Дастаць яго з задняй кішэні штаноў, седзячы на кукішках, аказалася не простай справай.

— Алё, хто гэта? — нарэшце спытаў я.

— Конь у паліто!

— Што каню трэба?

— Шакаладу, ідыёт! Ізноў на гарэліцу падсеў! Законную жонку не пазнаеш?! Доўга размаўляць з тупым мне не хопіць цярпення. Я на мытні. Адпраўляю норкавыя футры замёрзшым эфіёпскім дзеткам. Сантэхнік прыходзіў?

— Праз дзянёк зойдзе.

— Які дзянёк?! Ты, як я чую, ужо ў хлам п'яны?! Як я без гарачай вады адмыюся ад ліняльай поўсці праклятых моллю футраў?!

— Штосьці я ў футры не ўязджаю!

— Ну, ты дэбіл! Дарма не паслухала Вадзіка і пайшла за цябе замуж! Чуеш мяне?

— Чую.

— Хутка ўбачыш! Але тады мала не пакажацца.



У мабіле раздаўся злосны скрыгат зубоў і сувязь абарвалася.

Яшчэ нейкае імгненне я быў у шоку. Пот прабіў ад цемечка да пятак. Прыйшло адчуванне, быццам ускараскаўся на верхавіну намыленага слупа, а далей толькі адна дарога — уніз з усёй вышыні ды аб грэшную зямлю.

— З табой усё нармальна? — у дзверы пастукаў клапатлівы Вася. — Пайшоў на пару хвілін, а мне гэтыя хвіліны вечнасцю здаліся. Давай хутчэй! А то дзяўчынкам надакучыць маршыраваць парадным крокам міма нашага апусцелага століка.

— Быў званок.

— Крэдыторы пагражалі? Нікога не бойся! Я з табой!

— Горш, усё значна горш! — прашаптаў я. Пасля чаго доўга не мог супакоіцца, хоць не жанаты і жаніцца не напёрла.

На падыходзе да століка мяне паклікаў звонкі голас:

— Гэй! Ты хранова выглядаеш! Куды дзелася твая праслаўтая пыха?! Адзін званок — і ты наклаў поўныя порткі, быццам няма для дзярма больш прыдатнага месца.

Гэта быў выклік, і дзве дзяўчыны наўмысна пайшлі на яго. Адна з іх была тая, ад якой я ўцёк у прыбіральню. Другая была яшчэ брыдчэйшая.

— Непераўзыдзенага абломшчыка абламала наша Люся! — тая, што казала, кіўнула на тую, якая, на мой розум, была такой страшнай, што далей няма куды. — Зараз Люся мае на цябе планы, і ты не асмелішся ёй адмовіць быць з табой гэтую ноч.

— Згаджайся! — асуджана шапнуў мне на вуха ўсюдыісны Вася Кучмараў.

— Але чаму?!

— Яна зрабіла цябе! І заваявала права дзяльбы сябра. Наконт яе знешсці не затлумляйся. Маладыя дзяўчыны як дыні. Каб зразумець, смачная дыня ці не, яе трэба перш разрэзаць. Часам дыня выглядае хораша, але есці яе немагчыма. А ёсць дыня з выгляду страшная, але неверагодна смачная. Тая ж сітуацыя і з маладымі дзяўчатамі. Ніколі не ведаеш, на што здольная малодка, пакуль яе не паспрабуеш.



# Сіноптык

Груба кажучы, справа заварылася летам, у абуральна элегантным двухпавярховым катэджы, празваным у народзе «Бабловай хаткай». У падобных «хатках» аўтары іранічных дэтэктываў любяць прыкончваць мільянерскіх дочак і адразаць вушы самім мільянерам, якія наплявалі на законы дзелавога свету.

Спачатку ў «Бабловой хатцы» смерцю не пахла. Хоць з разнасцежаных вокнаў выразна даносіўся звон нажоў і адтуль жа, накрываючы ўсё наваколле, распаўзаўся ўедлівы духман прыгарэлых пірагоў. Дадавалі агіднага смуроду і спацелыя ад спякоты госці. Гасцей сабралася ў хатцы цэлая процьма. Запрошаныя парамі і па адзіночцы, яны размясціліся на лавах, ствараючы ілюзію цёплай кампаніі, якая прысела адпачыць перад далёкай дарогай.

Не прайшло і гадзіны, як падзеі ў катэджы, прыгрэтым на смарагдавым адхоне закінутага мелавога кар’ера, сталі разівацца імкліва і нястрымна, як быццам бы мелася выбухнуць сапраўдная вайна. Агульнага бунту яшчэ не назіралася, але некаторыя асобы ўжо рыхтаваліся да праведнага абурэння.

— Цесна, чорт бы ўсіх пабраў! Не павярнуцца! — прабурчаў за спінай Каябава хтосьці заўчасна цвярозым, але ўжо незадаволеным голасам. Каябаў абярнуўся і ўбачыў незнаёмага мужчыну.

— Кірыла Платонавіч! — нечакана расплыўся ў добрай усмешцы налыса паголены і дужы целам бурчун. — Як я рады вас бачыць!

Пачуўшы сваё імя і імя па бацьку, Каябаў, нясхільны да выпадковых знаёмстваў, на ўсякі выпадак адшыў здаравяку:

— Прабачце, але ваш твар мне незнаёмы! А памяць на твары ў мяне — дай Бог кожнаму ўчастковаму.

Атрымаўшы ад варот паварот, лысы не адступаў.

— Як жа незнаёмы?! — здзівіўся ён. — Зрэшты, веру! Пры вашым становішчы і дастатку лёгка можна забыцца на нечы твар, які аднойчы выпадкова мільгануў перад вачыма. Дазволю сабе пра сябе нагадаць! Гусараў Арсеній Пятровіч. Сіноптык. Думаю, вам не раз даводзілася крычаць у тэлефон: «Сіноптык! Дай надвор'е!» Я на крыкуноў не крыўджуся. Разумею, надвор'е патрэбна ўсім: лётчыкам, футбалістам, дворнікам. Вось і шаманю, гледзячы ў нябёсы, стараюся ўсім дагадзіць і нікога не пакрыўдзіць.

— Няўжо, вашыя прагнозы заўсёды спраўджваюцца?

— Уявіце сабе — так! Бывае, даты не заўсёды супадаюць, але каб прагнозы не спраўдзіліся, такога не прыпомню. Галоўнае правіла сіноптыка ведаеце?

— Не.

— Дождж адбудзецца пры любым надвор'і.

— Тады ў ваш гонар прачытаю вершык з дзіцячай класікі:

Не хачу быць дворнікам.
Не хачу быць лётчыкам.
Не хачу адказнасці.
Лепей быць сіноптыкам!



Досвіткам бярозавым
Прадкажу прагнозы вам!
Збудзецца, не збудзецца,
Заўтра ўсё забудзецца!

— Ваш вершык пацэліў проста ў яблычак! — засмяяўся Гусараў і перайшоў на даверлівы шэпт: — Кажуць, сёння асаблівы вечар. Прохар Шарабанаў прэзентуе новыя кактэйлі. Чарадзей валодае ўнікальнай калекцыяй рэцэптаў. Пуншы, фліпы, джульеты. Акрамя гэтага багацця, ён мае цэлы арсенал міксераў, шэйкераў, выціскалак і страсалак.

Прохар Шарабанаў быў вядомы ў топавых колах як чалавек з вялікімі магчымасцямі. Пагаворвалі пра яго сваяцтва з самім… Ну, з тым, чыё імя згадваюць з асаблівай павагай і шматзначным пахіствannем высока паднятым над галавой указальным пальцам. Злыя языкі шапталі, што Прохар сам пусціў гэтую чутку пра сябе. Але балбатунам прыйшлося заткнуць рот, калі шпіёны-энтузіясты пераканаліся: Шарабанава з важнага і ўплывовага дому сілком ніхто не выганяў, а дворнікі венікамі два кварталы не гналі.

— Слоўца, своечасова сказанае там, дзе трэба, — Прохар рабіў адмысловы націск на словах «там» і «дзе трэба», — або ўзвышае чалавека да нябёсаў, або ператварае ў прах.

Шарабанаву паверылі, а паверыўшы, запаважалі, а запаважаўшы, палюбілі, а палюбіўшы, сталі шукаць зручны момант папрасіць закінуць слоўца перад усемагутным. Гэта і зразумела: толькі зямны ўладар здольны дапамагчы міранам утрэсці розныя жыццёвыя праблемкі, якія, быццам прышчы, з'яўляюцца то тут, то там. Шарабанаўскія агідныя сумесі сталі піць у жадобу,

не забываючы цішком пережагнацца, а ў голас бязмерна хваліць смак кепскіх насамрэч напояў.

— Шчыра кажучы, мяне сюды вабіць флёр таямнічасці і загадкавасці, — Гусараў казаў з лёгкай задуменнасцю на твары. — Як пераступаю парог «хаткі», мною авалодвае неспакойная цікаўнасць: з якой хуткасцю сёння зробіцца кепска?

Пачуццё неспакойнай цікаўнасці было знаёмае і Каябаву. Ён насцярожана прыслухаўся да нясцішнага таямнічага шуму. За шырмай бразгала, стукала, гуло, булькала, і Каябаў са страхам чакаў пачатку дэгустацыі. Вось-вось чарадзей гламурнага пітва выкаціць легендарны столік на калёсіках з фужэрамі, да краёў напоўненымі кашмарам. Падчас пачастунку Шарабанаў заўсёды выглядаў, быццам стварыў сапраўдны цуд, а не намяшаў нейкай дрэні. Госці нюхалі, захапляліся, правяралі на святло і захоплена ахалі, хвалячы пах, смак і асабліва посмак. Хоць толкам ніхто не мог растлумачыць, у чым увогуле заключаецца сутнасць славутага посмаку.

— У мінулую сераду, — прамовіў Каябаў, не здымаючы задуменнасці з твару, — давялося мне спаўна сербануць паскуднага пойла. Толькі дзякуючы велізарнаму высілку волі ўдалося ўсмактаць у сябе атруту, якую дамарослыя «знаўцы» ўпарта называлі «салонным кактэйлем». Тады ўпітыя кактэйлісты праседзелі ў «хатцы» двое сутак. Калі хто і паспяваў дабегчы да дзвярэй, то тут жа на скрут галавы нёсся зваротна, з надзеяй, што ўнітаз будзе незаняты.

— Аднак прабачце! — вырвалася ў Гусарава. — Кажуць, Шарабанаў у той вечар быў засмучаны больш за ўсіх. Прасіў прабачэння, апраўдваўся, шчыра спачуваў.



— Вінаватай, з яго слоў, аказалася запозненая пасылка са святой траўкай ад Далай-Ламы. Траўку прыйшлося замяніць з выгляду падобнай, сарванай на пустцы ў раёне гарадской звалкі. Вось яна і дала сумны эфект. Сёння Шарабанаў паабяцаў загладзіць сваю віну кактэйлем «па фірме». Сапраўдным кактэйлем! Найдасканалым кактэйлем!

— Хочацца ў гэта верыць! Ізноў піць што-небудзь гадкае, напружваючы свой арганізм, няма ніякага жадання.

— Шаноўнае спадарства! Маэстра экзатычных сумесяў рыхтуе небывалы сюрпрыз, — не даў патухнуць запаленаму ажыятажу гасцей нехта з шарабанаўскіх памагатых. — Трохі цярпення, і вы атрымаеце асалоду з першым глытком. Баўцеся добра, не нудзіцеся!

— Кірыла Платонавіч, калі лёс нас звёў, а пачатак прэзентацыі зацягваецца, не адмоўце ў задавальненні згуляць з вамі ў покер, — і сіноптык кіўнуў на калоду карт, што ляжала на масіўным дубовым стале. — Абрыдлі адны і тыя ж морды, фужэры, поўныя зялёнага цемрашальства, нікчэмныя канапкі, бесталковыя гутаркі пры поўнай адсутнасці інтэлекту на тварах людзей, якія сюды прыходзяць. Адна пацеха — карцішкі.

— Як я вас разумею! — ажывіўся Каябаў. — У мяне такое ж адчуванне. Прыходжу сюды толькі дзеля добрай жывой музыкі. Два месяцы матаўся па Афрыцы. Дзікі віск абарыгенаў, звар'яцелыя скокі пад грукат тамтамаў. Звон у вушах дагэтуль стаіць. Іншая справа раяль! Гукі сапраўднай музыкі прыносяць душэўную раўнавагу.

— У Афрыку па справе ездзілі?

— Па справунках, мой дружа, па справунках. Як той казаў, «спакой мне толькі сніцца».

Тамтэйшыя ваенныя бюджэты распухлі ад бананавага промыслу, вось і ўцюхваю дыктатарскім рэжымам усё, да чаго на Радзіме здолелі дацягнуцца рукі.

Размаўляючы, новыя знаёмыя не заўважылі, як усе вольныя месцы за іх сталом занялі ахвотнікі згуляць. Каябаў зрабіў млявую спробу адмовіцца ад карт, але змаладушнічаў і даў сябе ўгаварыць разыграць адзін банчок.

За раяль сеў музыка, і чароўная мелодыя расцяклася па зале.

— Гершвін! — абрадаваўся Каябаў. — Добры знак перад пачаткам гульні.

Стаўкі падраслі, ператварыўшыся з немаўляткі ў хлопца. Кірыла Платонавіч заставаўся верным сабе і хутчэй рабіў выгляд, што гуляў, чым гуляў насамрэч. Нудныя трэфі, ідыёцкія звонкі, ведзьма-дама пік не разагравалі гульнявы азарт. Таму ён быў вельмі здзіўлены, калі пры апошняй раздачы ўбачыў у сваіх руках камбінацыю з чатырох каралёў. Спакуса ўзяць куш аказалася вялікай. Каябаў унюхваўся ў карты, спрабуючы ўчуць, ці не хаваюць яны ў сабе хітра расстаўленую пастку. Чуццё, якое стамілася ад пакутлівага чакання кактэйлю, маўчала, і Каябаў пасмялеў:

— Я, як ісцінна рускі, прывык рызыкаваць. Змяняць карты не буду. Застаюся пры сваіх.

— О-о-о! — вырваўся захоплены вокліч гульцоў, калі Каябаў адкрыў сваіх каралёў.

— У-у-у! — новы вокліч лёгкім брызам праляцеў, не дакранаючыся стала, калі па-над каралямі леглі чатыры тузы.

— І карта біта, і я пераможаны! — кісла ўсміхаючыся, прашаптаў Каябаў. Прайграныя шэсцьдзясят тысяч даляраў асабліва яго не знервавалі. Пытанне было ў іншым. Дакладней у іншай. Жонка Каябава, як гэта ні парадаксальна гучыць, была партнёрам па бізнэсу, і пакласці непрыкметна ад жонкі ў сваю кішэнь некалькі тысяч даляраў было немагчыма. Прыходзілася потым тлумачыцца, а гэта біла па самалюбству. Каябаву заўсёды цяжка даваліся размовы пра выпадковыя, недарэчныя выдаткі.

— Кірыла Платонавіч, бачу, вы засмуціліся! — Гусараў зрабіў спачувальны выгляд. — Фартуна — дама шалапутная. Сёння яна цешыць, а заўтра, прабачце, падстаўляе дупу для пацалунку. Картачны доўг па ўсталяваных правілах вы абавязаны вярнуць да поўначы заўтрашняга дня. Так што сітуацыя не смяротная. Збяднець на шэсцьдзясят тысяч пры вашых даходах — проста дробязь. Расслабцеся і атрымлівайце асалоду ад прыгожай музыкі і магчымасці адначасна весці задушэўныя размовы.

— Не ўсё так проста, як хочацца, каб яно было, — стрымліваючы раздражнёнасць, Каябаў ледзь было не прагаварыўся, але своечасова здолеў стрымаць сябе ад празмернай шчырасці. Не хацелася перад незнаёмым чалавекам дзяліцца душэўным болем. — Выйграе толькі той, хто не гуляе, — па-філасофску ўнікнуў ён прамога адказу.

— Вы адназначна нечым заклапочаны! Гэта выразна чытаецца на вашым твары. Няўжо справы фірмы гэтак пахіснуліся, што ўпушчаны выйгрыш быў апошнім шанцам іх направіць?

— Шаноўны… прабачце, запамятаваў, як вас зваць.

— Арсеній Фёдаравіч! — падказаў Гусараў.

— Шаноўны Арсеній Фёдаравіч, з фірмай усё ў шакаладзе! — і Каябаў, каб не сурочыць,

пастукаў косткамі пальцаў па дубовым стале. — Я даўно паверыў у правіла: не я шукаю грошы, а грошы шукаюць мяне. Таму жыву не дзякуючы, а насуперак усім цяжкасцям. Але ёсць адна даволі асабістая акалічнасць. Гэткі малюсенькі гнайнічок на здаровым целе. Жыць не замінае, але і асаблівага задавальнення не прыносіць.

— Смею выказаць здагадку, што згаданае вамі «даволі асабістае» ўвайшло ў цвёрды стык з дзелавой рэпутацыяй?

— Збольшага вы маеце рацыю… — Каябаў стаў яшчэ задуменней. І, неспадзявана ломячы перашкоду сумневаў, перайшоў на даверлівы шэпт. — Усе фінансавыя дакументы на фірме падпісвае мая жонка, Таццяна Генадзеўна. «Раблю гэта для твайго дабра, мілы», — вырашыла яна за мяне з уласцівай ёй шчырасцю. «Зараз грошы цябе не сапсуюць. Адным росчыркам пяра я зняла гэту шкоду». Растлумачыць ёй, навошта мне шэсцьдзясят тысяч даляраў, будзе пакутліва цяжка. Сітуацыя, такім чынам, складваецца кепска.

— Як жа вы ўмудрыліся пад жончын абцас падлезці?

— Сам не разумею. Спачатку мая жаба прыкінулася царэўнай, а праз год зрабіла з мяне дурня. Год пражылі спакойна, а потым пачалося: «Шкарпэткі сабе кожны тыдзень купляеш, а я, як дурніца, адно і тое ж футра другую зіму нашу». Змаладушнічаў, і зараз у яе футраў больш, чым у мяне шкарпэтак.

— Вінаваты перад вамі, — Гусараў прыклаў правую руку да сэрца, — бо гэта я ўцягнуў вас у гульню.

— Ах, кінься! Я гуляў, не рызыкуючы, але чатыры каралі выклікалі ў мяне памутненне розуму. Не выстаяў перад спакусай і забыўся пра залатое правіла карцёжніка: у карты шэнціць толькі добраму шулеру.

— На вашым месцы тое самае зрабіў бы кожны нармальны чалавек. А я, як нармальны чалавек, абавязаны працягнуць вам руку дапамогі — пакрыць за вас картачны доўг. Гэта справа майго гонару.

— Не, не. Я супраць такой ахвярнасці. Любая ўдзячнасць мае свой кошт, і я баюся, што ўжо з вамі разлічыцца мне можа быць не падсілу.

— Я, як прыстойны чалавек, буду кіравацца ўласным сумленнем, і не перашкаджайце майму душэўнаму парыву, — мякка націснуў Гусараў. — Не бачу дрэннага ў тым, каб зрабіць часам нешта добрае.

— Ну, нават не ведаю… зрэшты, доранаму каню пад хвост не заглядваюць. Мне нават цікава, што ў адказ я буду абавязаны зрабіць для вас?

— Дробязь! — даверліва ўсміхнуўся Гусараў. — Акажаце маленькую паслугу, якая зусім вас не абцяжарыць.

— На жаль, таямніцаў Радзімы я не ведаю, ды і вы не падобныя да Джэймса Бонда, які зарабляе на хлеб каля прахадной сакрэтнага завода. Шчыра прызнаюся, мяне ўжо разбірае цікавасць, што за паслугу вы чакаеце ад мяне, якая каштуе шэсцьдзясят тысяч даляраў.

— Ведаеце, шаноўны Кірыла Платонавіч, жыццё сёння ставіць на першы план прынцып задавальнення. Жыццё хуткаплыннае. Штосьці не паспееў. На штосьці не адважыўся. З гадамі запал амаль знікае, ды і выпадку зручнага можа больш не быць. Я не скуплюся, калі ёсць магчымасць спасцігнуць навізну адчуванняў, выпрабаваць гаму новых эмоцый. Мая прапанова можа

паказацца вам дзікай. Не спяшаецеся з адказам, узважце ўсе за і супраць. Асабіста вам і вашай сям'і нішто не пагражае.

— Дык што ж вы, урэшце, ад мяне хочаце?

— Пераспіце са мной. І шэсцьдзясят тысяч даляраў вашы. Я плачу за задавальненне ад цесных зносінаў з чалавекам, якога ўсе паважаюць. Сярод маіх знаёмых такіх людзей, як вы, абмежаваная колькасць. Таямніцу нашай здзелкі закапаю глыбока ў сабе. Слова сіноптыка.

Каябаў быў настолькі ўражаны гэтай дзікай прапановай, што ў ім аж забулькатала законнае абурэнне.

— Ды як вы асмеліліся мне прапанаваць такое? Вы ў сваім розуме?! Я высокамаральны чалавек, а не кавалак дзярма, што раскладаецца на сонцы.

— Напраміласць бог, не так гучна. Мы пачынаем прыцягваць увагу чальцоў клуба. Астыньце, набярыцеся цярпення даслухаць мяне да канца. Глядзіце: я даю вам шэсцьдзясят тысяч даляраў, вы гасіце свой доўг і з лёгкай душой маеце мяне адзін раз. Як вынік: у вас няма непрыемнай размовы з жонкай, а я атрымліваю сваю порцыю задавальнення. Задаволеныя, мы разбягаемся па сваіх справах. Вы ў Афрыку, я ў абсерваторыю. Дарэчы, прагназуюцца новыя ўспышкі на сонечным свяціле.

— Але я не гэты… як яго… не педэраст. Я не ўмею гэта рабіць.

— Я таксама, як вы кажаце, «не педэраст». І прафесійна гэтым не займаюся. Але менавіта наша з вамі няўмельства і дасць тую навізну адчуванняў, пра якую я мару. Хіба жыццё нас песціць ганечым адменным?! Усё даводзіцца здабываць у поце твару сваімі рукамі і не толькі, як бачыце, рукамі. У гэтым мой «прынцып атрымання задавальнення». Я, калі так можна сказаць, лесбіян. Люблю жанчын, але з нядаўніх пор захацелася пабыць у іх скуры. У гэтым няма нічога ненармальнага. Уся справа ў спадчыннасці. Адна палова маіх продкаў належыць да мужчын, другая да жанчын.

— Кожны чалавек — прадукт міжполавых стасункаў.

— Згодны. Але не кожнаму дадзена адчуць у сабе вібрацыі на тонкім узроўні. Як следства, я, будучы чалавекам ад прыроды наглядальным, заўважыў за сабой, што паводжу сябе як сапраўдны мужчына. Але! Магу паводзіць сябе і як самая сапраўдная жанчына. Сябе ў жанчыне, калі я мужчына, мне не раз даводзілася адчуваць. А вось мужчыну ў сабе, калі я ўсведамляю сябе жанчынай, — ні разу. Абы з кім правесці такі эксперымент не магу. Гэта пярэчыць майму ўнутранаму «я». Ды і ёсць боязь, што мае пазывы да мужчынскага цела могуць няслушна вытлумачыць і палічыць мае дзеянні пераraджэннем. Але з вамі, вельмі інтэлігентным чалавекам, я буду пачувацца абароненым. Вы, чалавек, які варочае мільёнамі даляраў, не можаце наскрэбці ва ўласным кашальку некалькі тысяч. Ды гэта насмешка над вашай стараннасцю ў бізнэсе. Будзьце ж вышэй за абставіны. Дакажыце, у першую чаргу самому сабе, што вам па сілах здабыць любую суму на ўласныя патрэбы, не робячы прарэхі ў сямейным бюджэце. Адгукнуўшыся на маю прапанову, вы будзеце цалкам вольныя ад зневажальных тлумачэнняў перад шаноўнай Таццянай Генадзеўнай. А галоўнае, не я вас буду туды-сюды, а вы мяне за мае ж грошы.

Каябаў задумаўся. Раптоўны картачны доўг мог пагасіцца без жадных нудных размоваў з Танюшкай. Спакой і дабрабыт у доме застануцца непарушнымі! Але якім коштам?!

— У бездухоўны час жывём. Адно выратаванне — смачна сплюнуць, каб не захлынуцца слінай заганаў, якія перапаўніяюць чалавека.

— Духоўнасці мала. Вы маеце рацыю... — Гусараў замоўк у чаканні.

— Праўда?! Цікава чуць гэта ад вас пасля даволі дзёрзкай прапановы. Зрэшты, чорт з вамі, я згодзен. Але найперш хачу пачуць адказ на адно пытанне, якое мяне вельмі хвалюе: адкуль у сціплага сіноптыка такія немалыя грошы?

— Вы маеце рацыю, грошы немалыя. Але гэта толькі частка ганарару, атрыманага мной за забеспячэнне сонечнага надвор'я падчас ваеннага параду.

— Прыпамінаю, сапраўды быў сонечны дзень, хоць усе, асцерагаючыся дажджу, прыйшлі на парад з парасонамі.

Паціснуўшы адзін аднаму рукі, «аднадумцы» падняліся ў нумар, папярэдне замовіўшы каньяк, садавіну і, для адводу вачэй, зводку біржавых навін.

— Неяк няёмка перад вамі распранацца, — стушаваўся Каябаў.

— Усё гэта ўмоўнасці, таму прашу вас з гэтай нагоды не затлумляцца. Рубікон пяройдзены. Зваротнага шляху няма. Асабіста я распранаюся заўсёды, калі бачу ў гэтым карысць. Прычым неабавязкова карысць для сябе. Місія чалавека — рабіць людзям дабро, спрабаваць ашчаслівіць як мага больш тых, хто патрабуе шчасця. Усё робіцца, шаноўны Кірыла Платонавіч, для чагосьці альбо ў імя чагосьці. Я пра гэта стаў вельмі моцна задумвацца. А каб ад дакучлівых думак не пераклініла галаву, да любой сітуацыі стаўлюся з належнай доляй гумару.

— Прабачце, Арсеній Фёдаравіч, што вас перабіваю, але мой член на вас не рэагуе. Не з рукі яму ўздымацца ў чыста мужчынскай кампаніі.

— Які вы, аднак, няспрытны! Вось вам у дапамогу цудадзейная рукавіца на вавёрчыным меху. Трымайце. Бачыце, як справа зрушылася! Не забудзьцеся пра вазелінчык. Я прымаю калена-локцевую пазіцыю, а вы, Кірыла Платонавіч, прыступайце. Толькі попу мне не адкусіце. Жартую я, жартую!

— Туга заходзіць, нават з вазелінам! Як вам гэта працэдура? — пацікавіўся Каябаў.

— Нар-маль-на! — адазваўся Гусараў.

Добра, што Каябаў не бачыў ягоны твар. Страшэннае было відовішча: фіялетавай барвай палымнелі шчокі, трапяталі вейкі, а з шырока разплюшчаных вачэй каціліся слёзы. Гэта скупа рыдаў абражаны мужчынскі гонар. Усё жыццё пранеслася перад Гусаравым адным яркім імгненнем.

— Ска-жу без цы-ры-мо-ній. На-гляд-на і груба. Стварэнне я пад-во-пыт-нае! — вусцішна прахрыпеў сіноптык.

У адкрытае акно ўляцеў верабейка. Адкрыў маленькую дзюбку, цвыркнуў, страсянуў крылцамі і скінуў малюсенькую гідкую какашку. Глядзячы на птушку, і Каябаў справадзіў сваіх апалонікаў у бяздонны фіёрд гусараўскай задніцы.

— Я кончыў! — абвясціў ён.

Прайшло некалькі дзён. Свет ізноў заззяў для Каябава прыгожымі фарбамі. Пачуццё сораму рассеялася, як дым над папялішчам, а жыццё ўвайшло ў звыклае дзелавое рэчышча. І вось тут,

калі ўсякая пільнасць была страчана, яго і падпільнаваў тэлефонны званок.

— Нарабілі ж мы з вамі справаў, дарагі Кірыла Платонавіч, — Каябаў не адразу прызнаў голас Гусарава.

— Увогуле, у чым справа? — насцярожыўся Каябаў. — Абавязацельствы бакамі належным чынам выкананы. У чым асабіста вам вельмі ўдзячны.

— Вінаваціць вас у чым-небудзь не смею, сам вінаваты. У мітусні забыўся папярэдзіць: засцерагацца нам трэба было.

— Не разумею, ад чаго засцерагацца?

— Як падарожнік ідзе праз стэп ад тычкі да тычкі, так і я вельмі асцярожна рухаюся да змены полу. Хачу трошкі пабыць жанчынай, нарадзіць, а пасля вярнуць зноў мужчынскае аблічча. Наш кантакцік прыйшоўся, як выявілася, не ў лепшы час. Прачытаў у газеце, што сімптомы цяжарнасці — санлівасць, рассеянасць, неўраўнаважанасць. І зараз спяшаюся падзяліцца сваёй радасцю: адчуваю ўсе названыя мною сімптомы. Я цяжарны! Цяжарнасць спыняць не маю намеру! Эксперыментую дзеля навукі!

— Лухта! Адназначная лухта! Вы што, абкурыліся?! — абуранасць перла з Каябава, як попел з ісландскага вулкана. Але Гусараў казаў упэўнена, на душэўным уздыме, даючы зразумець, што сітуацыя, якая склалася, яго не прыгнятае.

— Буду рабіць кесарава сячэнне! — бравіраваў сіноптык.

— Вы хоць разумееце, якое глупства вярзеце?! Цяжарны мужчына! Ха-ха! Вам што, Нобелеўская прэмія спакою не дае?! Вы хоць разумееце, куды я вас меў? Адтуль ніводнае дзіця за ўсю гісторыю чалавецтва не з'яўлялася.



— Акурат у тое месца, якое вы згадалі, і былі імплантаваны жаночыя яйкаклеткі для абжывання і адаптацыі. Ваша «ха-ха», шаноўны, недарэчы! Я ўжо збольшага жанчына, хоць вонкава выглядаю як мужчына. Даказваць факт вашага бацькоўства не збіраюся. Так што вы паспяхова пазбегнеце скандалу, які мог бы падарваць ваша шчаслівае жыццё. А я, калі зраблю зваротную аперацыю, змагу пабыць у адной асобе і татам і мамай. Гэтым пакладу пачатак небываламу дэмаграфічнаму прарыву.

Павісла доўгая напружаная паўза. Было чуваць рыпенне каябаўскіх мазгоў, якія трапілі ў ступар ад нечаканай навіны. Затое Гусараў пачуваўся каралём становішча.

— Генетыка, шаноўны Кірыла Платонавіч, таіць у сабе нямала неспазнаных таямніц. Нам з вамі пашанцавала раскрыць сутнасці адной з іх. Такія вось справы, татка! Выбачайце за панібрацтва.

Раздаліся гудкі. Са здранцвення Каябава вывела жонка, якая ўвайшла ў пакой.

— Танюнь, у мяне непрыемнасці. Асабістыя, — Каябаў вельмі паважаў сваю Таццяну Генадзеўну, таму не мог дазволіць, каб хтосьці трэці паведаміў ёй ашаламляльную навіну,ператвараючы яго сэксуальную слабасць у прыладу для шантажу.

Генадзеўна адразу ўсё зразумела і, прыціснуўшы галаву мужа да сваіх грудзей, далікатна зашаптала:

— Бедненькі! Ты папаўся на кручок. Я ўжо ўяўляю гэтую фурсетку: пругкія грудзі, маладыя сцёгны, якія раздзіраюць туга нацягнутую кароткую спаднічку. Якія ж вы безабаронныя, нашыя хлопчыкі! Ну, не хвалюйся, што-небудзь прыдумаем.

Яна падышла да бара, запаліла цыгарэту, наліла паўшклянкі каньяку і залпам яго выпіла.

— Гэтая шлюшка шантажуе цябе, родны? Кажы мне як ёсць, нічога не ўтойвай. Зрэшты, хай нараджае, усё роўна народзіць. Дай ёй грошай і прынось дзіця дадому. Будзе нашым.

— Таня, нараджаць будзе не яна, а ён.

— Ты што, здурнеў?! Табе афрыканскі насарог нічога не адтаптаў?

— Калі ў мяне з ім здарылася тое, што здарылася, ён быў падчас змены полу. Хацеў са мной выпрабаваць, як гэта быць жанчынай, не стаўшы ёю да канца. І забыўся мяне папярэдзіць, што трэба засцерагацца.

— Так ты… гэта… таго…з мужыком, ці што?

— Ну, не зусім з мужыком. Ён як бы ўжо не мужык, але яшчэ і не жанчына. Працэс пераходу з полу ў пол — справа не аднаго дня. Абставіны, якія нельга было пераадолець, вымусілі мяне ўвайсці з ім у палавую сувязь.

— Давай з гэтага месца больш падрабязна. А то мне незразумела, як ты наогул вырашыўся трахнуць мужыка.

— Танюсь, ты выдатна ведаеш пра маю фанатычную адданасць табе. Але ўлада і сіла даюць мне магчымасць дапамагаць і іншым няшчасным.

Калі я быў у клубе на прэзентацыі Шарабанаўскага бухла, я пільна ўзіраўся ў твары гасцей, спрабуючы вызначыць, каму б мог без шкадавання перадаць частку свайго грашовага поспеху, у разумных межах, вядома.

Гусараў сам падышоў да мяне. Я быў халодны з ім, як пяльмень з маразілкі. Выскачкі і жабракі не выклікаюць у мяне шкадавання. Але яго горкая споведзь стапіла лёд маёй душы. Лёс сапраўды спаласаваў гэтага чалавека, і на пытанне, чым я магу быць карысным, ён прапанаваў тое, чым усё і скончылася. Але я выратаваў яго ад залежнасці. Гусараў даў слова! І зараз ён больш ніколі не будзе нюхаць какаін з цукарніцы, якую заўсёды насіў з сабой. Ён выкінуў цукарніцу разам з наркотыкам! Разумееш, Таня, вы-кі-нуў! Я ганаруся сабой! Хай незвычайным спосабам, але я выратаваў чалавека ад больш цяжкага граху.

— Праўду людзі кажуць: ніякае дабро беспакаранным не застаецца. Вядзі свайго Гусарава. У Святланы ў клініцы мы пазбавім яго задавальнення нарадзіць ад цябе дзіця, а зачатак новага жыцця перакінем у мяне. Да чужога дабра мае рукі не цягнуцца, але і сваё, гэта значыць тваё, разбазарваць па ўсякіх мужыках я не маю намеру. Буду ў сабе даношваць маленькага Каябава.

— Танечка, хіба такое магчыма?

— Не дуры мне галаву сумненнямі. Ты сваю справу зрабіў. Я адважуся на гэты ўчынак дзеля рэпутацыі нашай сям'і і захавання твайго рэнамэ ў грамадстве. Не турбуйся, у мяне хопіць сіл выцягнуць цябе з дзярма, у якое ты ўляпаўся па ўласнай бесхрыбетнасці. Гарманальныя змены — справа не аднаго дня. Ёсць яшчэ час прыгожа завяршыць гэту гісторыю.

Гусараў і Таццяна Генадзеўна сустрэліся ў клініцы і прайшлі ў ласкава прадстаўлены Святланай кабінет.

— Пасля таго, як ваш муж фактычна згвалціў мяне, была б дарэчнай кампенсацыя натурай з вашага боку, — нахабна прапанаваў Гусараў, зрэшты, без спадзявання пачуць станоўчы адказ.

— А гэта бачыў! — і Каябава, скруціўшы дулю, не без задавальнення ткнула яе ў нос нахабніку. — Не трэба фігець. Я з табой у разліку. Грошы, паводле дамоўленасці, ты атрымаў ад

картачнага шулера. Даплочваць натурай табе ніхто не абяцаў. Гадзінку пасядзім і разбяжымся. Нельга даваць майму мужу жаднай нагоды для сумненняў.

Таццяна Генадзеўна трыўмфавала. Задуманае атрымалася на здзіўленне лёгка і зграбна. Праўда, і страху небарака нацерпелася ўдосталь. Пакуль Каябаў два месяца калясіў па Афрыцы, у яе здарыўся хуткаплынны раман з гастралёрам з Гарлема, «каралём» пінг-понга. Белая ў абдымках чорнага! Гэтая фішка ўвагнала яе ў лёгкі ступар і сарвала з тармазоў. Пільнасць падтупілася, і легкадумная Таццяна нязмушана «заляцела». Перапыніць цяжарнасць у гэты раз не хапіла адвагі — пабаялася, што больш не зможа зацяжараць і нарадзіць жаданае дзіця. А зараз яна магла нараджаць хоць белага, хоць чорнага, хоць шэрабурамалінавага. Ці мала як маглі мутаваць каябаўскія спермікі пасля афрыканскай спякоты ў гусараўскім улонні.

Знаёмства з «каралём» цэлюлоіднага шарыка адбылося непраўдападобна проста. Дзве сяброўкі — адна прыгожая, другая так, на аматара (тая, што на аматара, і была Таццяна Генадзеўна, з тонкай і крывой шыяй, як у лябёдкі), дамовіліся пашвэндацца па буціках у пошуках моднага глупства. Набегаўшыся, транжыркі зайшлі пасмакаваць духмянай кавы ў модны барчык гасцініцы «Алканаўт». Літаральна адразу да століка з вясёленькімі жанчынамі падышоў чарнаскуры малец, які меў даволі піжоністы выгляд, і, на дзіва, чыста па-руску прамовіў:

— Выпадкова чуў, што вам патрэбны ўлётны халацік з перламутравымі гузічкамі. Магу прапанаваць рэч дзівоснай прыгажосці. А каб вы змаглі гэтую рэч убачыць на ўласныя вочы, прапаную падняцца да мяне ў нумар.



— Ідзі, Таня, я цябе тут пачакаю.

— Можа, разам? Пагледзіш, як халацік на мне сядзіць.

— Ідзі, ідзі. Халат адзін, а нас двое. Прадаўца нельга спакушаць, хто больш дасць. Дрэннага ў тым, што ты застанешся сам-насам з амерыканцам, не бачу. Тэнісіст больш падобны на дыпламата, які рашыў падзарабіць на шмотках, чым на зорку спорту.

Гледзячы ўслед бела-чорнай парачцы, Анжэла зларадна ўхмыльнулася. Нарэшце атрымалася элегантна падставіць сяброўку.

— Прабач, Танька, але ты Каябаву не пара. З нас траіх аракул, за мае грошы, назваў цябе лішняй. Здраду з неграм Каябаў табе не даруе. Гэта мой шанец завалодаць Кірушай, і я буду дурніцай, калі яго не выкарыстаю.

Чарнаскуры піжон на здзіўленне выглядаў годна і паводзіў сябе галантна.

— Размяшчайцеся ў крэсле. Я мігам. Прадстаўлю халацік у вельмі выйгрышным выглядзе.

Калі «гандляр» вярнуўся, Таццяна, гатовая да ўсяго, воляй-няволяй залюбавалася халатам, накінутым на плечы атлета.

— Як вам халацік? Бачу, падабаецца. Але ёсць нешта, што вам спадабаецца значна больш. У мяне на вас добрыя, але непрыстойныя планы.

«Непрыстойныя планы», якія сарваліся з вуснаў малойчыка, заінтрыгавалі Таццяну Генадзеўну, і яна лёгка пайшла на здзелку з сумленнем. Жанчыне трэба абавязкова кагосьці кахаць, інакш яна ўсіх зненавідзіць. Так збудавана жанчына, і з гэтай з'явай нельга змагацца. З гэтай з'явай трэба мірыцца. Мірыцца па той простай прычыне, што нішто ў гэтым свеце не адбываец-

ца проста так. Усё мае нейкі сэнс, хоць, парой, сэнс падобных жаночых выхадак недаступны мужчынскаму разуменню.

Пасля расстання з Каябавай Гусарава пачалі грысці супярэчлівыя думкі.

— Як я павінен да сябе ставіцца пасля ўсяго таго, што дазволіў з сабой учыніць?! Хваліць за тыя немалыя грошы, што здабыў дзіўным для прыстойнага чалавека спосабам?! Ці бязлітасна растаптаць сябе любімага за тое, што змаладушнічаў і паддаўся спакусе грашыма?! Грошы! Усяму віной толькі грошы! На злосць усяму, вазьму і растрачу іх прама цяпер. Вядома, не усе! У разумных межах і выключна для ўласнага задавальнення.

Калі ўрэшце знайшлося апраўданне неадназначнаму ўчынку, Гусараў супакоіўся і зайшоў у барчык адзначыць знаходку кілішачкам каньяку.

Каньячок вярнуў дабры настрой, і Гусараў з немалой доляй іроніі згадаў пачатак ланцужка дзіўных падзей, якія скончыліся амаральным у яго разуменні ўчынкам.

Знаёмству з Таццянай Генадзеўнай ён быў абавязаны Сярожу Звягіну. З Сярожам Гусараў сябраваў з вясёлых студэнцкіх часоў. Гусараў быў далёкі ад разумення шчыгулаў Сярожынага бізнэсу, але грошы на выданне чарговай манаграфіі пра кліматычныя парадоксы новага стагоддзя з удзячнасцю прымаў.

Калі чарговы Звягінскі транш нечакана стапарнуўся, Сяргей, верны сваёй шчырасці, не стаў хаваць праблему:

— Прабач, стары. Усе грошы ў абароце і нават выдраць на паездку да Далай-Ламы не атрымліваецца. Сам патэлефаную, калі змагу прабашляць тваю кнігу.



Патэлефанаваў Сяргей нечакана хутка.

— Арсеній, скачы! — Звягін быў у гуморы. — Ёсць магчымасць файна падзарабіць. Трэба выручыць добрую жанчыну. За невялічкую паслугу табе адваляць кучу бабла.

— Не магу ўявіць, чым можа дапамагчы добрай жанчыне звычайны сіноптык?! Зрэшты, калі ты лічыш, што тая дапамога ў маіх сілах, я згодны. Патрэбныя грошы. Прычым вельмі патрэбныя. Хачу паехаць у Арктыку, на пуп Зямлі, і паспрабаваць пранікнуць у сапраўдныя прычыны катаклізмаў надвор'я.

— Тады дамовіліся. Паслуга патрабуе дысцыпліны і строгага выканання плану, пра які табе раскажуць. За руплівасць і стараннасць ты атрымаеш шэсцьдзясят тысяч даляраў.

— Колькі??? — у Гусарава перасохла ў горле. — Паўтары!

— Шэсцьдзясят тысяч даляраў. Для яе бізнэса сума, якая ўсхвалявала цябе, усяго кропля ў моры, пясчынка ў пустэльні, ільдзінка айсберга.

— Што я павінен зрабіць?

— Пераспаць з яе мужам.

— Што за херня?!.

— Не спяшайся з адназначнай ацэнкай. Лепш адкажы, табе грошы патрэбныя?

— Патрэбныя.

— За шэсцьдзясят тысяч даляраў цябе адзін раз трахнуць. Для большага ты ёй не патрэбны.

— Падобнай справай мне не даводзілася займацца.

— Схадзі да ўролага і пажалься на прастату. Ён пальцам у гумовай пальчатцы зробіць табе тое ж самае, што і муж жанчыны зробіць з табой адзін раз, але не пальцам. Ты так упарцішся, як быццам табе не патрэбныя грошы!

— Грошы патрэбныя. Але спосаб іх здабывання мне не падабаецца.

— Калі ёсць магчымасць пакласці ў кішэню шэсцьдзясят тысяч даляраў, я не задумваюся пра тое, якім спосабам іх зараблю. Прабач, што патурбаваў. Пашукаю чалавека, якому грошы больш патрэбныя.

— Не шукай. Я згодны.

— Прабачце! — да Гусарава за столік падсеў прыстойна апрануты мужчына. — З усіх тут прысутных вы адзін, хто здаўся мне чалавекам з адбіткам інтэлекту на твары. Дзяліцца з першым-лепшым асабістымі праблемамі не ў маіх правілах. Але неадназначнасць сітуацыі змушае дзейнічаць па-за правіламі.

Гусараў насцярожыўся. Пачатак гутаркі нагадаў яму нядаўні калейдаскоп падзей у «Бабловай хатцы».

— Мая праца — суцэльныя камандзіроўкі. Прыязджаю дадому і ёсць адчуванне, што жонцы-бландынцы мая адсутнасць прыносіць задавальненне. Можа, уся справа ў колеры яе валасоў?

— Наўрад ці прычына, якая спараджае жаданне зграшыць, крыецца ў колеры валасоў. Нават лысая жанчына не ўпусціць магчымасць зграшыць. Грэх — генетычная асаблівасць жанчын. Іх палілі на вогнішчах, пазбаўлялі галавы, разбіралі на партактывах, але воз, як той казаў, і зараз там. Пазбавіцца ад думак, якія вас турбуюць, даволі проста: бярыце з сабой жонку ў кожную камандзіроўку.

— Доля разумнага ў вашых словах ёсць, але толькі доля. Не магу ж я, вобразна кажучы, ездзіць у Тулу са сваім самаварам.

— Шаноўны, жыццё ўвесь час ставіць нас перад выбарам, — павучальна прамовіў Гусараў. Перажытыя прыгоды давалі яму права казаць у падобным тоне. — Шмат у чым менавіта ад нашага выбару залежаць лёсавызначальныя павароты адносінаў паміж людзьмі. Калі вы робіце выбар на карысць адзіночных камандзіровак, то не дзівіцеся нараджэнню ў вашай сям'і рудога дзіцёнка, калі вы брунет, а ваша жонка бландынка.

# Фігура, пастава, паходка

Прырода надзяліла Колю Шутава асаблівай манерай думаць і тым самым забіла ў ім шаблоннае ўспрыманне свету. Нават відавочныя «двойчы два» не браліся ім на веру, а прымаліся за гэтакія інтрыгавальныя і загадкавыя «тутаркі-матутаркі».

Хаджэнне ў госці да фенаменальнага Мікалая мела таксама сваю асаблівую прыемнасць. Нашае сяброўства не ведала межаў і ўмоўнасцяў. Нават падрабязнасці інтымнага жыцця даваяраліся адзін адному без агаворак.

— Коля! — радасна крычу, ледзь пераступіўшы парог яго дома. — Трам-там-там, цім-цім, тум-тум!

— Ізноў філапед прыпёрся! — прабурчала Коліна жонка, зачыняючы за мной дзверы.

— Коля, чым Лена не задаволеная? У яе што, месячныя перайшлі ў гадавыя?!

— Не звяртай увагі. У Ленкі пайшла ўшыркі зона бікіні, і зараз яна ад злосці кусае ўсіх падрад. Сам ты чаму з раніцы такі вясёлы?

— Калян! Павіншуй! Месяц бяссонных начэй пайшоў на расшыфроўку каракуляў таямнічага папірусу. І зараз я — шчаслівы ўладальнік старажытнай таямніцы.

— Не інтрыгуй, дай пазырыць! — і Коля паспрабаваў выхапіць з маіх рук спісаны ліст паперы.

— Не-е-е, так не пойдзе! Я сам прачытаю радкі, якія мяне найбольш узрушылі. Спяшаўся, таму не паспеў перабяліць чарнавік, так што, прабач, буду чытаць з запінкамі, — і я загугнявіў, пераймаючы гаворку пячорных людзей: — Калі ты, падла, хоць аднойчы наступіш на мураша, прыб’еш камарыка, кінеш недакурак міма сметніцы ці пакрыўдзіш грубым голасам голуба, які напаскудзіў табе на пустую башку, то ведай: мы за сябе і за цябе не ў адказе. Мы ў адказе за тых, каго прыручылі. Ну, як?

— Моцна! Тон пісьма не пакідае сумневаў, што хтосьці кагосьці вельмі дастаў. Ультыматум напісаны ў цвёрдай форме і, верагодна, у апошні раз. Твая трактоўка папірусу арыгінальная, больш таго — каларытная. Праўда, з недакуркам і сметніцай ты перагнуў палку, як для каменнага веку. У гэтых прадметах няма адчування глыбіні старажытнасці, але мае словы не нагода пасыпаць галаву попелам. Усё адно, ты — малайчына! І кубак добрай гарбаты будзе табе ад мяне ўзнагародай. Ідзі на кухню.

— Коля, на кухні Ленка па тэлефоне з кімсьці далдоніць. Давай у калідоры на пуфіках пасядзім.

— Ды ну яе! Заманала марнай балбатнёй. У яе з-за пірсінгу ў пупе адвіс жывот. Пераставіла пірсінг на ягадзіцы — адвісла дупа. Зараз тэлефануе ўсім сяброўкам і раіцца, куды пераставіць гэты чортаў пірсінг. Але Ленка нам не перашкода! Яна ўсё роўна не зразумее, пра што мы будзем казаць.

На наша шчасце, я і Колька ведаем больш за два дзесяткі замежных моў і можам лёгка схаваць свае таямніцы за шырму дыялектаў карэнных народаў розных мацерыкоў. Ленка ж мае зносіны з намі толькі на роднай мове, падмешваючы ў яе смачную вулічную лексіку.

За душэўнай сяброўскай размовай непрыкметна пабег час.

— Нядаўна давялося мне перажыць неверагодную гісторыю, — дапіваючы трэці кубак «цэйлону», перайшоў Мікалай на кітайскую мову. — Адна фантастычная дзяўчына моцна мяне ўразіла.

— Ведаючы цябе, магу выказаць здагадку, што дзяўчына была бландынкай!

— Не проста бландынкай, а плацінавай бландынкай! Яна пацешна моршчыла лобік, успамінаючы марку машыны свайго сябра, а калі ўспомніла, я ледзь ад смеху не абрабіўся прама ў рэстаране. Мачавы пухір ледзьве вытрымаў той дзікі рогат, які апанаваў мяне. Значок на капоце «Мэрсэдэса» яна абазвала «стрынгамі ў кружочку». Уяўляеш! «Стрынгі ў кружочку»! Больш смешнага параўнання прыдумаць немагчыма.

— Дзе ты падчапіў гэты плацінавы цуд? — спытаў я на добрай іспанскай мове.

— Ты ж ведаеш, — перайшоў на партугальскую мой сябар, — калі настае час вясновага блуду-флуду, я жыву паводле прынцыпу: калі гара не ідзе да Магамета, то Магамет ідзе ў гарэм. Прыкладна ў пяць гадзін падыходжу да прыпынку каля трыкатажнай фабрыкі і сядаю ў аўтобус разам з ткачыхамі, якія скончылі змену. У бітком набітым салоне ўсе пасажыры зліпаюцца, як варэнікі ў смятане. Не разляпіць. Гэта вельмі зручны момант, каб з выглядам, быццам бы нічога не сталася, палапаць прыціснутых да мяне сімпатычных дзяўчат. Звычайна мая вольнасць сыходзіла з рук. Грашок лёгка спісваўся на таўкатню. Але ў гэты раз я нечакана атрымаў рашучы адлуп:



— Не хамі, чувак! Трымай рукі ў кішэнях сваіх штаноў і лапай сваё, а не чужое!

— А?! Што?! — здзівіўся я. — Хіба цісканіна яшчэ не пачалася?!

— Мужчына, наш аўтобус стаіць! — адгукнулася мажная цётка. — Шафёр за цыгарэтамі ў кіёск пабег. А табе, мілая, даўно пара ведаць: аўтобус — гэта джунглі. І калі на цябе мае планы малпа, у дзяўчыны на гэты выпадак мусіць быць у руках мачэтэ. Шась! І жуліку не будзе чым жульнічаць! — цётка зарагатала, а разам з ёй увесь перапоўнены аўтобус.

Я паспрабаваў зрабіць прыстойны твар, папрасіў прабачэння і тут жа запрасіў бландынку ў рэстаран. Рэстаран — найлепшае месца, дзе можна замыліць крыўду і пасябраваць для новых сустрэч. Мы крочылі побач, і я цішком вывучаў новую знаёмую. Скажу адкрыта: фігура,astава, паходка — фантастыка. Калі б сляпому даць памацаць яе цела, ён быў бы вельмі ўражаны.

У рэстаране аўтобуснае непаразуменне хутка забылася. Мы пілі, смяяліся, дурэлі, атрымліваючы задавальненне ад таго, што бавім час разам. Калі загучала павольная мелодыя, я пацягнуў дзяўчыну танчыць. Зліўшыся ў рамантычным танцы, можна лёгка адканіфоліць адносіны на ўвесь астатні вечар. Яна паклала мне галаву на грудзі і нечакана прашаптала на французскі манер:

— Нікаля! Я выдаліла валосікі пад пахамі і зараз вельмі па іх сумую. Мне патрэбны сумаздымальнік на адзін вечар.

— Я цябе вельмі разумею. У самога частка валасоў на галаве страчана беззваротна.

Успышка ўзаемнага зачаравання змянілася роўным гарэннем спакойнага кахання.

— Ты ажэнішся са мной? — раптам спытала яна.

— Прама цяпер не магу.

— Твае бацькі будуць супраць?

— Не зусім бацькі, — збянтэжыўся я. Не мог жа я ёй сказаць, што супраць будзе мая жонка. Прыйшлося далікатна змяніць тэму гутаркі: — Ты чаму, як мегера, кінулася на мяне ў аўтобусе? У таўкатні чыста выпадкова мужчынская рука дзе заўгодна можа апынуцца на жаночым целе.

— Я была ў трансе, калі пасля адпачынку ў Турцыі выявіла тры новыя маршчынкі пад пахамі з боку спіны. Мне прыйшлося перажыць сапраўдны шок. У гатэлі я пераспала з саракагадовым дзедам і толькі сёння ў аўтобусе зразумела, што ён ва ўсім вінаваты. А можа, я не маю рацыі? Скажы, можна заразіцца ад старога маршчынамі?

— Не ведаю. Мне не даводзілася мець справу з голымі бабулькамі.

— Вось і ты не ведаеш. Ніхто не ведае. А мне вельмі важна гэта ведаць. Я зараклася ў Турцыю ніколі не ездзіць, але быць заўсёды загарэлай вельмі хочацца. Як ты думаеш, можна загарэць, калі засунуць твар у мікрахвалёўку з грылем?

— Не спрабаваў, — закруціў я галавой, ачмурэлай ад пытанняў.

— А пад вечкам уключанага ксеракса загар возьмецца?

— Не затлумляйся наконт ксераксу. Проста схадзі ў салярый.

— Баюся. Кажуць, у салярыі небяспечна загараць. Але калі абясточыць салярый і загараць, то шкоды будзе менш?

— Парайся з электрыкам, ён напэўна ведае.



— Мой муж электрык, але задаваць яму пытанні я не рашаюся. Апошнім часам ён стаў заглядвацца на прыгожых юнакоў. Як убачыць кагосьці ў маёй шафе ці пад ложкам, доўга глядзіць здранцвелым позіркам. А на мяне нуль увагі. Крыўдна. Можа, ён нешта ад мяне ўтойвае? У любым выпадку, скрытны чалавек не бывае шчырым. І я не змагу паверыць словам мужа пра салярый, як бы хораша яны не гучалі.

— Я ведаю, як табе дапамагчы. Паехалі са мной. Ёсць адна ўтульная кватэрка ў ціхім месцы. Ключы ад яе ляжаць у маёй кішэні. Там няма салярыя, але ёсць выдатны начнік. Пры яго святле ты будзеш здавацца неверагодна прыгожай, а не проста прыгожай, як цяпер.

— Я не супраць. Толькі скажы, табе важна, каб пры святле начніка я прыгожа ляжала, ці проста ляжала, але ўжо без уключанага святла? Ты не падумай, я не зануда. Я люблю адносіны, калі ў іх суседнічаюць толк і парадак.

— Давай не будзем вось прама цяпер разважаць, як будзе потым. Павер, чым хутчэй паедзем, тым хутчэй зразумеем, як будзе нам лепш насамрэч.

Абняўшыся, мы выйшлі на вуліцу. Саджу сяброўку ў таксі. Яна ўжо сукенку падбірае, каб сесці, нічога не зашчаміўшы, як раптам, адкуль ні вазьміся, выскоквае звар'яцелая цётка, тузае дзяўчыну за рукаў і з дзікім крыкам: «Марына, ты зусім ахранела! Цябе муж дома чакае!» — цягне маю сяброўку ў іншую машыну.

Я ў ступары. Але пераадолеўшы імгненную разгубленасць, паспяваю спытаць у цёткі:

— Ты хто такая?

— Цешча мужа гэтай дурніцы!

Тут я па-сапраўднаму прыфігеў.

— Ко-ля! — гэта Лена нагадала пра сябе, скончыўшы мыць каструлю. — Пра свае прыгоды распавядай, калі мяне няма дома.

Ад нечаканасці я папярхнуўся чаем, а Мікалай перакуліў шклянку.

— Якія прыгоды, Лена?! Як табе такое ў галаву магло прыйсці?! Ты выдатна ведаеш, што Дзімон — філолаг, і прыйшоў да мяне пагаварыць пра няправільныя дзеясловы ў нямецкай мове. Нямецкая мова — нашае з ім захапленне, якому мы прысвячаем увесь вольны час.

— Няправільныя дзеясловы нямецкай мовы — твая слабасць. Калі ты пра іх гаворыш, твае вочы маслянеюць.

Лена, не саромеючыся мяне, ператваралася ў мегеру. Гэта быў вельмі дрэнны знак. Коля занерваваўся і шапнуў мне на вуха па-мангольску:

— Якая шэльма! Наскрозь бачыць. Ні халеры ў мовах не кеміць, а ўсё зразумела. Што рабіць?! Што рабіць?! У засені прыгожых, квітнеючых дзяўчын цяжка заставацца святым. І чым маладзей знаходзіш сяброўку, тым менш застаецца часу на ўсе астатнія справы. Дзімон, мне капец!

— Коля, не здавайся! — заблытваючы Ленку, я перайшоў на фарсі. — Панікаваць — доля слабакоў. З такой пранічлівай жонкай трэба быць удвая асцярожным. Нават калі яна здолела цябе з кімсьці застукаць, адмаўляй відавочнае. Усё адмаўляй! Галоўнае, калі будзеш апранацца ў спешцы, не пераблытай трусы. Апынуцца перад жонкай у чужых карункавых панталончыках — не лепшы спосаб доказу сваёй вернасці.

— У спешцы не заўважыш, як у чужыя трусы ўлезеш!

— Калі ўсё ж на табе аказаліся жаночыя трусікі і цябе збіраюцца з'есці з трыбухамі, памятай: у з'едзенага заўсёды ёсць два выйсця! І пляваць, што яны не эстэтычныя. Коля, нешта мне твая жонка зусім перастала падабацца. Яе рука пацягнулася да сервізных талерак. Разаб'е ўвесь посуд, бля буду! Жаночая помста хоць і асэнсаваная, але бязлітасная.

— Не кіпешуй! — скрозь сціснутыя вусны прашаптаў Мікалай па-ірландску. — У мяне даўно ўвесь посуд на кухні пластыкавы. Шматскандальны. Хай пару выпусціць. Перагрэў небяспечны для здароўя.

Калі Лена выйшла, Коля ўстаў з-за стала і падышоў да кухоннай ракавіны. У ёй ляжала гара брудных талерак.

— Коля, ты што задумаў? — здзівіўся я. — А як жа твой цвёрды прынцып падзелу абавязкаў па дому?

— Нармальна, усё нармальна, стары! Чуў, у спальні бразнула жалеза? Гэта Лена сейф адкрыла, у якім захоўваецца мая стрэльба. А калі верыць судовай статыстыцы, то яшчэ ніводная жонка не застрэліла мужа, які мые посуд на кухні. Муж, які правініўся, лічыцца самай карыснай рэччу ў хатняй гаспадарцы. Пазбаўляцца ад такой рэчы — найвялікшае глупства і нонсэнс.

# Універмаг

У жыцці сапраўднага мужчыны заўсёды знойдзецца месца для ўчынкаў і прыгод. Дзякуючы ім ён дабіваецца і губляе, набывае і не прымае, часова адступае, але непазбежна перамагае, хоць і не разумее, у чым сэнс чарговай перамогі. Тое, што перамога павінна ісці за перамогай, я падсвядома разумеў. Праўда, чарада няўдач моцна пахіснула веру ў непазбежнасць перамог наступных. Хацелася перамен, хацелася змяніць жыццё да лепшага, але страх новай паразы стрыножыў мяне, быццам каня на выпасе.

Прысеўшы за столік у любімай кавярні, я дастаў прызапашаную бутэльку кефіру і наўгад раскрыў часопіс з лысым мужыком на вокладцы. Часопіс прыязна падміргнуў фразай: «Калі хочаш знайсці прасвет у нечым беспрасветным, выцягні з чорнага палатна хоць адну каляровую нітку. Не сумнявайся, яна там ёсць, толькі трэба захацець убачыць яе».

— Трэба захацець убачыць яе! — зачаравана прашаптаў я і адчуў, як прыадчынілася глыбінная праўда, глыбей якой не даводзілася бываць.

Пасля парачкі сутаргавых глыткоў кефіру захацелася рызыкнуць і напоўніцу спазнаць салanaваты прысмак поспеху. Неверагоднае пачуццё непасрэднасці ў перапоўненай кавярні станавілася для мяне гэткім жа натуральным, як сонцу ззяць, а вадзе быць мокрай. Зараз я мог



смела глядзець поўнымі іроніі вачыма на людзей, якія елі смачную, але бескарысную ежу.

— Наколькі дробныя іхнія патрэбы! — прашаптаў я і ў душы заганарыўся сабой.

— Кефірышся?! — дзюбнула рэзкае слова ў маё безабароннае цемечка. Так груба паводзіць сябе ў грэшным свеце дазваляла сабе толькі грэшніца Жана. Хто б сумняваўся, што пасля ўчорашняй імпрэзы я змагу пазбегнуць новай сустрэчы з ёй. Жана, не цырымонячыся, уселася за столік, як быццам мела вечнае права пераследваць мяне заўсёды і ўсюды.

— Хачу з табой сур'ёзна пагаварыць, — яе словы не абяцалі нічога добрага.

— Жана, давай іншым разам, — без надзеі на літасць папрасіў я. — Каюся ў зробленым і нічога больш да гэтага дадаць не магу. Ка-ю-ся!

Так ужо сталася, што ўчора вечарам я прыйшоў на дзень нараджэння Жанінай мамы раней за ўсіх астатніх гасцей. Паколькі я насіў нясмелы пушок на румяных шчоках, то наіўна меркаваў, што нам з Жанай хопіць часу і на прэлюдыю, і на адведзеныя прыродай пятнаццаць незабыўных фрыкцый. Ахвяра неўтаймаванай фантазіі! Жаніна любоўнае «о-ёёё» абудзіла не толькі яе мамулю, якая драмала ў суседнім пакоі, але і суседскую бабцю, што жыве паверхам вышэй.

Разбуджаная маці, спахапіўшыся, паклікала да стала. У вітальні намаляваліся першыя госці. У гасцінную я бадзёра ўвайшоў басанож.

— Босым і за стол — гэта нонсэнс, малады чалавек. Паважайце прысутных! — павучальным тонам зрабіла заўвагу Жанкіна мама.

— Жана! — шапчу сяброўцы на вуха. — Я зняў шкарпэткі перад сэксам, як ты таго хацела, і не паспеў іх надзець. Твая мама пагнала нас

да стала хутчэй, чым я змог успомніць, дзе яны ляжаць.

— Не чапляйся да мамы. Лепш падкасай рукавы пінжака і пакажы ёй свае запанкі. Яна адразу зразумее, што мае справу з культурным чалавекам. І давай адразу дамовімся: на канапе, куды нас з табою пасадзяць, абыдземся без тамленняў, хаценняў і іншых жарсцяў. Маміны госці — высокамаральныя людзі.

Пасля пары выпітых кілішкаў вішнёвай наліўкі нейкі стары з коратка падстрыжанай барodкай палез да мяне з пытаннем:

— Дык вы і ёсць той самы Жаначкін малады чалавек?

— Так, я для Жаначкі вельмі малады чалавек.

Жана балюча ўшчыкнула мяне за бядро. Ёй не спадабаўся тон, якім я нагадаў пра розніцу ва ўзросце.

— Палітыкай цікавіцеся? — не думаў адчапляцца ўедлівы барадач.

— У той меры, наколькі палітыка цікавіцца мной.

— Вонкавая палітыка — барацьба за пашырэнне свабоды ў свеце, — панесла падвыпіўшага гаваруна. — У гэтых адносінах я паважаю «дзядзьку Сэма». Дзе ён, па-вашаму, мае намер паклапаціцца аб свабодзе гэтым разам?

— Адказ відавочны і не патрабуе вялікага розуму. Амерыкосы стаяць за свабоду не там, дзе яна пакутуе, а там, дзе ёсць вялікая нафта. Гэта нахабная палітыка. Патрэбна нафта — нападуць на любую краіну. Калі ім спатрэбяцца гарэлка і валёнкі, не мінуць і нам з імі бойні. Амерыканцам сумна жыць адным за акіянам. Індзейцы даўно не псуюць ім кроў і папярок горла косткай не стаяць. Затое авантуры, здольныя ўзбударажыць свет, выдатна разыграюць.



Дакучлівы стары не супакойваўся. Каб неяк ад яго пазбавіцца, я з азартам падсеў на гарэлку, мяркуючы, што яму за мной не ўгнацца. Так, у рэшце рэшт, і атрымалася.

Дапіўшы свой кефір, я паглядзеў на Жану закаханымі вачыма. Дзяўчыну, як і мастака, пакрыўдзіць лёгка. Але зачэплены за жывое мастак быў мне па-барабане. Затое сяброўка магла не раз спатрэбіцца, і сур'ёзна яе крыўдзіць не ўваходзіла ў мае планы.

— Жана! Прабач за свінскі ўчынак на дне нараджэння тваёй мамы. Юны арганізм не ўправіўся з гарэлкай. П'яны, я перастаў сябе кантраляваць і перакуліў на сукенку мамы салатніцу, чырвонае віно і торт. Зваліўшыся зверху, я даеў торт, пакінуўшы гасцей без салодкага.

— Добра, праехалі. Я хачу табе сказаць тое, што павінна была даўно сказаць. Прозвішча ў цябе нейкая дурнаватае — Пленкін.

— Прозвішча ў мяне з вялікім мінулым, і я ім ганаруся. Сваю гісторыю яно вядзе ад салдата войска Банапарта, сасланага рускім царом за Урал. Ад слова «плен» і прозвішча Пленкін. Добра, Жана, мне трэба ісці. Хачу ва ўнівермагу сувеніры купіць. Еду ў Францыю — сваякі адшукаліся.

— Вазьмі мяне з сабой! Я даўно мару пабываць у Парыжы.

— Калі б маё прозвішча табе падыходзіла, узяў бы, чэснае слова.

— Учарашнія першыя пятнаццаць секунд цяжарнасці мяне проста ўзрушылі! — зрабіла яна нязграбную спробу ўтрымаць мяне.

— Не трэба хлусіць, Жана! Ты не цяжарная. Я заўсёды чахлюся, калі кладуся з табой. І не хлопай вейкамі па шчоках, не душы з мяне жаль.

Калі і выпаўзе з тваіх вачэй сляза, я не паверу ў яе шчырасць. Ты ўся наскрозь хлуслівая. Я даўно гэта зразумеў. Але паколькі не меў адпаведнай замены, то не спяшаўся кідаць цябе.

— Ублюдак! — усклікнула сяброўка, не клапоцячыся пра аргументы.

Я сыходзіў са шчаслівай усмешкай на твары. Не думаў, што так лёгка сыдзе з рук учарашняе маё свінства.

— Запомні! — крыкула ўслед Жана, быццам кінула кінжал. — Я больш ніколі не раздзялю з табой падушку. Ні-ко-лі!

Яе катэгарычнае «ніколі» прагучала як «хоць раз, але напэўна раздзялю». Гэта давала нейкую надзею на новую інтымную сустрэчу.

— Жана, не губляйся! — бадзёра ўсклікнуў я. — Аўра Парыжа спрыяе рамантычнаму сэксу.

У прыпаднятым настроі я пайшоў ва ўнівермаг купляць чырвоныя трусы. Мая мама замучыла роспытамі: «Міша! Адкуль у цябе на трусах чырвоная памада?»

Мама даўно марыла знайсці мне жонку. Я ж пачуваўся моцна недавыгуляным. Нават самая клапатлівая жонка наўрад ці загасіла б гэтае адчуванне яшчэ добры дзясятак гадоў.

На паверхах універмага ішоў дзікі распродаж еўрасаюзнага барахла. Людзі куплялі непатрэбныя рэчы па цане, перад якой проста немагчыма выстаяць. Праціснуцца да прылаўка было неверагодна складана. Але дзёрзкасць і настойлівасць нязменна мяне выбаўлялі. Злавіўшы погляд сімпатычнай прадаўшчыцы, я даверна шапнуў:

— У вас трусы ёсць?

Красуня збянтэжылася, але памацаўшы сябе, супакоілася.

— Ёсць! Але вельмі вузенькія.



— Мяне цікавяць не вашы трусікі, а тыя, што для продажу. Хачу нашанскія, колеру мака.

— Чакаем ад «Сіцец-Інтэрнейшэнал», — і прадаўшчыца па-свойску падміргнула.

Пасля падобнай шчырасці мне перахацелася адыходзіць з пустымі рукамі.

— Прадайце што-небудзь добраму чалавеку.

— Добрым людзям прадаём усё тое самае, што і дрэнным. Рэкамендую чорны серпанцін. Зручная рэч на карнавалах, вечарынках, пахаваннях.

— Серпанцін трусы не заменіць!

— Малады чалавек, не будзьце такім нахабным. Раз прапаную, значыць бярыце. Трусы чакаем. Забягайце, — і яна какетліва паглядзела ў вочы іншаму пакупніку.

Рабіць няма чаго, прыйдзецца рэгулярна хадзіць ва ўнівермаг, як у піўную. Чартыхаючыся, стаў прадзірацца да выйсця. Вакол злосна булькатала людская паводка. Куплялі ўсё, на што хапала грошай. За мной, як за людаколам, увязалася маладая мама з хлапчуком гадоў трох. У гэтай неверагоднай цісканіне затаптаць непрыкметнага хлапца — раз плюнуць. Падхопліваю малога на рукі, а той, не доўга думаючы, абвіў маю шыю рукамі. Знайшоўся добразычлівец, які голасна пракрычаў:

— Грамадзяне! Не прыце. Сумленне майце. Тут татка з дзіцём! Абодва яшчэ зусім маладзенькія.

— Ура! — закрычаў хлапчук. — Мой тата знайшоўся!

Жанчына ўсміхнулася і, удзячна кіўнуўшы галавой за сына, яшчэ мацней прыціснула да грудзей каробкі з пакупкамі.

Затое народ, які нібыта вырашыў пазбавіцца ад грашовага неліквіду напярэдадні канца

свету, пёр, аж дзверы трашчалі. Мужыкі мацюкаліся горш за баб, а бабы — горш за партовых грузчыкаў. Стала ясна: ніхто не дасць сябе аб'ягорыць, ніхто не дасць сябе абхаміць. Заўважаю ў людскім патоку Рызінкіну Свету — калегу, з якой не атрымалася блізкага сяброўства. Праўда, так хутка з ёй размінуліся, што нават з'едлівым словам не паспелі перакінуцца. Адно апякла мяне гарачым позіркам, поўным жаночай цікаўнасці і здзіўлення. Вырашыў не надаваць вялікага значэння гэтай падзеі. Ва ўнівермагу ад цэннікаў на таварах не тое што вочы з арбіты вылезуць, але і сэрца з грудзіны выскачыць, а рука, якая сціскае ў кішэні гатоўку, ніколі не расціснецца.

Пра Светку хутка забыўся. Гонар перапоўніў мяне, што дапамог незнаёмым людзям. Дробязь, а прыемна. Але пра тое, што за дробнай радасцю заўсёды хаваецца вялікая непрыемнасць, тупа забыўся.

— Навошта вы ў таўкатню з дзіцём палезлі? — з дакорам пытаю маладую маму.

— З сынам усюды разам хаджу. Пяць гадоў як мужа пахавала. Трохгадовы Коленька — адна мая радасць.

— Лічбы ў вашай арыфметыцы не стыкуюцца. Мужа пяць гадоў як няма, а сыночак трохгадовы!

— Сама не разумею, як магло такое здарыцца. Хоць школу з адрозненнем скончыла і ў інстытуце без «хвастоў» вучылася. Давайце я вас пацалую за ваш клопат.

— Супраць пацалунку нічога не маю. Толькі калі цалаваць будзеце, моцна рукамі за вушы мяне трымайце.

— Навошта?



— Калі чужыя рукі ўгары, мне спакайней цалавацца. На адной вечарынцы неяк пацалавалі — і кашалька ў кішэні не стала, — кажучы гэта, я з немалой цікаўнасцю, нібы пчаляр у вулей, зазірнуў у яе дэкальтэ. — Перш чым будзем цалавацца, скажыце шчыра, вашы грудзі сапраўдныя ці сінцепон у станік напхалі?

— Сапраўдныя. Мае грудзі ўсе заўважаюць. А я люблю свае добрыя якасці падкрэсліваць. Інакш навошта патрэбныя гэтыя самыя добрыя якасці?!

У разгар мілай, але пустой гутаркі натыкаецца на нашу прыемную ва ўсіх адносінах троіцу Пал Палыч Самарокаў, мой начальнік аддзела.

— Пленкін, чым гэта каля вас пахне? — не любіць начальнік, калі пахне не ад яго.

— Гэта я ў штонікі накакаў ад радасці, што мой татка знайшоўся, — і малы яшчэ мацней прыціснуўся да мяне.

Палычу б усміхнуцца, а ён прамыкаў нешта неразборлівае, галавой тузануў, адышоў убок і згубіўся ў натоўпе.

У панядзелак раніцай Пал Палыч, наш клапатлівы «Карабас Барабас», нечакана выклікаў да сябе. У кабінет да яго ўваходзіш, быццам басанож на распаленую патэльню стаць збіраешся: ніколі не вядома, ці па шапцы атрымаеш, ці нейкая справа тэрміновая цябе чакае. Зрэшты, і ў першым, і ў другім выпадку прыемнага мала.

— Ці разумееш ты, што сваімі паводзінамі пагаршаеш абстановачку ў калектыве? — адразу ўзяўся свідраваць мяне сваім магічным прыжмурваннем Самарокаў. — Непрыгожыя, Міхаіл, штукі вырабляеш.

— Нічога я не бляю, Пал Палыч!

глядзеў! — не абышлося і ў гэты раз без дакору. — Прыйду, а выпіць няма з кім!»

Я не арганізатарка забаў і не абавязана мужу сабутэльнікаў шукаць. Калі яму не спадабаліся мае тупыя і брыдкія сяброўкі, я завяла прыгожых і разумных сяброў. Зараз ён маіх сяброў па ўсіх закутках кватэры шукае. Я не супраць, хай шукае. Але раз узяўся шукаць, то прынось адначасова карысць: падлогу падмяці, пыл вытры, смецце вынесі.

— Грышаня! — спакойненька яму кажу. — Калі дзе смецце заўважыш, не палянуйся сабраць і выкінуць.

— Ты што! — скрыгоча ён зубамі. — У мяне справаў больш, чым тапаляў у парку. Канапа неляжаная цэлы дзень прастаяла. Піва недапітае на стале кісне.

— Піць і ляжаць — тваё права, на якое я не замахваюся. Але скажы мне, калі ласка, якой жывёлай ты б хацеў стаць у наступным жыцці?

— Сабакам, канешне, тут і думаць няма чаго.

— Значыць, мяняць нічога ў сабе не хочаш?

У адказ муж запусціў тапкам, ледзьве вывернулася. Калі ў Грышані няма настрою, сінякі з мяне тыдзень не сходзяць. Атрымаць на свята фінгал не хацелася, вось і выскачыла за дзверы. Але мерзнуць у пад'ездзе — прамая дарога да насмарку. На маё шчасце дзверы ў вашу кватэру былі прыадчынены. Пабуду ў вас, пакуль мой Патапыч супакоіцца. Акрамя мяне, яму няма з кім Новы год сустракаць. Адна я ведаю, дзе гарэлка схавана. Чым даўжэй з Грышанем жыву, тым выразней разумею: дзіўная штука — жыццё. Прачнешся раніцай — настрой баявы, вясёлы, здаецца, усіх мужчын пакахаць гатовая. Але як вечарам з працы дахаты прыпаўзеш, мужа не тое, што кахаць, бачыць не хочацца. А муж думае, калі ў загсе са мной распісаўся, дык я яму жонкай адразу стала.

— Трындзелка! — зморшчыўся Кайманаў і ўткнуўся ў рукапіс.

Пустая балбатня Валюхі прынесла Бенедыкту расчараванне. Увесь дзень ён чакаў сустрэчы з нейкім асаблівым словам — палкаводцам чалавечай думкі, а дачакаўся Валькіных слоўцаў, недарэчных, як паходка пасля зарплаты.

— Усё ў цябе, Валюша, будзе добра. Хутка Новы год! Пацерпіш пару гадзінак, чокнецеся келіхамі з Грышанем, знікне пад перазвон курантаў горкая бязладзіца і наступіць небывалая палёгка. А я буду вячэраць са свечкамі — праводзіць рамантычнае лячэнне даўняга гемарою.

Сваім віншаваннем пісьменнік спадзяваўся адправіць Валюшку дадому. Бавіць час перад Новым годам у кампаніі гаварлівай суседкі — занятак малапрыемны.

Новы год! Кайманаў з дзяцінства любіў гэтае свята. Пацешныя мульцікі, пах елкі ў кватэры, скрынка з акуратна раскладзенымі ў ваце цацкамі, столькі ўсяго смачнага на стале і доўгая, амаль бясконцая ноч каля экрана тэлевізара. 31 снежня ў паветры лунала няўлоўнае адчуванне нечага новага, светлага, свежага, дражнячы чаканнем, што вось-вось здарыцца сапраўдны цуд. Здавалася, як толькі на гадзінніку праб'е дванаццаць, адразу стане так добра, як ніколі не было. І тое, чаго так чакаў, сапраўды прыходзіла, і ўсё было класна і весела. Але ўжо раніцай наступнага дня хвалюючае пачуццё астывала і, крэкчучы, укладвалася спаць да наступнага года.

З узростам дзіўнае адчуванне надыходзячай урачыстасці прыходзіла да Кайманава ўсё ра-

дзей і радзей. Творчыя клопаты адбіралі занадта шмат часу. Затое абрыдлая адзінота і несусветная туга, назапашаная за год, выядалі нутро.

Іншым разам Кайманаў пачаставаў бы Валюшку чарачкай вішнёвага лікёру, але сёння ён цэлы вечар жыў чаканнем умоўнага стуку ў сцяну. Бенедыкту страшэнна падабалася жанчына, якая жыла за сцяной у суседняй кватэры. Яна ўварвалася ў ягонае жыццё, нібы шызая галубка ў расчыненае кухоннае акно. Кожны вечар з вялікім хваляваннем ён стукаў косткамі пальцаў: тукі-тукі-тукі-тук. У адказ глуха даносілася: тук-тук-туці-туці-тук. Просценькая гульня ў «туцці-туку» не памяншала і не павялічвала таго, за што лёгка куплялася ўсё ў гэтым свеце. Але затое прыносіла непадробную радасць быцця, натхняла на творчы пошук.

Заснуць пасля душэўнага перастуку Кайманаву замінালі шалёныя думкі. Шчаслівае прыплюшчыўшы вочы і напяваючы «калі б котцы крылы даць, салаўёў нам не відаць...», ён паварочваўся ўсёй сваёй існасцю ў бок уяўнай суседкі, але існасць тупа ўпіралася ў сцяну. Кайманаў злаваўся:

— Каб на цябе халера, бяздушная перашкода! Жанюся! Абавязкова жанюся! Няма сіл сябе мучыць.

Але на гадзінніку была палова трэцяй ночы — не самы, зразумела, зручны час для жаніцьбы. Пачуцці, якія захлёстваліі, гасіліся старым халасцяцкім спосабам: пад хвацкае «рукі ёсць — няма самоты!» Кайманаў прыціскаўся жыватом колеру свежай вяндліны да сцяны і ў неапісальным захапленні ласкава гладзіў яе, шукаючы няроўнасці, уласцівыя геаметрыі жаночага цела. Здавалася, пачуццям не хапала зусім нейкай драбніцы, каб сцяна павалілася і два закаханыя сэрцы знайшлі адно аднога. Аскепак сцяны, пастаўлены за халоднае шкло серванта, быў бы потым маўклівым напамінкам былога, не самага лепшага часу.

— Прабач, Валюша, — падпіхнуў Кайманаў няпрошаную госцю да дзвярэй, — 31 снежня вось-вось міне, а падарункі не набыты, кватэра не прыбрана, елкі няма і ў госці ніхто не кліча.

— Ой, не выдушвайце з мяне слязу! Можна падумаць, вы зараз ламанецеся ў краму купляць падарункі. Падарунак — гэта я. Магу елкай трохі пастаяць. Я елка не пераборлівая: бачыць бардак у халасцяцкіх кватэрах мне не раз даводзілася. Ваш просценькі, але сімпатычны бардачок нават інтымныя думкі мне навеяў.

— Павер, не да інтыму мне, нават каб замест цябе зараз з'явілася сама Джэніфер Лопэс. Выдавецтва шалее, патрабуючы новы раман, а ў мяне канцоўка не вяжацца. Напартачыў, і зараз прыйдзецца ўсю навагоднюю ноч партацтва сваё выпраўляць. Раман павінен атрымацца ёмістым. Даўно збіраўся стварыць нешта эпахальнае, гучнае, вечнае. Хочацца па-сапраўднаму натаптаць у літаратуры, паказаць сябе літаратурнай постаццю з вялікай літары.

— Раман напісаць — не каструлю баршча зварыць. Я ліст пішу — мучуся, а вы на таўшчэзны раман замахнуліся. Хоць намякніце, пра што ваш раманчык, — і Валюха ўхапілася за дзвярны касяк, не даючы выпхнуць сябе вонкі, — задавольце жаночую цікаўнасць. Мяне няпроста выставіць за дзверы, калі я таго не жадаю.

— Раман мой пра серыйнага забойцу. Напаўмістычныя жыхары дзіўнага дома адзін за адным гінуць, атрымліваючы ў цемры нажавыя ўдары. Маньяк прызнае толькі два варыянты адказу

на любое пытанне: «так» альбо «не». Што для ахвяры азначае смерць альбо жахлівую смерць. Цяпер пачну ажыўляць бабульку. Аднак, перш чым мой герой зварыць эліксір жыцця, яму трэба тую бабульку забіць. У рамане вялікую ролю адыгрываюць нечаканыя сюжэтныя павароты, якія да апошняй старонкі трымаюць чытача ў напружанні.

— І вам не страшна пісаць па начах падобныя жахі?

— Пасля першых радкоў і некалькіх чарак каньяку страх знікае. Сюжэт настолькі захаплівае, што не заўважаеш, як сам становішся яго часткай. Міжвольна ў рамане ўзнікае падтэксцік. Нібыта пішаш пра адно, а думаеш пра іншае. Так заблытваюцца матывы злачынства і цяжка зразумець, хто забойца, не дачытаўшы кнігу да канца. Бязлітасна біць страхам чытача проста ў лоб — маё літаратурнае крэда.

— Проста ў лоб — гэта балюча. Па сабе ведаю.

— Нельга, даражэнькая, па ілбе і без болю! Я, дзетка, фальшыўкі не пішу. Паводле задумы, страх і жах наводзяць у доме акрабахнутые чальцы таемнага «Клуба вясёлых і знаходлівых акрабатаў», якія падпільноўваюць сваіх ахвяраў у цесных лесвічных пралётах.

— Ваш хорар мяне напалохаў, і цяпер мне страшна выходзіць на лесвіцу. Хутчэй рассмяшыце мяне. Я не магу з перакошаным ад жаху тварам вяртацца да Грышані. Мала пра што ён можа падумаць. Мне страшна! А калі мне страшна, магу вытварыць што заўгодна. Нават застацца ў вас на ўсю ноч.

— Мне, мілая, і без цябе сумна, а з табой вясялей дакладна не будзе.



— Ха! Ваш сум — глупства ў параўнанні з маім! Скажу па сакрэце: я цяжарная. Хвіліннае памутненне розуму абышлося мне дорага. Прыгажун Вальдэмар запрасіў у чыюсьці пустую кватэру. Рыхтуючыся да сустрэчы, амаль цэлую ноч перашывала сукенку на модны лад. Але Вальдзік так хутка агаліў мяне, што дарма старалася. Вальдэмар горача шаптаў словы кахання, томна чытаў вершы, а мне было горка ад думкі, што і ў гэты раз прыйдзецца старацца ў пасцелі за дваіх. Вядома, я прабачу яму сваю цяжарнасць, але крыўдна. Для каго, пытаецца, перакройвала сукенку, калі ён гэтую сукенку на мне не заўважыў. Разззлуюся і патэлефаную! Хай рыхтуецца стаць таткам. Не мусіць Грышаня адзін за ўсіх лямку цягнуць Хай і Вальдэмарава сэрцайка ёкне ў Навагоднюю ноч. Вам таксама з уласцівай мне шчырасцю скажу: кіньце сваіх маньякаў, яны да дабра не давядуць. Лепш напішыце: калі, дзе, з кім і як дакладна можна і калі, дзе, з кім і як дакладна нельга. Пісьменнік павінны вучыць людзей жыць. На тое ён і пісьменнік.

— Дзіўная ты, Валюша. Ходзіш цяжарыць да іншых, дзярэш ім на лапікі спіны, а суцяшэнне шукаеш у размове са мной.

— Толькі не трэба натацый. Не марнуйце свята. Мне з вамі прыемна пагаварыць. З разумным чалавекам не абавязкова прыкідвацца апошняй дурніцай. А цяпер мне проста трэба забіць дзве гадзіны да Новага года, бо чаканне свята ў кампаніі Грышані заб'е ўва мне веру сустрэць калі-небудзь свайго дабрадзея. Рассмяшыце жанчыну, хоць буду ведаць, што нездарма да вас заходзіла. Цяжарнай адмаўляць нельга, інакш мышы згрызуць ваш рукапіс.

— Цур цябе! — адмахнуўся Кайманаў, але своечасова ўспомніў народную мудрасць: не сварыся з тым, хто цябе корміць. Валя працавала ў вядомай супермоднай кавярні «На, кося, выкусі». Там нахабнага кліента не пашлюць на тры літары і не выставяць сілком. Але хто ведае, чым заправяць біфштэкс, які запатрабуеш нанова перасмажыць.

— Валя, папярэджваю, гумар — справа тонкая і далікатная. Мышам не дадзена зразумець гумар котак, а коткам гумар сабак. Але ты сама напрасілася. Помніш Палякова? Ён часам абедае са мной у вашай кавярні. Учора заходзіў да яго. Небарака ўвесь у гіпсе. Урэзаўся ў рог дома.

— Божа мой! Які жах! — уся сцяўшыся, як той камочак, Валюша прысела на пуфік. — Няўжо ён ушчэнт разбіў сваю шыкоўную тачку. Хто?! Хто зараз адвязе мяне да Вальдэмара?

— Яго тачка цэлая. Палякоў вяртаўся з банкета п'яны ў дрыбадан пешшу.

Рагатнуўшы, Кайманаў, даў зразумець Валюшцы, што настаў час смяяцца.

— Хіба гэта смешна, калі чалавеку балюча? — і Валя сумнымі вачыма паглядзела на Кайманава.

— Можа, ты і маеш рацыю. Дакладней, не можа, а сапраўды маеш. Нават не ведаю, што табе яшчэ распавесці па-сапраўднаму смешнае… Пляменнік знаёмага маёй любімай траурнай цётачкі — фізкультурнік. Дакладней, хадок, а яшчэ дакладней, хадзьбун. Пешшу ходзіць на вельмі доўгія дыстанцыі. Дзеля перамогі зрэзаў аднойчы частку шляху, і на пусташы яго пакусаў шалёны сабака. Сур'ёзна пакусаў. Прыйшлося выклікаць хуткую.

— Агаліце глютэус! — запатрабавала доктарка.



Спартсмен разгубіўся, не разумеючы, што ад яго хочуць.

— На вашым глютэусу пашкоджаны ўчасток! — намякнулі яму.

Разявак сабралася цэлая куча. Чакаюць, хіхікаючы, калі знакамітасць без трусоў застанецца. Зорка спорту без трусоў — відовішча для інтэрнэту! Хадзьбун учапіўся ў трусы, не жадаючы агаляцца. Прыйшлося рабіць укол праз матэрыю. Пакуль рабілі ўкол, пацярпелы склаў спіс ворагаў, якіх трэба будзе пакусаць, калі лякарства не падзейнічае.

Гледзячы на кіслую міну Валі, Кайманаў засумаваў. Хуценька пазбыцца госці не атрымлівалася.

— Пэўна, ты яшчэ не ведаеш, але ад нашага празаіка Пятра Балакірава сышла жонка.

— Сыход жонкі — не падстава для жартаў. Гэта драма, калі не трагедыя. Як Пётр Апанасавіч справіўся з нервамі?

— Толькі нядаўна супакоіўся. А першыя дні баяліся, што з глузду з'едзе ад радасці. Дарэчы, у маім новым рамане ёсць адно пацешнае месца. «Клуб вясёлых і знаходлівых акрабатаў» набыў аўтамат для галення. Устаўляеш галаву ў адтуліну — і дзве брытвы выгольваюць цябе налыса. Цяпер з лысай галавой модна хадзіць.

— Але ў кожнага чалавека непаўторная будова чэрапа!

— Да першага галення — так! Удалы жарт! Згодна са мной?

— Гэта больш падобна на здзек. Такой збачэнскай бязглуздзіцы мне яшчэ не даводзілася чуць. Калі маё патомства народзіцца са страшнай грымасай, вы будзеце ў гэтым вінаватыя.

— Пачакай. Вось выпадак проста з жыцця. Любачка, шаноўны наш рэдактар, моцна схуднела і стала падобнай на цыркуль.

— Як я яе разумею. Чытаючы раманы, падобныя на вашы, вельмі лёгка з квітнеючай жанчыны ператварыцца ў завялую.

— Не, не! Справа зусім не ў працы. Яна закахалася ў пісьменніка.

— Я ведаю Любачку. Яна п'е ў нас каву з марцыпанамі. Мне цяжка ўявіць, у каго з вашай пісьменніцкай брацii яна магла закахацца! У Любачкі шляхетная натура, вытанчаны густ. Не цягніце, кажыце хутчэй, хто гэты шчаслiўчык.

— Гэты шчаслiўчык я! Яна закахалася ў мяне.

— Не жартуеце так са мной! Магу нарадзiць неданошанае дзiця!

— Гэта не жарт, я сказаў чыстую праўду.

— Любачка закахалася ў вас!!! — i, схапіўшыся за жывот, Валя гучна рассмяялася.

— Вось яна, проза жыцця! — зажурыўся Кайманаў. — Каб рассмяшыць жанчыну, дастаткова сказаць праўду.

— Вам трэба вясёлыя кніжкі пісаць, а не губіць талент, прыдумваючы сюжэты пра забойства нявінных бабулек. Пайду да Грышкі. Спадзяюся, мой малахольны прывёў нервы ў парадак. У гэтым жыцці кожны кахае па-свойму. Вось і Куфацьева, ваша суседка, знайшла сваё шчасце, з'ехаўшы з егіпцянінам.

Кайманаў насцярожыўся. Куфацьева і была той жанчынай, з якой ён перастукваўся доўгімі зімовымі вечарамі. Аднак падрабязна распытваць пра суседку не стаў. Языкастай Валюшцы неабавязкова ведаць пра яго любоўныя інтарэсы.

Выправадзіўшы гаманкую госцю, Бенедыкт спахмурнеў тварам. Гадзіннік паказваў без чвэрці дванаццаць. Няўмольна насоўваўся Новы год. І раптам на душы ў Кайманава зрабілася лёгка-лёгка: пачулася жаданае «тук-тук-туці-туці-тук». Падбегшы да сцяны, ён бойка адстукаў у адказ: «туці-туці-туці-тук».

— Ашукала Валюшка. Нікуды мая «туцітукша» не з'ехала. Як гэта слаўна! — натхнёны Кайманаў падышоў да акна і доўга глядзеў на снежную бабу, якую дзеці зляпілі ў двары.

Раніцай пісьменнік выйшаў падыхаць свежым першастудзеньскім паветрам. Жаданне ўдыхнуць свежачка, як аказалася, было не толькі ў яго аднаго. Насустрач ішоў Сяргей Сідаравіч Куфацьеў.

— Сяргей Сідаравіч, з Новым годам! — павітаў суседа Кайманаў. — Куды па марозіку так рана бегалі?

— Ноччу выправаджваў Стары год, потым сустракаў Новы. Пасля падобных спраў адна дарога — у аптэку. 1 студзеня па старой традыцыі адзначаю дзень Святых Цытрамона і Аспірына. Новы год сустракаў адзін, а піць прыйшлося за ўсіх дамачадцаў. Дачка з'ехала. Ёю авалодала прага да змены мясцін. Хай едзе, падумаў я. Свет паглядзіць, сябе пакажа.

— Пачакайце, як з'ехала? — Кайманаву стала не па сабе. — А хто ў сценачку бліжэй да поўначы стукаў?

— Прабач, даражэнькі! Даўно хацеў перад табой павініцца. Самому стук абрыд. У Наташы ў пакоі трус жыве. Вось ён, пракляты, нуду праганяючы, ножкамі ў сцяну і тупаціць.

— Праклятыя аблавухі! — не стрымаўшыся, Кайманаў пнуў нагой снежны камяк.

— Ішоў бы ты, Бенедыкт Пятровіч, дахаты. Мароз мацнее, а ты, як я бачу, зусім рассапліваўся.

— Аспірын вам у дапамогу! А соплі ў мужчыны — не самая вялікая бяда. Кайманаў ніколі не плакаў, нават калі было вельмі балюча. Слёзы — прыкмета слабасці. Саромеючыся слёз, ён плакаў соплямі.

Ступаючы ў нікуды па рыпучым снезе і смаркаючыся ў хусціну, Бенедыкт бязлітасна лаяў самога сябе:

— Рассапліўся, як хлапчук! Пачуцці выставіў напаказ. Куды прасцей было б ціха «паплакаць» у порткі, а потым зайсці ў любы пад'езд і змяніць мокры памперс на сухі.



# Варажбіткі

Тры сяброўкі, зацюканыя вясновым авітамінозам, — Надзюшка, Верунчык і Любаша схаваліся ад дрэннага надвор'я ў Надзькінай кватэры. Пасядзець, патрындзець і душэўна расслабіцца за бутэлечкай таннага вінца. Запаслівая Любаша дастала з сумачкі кінжал і падрэзала каўбаскі на прыкусончык.

— Люба, адкуль у цябе такі афігенны нажышча? — здзівілася Надзюшка.

— Сп'яна купіла бутафорскі кінжал у буціку Мілана. У дадатак напхалі ў торбу кучу ўсякай астральнай фігні: свечкі, шчуп, маятнік, калоду карт. Зараз варожбам тыпу: любіць — не любіць, плюне — прыгалубіць, да сэрца прыхіне — нах пашле, не веру. Лёс, ён капрызны, а часам бязглузды. З ім толькі карты Ленарман справіцца могуць. У гэтых картах няма філасофскага дурману. Ёсць толькі кіраўніцтва да дзеяння. Такія вось хулі-люлі, дзяўчынкі мае.

Люба вываліла змесціва сумачкі на стол і варухнула шчупам карты. Задыміліся запаленыя Надзькай свечкі. Раскачагарыўся маятнік. Пры зашторaных вокнах адчуванне напаўзаючай містыкі скавала сяброўак. У Надзюшкі ажно трусы прыліплі да спацелага азадка, а Верунчык прыкусіла палец, намагаючыся ўрубіцца, што ёй чакаць ад Любашыных «хулей-люлей». Люба абвяла зачараваных сяброўак урачыстым позіркам і ўзяла ў рукі карты.

— Карта Сабакі. Сабака — сябар. Карта Мішкі. Мядзведзь — уладар. Карта Ліскі. Ліса — хітрасць. Надзя, дай фатаграфію нармальнага хлопца.

— Ты дзе, дурніца, у нашай глухмені нармальнага хлопца бачыла? Падкажы, пабягу аддамся, — заёрзала Верунчык. — Жабы на балоце лепш квакаюць, чым нашыя хлопцы спяваюць. З такімі кавалерамі азірнуцца не паспееш, як у дзверы радзільнага дома скрэбціся прыйдзецца. Прыгажэй за ўсіх кахаюць французы, мацней за ўсіх кахаюць немцы, хутчэй за ўсіх — трусы.

Шыкнуўшы на балбатушку, Надзюшка сарвала са сцяны каляндар з напаўголым Брэдам Пітам.

— Вось фотка сапраўднага амерыкен боя.

— Карты прымаюць твой выклік, — стала строгай Любаша, — але папярэджваюць: любоў аддаецца не кожнаму.

— Гэта твая асабістая справа, Люба! — усклікнула Верунчык і глынула віна. — Не хочаш аддавацца, знойдзецца іншая, якая дасць.

Не слухаючы сяброўку, Любаша расклала картачную калоду вакол кінжала.

— Карты дапамогуць пазбегнуць памылак у жыцці. Ліса — заслужаны звер рускіх казак. Яе хітрасць нам спатрэбіцца! — Люба старалася гаварыць спакойна і мудра.

— Ты, Любка, чокнулася?! — падарвалася Вера. — На Брэда варажыць будзеш?! Ён жа ў Галівудзе, шампунная твая галава! А мы дзе?! Ты хоць розніцу разумееш?

— Не бэ, Пятроўна! Уся наша сіла ў станіку! — упэўненасць гучала ў кожным Любашыным слове. Яна сціснула вусны і правяла пальцам па твары Брэда, набіраючыся «брэдовага» натхнення.



— Мялі, Апанас, цяпер твой час! — махнула рукой Верунчык і ўлупіла для адвагі шклянку віна.

— Мужа хочацца! — уздыхнула Надзюшка.

— Мне таксама! — не стрымалася захмялелая Вера. — Але яшчэ не ведаю, чый муж да мяне прыйдзе.

— Цсс! — прасіпела Любаша, водзячы рукамі над картамі. — Бачу закінуты шпальны завод і невыразны цень, які бадзяецца паміж развалін.

— Змрочнае месца. Там поскудзі ўсякай — відзьма-нявідзьма, — і Верка для адвагі кульнула яшчэ шклянку віна.

— Твой позірк пранізаў уміг, — зашаптала Любаша, — мяне, нібыта дошку цвік. Лаўлю ў вачах тваіх адказ, святло надзеі, сонца бляск. Ой, дзяўчаты! Да чаго валацуга да Брэда Піта падобны!

— Любаша, ты зрэнкі шырэй расплюшчы! — паддатая Верка не выбірала выразаў. — Можа, проста бомж пасцаць зайшоў?! Ці падкінуты ўблюдкамі трупец ажыў ад сілы магнетызму тваіх карт.

— Мура вашы здагадкі, — рашуча паднялася Надзя. — Фатаграфія мая, значыць і мне замоўлена дарога на шпальны завод.

— Не хадзі, Надзя! — адразу працверазела Верка. — Войкнуць не паспееш, як сарве неспадзяваны жлоб кветку задавальнення і кіне цябе на друз аргазміцца. Аліменты Любка няхай тады плаціць — яна гэтую чынчмуру задумала.

— Любаш, ты Верку не слухай. Яна ўжо бухая. Пакуль не вярнуся, рукі з карт не здымай. Хай астральная магія мяне абараняе.

— Калі вырашылася на стрэлку схадзіць, даведайся ў Брэдавага ценю, пачым грэх у Амерыцы. На сто пудоў мяркую, нам тут не даплочваюць, — і Вера тупа паглядзела на пустую шклянку.

Калі дзверы за Надзюшкай зачынілася, Верунчык злосна адчытала Любашу:

— Ты навошта, мля бесталковая, карты дастала?! Надзька свісне, і малойчык з «шампусікам» на парозе стаяць будзе. Такі дзень спаганіла чаканнем незразумела чаго.

— Сукня змятая, — не слухаючы сяброўку, тоненька заспявала Любаша, — у руках пятак. Дома мама чакае з лазінаю. Загудзіць спіна, горка стане мне. Зноў каханне ва ўсім вінавата-а-е! Ты за Надзьку не бойся, яна дзеўка ўдачлівая.

Надзюшку, якая любіла хадзіць па горадзе з партфелем у руках, лічылі дзейнай асобай. Зайздроснікі скрозь зубы цадзілі ёй услед: «Бізнэсвумэн!» Надзея і сапраўды была «вумнай» жанчынай. З гаўнюкамі ніколі не вадзілася і жыла ў раёне лепш за міліцыю.

Руіны завода сустрэлі адважную дзяўчыну аглушальнай цішынёй. Толькі ручай невыразна шаптаў аб нечым, струменячыся паміж камянёў. Вугальна-чорная варона, забыўшыся на свае птушыныя справы, скасіла вока і сачыла, як Надзюшка асцярожна ступае па бітай цэгле. Спінным мозгам дзяўчына адчула нечае ўпэўненае, з лёгкім нахабствам дыханне. Палахлівыя халодныя мурашкі сарваліся і разбегліся па ўсім яе целе.

— Пакажыся, хто тут хаваецца! — душачы страх, прахрыпела яна і адчайна сціснула кулакі, збіраючыся дорага за сябе ўзяць.

З вентыляцыйнай шахты саскочыў дужы, з выгляду абаяльны мужчына. Ён скамячыў у руках знятую футболку і з непрыстойнай цікаўнасцю стаў разглядаць Надзею.

«Перакачаўся скакун акрабахнуты, — мільганула ў Надзюшкінай галаве. — Такім грудзям



любая дзеўка пазайздросціць». Але наперакор думкам будзённа кінула:

— У вас шрам на жываце.

— Бандыт нажом парнуў у Омскім кабаку, — усміхнуўся малойчык. — А вы зоркая. Мне такія ў кіно патрэбныя. Я рэжысёр. Планую ў гэтым месцы натурныя здымкі для новай порнастужкі.

— Рэжысёр у порнастужцы?! Навошта ўвогуле ў порнастужках патрэбны рэжысёр?!

— Калі пагодзіцеся быць гераіняй порнастужкі і будзеце строга прытрымлівацца ўказанняў рэжысёра, гарантую вам фантастычны, зорны поспех.

— Кіношныя забаўкі мяне не хвалююць. Важнейшых спраў па завязку, — Надзюшка трымалася насцярожана. — Натуралісты бачылі ў тутэйшых камянях дзіўнае земнаводнае. Хачу яго злавіць і зрабіць зоркай майго жывога кутка.

— Вы любіце жывёл?

— Люблю ўсякае стварэнне! Асабліва такое, што ўмее поўзаць.

— Дык вось ён я, бяздомнае стварэнне, якое прагне любові. Вы верыце ў каханне з першага погляду?

— Веру і рэгулярна ім займаюся. Толькі нармальных мужычкоў для сапраўднага першапогляднага кахання мала засталося. Хоць у кожнай аптэцы ад віягры паліцы ломяцца. Як метэаролаг-самавучка магу да гэтага дадаць, што мужчына стаў падобным да снегападу: не ведаеш, калі прыйдзе, колькі ў яго сантыметраў і як доўга пратрымаецца.

— Не зусім вясёлая размова атрымліваецца. Таму прапаную павесяліцца з незнаёмцам у гэтым містычным месцы. Натуральна павесяліцца, без віягры і лінейкі.

— Варта мужыку ўбачыць прыгожую свабодную жанчыну, дык яму адразу падавай сэксуальныя ўцехі.

— Дык жанчыне, акрамя згаданых вамі ўцех, і прапанаваць мужчыну больш няма чаго.

— Ну, чаму ж… дарэчы, як вас завуць, незнаёмец?

— Арцём.

— Выдатнае імя. Вось мы і пазнаёміліся, Арцём. Інтрыга ў сэксе згублена. Незнаёмца больш няма.

— Танна я купіўся. Але і сярод знаёмых людзей узнікаюць адмысловыя трэнні, якія дасведчаныя людзі называюць фрыкцыямі. Буду з вамі адкрыты да канца. Сябры завуць мяне «Брэд Піт». У нас з Брэдам падобная будова чэрапа.

— А яшчэ вы чым-небудзь падобныя з Брэдам? — расхвалявалася здзіўленая Надзюшка.

— Усе мужчыны падобныя адзін да аднаго будовай цела. Проста ў кагосьці большы, у кагосьці таўсцейшы. Прабачце, у вас на правым воку ніжнія вейкі мацней нафарбаваныя, чым на левым.

— Кожная жанчына мае права на маленечкую асаблівасць, якая адрознівала б яе ад іншых жанчын.

Надзюшка ўсё больш і больш разумела, што Любашыны карты не хлусілі. Разуменне надало ёй адвагі. І калі Арцём асцярожна дакрануўся да яе грудзей, яна не вагаючыся, закінула ножку на яго сцягно і бессаромна паправіла панчоху пад спадніцай. Дзяўчына з уласцівай ёй шчырасцю проста нарывалася на прыемнасці. Выдраўшы парачку нахабных валасінак з ноздры, Арцём далікатна абняў дзяўчыну.

— Не бойся, рукі ў мяне чыстыя, я іх раніцай вымыў.



— З табой я нічога не баюся. І шкадаваць аб добрым альбо кепскім, якое са мной можа здарыцца, не буду. Маё жыццё пачынаецца тут і цяпер.

Усё, што ўзрушанай Надзюшцы прыходзіла ў галаву, тут жа бессаромна агучваў яе язык. Жаданне вярзці новаспечанаму кавалеру несусветную лухту ў самы непадыходны момант знаёмае любой дзяўчыне. І чым больш кавалер даспадобы, тым нястрымней гэтае жаданне.

— У цябе за спінай у пяці кроках дзіўныя дзверы. Думаю, за ёй хаваецца мой паўзучы скарб.

— Ды хопіць ужо глупства казаць, — усміхнуўся Арцём, і яго рукі слізганулі пад Надзькіну спадніцу.

— Каб гэтыя дзверы ўзламаць, патрэбны ломік, — Надзька каленкай упёрлася яму ў пахвіну і ўкусіла за плячо. — А лепш добры перфаратар.

— Дзіўная ты! — адступіў на крок Арцём. — То хвалююча стогнеш, то тыкаеш каленкай, то ледзь не пракусіла маё плячо. А менавіта цяпер табе невядома нашто спатрэбіліся дзверы.

— Укусіла цябе, каб зразумець, смачны ты ці не! Пачакай мяне тут. Я стралой злятаю за перфаратарам. Дачакайся мяне абавязкова. Прылячу і ўсё растлумачу, — і Надзюша, адпіхнуўшы Арцёма, кінулася з падскокам да варот завода.

Перфаратар Надзя знайшла ў знаёмых будаўнікоў. У тых пасля перакуру настаў час перакусу.

— Надзя, прысядзь з намі! Яблычкам пачастуйся.

— Спяшаюся, мае дарагія ахламончыкі! — адмахнулася Надзька ад назолаў. — Справу важную маю. Мне яшчэ дадому патрапіць трэба.

Перажытае знаёмства нагадала пра сябе моцным пачуццём голаду, з якім не было сэнсу змагацца. Час быў ні тое ні сёе, і кафэ аказалася зусім бязлюдным. Надзя паклала на крэсла торбу з велізарным наварочаным перфаратарам з бліскучай сталі і чорнага пластыка, узяла ў буфеце марожанае і ўселася за столік.

Калі ласуха даскрэбвала лыжачкай са шкляначкі рэшткі марожанага, у кафэ ўвайшоў мужчына. Надзеі хапіла васьмі секунд, каб ацаніць, на што ён мог бы спатрэбіцца. Падсвядомасць таропка падказала: гэты мужчына мог бы стацца добрым сэксуальным партнёрам.

Другі за дзень незнаёмец быў падобны… да льва, які згубіўся. Ён няўпэўнена зрабіў круг па пустым памяшканні, у замяшанні агледзеў рады столікаў і сустрэўся поглядам з Надзяй. Тая бадзёра падміргнула.

— Неверагоднае супадзенне, — загаварыў прабачлівым тонам «згублены леў». — Вы селі за той стол і на тое крэсла, дзе я тры апошнія дні п’ю шкляначку свежавыціснутага соку. Не маглі б вы перасесці. Справа ў тым, што я чалавек прывычкі.

— Без праблем! — і Надзька перасела на іншае крэсла.

— Уладлен! — галантна схіліў галаву ў паклоне «прывыкала».

— Лена! — зманіла Надзюшка, узмацняючы прыцягненне да сябе: «той, які валодае Ленай», ён абавязаны быў клюнуць на гэтую прынаду.

— Уладлен і Лена! Колькі сугучнасці ў нашых імёнах, — паслухмяна павеўся аматар соку.

Надзя закінула нагу за нагу, агаліўшы ажурную гумку на панчосе. Ён прыслабіў вузел гальштука. Яна расшпіліла два верхніх гузіка на блузцы.



— Раней я вас ніколі не сустракала, хоць горад наш раўнінны і ўсё ў ім навідавоку.

— Я працую на Чукотцы, а ў вас тут цяпло, ціха. Выдатнае месца для адпачынку.

— Вельмі холадна ў вашай Чукаланіі?

— Вельмі. Раніцай даводзіцца мыць рукі, не здымаючы рукавіц, — гаворачы, ён паклаў на край стала часопіс. З вокладкі на Надзюшку глядзелі вясёлыя вочы Брэда Піта.

«Што гэта: фатальная выпадковасць ці дэманічныя інтрыгі?» — разважала Надзя, калупаючы лыжачкай у пустой шклянцы. Яе блукаючы погляд упёрся ў далікатны мех валасоў на нагах чукотца. Валасы выбіваліся з-пад занадта кароткіх шкарпэтак. Кароткія шкарпэткі ў Надзюшкіным разуменні былі катастрофай. Надзюшка не пераварвала мужчын, якія абыякава адносяцца да свайго вонкавага выгляду.

— Што гэта за жахлівая штуковіна тырчыць з вашай торбы? — пытанне заспела Надзюшку знянацку. Надзюшка было памкнулася перасесці за іншы стол, каб не бачыць кудлатыя ногі Уладлена, але нешта шчоўкнула ў яе мазгах.

— Ты сапраўды не ведаеш, што гэта такое? Можа, ты і ў войску не служыў?

— Шчыра кажучы, адкасіў. Войска са сваімі страявымі замашкамі не ўпісалася ў маё разуменне жыццёвых каштоўнасцей.

«Ах, вось яно што! Затое кароткія шкарпэткі — твая сапраўдная жыццёвая каштоўнасць!» — ледзь не ляпнула верная сваёй шчырасці Надзюшка і, помсцячы за кароткія шкарпэткі, суха сказала:

— Гэта гранатамёт. Я захапіла кафэху. Закладнікі ў падсобцы. Зараз пад’едзе міліцыя. Будзем базарыць пра выкуп. У мяне кілаграм пла-

стыду на поясе. Бабахне — мала не пакажацца. Самае дрэннае, што ты сёння змог зрабіць, гэта апынуцца ў гэтым месцы ў гэтую гадзіну.

Надзюшка стамілася быць сур'ёзнай і гатовая была засмяяцца, але як на грэх, за вокнамі пачулася адчайнае выццё сірэны: «хуткая дапамога» прарывалася некуды па выкліку. Не выкарыстаць такое супадзенне было чыстым марнатраўствам.

— Вось і пад'ехалі. Зараз дамаўляцца будзем. А ты давай падымайся і ступай у падсобку да астатніх закладнікаў.

Не, Уладлен не зваліўся з крэсла. Ён толькі дзіўна захрыпеў, і яго галава адкінулася на плячо. Можа дзень быў спякотным, можа Уладлен меў багатае ўяўленне нароўні з высокім ціскам, можа яго даймаў хранічны стрэс, уласцівы сучасным дзелавым людзям. Гэтага Надзюшка не даведаецца ўжо ніколі. Страсянуўшы некалькі разоў змяклае цела Уладлена і зразумеўшы, што той не падае прыкметаў жыцця, яна спалохана завішчала, склікаючы персанал, які разбрыўся па кутах. Працэдуру аказання дапамогі Надзя назірала ад барнай стойкі. Убачыўшы, што Уладлен закруціў галавой, адмаўляючыся піць чарговую шклянку вады, хутка расплацілася і ўцякла, паміраючы ад згрызотаў сумлення і ўсведамлення ўласнай дурасці.

Выскачыўшы на вуліцу, дзяўчына ўціснулася ў аўтобус і ўцягнула за сабой торбу з перфаратарам. Усе пасажыры, як адзін, не міргаючы, утаропіліся ў Надзю і яе багаж.

— Божа мой! — спахапілася Надзюшка. У спешцы яна забылася зашпіліць гузікі, і грудзі неяк нешляхетна вылезлі вонкі. Кіроўца заглядзеўся ў люстэрка задняга віду на два заліхвацкія



бугаргі, што тырчэлі з-пад Надзінай блузкі, і наехаў на вуглаватую жалязяку. Спушчаным колам аўтобус уткнуўся у бардзюр.

— Ой, бабанькі, ды што ж гэта робіцца! — завішчала цётка, якая набіла добры гузак.

Надзюшка выпусціла торбу з перфаратарам. Торба ўпала на ногі хлопцу, які стаяў побач.

— Блін! Балюча! — завыў той і паглядзеў на Надзюшку з лютай нянавісцю.

— Наступі мне ў адказ, а то пасварымся, — падміргнула гарэза і выставіла акуратную ножку.

— Ды нічога страшнага! — палагаднеў хлопец. — Мне вясёлыя дзяўчыны да душы.

У трэці раз за дзень Надзюшку наведала здзіўленне. Яна ўспомніла, дзе бачыла гэтага тыпа. Увесь мінулы тыдзень горад бударажыла тэлевізійнае рэаліці-шоу «Я круцей за Брэда Піта». Народ стаміўся ад злых навін, і перадача своечасова падаспела. Надзюшкін спадарожнік неверагодным чынам выйграў самы прэстыжны конкурс! Ён здолеў без рук пасікаць ва ўнітаз так, што міма ніводная кропля не ўпала. Акрамя поўнага ўнітаза і чыстай падлогі нічога не паказалі, хоць многіх хвалявала прылада перамогі. Нібы наўмысна, нехта, выходзячы з аўтобуса, падпіхнуў Надзюшку, і тая прыціснулася сцягном да незнаёмца. Цікава, што той адрэагаваў належным чынам. «О-о-о! — Надзюшка адразу ацаніла памер часткі цела, які забяспечыў хлопцу перамогу ў конкурсе. — У яго гэтая самая штука занадта вялікая. З такой штуковінай зусім не да жартаў».

Надзюшка ведала мяжу сваіх магчымасцей. Так, маленькі мужчынскі сюрык — не падарунак багоў, і спрачацца з гэтым сцверджаннем няма сэнсу. Наўрад ці знойдзецца дзяўчына, якая пры-

харошваецца перад вечарынкай і марыць, каб лёс паслаў ёй кавалера з малюсенькім членам. Аднак маленькі пеніс усё ж лепшы, чым занадта вялікі. З маленькім можна займацца сэксам без траўмаў і целашкодніцтва.

Бугаю спадабалася прыціскацца да Надзеі.

— Гы-гы! Вязуха на мяне сёння з табой напала! Не супакоюся, пакуль не пакладу цябе ў ложак.

У аўтобусе даўно акрамя іх дваіх нікога не засталося. Толькі кіроўца нахабна падглядаў за парачкай. Яму было цікава, чым усё ў іх скончыцца. Надзя адчула, як моцная рука недвухсэнсоўна паціснула ёй азадак — адзін раз, другі. Схіліўшыся, назола з жарам зашаптаў ёй у самае вушка:

— Я ведаю ўтульнае месцейка. Там можна згуляць у більярдзік. У мяне моцны кіёк.

Надзюшка, злаўчыўшыся, вывярнулася з-пад бугая і адважна секанула:

— Адвалі, казёл! Сіліконавай штукай вырашыў мяне здзівіць?! Бачыла я і круцей! — І з усёй злосці, якая раптам успыхнула, яшчэ раз ляснула прыставучага гада па назе торбай з агрэгатам.

— Дурная! — завыў той ад болю. — Хай на цябе нападуць трусы і ўсю абгрызуць!

— А гэта бачыў?! — і дзяўчына, не цырымонячыся, памахала элегантна скручанай дуляй.

Да сябе ў кватэру Надзька ўварвалася як ураган, што змятае ўсё на сваім шляху.

— Ой, дзяўчынкі, ну якая ж я дурніца! Дурніца! Дурніца! Дурніца!

— Надзя, не дакарай сябе так. Можа, ён таго не варты!

— Варты, дзяўчаткі, варты! — і, зажмурыўшыся, яна прашаптала: — Ён такі-і!



Пачуўшы «такі-і», дзяўчаты засумавалі, а засумаваўшы, пашкадавалі, што не рызыкнулі прагуляцца да развалін шпальнага завода.

— Пачыналася ўсё выдатна! Потым нешта шчоўкнула ў галаве, і я падумала: «Ой, мама! Што я раблю?!» Прыйшлося прадынаміць прыгажунчыка і кінуць аднаго сярод развалін. Не ведаю, якія думкі паўсталі ў яго на мой конт і ці даймаюць яго роздумы пасля маіх уцёкаў. Не ведаю! Але каб была віртуальная магчымасць, сказала б: «Не перажывай, прыгажунчык! Усё значна прасцей. На мне аказаліся старыя ўтульныя трусікі з сімпатычнымі дзірачкамі ад частага прання. Трусікі зручныя, добрыя і мае ўлюбёныя. Але яны не прызначаны для мужчынскіх вачэй». Бо каб зняў ён з мяне сукенку, то паўстала б я перад ім як кончаная дурніца ў падраных трусах. Адкуль я магла ведаць, калі пабегла на шпальны завод, што сярод развалін сустрэну мужчыну сваёй мары?!

— Надзя, не дакарай так сябе! Ты ўсё зрабіла правільна. Вазьмі нас з сабой. Хочацца паглядзець на твайго «Брэда Піта». Няўжо ён і сапраўды такі добры, што ты ламанулася дахаты трусняк змяняць?!

— У тое, што ён добры, прыйдзецца вам, дзяўчынкі, паверыць на слова. У Любашы сукенка з глыбокім сэнсам, якая ўсяляе ў мужчыну жаданне зняць яе любым коштам. Сёння не той выпадак, каб даваць хлопцу права выбару адной з трох. Бо неабраным прыйдзецца сябе мучыць вечным пытаннем усіх сяброўак на свеце: «І што ён у ёй знайшоў асаблівага?!»

Надзея ведала, што казала. Любое, нават самае сапраўднае жаночае сяброўства з неверагоднай лёгкасцю можа разбурыць мужчына-прыгажунчык, асабліва калі з'явіцца ён у дзявочай кампаніі і пачне спакушаць сябровак адну за адной.

# Белае, чорнае, зялёнае

Манекеншчык Кабашын працаваў у творчым калектыве і ўпарта выдаваў сябе за абсалютнага інтэлігента. Пазіруючы ў новых пінжаках, ён мог гадзінамі думаць і разважаць. Асабліва шмат думаў пра справы, якія яго не датычылі. Узіраючыся скрозь шкло вітрыны ў панурыя твары мінакоў, ён шукаў нешта такое, што магло б спатоліць яго неспакойны розум. Але розум быў непаслухмяным, як дзіця, і прымушаў манекеншчыка верыць, што бедны народ — галоўнае багацце краіны. Бачыць сябе сярод бедных Кабашын не жадаў, зрэшты, як і лічыць сябе багатым з голай зарплатай у кішэні.

— Госпадзі ты Божа мой! — раздражнёна шаптаў аматар падумаць. — Адныя не ведаюць, дзе яшчэ гайкі зацягнуць, іншым не важна, на што болт забіць. Вось бы выбухнула рэвалюцыя ды выкасіла ўсю брыдоту! Хацелася б верыць, што дажыву да светлага дня, а калі дажыву, то не скурчуся ад пакуты радасці.

Дурная гульня ў «верку-няверку» падзяліла душонку Кабашына на дзве прыкладна аднолькавыя палавінкі. Адна палавінка пераконвала: жыць становіцца лягчэй. Другая з нарастаючым страхам чакала надыходу суднага дня.

Ад непасільных разумовых перагрузак кожны мужык, нават самы моцны, мог бы ў адначассе стацца зласлівым нігілістам і спіцца ў глухім заўральскім сяле Пацалуеўка, калі б яго туды



занесла подласць лёсу. І наракаць на жыццё, поўнае каварства і здольнасці выкінуць што заўгодна, нават любога з нас, не мела б сэнсу.

— Перастань быць занадта разумным і цалкам правільным! — дзяўбла Кабашына жонка. — Ты — пладун! Плодзіш дурныя праблемы там, дзе іх не павінна быць. Табе гэта трэба?! Лепш думай, дзе грошы здабыць, а то пакладзём зубы на паліцу як непатрэбную частку арганізма.

Слова аб слова, і кнот сямейнай сваркі, які яшчэ хвіліну назад ледзьве тлеў, распаліўся агнём неверагоднай сілы. Марына заўважыла, што Кабашын дапякаецца хутчэй, чым звыкла, таму паклікала на падмогу суседа — фельчара Іллю Лукіча.

— Доктар, малю! — артыстычна ўпала яна на калені, — абясточце майго зануду. Мне стала прасцей з ім пераспаць, чым тлумачыць, чаму я гэтага не хачу. Але сёння розум майго суджанага не паразумеўся з уласным глуздам. А гэта, паверце, катастрофа! Не сусветная, канешне, усяго толькі ў маштабах адной кватэры, але мне ад гэтага не лягчэй.

— Хворы! — строгі твар Іллі Лукіча не абяцаў паблажак. — Існуе небяспека, што ваш пераразвіты розум узарве мозг, які належыць вам на праве ўласнасці. Наступствы выбуху непрадказальныя. Ад лёгкага неўрозу, які вас асядлаў, усяго адзін крок да буйнай шызафрэніі. Мы рэальна можам страціць вас назаўсёды. Свет падзяляецца на лайдакоў, якія хочуць мець грошы, не працуючы, і на прыдуркаў, якія працуюць, не думаючы пра багацце. Думаю, вы належыце да катэгорыі прыдуркаў. Прапаную пачаць выратаванне вас, як асобы, са змены кашулі.

— Змяняць кашулю не буду, — адмахнуўся Кабашын. — Мая кашуля чыстая і ўтульная.

— Ты хоць Іллі Лукічу не пярэч! — захныкала Марына. — Ён табе дабра жадае. Я ж вам, доктар, казала, што ён сапраўдны тормаз. Яго на працы ціха ненавідзяць. Прывык усё рабіць з пачуццём, толкам, расстаноўкай, а людзей гэта раздражняе.

— Я не злітак золата, каб кожнаму падабацца, — агрызнуўся Кабашын. Але крыху паламаўшыся, усё ж сцягнуў кашулю і даў доктару надзець на сябе новую.

— Вось і малайчына! — абрадаваўся фельчар. — Новая кашулька вам вельмі пасуе.

— І ў плячах добра сядзіць! — падтрымала фельчара Марына.

— Рукавы даўгаватыя, — незадаволена буркнуў Кабашын.

— Гэта не бяда! Мы іх ззаду акуратненька завяжам. Опс, і гатова!

— Навошта рукавы вузлом завязалі?! — абурыўся Кабашын.

— Мера часовая, каб ты мог спакойна слухаць Іллю Лукіча.

— Мілы вы наш! — з пафасам прамовіў Ілля Лукіч. — Медыцына так хутка скокнула наперад, што многіх, накшталт вас, не паспелі вылечыць. З такімі, як вы, даводзіцца дзейнічаць простым і надзейным дзедаўскім спосабам — апранаць ва ўціхамірвальную кашулю. Прызнавайцеся, мучылі ў дзяцінстве насякомых?

— Дакладна не памятаю…

— Мучыў, мучыў! — не стрымалася Марына, — а зараз мяне мучыць, быццам я не чалавек, а мармышка без душы і сэрца.

— Прыйшоў час адказваць за былое свавольства, дарагі наш мучыцель. Усявышні, бачу, не малы рахунак вам прад'явіў за мінулыя грашкі. Вось вас, прабачце за ненавуковасць, і калбасіць.



— Вы, доктар, спытайце, якая яму справа да таго, што вегетарыянцы мяса не ядуць. Проста ў душу да людзей праз рот лезе!

— І сапраўды, чаму вас гэта павінна хваляваць?

— Вегетарыянцы траваядных жывёл аб'ядаюць! — абурыўся Кабашын. — Развяжыце мяне.

— Не трэба бу-буяніць. На ўсё свой час. Яшчэ набуяніцеся, калі я пайду. І наогул, у жыцці, як і ў асобна ўзятым яе дні, трэба правільна расстаўляць прыярытэты: што зрабіць у першую чаргу, пра што забыцца на дзве гадзіны, а што, як смецце, выкінуць з галавы. Любая праблема, калі ёю не займацца, сама сабой разыдзецца. Пакіньце ў спакоі праблемы, якія вас не датычаць. Атрымлівайце асалоду ад жыцця. Не дазваляйце праблемам маніпуляваць вамі. Плюньце на ўсё і едзьце да мора. Адчуйце смак перамен. З'язджаць з глузду трэба паступова, не пазбаўляючы сябе іншых задавальненняў. Лета за акном, мілы мой! І яно, дарэчы, апошняе ў гэтым годзе.

Кабашын і без Іллі Лукіча ўсё ведаў пра лета: улетку грыміць навальніца, расцвітае кавун. Аднак звычка не пагаджацца забрыкалася ў ім з новай сілай:

— Чаму да мора, а не ў горы? На моры няма снегу. Дзе я буду катацца на лыжах?

— Калі ты паедзеш у горы, то правядзеш адпачынак у гіпсе. На лыжах будзеш хадзіць па калідорах гатэля ў турэцкім Мармарысе. Я хоць буду пэўная, што ты не скруціш сабе карак.

— Развяжыце мяне.

— Развяжу! Але перш адкажыце мне, ці згодны вы любіць Марыначку, берагаць яе ад праблем, захапляцца ёю, пакланяцца яе мудрасці і таленту.

— Не здзекуйцеся! Пабойцеся Бога!

— Абяцайце пакінуць ашчэраны на вас горад і ісці за сваёй зоркай, як верны паж! — запатрабаваў фельчар, мацней зацягваючы вузел.

— Абяцаю! — здаўся Кабашын, які любіў свабоду болей, чым ракаў да піва.

Марына праводзіла Іллю Лукіча. Ля дзвярэй Ілля Лукіч з немалой доляй артыстызму спытаў:

— Мадам, спадзяюся, вы задаволены?

— Безумоўна! Ваш ганарар! — і ў кішэню халата фельчара ўпала соценка.

— Вельмі ўдзячны. Гідраметцэнтр абяцае летам у Турцыі тэмпературу вышэйшую, чым зімой, а на дарогах галалюдзіцу. Прыемных вам рандэву! — і док гулліва ўшчыкнуў Марыну за попку.

— Гэтая вольнасць будзе каштаваць вам дваццатачку.

— Я ж без намеру. Доктарская звычка.

— Не будзьце скнарам, Ілля Лукіч! З грашыма трэба раставацца з той жа лёгкасцю, з якой вы шчыплеце суседак.

Зачыняючы за фельчарам дзверы, Марына летуценна прашаптала:

— Мора-а-а!

І тут жа ўявіла, як яна, разамлелая, шчаслівая, ляжыць сабе на пляжы. Справа нечая мускулістая рука працягвае астуджаную бутэлечку колы, злева прапануюць заварожваюча-бяздарнае чытво з адкрытымі фоткамі. Сонца шпарыць, хвалі плешчуцца, ветрык авявае. Пакуль ступні закопваюцца ў цёплы пясок, а рука цягнецца за халоднай бутэлечкай, на змену разамлеласці прыходзіць хвалюючае чаканне дотыкаў прыставучых рук. Для жанчыны на курорце сітуацыя выглядае трагічна, калі да яе прыстае толькі загар.



Марына любіла вясёлую атмасферу курортных мястэчкаў, дзе можна было прымерыць маску дзівачкі, не абцяжаранай путамі маральнасці. Яна марыла пра мора і верыла, што адпачынак станецца не проста святам, а прынясе цэлую пандэмію весялосці.

Марына была іранічнай, начытанай, сціплай. Гэта факт. Але падчас адпачынку ў яе нібыта ўсялялася нячыстая сіла. Адрываючыся па поўнай, яна дазваляла сабе вольнасці, несумяшчальныя са статусам добрапрыстойнай дамы з правінцыйнага горада.

— Турцыя! Турцыя! — бурчэў Кабашын, цягнучы чамаданы па калідоры гасцініцы. — І увогуле, якога ліха мы пасяліліся на гэтым гарышчы?

— Гэта не гарышча, а пентхаўз. Старайся называць рэчы сваімі імёнамі. Сёння вечарам застанешся ў нумары. Рэзкі перапад уражанняў можа табе нашкодзіць. Будзеш уваходзіць у новыя абставіны асцярожна, дробнымі крокамі. Ілля Лукіч прапісаў ашчаджальны рэжым.

— Ілля Лукіч! Ілля Лукіч! Бач ты, знайшла свяціла медыцыны. Ён колбу ад клізмы адрозніць не можа, лекар хрэнавы.

— Не бухці. Калі застанешся сам-насам, не налягай асабліва на тэлевізію. На рэсэпшане намякнулі пра разумны тэлевізар у нумары, які мае мноства ўнікальных спецэфектаў, здольных стварыць поўную ілюзію прысутнасці ў эпіцэнтры тэлевізійных падзей. Эфект прысутнасці ўражае сваёй дакладнасцю. Пры тваёй уражлівасці і неўтаймаванай фантазіі прагляд такога тэлевізара прывядзе да сумных вынікаў. Лепш любуйся карцінай на сцяне… Блакітнае ў зялёным. Стыльна і па-сапраўднаму зачароўвае.

Слухаў Кабашын на паўвуха. Яму і праўда хацелася пабыць аднаму, прычасаць у цішыні ўскудлачаныя думкі, супакоіць узвінчаныя нервы і на злосць жонцы паглядзець тэлевізар.

Марына выйшла на бульвар. Яна выглядала як новенькая, прыгожая лялька, толькі што выцягнутая з хрумсткага цэлафану. Больш за ўсё ёй хацелася ўбачыць неадназначныя падміргванні «крутнякоў», выгаленых да гладкасці дзіцячай попкі. Марына навучылася быць рознай. То жанчынай «вамп», здольнай разабраць на часткі чарговую ахвяру, то вернай каханай, то захавальніцай сямейнага агменю, якая ўсведамляе ўсю адказнасць за лёс невыпадковых у яе жыцці людзей.

Фанабэрыстыя туркі, якія разумеюць толк у жаночай красе, пацмоквалі языкамі і рабілі Марыне непрыстойныя жэсты. Марына старалася не глядзець у іх бок. Яе пужаў паўднёвы тэмперамент. Але варта было ёй на адно імгненне задумацца, як паступіць з бананам: узяць у рот і адкусіць альбо памяць пальчыкамі ды адламаць кавалачак, як за спінай пачуўся нечы незадаволены голас:

— Спадарыня, што вы ўсталі на дарозе, як цялушка нядоеная?

— Якая я вам спадарыня?! — абярнуўшыся на голас, абурылася Марына.

— О-о-о, наша дзеўка! Дык гэта мяняе справу. Бананам не пачастуеце?

— Незнаёмых малпаў не прыкормліваю, — адшыла Марына прыставалу.

Мужчына, між тым, працягваючы спакойна ўплятаць фіялетавы пламбір, ацэначным позіркам прабегся па Марыне. Кожны ягоны жэст яскрава сведчыў пра прыналежнасць да касты нахабных аматараў добрых цыгар, прыгожых жанчын і своечасова выпітага кілішка гарэлкі.

Марына дастала айфон і, павадзіўшы пальцам, набрала нумар Кабашына.

— Артурчык, мілы! Ты чым без мяне заняты?

— Ды так, Марын. То адно, тое другое, то шкляначку спаласну.

— Глядзі, не перастарайся, алкаголь губіць нявінныя клеткі мозгу.

— Алкаголь забівае толькі тыя клеткі мозгу, што не пагадзіліся выпіць, — запярэчыў, як звыкла, Кабашын, але Марына адключыла айфончык.

Незнаёмец даеў марожанае і, аблізаўшы пальцы, прадставіўся.

— Сідар!

— Мужчына з такім імем вялікая рэдкасць у Турцыі! — Марына прыняла выклік.

З кімсьці трэба пачынаць адпачываць: размягчыцца, прызвычаіцца, агледзецца па баках. Напоўніць дні адпачынку радасцю неспадзяваных сустрэч — сур'ёзная справа. Кожная гуля хоча знайсці сабе гуляку.

Пасля знаёмства Марына падумала, што Сідар — чалавек вельмі ўтульны. Дзякуючы гэтай «утульнасці» ён і замацаваўся ў яе сэрцы.

— Дарэчы, каму вы тэлефанавалі? Зрэшты, можаце не адказваць, калі гэта жаночая таямніца.

— Тэлефанавала бацьку маіх будучых дзяцей, а прасцей кажучы, мужу.

— Муж, муж аб'еўся груш! — груба рагатнуў Сідар.

— Не ёрнічайце, Сідар! Так сябе паводзіць дазваляецца толькі добрым сябрам.

— Я буду вашым сябрам. Сябрам з добрым, — залётнік зрабіў шматзначную паўзу. — Сідар слоў на вецер не кідае.

— Ах, не жартуйце так з наіўнай жанчынай, гатовай паверыць першаму сустрэчнаму! Ноч, ну дзве! Большага чакаць ад такіх, як вы, — толькі сябе мучыць.

— Ну, чаму ж?! — усклікнуў Сідар, трапіўшы пад чары рудавалосай прыгажуні. Давайце ад слоў пяройдзем да справы. Расставім усе кропкі над патрэбнымі літарамі.

— У рускай мове няма літар з кропкай замест шапкі.

— Мілая мая, мы ў Турцыі, а тут няма попыту на размовы пра рускі алфавіт. Аднак асмелюся нагадаць пра літару «ё», літару з дзвюма кропкамі, — і ён пільна паглядзеў на Марыну, але не ў вочы і нават не на пышныя грудзі, а значна ніжэй, туды, дзе ў курортнай дзівы прасвечваліся скрозь сукенку ажурныя трусікі.

— Хто вы, Сідар?

— Я ідэйны барацьбіт за грашовыя знакі. Жыццё даўно навучыла: за ўсё ў гэтым свеце трэба плаціць. А найбольш за тое, што хочацца атрымаць бясплатна.

— Сідар, са мной бясплатныя штучкі не пройдуць. Я сабе цану ведаю.

— Тая, што ведала сабе цану, не раз яе называла. Гэта спрашчае адносіны паміж людзьмі, якія хочуць адзін аднаго.

Магічны дурман эратызму Марыны быў настолькі моцны, што Сідару неадкладна захацелася авалодаць яе раскошным целам. Прычым авалодаць неаднаразова на працягу адной ночы.

— Прапаную знаёмства адзначыць у кампаніі з вярблюдам, — нечакана заявіла Марына. — У вярблюда я вучуся спакою і абсалютнаму пафігізму. Гэтыя якасці дапамагаюць супрацьстаяць кпінам лёсу.



— Затое я вярблюдам не давяраю, як не давяраю кожнаму, хто можа цэлы тыдзень не піць. Лепш адзначым наша знаёмства старадаўнім рускім звычаем: гарэлачкай пад ікорачку.

— Гарэлачкай дык гарэлачкай. Але піць будзем у мяне ў нумары і ў маскарадных касцюмах.

— Лепш у маім трысняговым бунгала і без усякай адзежы.

— Саступіце жаночаму капрызу.

— А як паставіцца муж да маскараду?

— Хараша жыць ён мне не забароніць, а перашкодзіць не зможа. Для вас, Сідар, я прыгатавала ролю князя цемры. Увайсці ў вобраз лёгка. Досыць вышмараваць твар нечым чорным, пажадана, каб колер быў з матавым адлівам. Шыя і вушы павінны быць абавязкова ў адзін тон з тварам. А я буду белая ў белым. Мой Артурчык — чалавек творчага мыслення і знойдзе нашаму дзівацтву самаеневерагоднае тлумачэнне, далёкае ад разумнага сэнсу. Да нашага прыходу наварочаны тэлевізар з эфектам прысутнасці зробіць з падпітага Артура неўрастэніка. Я ўпэўнена, ён і цяпер насуперак усяму глядзіць тэлевізар, заплюшчыўшы ад страху вочы, — Марына рашуча прасунула сваю лапку ў падстаўленую абаранкам мускулістую руку Сідара. — Наш прыход бязглузды фантазёр успрыме як частку падзей на экране, як герояў віртуальнага кіно, якія ступілі ў рэальнае жыццё.

Быў вельмі позні і па-паўднёваму чорны вечар. Начаркаваны і накальянены Артур, у акулярах для прагляду тэлевізійных спецэфектаў, разваліўся на канапе. Пакой асвятляўся цьмянай настольнай лямпай. На паўтараметровым экране тэлевізара ішоў бессэнсоўна жорсткі трылер. Кабашын баяўся ўсяго страшнага, таму глядзеў

фільм амаль з заплюшчанымі вачыма. Раптам ён пачуў, як шчоўкнуў замок і следам адчыніліся дзверы. Цікаўнасць перасіліла страх. Кабашын прыпадняў адно павека. Перад ім стаяў цалкам чорны чалавек. Чорны капялюш, чорныя пальчаткі, чорныя чаравікі з чорнымі шнуркамі сведчылі аб адным: душа безнадзейна чорнага чалавека была такой жа чорнай. Побач з «Чорным» красавалася белая жанчына з пакункам у руках. «Чорны» паставіў на стол бутэльку гарэлкі. «Белая» дастала з пакунку кавалак засмажанага мяса. Смачна запахла. Кабашын праглынуў набеглую сліну. «Чорны» выпіў гарэлкі, панюхаў мяса і нечакана спытаў:

— Ты калі-небудзь напівалася так, каб на наступны дзень было сорамна?

— Не памятаю, — «Белая» зрабіла выгляд, што задумалася. — Не, не памятаю. Раніцай мне за сябе ніколі не сорамна.

«Чорны» абняў «Белую» за талію.

— Я часта кажу гарэлцы: «Не!». А яна не слухае. Прэ нахабна, знаходзіць ува мне слабыя месцы, душыць волю і распальвае гарачыя жаданні. У такія моманты я не думаю пра прыгажосць сяброўкі. Каго пасцялю, тую і займею.

— Галюны нейкія! — падумаў Кабашын. — Але пах мяса натуральны. Сапраўды, эфект прысутнасці ў разумнага тэлевізара надзвычай моцны.

Дацягнуцца да пульта і выключыць тэлек у яго не атрымалася. Скаваў страх, а спацелы азадак прыліп да скуранай канапы.

— Князь цемры Люцыпар з Люцыпарыхай! — стрэльнула ў галаву Кабашыну, і халадок прабег па спіне. Валасы ўздыбіліся, і стала па-сапраўднаму страшна. Дадаў страху пануры погляд Люцыпара, які працяў кабашынскую душонку, як шампур працінае сакавіты кавалак мяса.

— Свіння, — прамовіў «Чорны». — Мая табе парада: сцямнела — распранайся і спі. А не, дык надзену тваё халоднае цела на гарачую кулю.

Кабашын задрыжаў і ўпершыню за ўвесь вечар пашкадаваў, што ўключыў тэлевізар. Думкі, адна страшней за другую, заварушыліся ў ягонай галаве. У такой сітуацыі Кабашыну нічога не заставалася, як вымучыць на твары дурнаватую ўсмешку і прыкласці правую руку да сэрца, гатовага вось-вось выскачыць з грудзей.

У ціхую ўсходнюю мелодыю ўпляліся ўздыхі і стогны.

— Чайкі прыляцелі з мора на пах смажанага мяса, — падумаў Кабашын.

Але ўсё аказалася меней празаічна. «Чорны» і «Белая» апантана займаліся сэксам.

— Пара спаць! — супакоіўся Кабашын і з лёгкай душой імгненна заснуў.

Прыйшла раніца, рассыціўшы ў сонечных промнях начныя мроі. Кабашын падняўся з канапы і паспяшаўся ў спальню, каб падзяліцца з Марынай перажытымі ноччу жахамі. Марына спала голая па-над коўдрай. На яе твары спачывала чароўная нявіннасць, затое цела было чорнае-чорнае, быццам ноччу ў ёй затануў нафтаналіўны танкер. На століку ляжалі зялёныя даляры.

Кабашын не здолеў знайсці разумнае тлумачэнне ўбачанаму, таму спусціўся ў бар. Яму хацелася пагаварыць, няхай нават з першым сустрэчным. Заставацца сам-насам з думкамі ён не мог. Гэта прывяло б проста да нервовага зрыву. У перакуленым свеце стойка бара здалася адзіным рэальным прадметам.

— Бачу, вы нечым заклапочаны, — крануў за руку Кабашына незнаёмец. — Спрацаваў прафесійны нюх. Я псіхатэрапеўт.

— Са мной гэтай ноччу адбылося нешта жахлівае, што напалохала ледзь не да смерці, — радасна адгукнуўся пакутнік, пачуўшы родную мову. — Жонка пайшла вечарам прагуляцца. Я выпіў з дзясятак кілішкаў нейкай паршывай гадасці і, раскурыўшы кальян, глядзеў мутным позіркам наварочаны тэлевізар з эфектам віртуальнай прысутнасці. Усё было добра, пакуль ненатуральна чорны мужчына ў абдымку з вапнава-белай жанчынай не заняліся ў мяне пад носам вар'яцкім па тэмпераменце сэксам. Здавалася, працягну руку і дакрануся да іхніх потных целаў. Чарныш, які меў выгляд самаздаволенага парсюка, абазваў мяне свіннёй. Чаму свіннёй?! Свіння жаночага роду, а я мужчына. Пачуццё крыўды забулькатала ўва мне. Рэальна захацелася стукнуць крыўдзіцеля па нахабнай мордзе, але азадак урос у канапу, патрапіўшы пад магнетызм праклятага тэлевізара. Раніцай я знайшоў жонку ў спальні. Марына была перапэцканай нечым чорным, як і прасціна, на якой яна спала. На століку ля падгалоўя зелянелі даляры.

— Не бачу прычыны хвалявацца. Даляры прынята лічыць зелянінай сямейства баблловых. Зяляніна спраўна служыць разлікам паміж двума бакамі, якія аб нечым дамовіліся. Калі жанчына прывяла размаляванага мужчыну і атрымала зялёныя даляры, значыць, яна марыла пра маскарадны сэкс за грошы.

— Вы думаеце, Марына мне здрадзіла?! І тэлевізар тут не прычым?!

— Ну, навошта так адразу неаптымістычна. Магчыма, яна вам не здраджвае, а ўсяго толькі параўноўвае. І калі яна ўсё яшчэ жыве з вамі, радуйцеся: параўнанне на вашу карысць.

— Я зразумеў яе задумку. Чорны мужчына — гэта тонкі намёк на маё жыццё, у якім пераважаюць змрочныя фарбы. Як вы лічыце, чорная паласа ў маім жыцці калі-небудзь скончыцца?

— Скончыцца! Абавязкова скончыцца! Двух меркаванняў тут і быць не можа. Вы ж не вечны.





# Лекар

Пасля суботы прывалаклася каламутная нядзеля і без лішніх цырымоній адбілася на абліччы Кабасяева дзікай стомленасцю. Па-гаспадарску лёг на мужчынскае сэрца неймаверны цяжар і прыціснуў настрой да нулявой адзнакі. Але як толькі над горадам пацягнула шашлычным дымком, Кабасяеў плюнуў на жыццёвыя няўзгоды і пайшоў шукаць падарунак лёсу. Лёсавызначальны дар ён шукаў старанна, як шукаюць грыбы ў восеньскім лесе. На жаль, ніводная сволач не ўмудрылася страціць у гэты дзень нават маленечкі кашалёчак. Мала таго, нават ірванага рубля не валялася на пыльным тратуары.

— Як гэта дробна, ганебна і бязглузда! — абураўся Кабасяеў, сціскаючы кулакі. — Напладзіла маці-зямля скнараў, а мне з імі жыві, быццам няма іншай долі. Краіне даўно патрэбны іншы народ! Але гэта не мой клопат, дзе яго ўзяць.

Жыццёвы шлях Кабасяева быў гарыстым і звілістым, а па сутнасці сваёй — непрадказальным. Яшчэ на сёмым годзе татка слёзна маліў малалетку збегчы з дому. Але мальцу хапіла дурноты не паддацца на ўгаворы і далей хуліганіць, атрымліваючы ад гэтага задавальненне. Так ён помсціў бацькам за сваю брыдкую морду. Кабасяеў меў сапраўды страшны твар. Гэткі страшны, што настаўнікі перад урокам пілі гарэлку і нават не думалі пра закуску.



Сённяшні дзень, як і трыста шэсцьдзясят пяць яму падобных, быў пад завязку напоўнены нявызначанасцю наконт таго, чым сябе заняць. Ногі, як звыкла, прывялі да знаёмага глухога плоту. Кабасяеў выцяў ботам брамку і прыслухаўся. Было ціха. Вочы разанула таблічка з надпісам: «Грукайце гучней, за плотам глухі сабака». На гучны стук са школьнага двара, што быў праз дарогу, выйшаў дворнік. Ён пачаў хвастаць венікам па тратуары ды злосна зыркаць у бок Кабасяева. Калі пад венік патрапілі кабасяеўскія чаравікі, падмятайла глуха спытаў:

— Дзіця чакаеце?

— Не, я заўсёды такі тоўсты.

— Ішоў бы ты, таўстун, адсюль. Працаваць перашкаджаеш.

Кабасяеву дужа захацелася змудраваць, гэтак узяць і ад душы сказаць нешта накшталт: «Праца акультурвае чалавека. Уздымае яго значнасць. Калі чалавек мае значнасць, яго не палохаюць фантомныя ўзрушэнні. А гультайства заварожвае і адурманьвае, прыносіць фальшывае шчасце, ад якога не пазбавіцца і якім нельга падзяліцца». Але замест пафаснай тырады скупа гыркнуў:

— Клаўдзію Сяргееўну чакаю!

— Дарма чакаеш. У яе з іншым зладзілася. А цябе загадала паслаць да ёванай мамы. А калі сам не пойдзеш, параіла венікам падагнаць.

Кабасяеў усё зразумеў. Клаўдзія Сяргееўна не прабачыла яго. Пасля шырпатрэбных прастытутак ён засяліў Клаўкіну некранутую флору багатым наборам мікраарганізмаў, ператварыўшы дагледжаную вагіну ў квітнеючую аранжарэю. Кабасяеў спахмурнеў, развярнуўся і пакрочыў да аўтобуснага прыпынку.

— Пачакай! — крыкнуў дворнік.

— Чакаю, начальнік веніка!

— Як жа ты без Клаўдзіі Сяргееўны зараз жыць будзеш?

— А якая твая дворніцкая справа?

— Мужык ты з выгляду нічога. Магу ўсватаць на вечар прыстойную сяброўку.

— Зберажы прыстойную на свята, а сёння пра мяне дзве сястрычкі душэўна паклапоцяцца.

— Займацца каханнем з сёстрамі — вялікі грэх.

— Гэта не мае сёстры.

Падышоў аўтобус. З думкай: «Куды павязе, туды і паеду», Кабасяеў увайшоў у салон. На задняй пляцоўцы стаяў вайсковец. Хацелася курыць. Атуліўшы запаленую цыгарэту кулаком, Кабасяеў прагна зацягнуўся і выпусціў дым у адкрытае акно.

— Курыць у аўтобусе нельга! — пачуў ён за спіной суровы голас.

— Ты мне не ўказчык!– адмахнуўся курэц.

— Я кадравы афіцэр ваенкамату і патрабую падпарадкавацца.

— Цябе, кадравага, народ у мірны час корміць, а калі пачнецца вайна, дык ты ў падзяку пагоніш народ пад кулі. Але са мной твой фокус не пройдзе. У мяне да службы нулявая прыдатнасць.

— Усе людзі прыдаюцца, каб у акопах ляжаць.

— Кажу табе, не прыдатны. У мяне ўзровень слыху на сорак працэнтаў паніжаны.

— З такім слыхам выбухаў баяцца не будзеш.

— Гад ты, ваенкаматчык!

— Вы п’яны, грамадзянін ваеннаабавязаны!

— Так, п’яны. Прычым п’яны ўвесь час. Спрабаваў цвярозым хадзіць, але гэта былі найгоршыя паўгадзіны ў маім жыцці.



— Вось прыпынак, давайце выходзьце! У гэтым месцы такія, як вы, усе, як адзін, кінулі піць і курыць.

— «Гарадскія могілкі», — абвясціў прыпынак кіроўца.

— Не дачакаешся! — сціснуў кулакі Кабасяеў і завыў ад болю. Цыгарэта абпаліла руку. Кабасяеў вылаяўся, наслініў апёк і на злосць афіцэру выйшаў на наступным прыпынку, праглынуўшы горыч ад неспадзяванай сустрэчы.

— Прывітанне! — усклікнуў ён, уваходзячы бадзёранькім крокам у прадуктовую краму. — Што добрага было, пакуль мяне не было?

— Усё было добра, пакуль цябе не было! — адазвалася таўшчэзная кабеціна, якая чубаткай сядзела на касе.

— Люся! — Кабасяеў памахаў рукой прадаўшчыцы ў мясным аддзеле. — Змяніла прылавак, а лісточак з новым адраскам не знайшла часу намалякаць. Работкі па старой памяці не знойдзецца? За бутэлечку вінца і невялікі прыкусончык рады буду пастарацца. Для мяне вінчык, як бальзам душы на імяніны сэрца пасля суботняга выпівону.

— Клянчыш вінчык, а кветак ні разу не падарыў.

— Дык і ты, Люся, ніколі піва не дарыла. Сваім гарбом на апахмел зарабляў.

— У мяне свой півахлёб на канапе ў хаце ляжыць. А я не акрабатка, каб раскірэкай між вамі стаяць.

«Аднак жа стаяла!» — ледзь было не ўкусіў Люську Кабасяеў, але стрымаўся. Не хацелася па дробязях сварыцца. Пасварыцца атрымлівалася лёгка, а вось прымірэнне ператваралася ў цягамоціну.

— Ты ж ведаеш, я ўсё магу: і мяшкі за вушкі пацягаць, і на мяшках душа ў душу паляжаць.

— Люся, гэта той самы з тым самым? — спытала бакалейшчыца, разглядаючы Кабасяева.

— З тым самым, халера бы іх абодвух пабрала! — адгукнулася Люся.

— З халерай яны абодва яшчэ паспеюць пабрацца. А нам лекар патрэбны, забылася, ці што?

— Лекар? У якім сэнсе лекар, дазвольце спытаць? — насцярожыўся Кабасяеў.

— Пагаворваюць, ёсць у цябе штучка, саладзейшая за цукровую глазур на шакаладным пірагу.

— Бухцець народу не забароніш. Куды гутарку хіліш?

— Мужык-імцімшчык нам патрэбны За прылаўкам цэлы дзень на нагах стаяць — цяжкая доля. Пакупнікі лаюцца, а на іхні брэх адбрэхвацца нельга — працу страціш. Дома тая ж мітусня. Кухня, муж, суседзі. Пры такім лётанні дзеці растуць без нагляду.

— А мне якая справа да тваіх дзяцей? Канкрэтыку кажы, не хадзі вакол.

— Слухай канкрэтыку, калі просіш. Калі нашай Нікіцішне спадабаешся, будзеш марожанае есці і цукеркамі закусваць. Дырэктрыса другі дзень лежма ляжыць ды патрабуе мужыка за мужыком. Але з прыстойным да яе яшчэ ніхто не заходзіў. Растрывожаць, а нам аддзімайся за недарэчных кавалераў. Дзяўбе Нікіцішна за кожную дробязь. Лекар ёй патрэбны, здольны пакрыць сваім целам, як гарчычнік балючае месца. Чым работку жабраваць, лепш жанчыне дапамажы сваёй узведзенай штучкай.

— Без узведзенай штучкі мужыка не назавеш мужыком. Галоўнае — дамагчыся натуральнасці пры савакупленні. Гэты навык пасля доўгай



практыкі прыходзіць. Непрактыкуючыя жлабы, напрыклад, не разумеюць, што кандом замінае прыемным адчуванням.

— З тваім правільным разуменнем прыемных адчуванняў ты лёгка Нікіцішне дагодзіш. Галоўнае, каб ногі твае ў пасцелі не пахлі. Не любіць Нікіцішна смуродных пахаў. Калі пытанняў няма, Верка-практыкантка завядзе цябе ў дырэктарскі кабінет.

Верка схапіла Кабасяева за рукаў і пацягнула ў падсобку.

— Пастой, Вера! Дай цябе пацалую. Страшна да вашай Нікіцішны сунуцца без пацалунку на дарожку. Невядома, ці чалавек за дзвярыма чакае, ці люты звер.

— Цалаваць не дамся. Мама будзе лаяць, калі першы сустрэчны абрухаціць.

— Дурніца ты. Ад пацалунку не цяжараюць.

— Нікіцішна! — тоненькім галаском паклікала Вера прыклаўшы вуха да дзвярэй. — Тук-тук-тук! Вяду да вас наведвальніка па важнай справе, — адчыніўшы дзверы, Верка ўпіхнула Кабасяева ўнутр кабінета.

Нікіцішна паднялася з-за стала.

— Да важных і спраўных стаўлюся з павагай, абы спраўна спраўляліся з тым, што ад іх чакаецца.

Кабасяеў адступіўся. Перад ім была не абяцаная зорка, а абдоўбаная ў хлам звяздзішча. Страшная, блін, як капец! Дзверы прыадчыніліся, і асалапеламу госцю хтосьці сунуў у руку шклянку, напоўненую да краёў.

— Што гэта?

— Антышокавы раствор для зняцця стрэсу: спірт з глюкозай, пяцьдзясят на пяцьдзясят, — прашаптала дзяўчына ў адказ.

— Выпівай! Карысны сродак! Піцай закусіш. У піцы калорыі. Без калорый табе са мною не справіцца. Піцу на дванаццаць частак падзяліць, ці на шэсць?

— Рэжце на шэсць. Дванаццаць для мяне зашмат будзе.

— Як скажаш, — і Нікіцішна, прыцэньваючыся, агледзела Кабасяева з ног да галавы. — Не люблю дарыць сэрца, калі няма адчування ўзаемнай цягі. Прагну бачыць у чалавеку без штаноў мужнасць і томнасць, пачуццёвасць і зацікаўленасць. Для сваіх пігаліц я дырэктрыса, а ты будзеш клікаць мяне Манюняй, калі таго заслужыш.

«Вось дык эйнц, двейц, трэйц, — змакрэў Кабасяеў і пачухаў патыліцу костачкай вялікага пальца. — Абалдзела Манюня. З яе фігуры толькі раман пісаць «На развалінах бюста».

Нікіцішна дастала з сейфа бутэльку каньяку.

— Трымаю для сапраўдных гасцей, якія шануюць паўнату жаночага цела.

Кабасяеў аблізнуўся. Пасля бутэлькі любога пойла з яго атрымліваўся хвацкі ацэншчык жаночай прыгажосці. І чым большай была жаночая попка, тым апетытней яна яму здавалася.

— Я гэта таго. Схаджу, калі дазволіце, ногі памыю. Не хачу ў кабінеце смярдзець. Цэлы дзень па горадзе лазіў. Ногі вуліцай пахнуць.

Мыць ногі Кабасяеў не збіраўся. Проста задумаў збегчы ад граху далей. Але глюкоза рвалася вонкі, і прыйшлося ўцекачу заскочыць у сарцір па патрэбе. Присеўшы на кукішкі, ён, як звыкла, задумаўся. Філасофскія думкі кагалам прыляцелі і тут жа адляцелі, не запляміўшы свядомасць. Затое ад далоняў на каленах адціснуліся два чырвоныя кружкі.



— Ну, як справы? — спыталі з суседняй кабінкі.

— У цэлым нічога, — не палічыў патрэбным адкрывацца незнаёмцу Кабасяеў. — Нават, можна сказаць, нармальна.

— Рабіць усё-ткі што будзеш?

— Дахаты пайду. Няхай Нікіцішну алені трахаюць. Нават каньяк мяне не ўзбудзіў, а гэта дрэнны сімптом.

— Чуеш, Коля! Я табе пазней ператэлефаную. Нейкі ідыёт з суседняй кабінкі на мае пытанні адказвае.

На выхадзе з прыбіральні Кабасяева чакалі два мяснікі з выпацканымі крывёй рукамі і наліплым шмаццём мяса на фартухах.

— Вы каго, хлопцы, чакаеце? — адчуўшы нядобрае, спытаў Кабасяеў.

— Цябе, даражэнькі.

— З мяне сытнага фаршу не зробіш. Катлета нікацінам адбівацца будзе.

— Нікіцішне ты спадабаўся. Чакае цябе.

— Прабачце, але сэксуальны голад мяне не душыць.

— Шмат на сябе бярэш, — і Кабасяева пхнулі ў спіну чымсьці цвёрдым. — У гэтых падсобках слова Нікіцішны — закон. Яе выбар абранымі не абмяркоўваецца.

— Што ў вас за выбары, калі мужчыну пазбаўляюць права выбару.

— Ганарыся, што вялікая жанчына на цябе вока паклала.

— Буфанада гэта, а не сур'ёзны спектакль.

— Тут табе не тэатр, а мы не масоўка. Будзеш упарціцца — кастрыруем і ў слоіку закансервуем тваю мужчынскую годнасць. Ідзі! Не прымушай даму беспадстаўна чакаць.

Дзверы ў дырэктарскі кабінет расчынілася, і Кабасяеў убачыў Нікіцішну, якая стаяла на стале ў карункавай бялізне і з фужэрам каньяку ў руцэ.

— Любое жывое цела прыгожае, а галізна не ганебная. Няма брыдкіх людзей, ёсць няветлівыя людзі! — усклікнула яна і залпам асушыла фужэр.

Мяснікі пакланіліся і прычынілі за Кабасяевым дзверы.

— Лічу сваім абавязкам вас папярэдзіць. Я… — Кабасяеў запнуўся, падбіраючы патрэбнае слова, — …не працаголік, у тым сэнсе, на што вы разлічваеце. Нават трус і той перапынак робіць на сон.

— Фу-у-у! Ты так больш мяне не палохай! Бо я, дурніца, слухаючы цябе, падумала, што ворагі мне імпатэнта падсунулі.



## Соска

Навіна, што Маргоша Сасцова пакінула ў сябе на ноч Іллю Бухтуева і адмовілася мужыком дзяліцца, узбударажыла дваровых прашмандовак. У дзевак аж кроў закіпела ад злосці, і цэлы іх касяк ламануўся зводзіць рахункі з крыўдзіцелькай.

— Соска, нахабная сучка! — лямантавалі яны і да пасінення сціскалі кулачкі. — Адассала, змяюка, у нас мужыка. Задушыць такую мала.

— Рукі чэшуцца падле морду набіць, а паскудніка Бухтуева падзяліць між сабой па гадзіннаму графіку. Справядлівая дзяльба заб'е ў ім жаданне чыніць неўсвядомленыя здрады.

Калі заспаная Сасцова, паднятая з ложка настойлівым званком, адчыніла дзверы, яе вочы ад здзіўлення зрабіліся падобнымі на два сподкі з чайнага сервіза.

— Вы, шалавы, з глузду з'ехалі! — накінулася Маргоша на няпрошаных гасцей. — Прыперліся, быццам акрамя коўдры няма каму вас уначы грэць.

— Марго, вярні Бухтуева! Ён патрэбны не толькі табе, але і ўсім нам! — задзірыста запатрабавала Светка Каняева.

— Фікус вам таўстаствольны, а не Бухтуева. Спазніліся вы. Я ўчора дакументы ў натарыуса афарміла на поўную прыхватызацыю Бухтуева да поўнага зносу.

— Адна пад такім мужыком здароўе падарвеш. Ён жа цябе на жмуты парве.

— Хахала я на вашыя турботы, лярвы. Мне прозвішча Сасцова дадзена не без дай прычыны. Злоснымі зрэнкамі не бліскайце. Не палахлівая! Бухтуеў з гэтага дня ўвесь мой, без права перадачы і арэнды. Сэкс для вас — інстынкт, а для мяне пакліканне. Я замуж за яго іду!

— Адважылася наканец?

— На канец адважылася даўно, як толькі школьныя падручнікі на антрэсоль закінула. Сапраўднай жанчыне патрэбны сапраўдны мужчына. А швабрам спатрэбяцца ганучы.

— Бухтуеў збачэнец. Адной рукой лапае цябе, а другой надзіманую кралю. Вам траім у адной пасцелі не ўжыцца.

— Чым цясней, тым цяплей. Калі хлопец мае сваіх тараканаў у галаве, я не супраць, хай мае. Абы здароўе яго не слабла. Бухтуеў — сапраўдны мужык. У яго з гэтым, — Марго зрабіла шматзначную паўзу, — поўны парадак! Яго апошняя гумовая лялька не пратрымалася і тыдзень. Усю ў хлам раздзяўбаў.

— Дурніца! Знайшла, чым ганарыцца! Ён і цябе вельмі хутка ў хлам раздзяўбе. Такім мужыком трэба карыстацца ўсім па чарзе, каб не было перагрузкі на адным перадку.

— Забудзьцеся пра Бухтуева. Аб вашых перадках цяпер няхай хто іншы клапоціцца. А свае душэўныя раны я пераважыву, ды і цялесныя залізаць не вялікая праблема.

— Ён цябе з торбамі пусціць, калі стане жыць на адну тваю зарплату.

— Чхала я на вашыя здагадкі. Рэкламуючы прэзікі, ён за месяц на пясцовае футра грошы збярэ.

— Прадуманая ты, Марго! Усяго за адну ноч паразумнець — небывалы для цябе поспех.



— Дадайце да разумнай і тое, што я прыгожая і сэксуальная дзяўчына. А вы хто?!

— Мы таксама хлусіць умеем! Пакажы напаследак Бухтуева з непрыкрытай красой.

— Яшчэ чаго!!! Бухтуеў — не музейная рэліквія, каб я яго голым на паказ выстаўляла.

— Ну пакажы! Будзь чалавекам!

— Паслухайце, што вы прычапіліся: пакажы ды пакажы! Вам яшчэ лізнуць дай! Для Бухтуева час адпаднага сэксу і дзікага разгулу скончыўся. Буду з ім будаваць ціхае любоўнае гняздзечка, дзе ён гняздун, а я гняздушка.

— Мы не практолагі, і ў душу да цябе лезці не станем. Але спытаць апошні раз маем права: пакажаш Бухтуева ці не?

— Заняты ён. Пайшоў яйкі скупаць.

— У яго нейкі бізнэс?! А чаму ўначы?!

— Яйкі купаюць у ванне! — і Марго з трэскам зачыніла дзверы.

— Мы ўсё роўна яму скажам, што ты дурніца! — данеслася з-за дзвярэй.

— Бухтуеў чалавек з галавой, сам разбярэцца, хто чаго варты! — крыкнула ў адказ Сасцова.

Хоць і быў Бухтуеў чалавекам з галавой, аленазіральная Марго выгледзела ў ім два недахопа: усё, што Бухтуеў казаў, было суцэльнай лухтой, а ўсё, што ён рабіў рукамі, атрымлівалася — горш не прыдумаеш. Добрым быў у Бухтуева толькі яго мужчынскі пачатак, права валодаць якім Сасцова абараніла ў бескампраміснай барацьбе.

Калі раніца за акном канчаткова ўмацавалася, Марго, зрабіўшы па магчымасці ветлівы твар, праспявала з гамбургскім акцэнтам:

— Іллюша! Ком цу мір!

Памеры таза не дазвалялі ёй выглядаць павабна-зграбнай. Даводзілася прыкідвацца ра-

зумнай, чулай і душэўна глыбокай. Падобная адухоўленасць уласцівая ўсім уладальніцам непамернага таза.

На пакліч з'явіўся мужык у непрывабных джынсах з зашмальцаванай шырынкай. Яго растрапаныя валасы нагадалі Марго радкі з песні школьных часоў: «Віхры варожыя веюць над намі».

— Вось табе, Іллюша, рубляты, ідзі і купі прыстойныя штаны. Не хачу, каб злыя языкі мяцелілі, быццам у нас з табой адно голае каханне.

— Афігець можна, колькі грашанят! Я таксама хачу заўсёды столькі мець. Пакажы месца, дзе грошы бярэш?

— У цябе такога месца няма і ніколі не будзе. Хацець трэба матэрыяльныя рэчы. Грошы хацець нельга, яны агульныя. Цябе хацець можна. Я захацела, і зараз ты ўвесь мой.

— І ты ўся мая! — аблізнуўся Бухтуеў. — Як бы гэта смачна сказаць…Ура! Прыдумаў! Ты — мой пончык!

— Пончык таму, што тлустая?

— Не! Таму што салодкая і з дзірачкай. Скажы шчыра, колькі ты важыш? Добра, не кажы, потым у пасцелі шапнеш першыя тры лічбы. Можна, я замест штаноў добры гальштук куплю?

— Гальштук пачакае. Перш штаны купі на злосць тым, хто хоча цябе бачыць без штаноў.

Бухтуеў лёгенька ўшчыкнуў Марго за шчочку.

— Не турбуйся, усё зраблю ў лепшым выглядзе. Нават рэшту да капейкі вярну.

— Купіш штаны, пойдзем купляць шлюбныя пярсцёнкі.

— Ці не ранавата? Можа, я перадумаю з табой кальцавацца?

— Калі перадумаеш, выплавіш сабе зуб з залатога пярсцёнка.



— У мяне ўсе зубы на месцы. Лішняй дзіркі няма нават для залатога зуба.

— Залаты зуб уставіш замест таго, які я табе выб'ю, калі жаніцца на мне перадумаеш.

Марго зачыніла за Бухтуевым дзверы, глянула на сябе ў люстэрка і паправіла ўскалмачаную грыўку. Яна даўно не баялася прымхаў і бабскіх забабонаў. Вось і з Бухтуевым лягла ў ложак, перш чым распісалася. Але каб не лягла з ім, то і ацаніць усё тое, чым быў багаты Бухтуеў, ніколі б не змагла. Калі мужчынскі аргазм, груба кажучы, непазбежны, то жанчыне для аргазму патрэбныя старанне і добры чалавек.

Бухтуева Марго падабрала цалкам выпадкова. Пасля цэнтрыфугі ў гарадскім парку ён выглядаў смешным і бездапаможным. Яна абняла небараку, каб той не зваліўся, а ён, адчуваючы сваё хісткае становішча, схапіў Маргошу за азадак. Так бы і стаяла парачка вечнасць, цесна прыціскаючыся адно да аднаго, ды Бухтуеў, які быў па натуры чалавекам шчырым, не стаў сціпла сябе паводзіць і шапнуў на вушка Марго:

— Я пажарнік з вялікім вогнетушыцелем.

— Я гэта адчуваю, — прашаптала тая ў адказ і ледзь не самлела ад шчасця, якое прываліла.

— Мяне трэба добра карміць. Калі я ем і дадаю ў вазе, то і тое, што ты адчуваеш, таксама расце. Невытлумачальны феномен прыроды!

— Фантастыка! — здзівілася Марго, якая не была прызвычаеная да падарункаў лёсу.

У дзяцінстве Марго замучылі крыўднай мянушкай «Соска». Дзяўчынка была тыповай выдатніцай і зубрылкай. Ад несправядлівай мянушкі яна вельмі пакутавала. Замкнецца ў сабе і плача. Бацькі супакойвалі, як маглі. Толькі пасталеўшы, Маргоша зразумела, што прозвішча Сасцова —

падарунак нябёсаў. Мужыкі лавіліся на прозвішча, як шчупак на жыўца.

Ілля Бухтуеў, у адрозненне ад сяброўкі, меў у школе толькі адну выдатную адзнаку па батаніцы і мог доўга распавядаць на п'яных пасядзелках, як песцікі клеяць тычынак.

У пясочніцы пад грыбком, нягледзячы на тое, што было вельмі рана і была субота, з прыгнечаным выглядам сядзела чацвёра мужчын. Днём грыбок служыў ім курылкай, а вечарам паілкай.

— Субота, а ў роце няма адчування свята. Варта мне дзень без выпіўкі пражыць, як свет пачынае напаўняцца злоснымі і тупымі вырадкамі, — прызнаўся адзін з іх.

— Не гнявi Бога! — адгукнуўся другі. — Вунь Іллюха з пад'езда выйшаў. Не злосны, не тупы, не вырадак. Веру, яму пад сілу развеяць нашу нуду. Ілля, падграбай да нас! Мазгі пасля спячкі выветрыш, пагаварыўшы з сябрамі.

Важнай хадой Бухтуеў падышоў да мужыкоў.

— У каго, Іллюша, начаваў?

— У Маргошы. Чулі, як яна ўначы стагнала? Гэта я яе смажыў.

— Не крыўдуй, Ілля, але больш крута яна стогне, калі да яе іншыя заходзяць.

— Тады ў гэтую ноч спаць не кладзіцеся. Ацэніце маё старанне. Здаецца, Маргоша — мой апошні прычал.

— Не заракайся! Табе заўсёды адной бабы мала.

Бухтуева ў двары паважалі, але і зайздроснікаў было нямала. Асабліва сярод тых, хто хадзіў з ім у лазню памыцца. Разглядаючы голага Бухтуева, зайздроснікі скрыгаталі зубамі і шапталі: «За што далдону прырода падвесіла такога хвацкага «кянта»?!»



— Дык кажаш, у цябе з Сасцовай сур'ёзна, а не так, на адну ноч?

— Мне прасцей Маргулю пагладзіць, чым кашулю са штанамі. Дванаццаць гадзін з ёй шчаслівы. І магу вас запэўніць, прозвішча Сасцова не пусты гук. Яна як сукенку з адкрытай спіной да самага азадка надзела, дык я адразу страціў дар мовы.

— Сукенку яна наўмысна не тым бокам апранула! Пагуляць з табой захацела. Гумовую бабу на каго пакінеш?

— Да ўсіх баб, з целам і без цела, стаўлюся аб'ектыўна і нікога ніколі не абзаву дурніцай. Хоць сцервы, істэрычкі, ідыёткі сустракаюцца што ні крок. Надзімашка — маё нямое выратаванне. З гумовай бабай не растануся, бо ёсць на тое важкая прычына: і яе, і мяне хоць аднойчы, ды надзьмулі. З Маргуляй жыць буду тэрытарыяльна, а на выпадак яе хворай галавыператягу на лялечку. Маргуля не супраць, абы я кінуў курыць. Дзеля неймавернай эканоміі на цыгарэтах, якую разлічыла Сасцова, растацца з курывам для мяне не праблема.

— Дык ты і піць кінеш, калі яна папросіць?

— Піць не кіну. Пакольні не ведаю, куды буду дзяваць зэканомленыя грошы. Ёсць людзі, ад якіх толькі і чуваць: «ох-ох, як шмат народа памірае з-за гарэлкі». Але дзеля справядлівасці хачу сказаць, што не менш людзей з-за гарэлкі нараджаецца. Гарэлка — дабро, а не толькі зло. А чаму вы сумныя, быццам не субота сёння?

— Ніхто пакуль радасць па шклянках не разліў. А сам ты куды так рана сабраўся?

— За новымі штанамі. Пагладзіў галубцы пяткі, паказытаў, дзе трэба, вось яна і расшчодрылася на штаны.

— Гэта добра, што ты будзеш у новых штанах хадзіць. З табой, прыгожа адзетым, стаяць у чарзе прыемней будзе.

— Трэба дапамагчы Іллі выбраць годныя штаны, — уключыўся ў гутарку Воўчык Каламазаў. — Колер і фасон таксама значэнне маюць. Прапаную ўключыць калектыўны розум пры куплі штаноў.

— Я не супраць калектыўнага розуму. Калі зэканомім, будзе на што абнову абмыць. Няма такой падзеі ў жыцці рускага чалавека, якую нельга ператварыць у нагоду.

— Залатыя словы залатога чалавека. Мы ўсе тым і адрозніваемся ад жывёлаў, што акрамя як пажэрці і патрахацца, нам яшчэ бухнуць трэба. З тваім, Іллюша, прыходам пачалася сапраўдная добрая раніца. Табе колькі грошай на штаны далі?

Бухтуеў моўчкі паказаў туга сцягнуты гумкай пачак.

— На штаны хопіць! — прыжмурыўшы вока, аўтарытэтна запэўніў Каламазаў. — Нават можна авансікам прапусціць па чарачцы.

— Выпіць па чарачцы, перш чым распачаць вялікую справу, — добры знак! Поспех любіць тых, хто не забывае выпіць за поспех, — падтрымаў таварыша Віця Хварыгін. — Толькі нягожа нам, дарослым людзям, цыркацца чарачкамі. Калі браць, дык трэба браць адразу пару бутэлек гарэлкі.

— Пару — гэта колькі? — дзелавіта спытаў Каламазаў.

— Пару — гэта пяць!

— Пару — гэта заўсёды было восем. Восем бутэлек белай «хрэнэсі» — гэта добры пачатак перад вячэрнім абмывонам новых штаноў.



— З такім наліўным апетытам я і без штаноў застануся, і рэшту не вярну.

— Пачакай, Ілля, не гарачыся! Мы на тваю рэшту не прэтэндуем. Зрэшты, можам афарміць тваю рэшту ў доўг з пагашэннем праз два гады.

— Чарачкі, бутэлечкі! Канчайце балбаталогію. Даўно пара ў «Мухаморчыку» месцы забіць. Учора там свежую гарэлку разгружалі.

Кавярня «Пад мухаморам» была ўлюбёным прыстанкам моцных і ўпэўненых у сабе мужчын. Хто не быў моцным і ўпэўненым, станавіўся такім пасля першай распітай бутэлькі.

Месцаў за сталом хапіла ўсім. Толькі хлапчуку, які ўвязаўся за таткам, не было куды сесці.

— Ты навошта, Фёдар, сына з сабой узяў?

— Вы што?! Хіба я дзіцё малое адно ў двары кіну?! Мне жонка шыю намыліць!

— Мужыкі! — Ілля зрабіў сур’ёзны выгляд. — Мы ж учора пілі, і добра пілі.

— Гэта быў пятнічкі распівон, а сёння суботні апахмелон. Не разумею тваёй заклапочанасці! Не бачу нічога дрэннага ў тым, што ты правядзеш нейкі час з сябрамі, перш чым набудзеш новыя штаны!

— Сюды трэба прыходзіць да адзінаццаці, — наліваючы ў чаркі гарэлку з пузатага графінчыка, падказаў Каламазаў. — Да гэтага часу паспявае схлынуць першая хваля апахмеленых.

— Але не пазней гадзіны. Недзе ў гадзіну кухары гатуюць шаурму, і на пах бараніны з’язджаюцца мясаеды з усяго горада.

— Кажуць, калі прыкласці шаурму да вуха, можна пачуць маўчанне ягнятаў. Але баюся прыкладваць. Раптам мяса ў глотку не палезе. Нервы ў мяне не жалезныя, псіхануць магу за забітых.

— Крама з адзежай калі зачыняецца? — нагадаў пра сябе Бухтуеў.

— Не турбуйся, пра твае штаны мы таксама помнім. Галоўнае — не спяшацца. Калі спяшаешся, заўсёды не тое купіш.

Падышла афіцыянтка з новым графінчыкам.

— Насця, перастань пузатымі цыркацца! Цягні адразу скрыню!

— Не паложана прадаваць гарэлку скрынямі. Гэта вам не оптавы склад, а кафэ першай ацэначнай катэгорыі.

— Тады стой і не сыходзь, забярэш пусты графінчык і мухай злятаеш за поўным. Напішу куды трэба, каб вам забаранілі гарэлку ў графінчыкі наліваць. У ваш графінчык нават паўлітра гарэлкі не ўлазіць.

— Якое мілае дзіця! — пагладзіла афіцыянтка хлапчука па галаве. — Сядзіць ціхенька, нічога не просіць! Колькі яму?

— Яму адной чаркі хопіць. Не ў маіх правілах дзяцей песціць, я за строгае выхаванне.

— Фёдар, ты што, здурнеў?! Хлапца напаіць уздумаў?!

— Дык я, гэта, таго… З яго чаркі сам за здароўе Міцькі вып'ю.

— Дуплетам піць не дазволім. Мы за ўсеагульную справядлівасць. Кожны з нас таксама мог бы сваякоў з сабой прыцягнуць! Так што, Федзя, збаў абароты і задаволься тым, што нальюць.

— Пра закуску пара падумаць. Ад сухарыкаў адны крошкі на стале засталіся.

— Насцюха, яшчэ порцыю сухарыкаў! — крыкнуў Ілля афіцыянтцы.

— Трымайце сухарыкі! Як той казаў, для добрых людзей і хека не шкада.



— Маладыя людзі! — да стала падышла асвежаная адэкалонам пава. — А не слабо вам будзе мяне пачаставаць? Я як вып'ю, такой дурной раблюся. Вам апоўдні дурней за мяне тут нікога не знайсці. — Пава ўсміхнулася, і ўсім здалося, што яе шырокую ўсмешку можна завязаць на патыліцы.

— Калі мы паддатыя, у нас сваёй дурасці хапае. Ішла б ты туды, адкуль на свет з'явілася.

— І дзе яе такую адкапалі?! Проста хоць бяры ды назад закопвай.

— Іллюша, сухарыкаў больш не замаўляй. Лёня іх у свае кішэні перакрошвае. Поўныя кішэні крошкай набіў.

— Да Лёні не чапляйцеся. Яму мама не дазваляе на ноч у дом крошак прыводзіць. Дык ён прывучыў сябе спаць на сухарных крошках.

— Раз мы добра паклапаціліся пра Лёньку, прапаную папалуднаваць, — прынюхваючыся да пахаў з кухні, прапанаваў Кабашын. — Сухарыкі — дзіцячая забава, а сур'ёзныя людзі павінны добра сілкавацца.

— Пра што думаеш, Ілля?

— Пра будучыню. Хачу, каб хутчэй прыйшоў час, калі бутэлька стане ядомай. Мужыкі! Карпаратыўны абед — гэта добра. Ён гуртуе калектыў. Але ці хопіць мне грошай пасля абеду на штаны?!

— Ілля, мы тваю апаску не падзяляем. Паловы твайго грашовага пачка хопіць, каб купіць выдатныя штаны. Калі не хопіць, магу свае саступіць за тыя ж грошы. Амаль новыя. Разок у іх на зямельцы пакачаўся. Калі старгуемся, то будзе нагода працягнуць бяседу.

— Сам ты як без штаноў абыдзешся?

— Пасяджу ў трусах, пакуль не сцямнее. А як сцямнее, куляй праз двор у свой дом пралячу.

— Іллі патрэбныя цалкам новыя штаны. Жаніховыя. Такія каштуюць якраз паўпачка ягоных грошай. У кафэ трацішу пачка пакінем. Не больш. Калі паабедаем прама цяпер.

Усе з надзеяй паглядзелі на Іллю.

— Згодны, — ледзь выдушыў ён з сябе. Не хацелася засмучаць сяброў.

— Насця! — не марудзячы, Фёдар паклікаў афіцыянтку. — Кожнаму гарэлачкі па графінчыку, шашлычку па шампурчыку і нарэзачку з агародніны на агульнай талерачцы.

— Я без баршча абедаць не буду.

— Ну, і талерку баршча гэтаму баршчаеду.

— Чаявыя наперад. Вам забыцца іх мне даць прасцей, чым забыцца шырынку зашпіліць пасля прыбіральні.

— Заказ хуценька прынясеш, тады і чаявыя табе пад гумку на панчохах засунем. Пакуль абед не прынеслі, трэба гарэлачку, што засталася, апрыходаваць.

— Без тоста піць не згодны!

— Тады п'ем за яе!

— За каго яе?! — нахмурыўся Ілля. — Імя назавіце, альбо ўжо забыліся, чые грошы прапіваем?!

— За яе! За ўдачу! І за яго! За поспех!

— І яшчэ за тое, каб дзень не прапаў дарма!

Фёдар узяў у руку чарку і падняўся з-за стала.

— Калі ты, Іллюша, надзенеш новыя штаны і адразу адчуеш сябе шчаслівым, то гэта будзе твая найглыбокая памылка. Чалавека шчаслівым робяць прыемнасці.

— Насіць новыя штаны — таксама прыемнасць.

— Не спрачаюся, але дазволь працягнуць тост. Калі я пакуру, то шчаслівы цэлую хвіліну. Калі нап'юся, шчаслівы цэлы дзень. Калі прастужуся, шчаслівы цэлы тыдзень, бо на працу хадзіць не трэба. Калі ажанюся, буду шчаслівы цэлы мядовы месяц. Табе ж жадаю — будзь здаровы! Гэта самае вялікае шчасце, якое можа мець чалавек.

— Пасля такой прамовы тры наступныя чаркі можна піць без тостаў.

— Добра сядзім. Самы час зачаравацца страшнай бабай.

— З кожнай бабай паўтараецца адно і тое ж. Прычым незалежна ад таго, страшная яна ці не.

— Паўтораў не трэба баяцца. Паўтор — замацаванне раней пройдзенага матэрыялу. Лічу, Ілле пашанцавала. Яго Маргуля не ператворыцца за некалькі гадоў са стройнай цялушкі ў непаваротлівую карову. Ён адразу ў жонкі бярэ карову.

— Так мы адсюль ніколі не выберамся. Без новых штаноў мне дадому з'яўляцца нельга. Усё, пайшлі ў краму.

— Пастойце! Не будзем Пецю крыўдзіць. Ён нам заўсёды пад настрой свае новыя вершы чытае.

— Хай чытае! Чалавек для нас стараўся!

— «Валацуга», — абвясціў Пеця, — паэма.

— Ну вось што, Пятро! Чатыры радкі і не больш. Калі я слухаю, што ты накрэмзаў, то чухаюся ў самых нясціплых месцах.

— Чатыры дык чатыры, — не стаў спрачацца Пеця, — слухайце:

Аблі мяне
Пунсовай спёкай вуснаў!
Ці я табе
Прыйшоўся не да густу?

— Сур'ёзныя вершы. Пра голых баб ні слова.

— Пасля такіх вершаў на бульвар ісці трэба. Плячо ў мяне засвярбела і рука размахнулася. Трэба каму чужому ў морду даць, пакуль сваіх сабутэльнікаў біць не пачаў.

— Шта-ны! — нагадаў пра галоўнае Ілля.

Па дарозе ў краму размаўлялі толькі пра новыя штаны.

— Штаны трэба купляць недарагія, а лепш уцэненыя. Не так будзе шкада, калі парвуцца.

— Выдаткаваныя грошы «на фірмачы», як вошкі, доўга спакою не дадуць.

Штаны выбіралі грунтоўна, але такіх, каб усім спадабаліся, не знайшлося.

— Ты хлопец сціплы, — паклаў руку на плячо Бухтуева Талян. — І штаны табе патрэбныя звычайныя, без выпендрону.

— А ў штанах, што зараз на табе, ты выглядаеш горш за трансвесціта. Табе гэта трэба?! Штаны — піжонская адзежа. Куды лепш звычайныя спартовыя трэнікі.

Але Бухтуеў ужо не хацеў нікога слухаць. Ён выбраў штаны. Гэта былі выдатныя штаны, пра якія мог бы толькі марыць кожны жаніх. Ён нават не захацеў іх здымаць, так яны яму спадабаліся.

— Няшмат чаго ты даб'ешся ў жыцці, калі будзеш гэтак смецціць грашыма.

— Гэтыя штаны падыходзяць для дрэннага надвор'я. Апранаць іх, калі тэрмометр шалее ад спякоты, вар'яцтва. Мая табе рада: купі шорты. Танна і практычна.

— А што я Маргулі скажу? Не можам жа мы ўсе грошы прапіць, нічога не купіўшы!

— Ты маеш рацыю! Не можам! Таму купім табе... трусы. Дома кожны з нас вялікую частку часу праводзіць у трусах. Прыгожыя трусы — незаменная рэч. Захоўвае душэўны камфорт пры любым сямейным укладзе.



Трусы набылі ў падземным пераходзе ў цыганкі. Потым Бухтуева завялі ў бліжэйшы пад'езд і патрабавалі прымерыць. Трусы былі доўгія, коса пашытыя і ціснулі.

— Фігня! Ты не пра сябе думай! Ты нават уявіць не можаш, колькі твая Маргуля з гэтых трусоў накроіць сабе стрынгаў.

Зрабілася яшчэ весялей, калі абмылі пакупку. Бухтуеў спяваў разам з усімі і быў рады добраму настрою. Толькі перад домам ён раптам пасур'ёзнеў.

— Сябры мае! Мне ж трэба рэшту Маргулі аддаць. А ў кішэні нават ірванага рубля не засталося.

— Ілля, ніколі не шкадуй грошай. Яны цябе, сукі, хіба шкадуюць?!

— Дарма мы Ілле з трох апошніх бутэлек налівалі. Зараз ад пытанняў п'янага неадэквата не адаб'ешся. З сябрамі, да раніцы растаючыся, пра нейкую дробязь успомніў. Крыхабор!

— Угавор даражэй за грошы. Раз абяцалі з рэштай дапамагчы, значыць будзем дапамагаць.

Панаракалі мужыкі, незадаволена пакрывілі рожы, але дробязь сякую-такую сабралі і засунулі Бухтуеву ў кішэнь.

— Праводзіць далей не будзем. Дзесяць метраў да пад'езда сам на карачках дапаўзеш. Не хочацца псаваць выдатны вечар гутаркай з Маргуляй. Дахаты прыйдзеш, здымай моўчкі порткі і ў ложак кладзіся. Хай за цябе апраўдваецца той, дзеля якога цябе дзеўка жаніхом назвала. А надалей сваю бабу зацуглянай трымай, якой бы дасканалай яна не здавалася пасля першай пазашлюбнай ночы.



## «Джын»

— Ты мне за ўсіх падонкаў адкажаш! — лютаваў начальнік райаддзела міліцыі Іван Застукін. — Не будзе табе, сволач, літасці! Я пазнаў цябе! Ты — маньяк-некрафіл, які гуляе па начах з сякерай пад паліто. Не смей, нахабнік, разгойдвацца, калі з табой гаворыць начальнік райаддзела. Што-о-о?! Мае словы табе не ўказ?! Атрымлівай нагою ў лыч!

— Таварыш маёр! Прабачце, што адцягваю ад любімага вамі занятку. Капітан Кіпцюрасты па тэрміновай справе!

— Не ў час зайшоў, капітан! — буркнуў маёр і змахнуў рукавом кропелькі поту з твару. — Заняты я! Хіба не чуваць? Мне яшчэ дванаццаць хвілін біць «грушу» ў спартзале.

— Справа асаблівай важнасці. Не было б яе, сам бы з задавальненнем падубасіў «мяшок».

— Заходзь і прад'яўляй сваю справу! Ацаню важнасць — прабачу! Не ацаню — уздручу! Забіваць мазгі начальніка шалупіннем — недапушчальная раскоша. Дзе дакументы па справе?

— Дакументы спакаваны ў галаве пад грыфам «для службовага карыстання».

— А кішэні чым раздутыя? Ізноў запас ежы на трое сутак з сабой носіш?

— У кішэнях інфармацыя па справе. Інфармацыя, якая не ўлезла ў галаву.

Капітан Кіпцюрасты, спецыяліст па пярэваратнях і іншым малавывучаным феноменам, берог час шэфа і ніколі не прыходзіў па дробязях. Застукін ведаў гэта і шанаваў спяца.

— Дакладвай сутнасць справы без пейзажных тонкасцяў.

— У горадзе лютуе маньяк сэксуальнай накіраванасці. Другія суткі гвалтуе адну і тую ж жанчыну ў адным і тым жа месцы.

— Дуплетчык! — маёр ручніком выцер спацелы твар. — Ахвяра практычна заўсёды прымае негатыўны ўдзел у злачынстве. Ёсць ахвяра — ёсць злачынства, няма ахвяры — няма злачынства. У маіх словах філасофія вышуковай працы.

— Таварыш маёр, вельмі дзіўны выбар месца злачынства. Трансфарматарная будка пад высокім напружаннем у лесапаркавай зоне.

— Трэба разбірацца, у чым задума зробленага. Задума без намеру — чыстая выдумка.

Лесапаркавая зона мела благую славу. Нямала паганай набрыдзі зараблялa ў ёй. Застукіну падабаліся злачынцы, якія дзейнічалі нетрадыцыйна, вынаходліва, з выдумкай. «Служба ў міліцыі — гэта не толькі страляніна з «пісціка» ў белы свет, як у кавуновае семечка! — любіў паўтараць маёр на аператыўках. — Перамагаць злачынцаў трэба сілай інтэлекту. З'есці выраdка без нажа і відэльца і не падавіцца — вось сутнасць гастранамічнага аргазму сапраўднага опера!»

Задуменнасць упрыгожыла твар Застукіна.

— Маньяк асэнсавана і груба ўвайшоў у чужое цела і моцна ў ім наслядзіў, — прамармытаў ён, разважаючы сам з сабой. — Калі злачынец кончыў у цела, хоць не меў на тое права, будзе заведзена справа. Пойдзем да мяне ў кабінет, дзе і прыкінем план далейшых дзеянняў.

Ступаючы следам за начальнікам, капітан Кіпцюрасты паўтараў завучанае сакрэтнае

правіла, якое дзейнічала ў райаддзеле: «Кажы коратка, прасі мала, сыходзь хутка».

Перш чым увайсці ў кабінет, капітан нечакана сказаў:

— Таварыш маёр, дзіўлюся вам. Поўная адсутнасць страху ў самых страшных сітуацыях! Гэтая здольнасць у вас ад нараджэння ці набыта за гады службы?

— Страх баіцца мяне з тых часоў, як першы раз спаткаў. Варта мне люта зірнуць на свой адбітак у люстэрку, і няма ў вачах, якія глядзяць на мяне адтуль, ніякага страху. Не кожнаму дадзена глядзець у люстэрка не на сябе, а ў вечнасць. Усё! Пра мяне ні слова, — маёр не дазваляў падначаленым шмат казаць пра сябе, любіў гэта рабіць сам. — Перад маньякам разамнемся чытаннем крымінальнай зводкі, — рашуча абвясціў ён, падыходзячы да стала, заваленага стосамі паперы.

Сённяшнія крымінальныя навіны не адрозніваліся ад учорашніх. Застукін, як звыкла, услых каментаваў кожны дакумент:

— Стралялі ў казіно. Звычайная справа. Там, дзе сякуць «капусту», кулі свішчуць. Забойства. Пры спробе пакончыць з сабой, застрэлены дзвюма кулямі ў спіну мацёры рэцыдывіст «Кладаўшчык». Кіпцюрасты! Дай каманду зняць вонкавае назіранне за «малінай» мацёрага. Хуліганства. Цэгла праляцела міма галавы дырэктара «Мамай-Банка». Справа закрыта з-за незаказанасці. Уцёкі. З псіхлячэбніцы збеглі хворыя з расстройствам кішэчніка. Уцекачы насцігнуты медперсаналам па гарачых слядах. Кіпцюрасты, удакладні, чым псіхаў кормяць. Спатрэбіцца для кармлення змешчаных у ізалятары. Крымінальная справа па факце крадзяжу барана спынена. Баран вярнуўся дахаты. Згвалтаванне. Мужчына згвалтаваў жанчыну ў трансфарматарнай будцы ў неўсталяванай позе пад высокім напружаннем. Фокуснік! — Застукін не хаваў захаплення. У яго вачах ледзь прыкметна ўспыхнуў д'ябальскі агеньчык. Успомнілася чарада ўласных распусных прыгод. Вячэра з чужой жонкай пры раскошным стале заўсёды хавала масу прыемных неспадзевак. Прыемныя неспадзеўкі дарыла Анюта — палюбоўніца-зладзейка. Любіла Ганка цалавацца язычок у язычок, не выпускаючы нагоды пакакетнічаць:

— Ваня, ты шмат патрабуеш. І гэтак ляж, і гэтак стань. Я ж не замазка і не гімнастка!

— Замазка, гімнастка! — зганяючы з твару захапленне ад напаўраскрытых вуснаў, чартыхаўся Застукін. — Я таксама не гутаперчывы хлопчык! Але імкнуся быць падобным да яго, калі на табе прагінаюся.

Адагнаўшы прыемныя ўспаміны, Застукін вярнуўся да разбору нязвыклага злачынства.

— Хто ж так адчайна і дзёрзка палез у трансфарматарную будку?! Маньяк рызыкаваў не толькі сабой, але і чалавекам, здольным яшчэ нараджаць дзяцей. Калі мужчыну дрэнна, ён шукае жанчыну. Калі яму добра, ён таксама шукае жанчыну. Калі пошук жанчын становіцца неадчэпнай ідэяй — немагчыма сябе спыніць. Злачынцу, як і яго ахвяру, па розных прычынах цягне да месца злачынства. Патрэбна засада каля трансфарматарнай будкі. Добрых людзей у райаддзеле шмат, шкада, карысных мала. Увесь асабовы склад цалкам заняты кватэрнымі крадзяжамі, разбоем на вуліцах, угонам аўтамашын, іншым дробным хуліганствам. Прыйдзецца самому легчы ў засаду. Кіпцюрасты, бя-

ру цябе трэцім. Другім паклічам прапаршчыка Антаніну Фурсеткаву.

Кіпцюрасты маўчаў. Засяроджанасць, якая адбілася на ягоным твары, многіх магла б напалохаць.

— Пра што думаеш, капітан? Зрэшты, можаш не казаць. Пра такіх, як ты, апазіцыянеры песню склалі: «Як надзену партупею, дык тупею і тупею…» Можаш расслабіцца і ўсміхнуцца. Але ненадоўга. Праца — самае галоўнае. Такім чынам, нам вядома, што згвалтаванне здзейснена ў ноч з 20-га на 21-е.

— Таварыш маёр, прабачце, не пачуў, у ноч з 20-га на якое?

— У ноч з дваццатага на дваццаць якое трэба, — маёр напусціў на твар задуменнасць і асцярожна пацягнуў нітачку следства з клубка рэцыдыву. — Прыступаючы да разблытвання заблытанай справы, мы гэтую справу яшчэ больш заблытаем. У арыенціроўцы зменіш сапраўдны пол злачынцы. Аб'явіш у вышук жанчыну-некрафіла, якая зацягнула няўдачлівага мінака ў трансфарматарную будку і ў жорсткай форме згвалціла яго. Калі будзеш распаўсюджваць дэзу, нічога не пераблытай. Кажы адно, рабі іншае. Сапраўднага гвалтаўніка будзем браць на падсадную бабу. Падсадную выставім каля трансфарматарнай будкі. Быць такога не можа, каб наш «электрык» ізноў не зарулiў на ўпадабанае месца. Ролю падсадной сыграе Фурсеткава. У засаду ляжам за ёмістасцю для захоўвання вады. Яна ў дзесяці кроках ад трансфарматарнай будкі.

— Вы маеце на ўвазе прэзервуар?

— Скажы тое ж самае, але без «п».

— Рэзервацію?!



Застукін глыбока ўздыхнуў і павольна выдыхнуў. Гэта быў правераны спосаб не даць падняцца ціску. Не віна маёра, што ў міліцыю бяруць здаровых хлопцаў, а патрабаваць мусіш ад іх як ад разумных!

— Пара табе, капітан, даўно паразумнець. Не першы год са мной працуеш. Разам з падручнікам па крыміналістыцы трымай на працоўным стале слоўнік рускай мовы Ожагава.

Надвор'е ў дзень аперацыі абяцалася быць жахлівым. Яго прагноз у калідорах райаддзела перадаваўся толькі мацюкамі. Але маёр прызнаваў толькі дзве паравіны года — «своечасова» і «несвоечасова». Уцёкі вар'ятаў, стральба ў казіно, разгул маньяка — гэты тыдзень падкінуў добры аб'ёмчык работкі. Забеспячэнне парадку ў горадзе адымала ў Застукіна ўсе сілы і ўвесь час. На беспарадкі бракавала і таго, і другога.

Перад засадай ён забег дахаты сербануць гарачага супчыку на курыных вантробах па рэцэпту Глеба Жаглова.

Боты паляцелі ў кут, партфель на канапу, кіцель на падлогу, шкарпэткі пад крэсла. Толькі да штаноў маёр ставіўся паважліва і заўсёды акуратна вешаў іх у шафу. Штаны былі важней за жонку. Без жонкі ён мог схадзіць куды заўгодна, а без штаноў у прыстойныя месцы не пускалі.

Убачыўшы сябе ў люстэрку, Іван адхіснуўся:

— Не хацеў бы я з такім сабой сустрэцца цёмнай ноччу ў глухім завулку!

— Яшчэ куды пойдзеш? — шнарачы, як звыкла, у кішэнях кіцеля, спытала жонка.

— Пайду ў засаду.

— Табе і дома ёсць каму засадзіць! — выглянула з-за дочкінага пляча цешча.

— Вам бы, мама, ды з вашым гумарам на тэлебачанні ў ток-шоу хуліганіць.

У адносінах з цешчай ён спрабаваў з апошніх сіл захаваць нейтральнасць: баласансаваць паміж празмернай далікатнасцю і адкрытай непрыязнасцю. Але не заўсёды атрымлівалася рабіць гэта гладка і роўна.

— Ідзі есці кашу! — скончыўшы чысціць кішэні кіцеля, абвясціла жонка.

— Ты ж суп варыла?!

— Ці мала што я варыла. Еш тое, што атрымалася.

Застукін сеў за стол і лыжкай прымерыўся да кашы. Жонка дэманстратыўна паставіла перад сабой пустую талерку.

— З'еш, Верачка, хоць пару лыжак, — расчулілася цешча. — Талію беражэш, а ахвотнікаў ёю захапляцца не надта шмат нажыла.

— Мама! — скрозь зубы выдушыў Застукін. — Прашу, не лезце ў нашыя з Верай справы. Веры нельга вечарам есці. Доктар рэкамендаваў мне класціся спаць на пусты страўнік.

— Мне здаецца, на яе пустым страўніку ты кожную ноч толькі і думаеш, як Веру распяць!

— Ой, мама! — уздыхнула Вера. — Не з маім шчасцем пра пяць разоў за ноч марыць.

— Ой, дачушка! Ці варта з-за аднаго разіку так сябе мучыць?! Ненармальныя вы абодва.

— Я нармальны! — устаў з-за стала Застукін. — У мяне ўсё ў парадку, і даведка з паліклінікі ёсць.

— Ды зразумей ты, зяцёк, нам не даведка патрэбна, а вынік! — пляснула рукамі цешча.

— Ды стараюся я! Чаго вы да мяне чапляецеся?!



— Стараешся! Але, здаецца мне, стараешся не ў сваёй пасцелі.

— Вы, мама, не хаміце, а да слоў факцікі прышпільвайце. Вашыя словы без факцікаў — пыл дарожны, — Застукін нахмурыўся. — Пакіньце мяне аднаго, падумаць трэба. Іду лавіць небяспечнага сэксуальнага маньяка. Падла адну і тую ж жанчыну двойчы згвалтаваў у трансфарматарнай будцы.

— Усіх нармальных мужыкоў пераловіш, з кім бабы спаць будуць?! — разышлася цешча.

— Вам дык чаго турбавацца?! Вы паспяхова паспелі выскачыць з узроставага дыяпазону яго ахвяр.

— Не пра сябе думаю. Сам валяешся ў засадах з кім папала, а жонка твая як Дзева Марыя павінна быць?!

— А ты што ад мяне хочаш, «Дзева Марыя»? — Застукін утаропіўся на жонку.

— Хачу вялікага і чыстага.

— Хочаш вялікага і чыстага — не сядзі дома. Ідзі ў заапарк і памый слана. Ёсць яшчэ іншыя жаданні?

— Хачу, каб грошай у цябе было шмат.

— Тады не забірай іх у мяне. Не ты павінна грошы любіць, а грошы цябе.

— Як жа яны мяне будуць любіць, калі іх у мяне няма?!

— Запомні, грошы — рэч наравістая: загубяць нават тых, у каго іх няма. Вось калі праўда вылезла, як той гнюсны прышч. Табе патрэбны не я, а мой кашалёк.

— Пляваць яна хацела на твой кашалёк, калі ён пусты! — не ўтрымалася цешча. — І не зіркай на мяне гэтак з'едліва! А то можна падумаць, я цешча дрэнная! Мо забыўся ўжо, што я да цябе

ў цешчы не прасілася!? Сам з мяне сабе цешчу зрабіў! Зараз трывай, як Вера трывае. І за што толькі мая дачка цябе кахае?

— Паказаць?

— Ты з глузду з'ехаў! — сыкнула Вера. — Убачыць у цябе мама і засмуціцца, што ўсе свае гады дарма пражыла.

Разздаваны Застукін выйшаў на балкон астудзіцца. Стаміўшыся ад хатняй сутычкі, закурыў. Пасля пары зацяжак прыйшло палягчэнне. «Ды праваліся ўсё ў балота! — цвёрда вырашыў маёр. — Трэба пра ўсё забыцца і думаць, як злавіць маньяка. Калі гэты трахажлоб нікога і нічога не баіцца, значыць ён самы страшны ў горадзе. Выбар страшных не густы: кастрыраваны кракадзіл «Дэрмацін», які жыве на ланцугу ў бананавага барона Хачатрана, ды рэцыдывіст Джын. Кракадзіла пасля кастрацыі лічыць сэксуальна небяспечным бязглузда. Джын! Вось хто здольны на падобнае дзівацтва!

Мянушку «Джын» рэцыдывіст Малюкін атрымаў за неверагодную здольнасць аб'яўляцца на гук бурбалак разліванай па шклянках гарэлкі. Дзе б «корашы» ні схаваліся, Джын заўсёды паспяваў да першых буль-буляў.

Джын працаваў рубшчыкам перамёрзлай рыбы ў павільёне «Блакітны месяц» у дзевяці хвілінах хады ад месца злачынства. Гэты факт сам па сабе станавіўся сур'ёзным доказам.

А сёмай гадзіне вечара Застукін і капітан ляглі ў засаду. Сабачы холад не замінаў сабачай працы. Затое прыставучыя камары і слепні ўчынілі нахабную аб'ядалаўку.

— Ты, Кіпцюрасты, рукамі не размахвай. Заб'еш камара, а ў ім мая кроў. За сваяка спытаю



па поўнай. Класную куртачку ты недзе надыбаў. Шмат за яе даў?

— Так, дробязь. Рукаяткай у чэрап, нагой па нырках.

— Ты, малы, не дурань, але і дурань не малы! Выйду на пенсію, такую ж папрашу ў добрых людзей. Думаю, не адмовяць. Адкрыю прыватнае дэтэктыўнае агенцтва. Вельмі шмат жонак шчаслівыя ў замужжы, і мужыкі наймаюць дэтэктываў, каб разабрацца ў прычынах гэтага шчасця. Так што без работкі нават на пенсіі не застануся.

— Я, таварыш маёр, хутка жанюся. Буду прасіць вас пайсці панятым на маё вяселле.

— Давай, жаніховы паўфабрыкат, не будзем шалупіннем мазгі засмечваць. Мы ў засадзе, а засада — наша праца. Бачыш перакошаную таблічку, што вісіць на дзвярах трансфарматарнай будкі?

— Не толькі бачу, але і прачытаць магу: «Не ўлазь! Заб'ю! Электрык Федзя». Ведаю я гэтага Федзю. Ніводны дурань сюды не палезе, прачытаўшы такія словы. У Федзі кулак, як галава ў барана.

— А я ведаю дурня, які палезе.

— Таварыш маёр, не палезу! Чэснае слова! Пасля жаніцьбы палезу. Куды скажаце, палезу. А да жаніцьбы дазвольце сабой не рызыкаваць.

— Жаніцьба — гэта ўжо рызыкоўная справа. Не факт, што з мяшка з гадзюкамі выцягнеш вужыху. Але цяпер не пра цябе гаворка. Лепш скажы, Кіпцюрасты, ці бываюць поўныя дурні худымі?

— Поўны худым не можа быць. Фізіялогію свідрам не возьмеш.

— Можа, Кіпцюрасты, можа! — задуменнасць прарэзалася на твары ў Застукіна. — Калі загадаюць, схуднееш, нікуды не дзенешся. У кожным чалавеку безліч нераскрытых магчымасцяў. Чалавеку толькі нагода патрэбна, каб сябе выявіць. Доказаў змог назбіраць у ваколіцах?

— Не знайшоў амаль нічога. Знайшоў абгортку ад лоевай фасоўкі «Свінарушка», кавалак калготак фірмы «Рвемся…» далей не прачытаць, адарвана. І ўсё. Дворнікам зарплату павысілі, таму зараз смецце ў іх у цане. За кожны здадзены мяшок смецця ім бясплатна кубак піва наліваюць.

— Перагібае мэр у пагоні за чысцінёй. А ты са смеццем схібіў. Раней дворнікаў абавязаны быў тут з'явіцца. Пакуль нікога няма, давай паразважаем. Лепшага месца для злачынства, чым гэты дрэнна асветлены пятак, не прыдумаеш. Мяркую, маньяк быў адважна п'яным, таму ўвязаўся за грамадзянкай. Два квартала ішоў следам і нецэнзурна ёю захапляўся. Яму заўсёды было цяжка прывесці жанчыну дадому. Спачатку з-за бацькоў, зараз — з-за сварлівай жонкі. На прыродзе агаляць жанчыну — клапатлівая справа: альбо хтосьці ўбачыць, альбо хтосьці ўкусіць, — Застукін замоўк і прынюхаўся, — здаецца, мы ў дзярмо ўляпаліся.

— Не бярыце ў галаву, таварыш маёр. І ў дзярме штосьці ёсць. Тысячы мух не могуць памыляцца.

— Ну, ты для маскіроўкі можаш і ў дзярме заставацца, а мне пасада не дазваляе. Фурсеткава!

— Я, таварыш маёр! — адгукнулася Антаніна, якая фланіравала ля трансфарматарнай будкі.

— Будзь напагатове. Дзейнічаць будзеш у залежнасці ад абставінаў. Выкарыстоўвай для сваёй абароны любы прадмет, які ёсць у сумачцы: расчоску, дэзадарант, але лепш за ўсё падыдзе кавалак вадаправоднай трубы!

— Дык якую ж сумішчу я павінна з сабой цягаць, каб у ёй кавалак трубы змясціўся?!

— Якую трэба, такую і абавязана цягаць. У міліцыі працуеш, а не подыумы на паказах топчаш. Труба, калі разабрацца, моцны фрэйдысцкі знак. І любая жанчына павінна яе з сабой насіць. У сумачцы, у руках, за поясам — гэта як каму хочацца. Злачынцу ўбачыш — не мітусіся. Станеш пад ліхтар і пачнеш папраўляць калготкі.

— Не клюне маньяк на Фурсеткаву. У яе грудзі мужчынскія. У школе міліцыі захаплялася поўзаннем па-пластунскі, вось і расцёрла.

— Чым меншыя ў жанчыны грудзі, тым большы ў яе розум. Чаму гэта так — невытлумачальная загадка. Не грудзьмі яна возьме маньяка, а розумам, замяшаным на жаночай хітрасці.

— Можа, дарма ляжым. Дзе гарантыя, што той, каго чакаем, прыйдзе?

— Прыйдзе. Я паклапачуся, каб ён не проста сюды прыйшоў, а на скрут галавы ляцеў, не разбіраючы дарогі. На, капітан, расчакань бутэльку гарэлкі, праверым маю здагадку.

— Таварыш маёр, прапаную першы тост. Вып'ем за нашых ворагаў!

— Ты што?!

— Дык я ж не чокаючыся!

— Гарэлка службовая. Служыць прынадай для Джына. Ёсць падстава меркаваць, што ў трансфарматарнай будцы папрацаваў яго хрэн. Хрэн, які належыць на правах уласнасці — гэта доказ, які не аспрэчыш. Папырскай гарэлкай вакол. Няхай гарэлкавы духман па ноздрах яму лупане.

— Увага! Бачу мужыка, — даклала Фурсеткава, — некуды вельмі спяшаецца. З ім жанчына. Жанчыну я пазнала. Гэта яна заявіла пра двухразовае згвалтаванне.

— Спрацавала мая задумка. Сам Джын спяшаецца да нас уласнай персонай, — Застукін расшпіліў кабуру. — Фурсеткава, хавайся за будку і без каманды носа не паказвай. Так ужо збудаваны мужчыны, што самыя чыстыя істоты выклікаюць у іх самыя брудныя думкі. Ты, лейтэнант, пойдзеш на яго першым. Ува мне не сумнявайся! Калі што, адпомсціць за цябе — справа майго гонару!

Аглядаючыся па баках і прынюхваючыся, да трансфарматарнай будкі падкрадваўся Джын. Следам тупала жанчына.

— Ды пастой ты! Куды цябе чэрці нясуць?!

— Адстань. Дзесьці тут побач крыху знаёмыя мне людзі скруцілі корак на бутэльцы з гарэлкай. Стаіліся, падлы! Але мой нюх не правядзеш, і падзяліцца са мной ім усё роўна прыйдзецца. Не будзь я Джын!

— Вось ты і папаўся, Джын! — з кустоў выскачыў Застукін і стаў у баксёрскую стойку. — Трэці раз табе не дадзена з жанчынай у будцы адзначыцца.

— Таварыш маёр, не паганьце рукі аб яго морду!

— Спакойна, Кіпцюрасты, спакойна!

— Навошта, начальнік, непраўдападобку шыеш?! Кіпіш не па справе падняў! Я не канчаны дурань, канчаць з бабай на аголеных кантактах. Дык гэта ты мяне гарэлкай завабіў?! Старэю, не адрозніў мянта ад кораша.

— Джын, я не піяніст, і за піяніна не саджуся. А ты — рубшчык рыбы! І рубіў бы сваю рыбу. Каб залезці ў трансфарматарную будку, трэба мець вывернутыя мазгі. Добра, калі б адзін палез. Мала хто б слёзы па табе ліў. Дык пацягнуў з сабой жывога чалавека, якому яшчэ нараджаць і нараджаць. Факты — рэч упартая. І табе іх не аспрэчыць.

— Не думаў, начальнік, што маёй справай ты сам зоймешся. З табой марна выкручвацца. Твае довады перакусяць, як акула дайвера. Іду ў сазнанку. Надыбаў паліто з гумовай падшэўкай, да яго чаравікі на тоўстай гумовай падэшве з уманціраваным у абцас зазямленнем. Вось і вырашыў іспытуху ўстроіць для ўзняцця душэўнага тонусу.

Джын усміхнуўся і стаў падобным да сабакі, які віляе хвастом, трымаючы ў зубах гранату.

— Пацярпелая, а вы чаму не ўцяклі ад гвалтаўніка?

— Таму што нікуды не спяшалася. Ой, не тое я, баба дурная, сказала! — і па шчоках жанчыны пабеглі шчырыя слёзы. Дзве сапраўдныя ручаіны. У яе заўсёды файна атрымліваўся гэты фокус. — Першы раз я была ў трансе. Ад мяне сышоў муж. Я гаравала, плакала. Потым супакоілася. Муж быў не мой, а сяброўкі. Не помнячы сябе, зайшла ў гэтае месца. Ён выскачыў з кустоў і стаў пагражаць. Маўляў, калі я яму не аддамся, то ён знойдзе больш памяркоўную. «Я — не бутэлька, таму не здаюся!» — крыкнула яму ў адказ і пабегла. Ён ірвануўся за мной і амаль нагнаў. Тады я задрала ўгару сукенку. Ён спыніўся і спусціў штаны. З задранай сукенкай я пабегла значна хутчэй, чым ён са спушчанымі порткамі. Калі ад хуткага бегу ён стаў задыхацца, я яго пашкадавала і спынілася. Ён схапіў мяне ў ахапак, загарнуў у сваё паліто і зацягнуў у будку. Страх скаваў мяне.

— Крычаць трэба было, на дапамогу клікаць.

— Крычала! Моцна крычала: «Падонак! Набрыдзь! Бандыт! А-а-а! Бандыцік! О-о-о! Бандытусік! У-у-у! Бандытанька!» Але хто мае стогны пачуе, калі дзверы ў будцы зачынены?!

— Грамадзянін начальнік, я быў цвярозы, як чарот у зацішнае надвор'е. І ў мяне нават думкі не было зняважаць грамадзянку. Проста быў у трансе і прыняў яе за сваю жонку. А калі разгледзеў, было ўжо позна.

— Адзін раз памыліцца можна. Але двойчы? Не круціся, Джын. Суд улічыць чыстасардэчнае прызнанне. Я паклапачуся.

— Тады слухайце. Дома заставацца не хацелася. Са сваёй Танькай, якая заўсёды не супраць, стала сумнавата. Бракуе супраціўлення матэрыялу. Выпіў здуру лікёру…

— Ты?! Лікёру?! Так я табе і паверыў!

— Ну так. Змяшаў гарэлку і сгушчонку, і пабегла па жылах салодкая парачка.

— Добра, з табой усё ясна. А вы навошта другі раз сюды з'явіліся? Прыгожая сукенка, модныя туфлі, зграбная накідка. Шпацыравалі б сабе, як шпацыруюць усе нармальныя людзі, — па асветленых месцах.

— Пра маю адзежу вы ўсё правільна сказалі! Трусы ў мяне таксама прыгожыя! Я пасля першага разу замуж за яго не збіралася. Але і раставацца таксама не хацела. Уразіў ён мяне.

— Тады навошта на яго заявілі?

— Ён сам вінаваты. Ува мне разгулялася пачуццё справядлівай помсты, калі ён сказаў, каб я больш да будкі не прыходзіла. Маўляў, мяняю яму шукаць свой ідэал сярод уладальніц моцных сцёгнаў. «Ты поўны дэбіл яшчэ да зачацця! — крыкнула я яму. — Лепшая жанчына — голая жанчына!» І тут жа распранулася. Ён мае новыя словы загасіў яшчэ на вуснах глыбокім пацалункам. Але звыклага пацалунку мне было замала — хацелася ягонага немалога. Ён гэта зразумеў і зацягнуў мяне ў будку, а пасля савакуплення даў нагой пад зад.

— Шчыра скажу, начальнік. Стаміўся. Ложак з клапамі, стол з павукамі, пярына, на якой летась памерла цётка. Павер, начальнік, увесь гэты пахабны нацюрморт не дадае адрэналіну ў кроў.

— Але тут ты, скажам, не маеш рацыі. Мог бы пайсці на «п'яны вугал» і морду камусьці набіць альбо атрымаць па сваёй. Гэтае дзеянне пацягнула б на дробнае хуліганства. А зараз па табе вялікім тэрмінам плачуць турэмныя нары. Сам па сабе працэс савакуплення прыемны, але вынік можа быць непрадказальны. Жаданне жанчыны — закон, а жаданне мужчыны — артыкул. Так што здам табе, Джын, утульны пакой у цэнтры горада з відам у двор. Умацаваныя дзверы і вокны. Добрыя суседзі. Ахова. Трохразовае харчаванне. Шпацыр два разы на дзень. Пяць гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму для цябе аказаліся малым тэрмінам: пра жыццё не паспеў падумаць. Вось і пацягнула на новую падсудную справу.

— Павер, начальнік, няма маёй віны, што на волю недаперавыхаваным выйшаў. Тэрмін перавыхавання амністыя падрэзала!

# Турамок

У прыдарожным кафэ «Насвайка» шафёр са стажам Байдакоў быў сваім чалавекам.

— Насцюха, шклянку вады! — ледзь пераступіўшы парог, запатрабаваў ён.

— Як раніца, дык табе ваду падавай! — жыва адгукнулася буфетчыца. — Вада не расол, больку не загасіць.

— Выпіць нашча шклянку вады для мяне асалода, а не вострая неабходнасць. Адчуць смак простай вады здольны толькі той, хто не раз праходзіў праз пакуты пахмелля. За вадзіцу атрымаеш прэзент! — і Байдакоў горкай зваліў на барную стойку тузін бляшанак.

— Ізноў смецце прывалок?

— Не крыўдзі, Насця! З якіх гэта пор ікра смеццем стала?! У цябе мазгоў не хопіць уявіць, колькі баклажанаў загубілі малдаўскія браканьеры, націснуўшы гэтую прорву ікры.

— Ты з баклажанавай ікрой да мяне больш не сунься. Сям'я амаль развалілася ад тваіх прэзентаў. Муж псіхуе. Пагражае развесціся, калі цэнтнер заважу. Да разводу сто грам засталося.

— Дурань твой муж, калі так кажа. Такое багацце, як ты, лашчыць і песціць трэба. Эх, Насцюха, якой парай маглі мы быць, ды не лёс. Прыбрала мяне пад сябе іншая. У п'яным бяспамяцці пакпапіўся на прыгожыя грудзі, а яны, як працвярозеў, муляжом аказалася. Але гэта мае праблемы. Што ў цябе на другое? Згаладаўся! Гіпапатама засмажыш — абгрызу да апошняй костачкі.

— На другое гуляш без костачак.

— Які гуляш?! У цябе ў меню зразы з цяляціны, кураня на ражне, ныркі, засмажаныя на аліўкавым масле.

— Меню павінна ўзбуджаць апетыт. Бяры гуляш, пакуль іншыя, што моўчкі чакаюць, яго не зжэрлі.

— Добра, угаварыла, мля кухонная. Бяру гуляш і пяльмені ў дадатак.

— Пяльмені халодныя.

— Чаму халодныя?

— Сібірскія яны, таму і халодныя.

Падчапіўшы відэльцам гуляшыну, Байдакоў нахмурыўся:

— У цябе гуляш са стагадовай каровы! Мяса ні храна не жуецца!

— Давай, неўдалоцце, пажую!

— Бач ты, нерпа! Па-жу-ю! Ды па х… Ну, ты мяне зразумела! Не хачу рот паганіць перад ежай.

— Хацець альбо не хацець — твая справа! Але сліну не смей тут распырскваць! У харчовай установе законнічаюць санітарныя нормы. Аштрафую — мала не пакажацца. Мне ўчастковы паўнамоцтва даў, а секар мяса на кухні — былы оперупаўнаважаны. Ікра пойдзе свінкам на корм. Бог дасць, бекончык з баклажанавым пахам атрымаецца. А каб я на цябе не злавалася, спадарожніка возьмеш. Чалавек не мясцовы. Пісьменнік з горада.

Пісьменнікам аказаўся маладжавы чалавек з сур'ёзным выглядам твару і з сівымі, нібы пылам пакрытымі, валасамі, якія тырчэлі з-пад шапкі. Ватоўка і шырачэнныя штаны ў катаржніцкую клетку рабілі яго падобным да бамжа.

— Насця, твой чалавек да пісьменніка не падобны. Ён урку збеглага нагадвае. Мой закон ведаеш: лепш дрэнная дарога, чым дрэнны спадарожнік.

— Адзежа на ім з чужога пляча. Ранкам пайшоў пісьменнік на рыбалку і, задрамаўшы, зваліўся з кладкі ў ваду. Зараз на ўкол мусіць ехаць.

— У бальніцу?

— У дупу.

— Зразумеў. Лепш за ўсіх дзіравіць азадкі фельчарка Наташка. Яе аранжавы дом за разным частаколам відаць здалёк. Цябе, пісьменнік, як зваць?

— Грышка.

— Распуцін, ці што?

— Пад'ёбышаў я. Рыгор Пад'ёбышаў.

— Выбачай, але пісьменніка з такім прозвішчам не ведаю.

— Гэта не дзіва. Я ў іншым раёне жыву.

— Тады прапаную адзначыць наша знаёмства. Насцюха, што ў цябе выпіць ёсць?

— Піва, віно сухое, дэсертнае, мацаванае, лікёр. Усё сваё, хатняе.

— А што-небудзь, каб на жанчын брыдкіх цягнула? Сама ведаеш, траса не пакідае выбару. Для знаёмства з пісакай па 250 душасугрэўнага. Людзей тут, пісьменнік, яблыку няма дзе ўпасці. Але чалавек не яблык — зваліцца, дзе хоча. Падаем за столік, дзе людзі пяльмені топчуць, гарэлкай не запіваючы. Месца нам абавязаны саступіць. Кодэкс шафёрскага гонару пакідае прыярытэт за тым, хто выпівае.

Столік сапраўды хуценька вызваліўся.

— Хванчкара-а-а, Цынандалі-і-і! Аджалешы-ы-ы, Мукузані-і-і! — заспяваў песню павесялелы Байдакоў.



— Вы за рулём п'яце? — здзівіўся пісьменнік.

— За рулём ніколі. Без руля ва ўсе дні на літару «с»: серада, субота і сёння. Насцюха, дык ты гарэлкі дасі ці не дасі? Мая душа, як зала для транзітных пасажыраў, поўніцца чаканнем.

— Гарэлкі не дам! — секанула Насця далонню па стойцы бара. — Трыццаць кіламетраў ад кухні — зона маёй безаварыйнай адказнасці. Мужыкам не наліваю гарэлку. Бабам не наліваю бензін. Ты п'еш гэтак многа гарэлкі, што можна падумаць, быццам рухавік тваёй машыны працуе на перагары. Табе, мілы мой, помнік трэба ставіць за вынаходніцтва вечнага рухавіка.

— Ізноў за сваё! Казліха! З-за тваёй упартасці знікне жаданне тут харчавацца.

— Не сушы язык, глупства балбочучы! Яшчэ дзякаваць будзеш, калі пасля ліхога павароту жывым застанешся!

— Я, як компасная стрэлка, кожны паварот адчуваю. Чым круцей паварот, тым выразней адчуваю.

— Прабачце! — да Байдакова падышоў афіцыянт са скруткам, прыціснутым да грудзей.

— Чаго табе, Сенька? — нахмурыўся шафёр і з-пад ілба зірнуў на потнага і неверагодна рухавага таўстуна.

— Гэта Вам, Антон Міхайлавіч, ад дзяўчыны, якая сядзіць вунь за тым столікам! — і працягвае закручанага ў коўдру дзіцёнка.

— Ці вы ў сваёй глухмені з глузду паз'язджалі?! Адна гарэлкі не дае, другі з дзіцём лезе. Не вазьму! Так і перадай! І пакуль не дакажа, што чэсна са мной пераспала, хай нават не падлазіць. А ты, Сенька, за колькі сярэбранікаў з'юдзіўся?! Не чакаў! Як ты, такі паважны мужык, можаш працаваць у гэтым срачы?!

— У адрозненне ад вас, Антон Міхайлавіч, я ў гэтым срачы не абедаю.

— Што за раніца?! Хамяць на кожным кроку. Уставай, Грыша, ехаць пара, — тузануў Байдакоў пісьменніка за рукаў. — Мне яшчэ на вакзал паспець трэба, каманду плыўцоў сустрэць. У гэты раз без медалёў вяртаюцца, але затое, дзякуй богу, ніхто не патануў. Насцюха, піражкі ў цябе свежыя?

— Свежыя! Трэці дзень як свежыя.

— Ёсць у мяне знаёмы ёг, які глынае цвікі. Пасля тваіх піражкоў ён бы начыста забыўся пра цвікі. Накідай у пакецік сем штук. Пачастую знаёмых ваўкоў. Ты, пісьменнік, гісторыі з дзіцём не дзівіся. У дзеўкі «ломка» пачалася, вось і спрабуе хоць каму дзіцё спіхнуць. Але я ведаю: тыдзень паскуголіць і супакоіцца. А дзіцё без мамкінай цыцкі пакідаць не маю права. У «бусіку» побач сядай. Я там, паводле шафёрскай прыкметы, саломкі пасцяліў. Калі што здарыцца, мякка будзеш падаць. А як палезеш у кабіну, ногі не паламай. Цацку свайму малому купіў. Завод чыгуннага ліцця асвоіў вытворчасць футбольных мячоў. Карысная рэч. З такой цацкай хлапца заўсёды знайду там, дзе пагуляць пакінуў.

— Хутка даедзем? — пісьменнік меў зусім прыгнечаны выгляд.

— Гэта як пашанцуе, — задуменна прамовіў Байдакоў. Ад яго слоў падзьмула містыкай, больш таго, страшэнным фаталізмам.

Кіламетр-другі ехалі моўчкі. Байдакоў прымяраўся да спадарожніка, мяркуючы, як яго разварушыць. З гадамі ўсё цяжэй пераносіўся касмічны холад адзіноты, куды апускалася на трасе шафёрская душа. Вельмі непакоіла, каб неўзабаве не пачаў іржавець апарат творчага



ўспрымання сапраўднага жыцця, як іржавее непатрэбная старая пастка на мышэй, забытая ў каморы.

— Чуеш, пісьменнік, ты не маўчы. Маўклівы спадарожнік — пятля для шафёра.

— Вы пытайце! З задавальненнем адкажу на любое пытанне.

— Пытаць асабліва няма пра што. Сам нямала пабачыў на сваім веку, а перажыў і таго больш. Для мяне не існуе неадушаўлёных прадметаў. Нават біфштэкс, сварганены на Насцюхінай кухні, мае сваю душу. Падалі мне неяк біфштэкс з парай яйкаў. Падумаў я і не стаў яго есці. З'еў толькі яйкі. І падалося мне, быццам біфштэкс як чалавек заразмаўляў. Не проста загаварыў, а зажураным голасам маліць пачаў: «З'еш мяне, мужык, вельмі прашу. Каму я патрэбны без яйкаў?!» А цябе, пісьменнік, хачу спытаць: ты якога хрэна ў беспрасветную глухмень забраўся? Дваццаць пяць двароў. Ні прыстойных дарог, ні надзейнай тэлефоннай сувязі, ні радыё, ні музыкі, перабоі з электрычнасцю, газу наогул няма.

— Таму сюды і прыехаў! — ажывіўся пісьменнік. — Па-першае, тут ніхто і нішто натхненне не спудзіць. Па-другое, толькі ў такіх вёсках можна яшчэ сустрэць сапраўды народныя характары і тыпы. Літаратура без характараў і тыпаў асуджана на выміранне.

— З тыпамі табе пашчасціла. Адна Насцюха чаго вартая. Чарпала, а не баба!

— Горад даўно перастаў быць творчай аддушынай. Толькі думка пра новы раман прадзяўбецца, як вада ў трубах забулькае ці ўнітаз зацягне маркотную песню.

— Скажу табе, Грыша, адкрыта. Як бы ты ні стараўся, плодзячы раман за раманам, але не

дадзена ў нашыя часы кнізе перамагчы чарку. Духоўны пажытак цяпер не ў пашане. Страціў да яго народ цікавасць. Адкрыеш кніжку, перагорнеш старонку-другую і разумееш: няма ў кнізе праўды. Так усё заблытана іншасказаннямі, што каб разабрацца, бутэлькі гарэлкі будзе мала. А пасля другой бутэлькі не да разборак з кнігай. Пасля другой у мужыка іншыя інтарэсы рэжуцца. Кулакамі памахаць, баб палашчыць.

— Праўду карысна часамі хаваць, — асцярожна запярэчыў пісьменнік.

— Як гэта хаваць?! Сумленне і разумны сэнс упрыгожваюць кнігу, робяць яе жаданай і зачытанай. Выдаўшы мудрасць, вадзіла сакавіта заспяваў: «Гаспажа ўдача, для каго ты добрая, а каму іначай…» Не будзе ўдачы, Рыгор, — настане капец. Адолеюць здрады, засады і Бадун Бадунішчаў.

Нечакана машына замарудзіла ход і, прыціснуўшыся да абочыны, спынілася.

— Маменцік! — важна прамовіў Байдакоў. Выйшаў з машыны, спусціў штаны разам з трусамі і выставіў голы азадак у бок вокнаў адзінокай хаты. Праз секунд трыццаць трусы з порткамі вярнуліся на месца, а кіроўца залез у машыну.

— Зараз парадак. Хату мамы першай жонкі без жарту ніколі не праеду. Заўсёды што-небудзь пакажу, — задаволены сабой Байдакоў ізноў заспяваў: «Я паеду ў Катманду! Ду ду-ду, ду ду-ду. Там каханне я знайду! Ду ду-ду, ду ду-ду. Лама ціха нас абручыць у бананавым садку. Ду ду-ду, ду ду-ду». Пятнаццаць гадоў мінула, як праз руль пярдзеў…

— Прабачце, што праз руль?

— Пятнаццаць гадоў, кажу, як праз руль прадзеў рукі. Дальнабойшчыкам шафярыць пачынаў.



— Шмат разоў бачыў, як дальнабойшчыкі, спыніўшы машыну, б'юць нагамі па колах. У чым сэнс падобнага рытуалу?

— Рытуал са здароўем звязаны. Шафёр б'е колы нагамі пасля доўгай дарогі, каб яйкі ад ног адліплі.

Неўзабаве на шашы, віляючы флікерам на азадку, замаячыў чалавек у кароткай спадніцы. Норд-ост, які разгуляўся не на жарт, раз'юшана церабіў гэтую напаўдоўгую, напаўваўняную спаднічку. Было дзяўчо ў моднай куртцы з каўняром з непаўналетняга зайца.

— Маша! — прызнаў шафёр. — Плечавая. У вёсцы яе недалюбліваюць, вось і шукае дзеўка, хто б яе далюбіў.

— А ты чаму не далюбіў, а міма праехаў?

— Злы на яе. Вельмі злы. Ехаў неяк з напарнікам. Дык яна, шэльма, Сашку дала, а мне не, як ні ўгаворваў. Праўда, Сашка потым лячыўся пасля яе, а я здаровы. Але крыўда на Машку, што не дала, усё роўна засталася. А цяпер мне не да яе. У мядовым месяцы я, пасля срэбнага вяселля.

— Замаладыя вы на срэбнага юбіляра.

— Срэбны! Не сумнявайся! Дваццаць пяць разоў жаніўся. Дзесяць з кахання, а потым проста шукаў актыўную жанчыну. З гектарам агарода не кожная справіцца. У бардачку альбом з фоткамі. Пагартай дзеля цікаўнасці. Добра едзем. Са мной не знудзішся, калі сам нудой мяне не заразіш. Увага! Пад колы кладзецца тэрыторыя Натахінай жарсці. Падабаецца дзяўчынцы, седзячы ў кустах, крыўляцца. Любоўны промысел асвоіла з шаснаццаці гадоў. Але сёння абочына пустая. Няўжо працу прагуляць уздумала?! Кіруецца дзеўка правілам: рана ўстае, калі ўначы нікому не дае. Людзі кажуць, ёсць

дзве бяды: дурні і дарогі. Затое і радасць маецца падвойная: дурнічкі і дарожкі. Ты паглядвай па баках, раптам пашанцуе, і дурнічку ўбачыш. А за ёй тыя самыя дарожкі, дзе ходзяць крывенькіе ножкі. Дзяўчынка — малайчына, хоць і дурнічка. Узяла сто метраў дарогі ў арэнду і ўтрымлівае стомятроўку ў чысціні і парадку. Расстаў прастытутак па трасе, дай венік, шуфлік і кантэйнер для смецця, дык людзям ездзіць па чыстай дарозе адна любата будзе.

— Бачу дурнічку! — абрадаваўся пісьменнік. — Стаіць на абочыне з каструляй у руках.

— Калі з каструляй, значыць Раюха. У каструлі боршч — старадаўняе, вельмі дзейснае прыворотнае зелле. Так жаніхоў у гэтых краях прыварожваюць. Пажаніхаецца наша краса ненаглядная, і шчасця поўныя трусы. Тармазнём, не абмінем увагай дзявулю. Прывітанне, Раечка! Класная кофтачка на табе!

— У мяне пад кофтачкай нічога няма. Калі хочаш, можаш асабіста ў гэтым пераканацца.

— Не перажывай, Раечка. Гэта пакуль пад кофтачкай нічога няма, а як пасталееш, вырастуць. Пайшлі, пісьменнік, разамнемся.

— Ты што, з дуба зваліўся! — затрэсла пісьменніка, і ён першы раз «тыкнуў» шафёру. — Ёй менш гадоў, чым табе потым дадуць.

— Гэта і каню зразумела. Пакуль не апаўналеціцца, пальцам не крану. Баршча паямо, ды сфоткаю маладзічку. Давай, Раечка, чыстыя лыжкі, боршч будзем каштаваць. Файны боршчык! Мамцы скажы, хай да баршчу смятану дае. А цяпер фоткаць цябе буду ў стылі «ню». Аголенай махай трошкі пабудзеш.

— Ню давай! Махай па прыколу быць!

Байдакоў падаў Раечцы пляшку:

— Вазьмі, глыні пяцьдзесят грам для адвагі.

— Лепш глыну сто для дурасці. О-хо-хо! Ні фіга сабе, моцная штука! Ты што для моцнасці ў самагонку дадаеш?

— Цэмент, Рая, цэмент.

Пару разоў міргнула ўспышка.

— Пісьменнік, ты не ведаеш, чаму голыя жанчыны ніколі не выглядаюць па-дурному?

— Не ведаю. Ніколі пра гэта не думаў.

— І я не ведаю. Хоць думаў пра гэта не раз. Ну, бывай, Раечка! Ехаць нам трэба. На тваё паўналецце падару альбом з фоткамі. У ім будзе адна праўда пра тваё сталенне на дарозе. Ні сучка табе, ні задзірынкі, Раечка, а моцнага ў мужыка!

— Мужыку з моцнай задзірынкай заўсёды радая, абы яна, як сучок, стаяла.

Ужо ў машыне пісьменнік спытаў:

— Што б ты выбраў, Антон, пасля дваццаці пяці жаніцьбаў: весела жыць ці жыць з жанчынамі?

— Жыць весела без жанчын я не згодны. Для мяне галоўнае, каб у жанчыны прыгожыя ногі былі. Міма новых улётных ножак спакойна прайсці не магу. Жанчына з лёгкасцю можа зрабіць на мяне ўражанне, асабліва калі моцна нагамі абніме. Лепей ног могуць быць толькі ногі, між каторых яшчэ не бываў. Жыву паводле стабільнага правіла: гуляй, пакуль ёсць чым гуляць, і не смей скардзіцца, калі пагуляць нікога не знайшоў.

— Ёсць у тваім альбомчыку дзіўная адметнасць: няма ніводнай фоткі, дзе б ты цалаваў сваю жонку.

— Не любяць свае жонкі цалавацца. Гэта я табе аўтарытэтна заяўляю, як дваццаціпяціжонец. Чужыя любяць. Свае таксама любяць цалавацца, але з чужымі. Лётанне ад адной да другой

у мяне завецца асэнсаваным пошукам якасці. Думаў усё, дваццаць чацвёртая — апошні прычал. Але сусед-зайздроснік наклаў праклён на нашу сям'ю.

— У якім сэнсе наклаў?

— У прамым. Узяў і наклаў перад дзвярыма. Прыйшлося зашчаміць нос прышчэпкай і пасля нядоўгага роздуму вярнуцца туды, адкуль прыйшоў. Не рызыкнуў пераступіць праз праклён. Спалохаўся негатыўнага ўздзеяння на сваю прамежнасць. З дваццаць пятай зраслося без доўгіх замарочак. Ад сілы пару дзён угаворваў. Яна пацыфістка. Вось я і прапанаваў ёй заняцца сэксам у імя міру на Зямлі. Пагадзілася. Зараз, перш чым легчы ў ложак, гартаю атлас свету і ўрачыста аб'яўляю: «Кахаць цябе сёння буду ў імя міру ў Буркіна-Фасо». Дзейнічае спраўна. Галоўнае не паўтарацца. Цешуся кожнай новай незалежнай дзяржаве.

— Нябось, на дваццаць пятай пра першую начыста забыўся?

— Заўсёды згадваю, калі ёсць добрая нагода. Першае каханне на тое і першае! Пра яго ўсё жыццё помніш. Быў я малады, без дай прычыны гарачы і жаніцца не думаў. У такіх, як я, найвышэйшай доблесцю лічылася зацягнуць кругладупую дзеўку пад халасцяцкую коўдру. Калі задумацца, то мужчына гатовы пайсці на любую подласць, каб пакласці дзяўчыну ў свой ложак. Пераплюнуць яго здольная толькі жанчына, якая цвёрда рашыла жаніць на сабе мужчыну. Ніна ўчапілася ў мяне, быццам гіена, што пачула пах здабычы. «Жаніся на мне. Жаніся на мне!» — была яна доўга і нудна.

— Растлумач мне, калі ласка, чаму я павінен на табе жаніцца? — запатрабаваў я пераканаўчага адказу.



— Мае грудзі самыя вялікія сярод грудзей усіх маіх сяброўак. І гэтым усё сказана.

— Жаніцца дзеля адных толькі грудзей, нават калі яны лепшыя за ўсе тыя, што я бачыў, не хачу! У нас розныя светапогляды. Я табе патрэбны на ўсё жыццё, а ты мне на адну ноч. Я галодны, есці хачу.

— На вяселлі паясі! — не здавалася Ніна. — На вяселлях сытна кормяць.

Прызнаюся, з ежай Ніна не ашукала. Жратвы на вясельных сталах было сапраўды шмат. Цешча пастаралася. Цесць прызначыў сябе галаўкамам самагоннага параду і ліха закамандаваў:

— Тост! За маладых! — і прыклаў да вуснаў трохлітровы слоік самагонкі.

Ад такога нахабства цешча ўспыхнула, як уключаная лямпачка:

— Лю-ю-ю-дз-і-і! — загаласіла яна на ўсё горла. — Забярыце ў маго мужыка трохлітровік самагонкі. Бо ён адзін усю самагонку знішчожыць! І наша гулянка страціць усякі сэнс.

Як цесця ад слоіка аддзіралі, не бачыў. Але, кажуць, відовішча не для слабанервных. Цешча мяне і Ніну вывела чорным ходам і запіхнула ў таксі.

— Ведаў бы пра твайго самагоннага татку, не стаў бы на вяселле спяшацца. Паесці толкам не паспеў. Так хутка ад стала адвялі, быццам баяліся, што сыты перадумаю на табе жаніцца!

— Мама! Мой жаніх галодны!

— Галодны жаніх больш люта кахае.

Дома распрануліся з Нінай і ляглі ў ложак. Свечкі гараць, кветкі пахнуць: прыгажосць неверагодная. Тут нас і накрыла рамантыка першай шлюбнай ночы любоўнай коўдрай.

— Антон! — узбуджаючыся, шэпча Ніна. — Нявінніца я. Нічога ў сэксе-шмэксе не разумею.

Але ты не сумнявайся, я талковая, з першага разу запомню, чым, куды і як. Да мяне хто-небудзь быў у цябе?

— Да цябе ў мяне быў насмарк. Давай, раз ужо разам ляглі, згуляем у адну гульню. Тое, што ў цябе ніжэй жывата, дасведчаныя людзі называюць турмой. Тое, што ў мяне пад жыватом, тыя ж людзі клічуць вязнем. Сажу свайго вязня да цябе ў турму, і зоймемся яго катаваннем, пакуль не змякне, пакуль не скісне.

— Антошанька! Калі ты думаеш, што вязень годны такога пакарання, буду ўсяляк табе дапамагаць! Чэснае дзявоцкае слова! Толькі турма дужа страшнае слова. Давай вязня ў турамок садзіць, яму не так крыўдна будзе.

— Як скажаш! Гэй, турамок, рассоўвай вароты, прымай пастаяльца!

Ніна войкнуць не паспела, як вязень да яе ў турамок заскочыў і заторгаўся, як шалены.

— Антончык! — млее Нінка. — Як я люблю твайго няўрымслівага вязня!

Скончыўшы справу, я задаволена крахтануў і зваліўся на падушку адпачыць. Затое Нінка як з тармазоў зляцела.

— Антоша-а-а! Вязень збег з турамка!

— Збег, кажаш?! Не бяда, вернем паскудніка на месца, — гляджу на свайго паніклага «вязня» і заклікаю да дзеяння. — Уздымайся, дружа, не час адвісаць. Ніна браму турамка расчыніла.

Так захапіліся пасадкай вязня ў турамок, што пасля пятага разу адчуў сябе зусім спустошаным. Турамок высмактаў усе мае сілы. Затое жонцы няймецца:

— О-ё-ёй, Антошанька! Няма вязня ў турамку. Уцёк, пракляты!



— І правільна зрабіў. Ты, Ніна, сумленне май. Вязню не пажыццёва далі ў тваім турамку адбываць.

Пасля бурнай ночы мы сур'ёзна задумаліся, што далей рабіць: паехаць на Багамы ці развесціся. У рэшце рэшт вырашылі: Багамы — задавальненне на два тыдня, а добры развод — памяць на ўсё жыццё.

Байдакоў замоўк, а пісьменнік, узрушаны складнасцю аповеду, падумаў: «Багаты бацькоўскі край на непаўторныя людскія лёсы».

Кіламетру не праехалі, як у Пад'ёбышава ўзнікла новае пытанне:

— Плечавыя шафярыць не замінаюць?

— З плечавымі начальства спрабавала змагацца. Стварылі брыгаду дальнабойшчыц. Але мужыкі вадзілак скаргі штампаваць пачалі. Жонка аднаго, схамянуўшыся сярод ночы, хапае рукой мужчынскую годнасць мужа і, выварочваючы ў розныя бакі, непрытомна шэпча: «Першая перадача! Другая перадача!». Жонка другога, уставіўшы гэтую самую годнасць у сваё такое ж годнае месца, раз'юшана патрабуе: «Саляры! Поўны бак!». У трэцяга…Словам не прыжыўся эксперымент. Паспрабавала начальства падысці да праблемы з іншага боку: набралі ў дальнабойшчыкі імпатэнтаў. Груз да месца прызначэння стаў дастаўляцца на суткі раней. Але шалавы збунтаваліся, а за імі ўсё прыстойнае жаночае насельніцтва, якое жыве пры дарозе. Бо іх мужыкам прыйшлося з плечавымі аддзімацца замест шафёраў. Была б мая воля, я б плечавых на ўсіх рэспубліканскіх трасах расставіў. Адмераў бы кожнай па кавалку дарогі і здаў у арэнду. Калі ласка, займайся сваім рамяством, але і працоўнае месца трымай у чысціні і парадку. Мне,

як кіроўцу, плечавыя ў радасць, ды і жонцы прыемна, калі прывожу з паездкі новую позу. Жыццё, пісьменнік, значна ярчэйшае, чым вы, пісакі, у сваіх кніжках яго малюеце… Па прасёлачнай дарозе йшоў я моўчкі, — праспяваў песнялюбівы Антон, — следам кралася за мною зграя воўчая… Не хацеў цябе засмучаць, пісьменнік, ды прыйдзецца. Чакае нас наперадзе выпрабаванне не з лёгкіх.

— Восень… — не слухаючы Байдакова, задуменна прамовіў Рыгор. — Дрэвы займуцца стрыптызам, агаляючы сябе ад лістоты. З зямлі, узбуджаючыся эратычным відовішчам, палезуць рознакаляровыя грыбы. Вашы месцы ціхія і спакойныя. Для чалавека, які вырашыў вырвацца з гарадской мітусні, лепшага месца пажыць не прыдумаеш.

— Магільная тут цішыня, Грыша. У любы момант кашчавая рука за горла схапіць можа. Бачыш, як туман шчыльна сцелецца? Едзем практычна навобмацак. Туман устойлівы і збіраецца нездарма. Людзі кажуць, што ў часы шалёнай перабудовы ўтапілася ў балоце адна добрая дзяўчына, якую звалі Паліна. Жаніх, здрадзіўшы ёй, сышоў да багатай кабеты. З тых часоў штораніцы над балотам падымаецца белы слуп туману, прымае абрысы тапельніцы і кладзецца на дарогу. Пад промнямі скупога ранішняга сонца смуга да поўдня рассейваецца. А вось адчуванне дрыжыкаў у целе яшчэ кіламетраў дваццаць не знікае. Словам, прапашчая зона. Кікімары, ваўкалакі, вампіры і іншая нечысць шашні заводзіць з няўстойлівымі кіроўцамі. Прывязваць сябе да сядушкі трэба марскім вузлом, каб выстаяць перад спакусай. Але найболей лютуе гаішнік Пятрэнка. Сапраўдная погань. Прызнае толькі грашовыя знакі з партрэтамі чужых прэзідэнтаў. Чыясьці злая воля так хітра дарогу праклала, што паганае месца не абмінеш, не аб’едзеш. Але не пужайся, пісьменнік. Пашанцавала табе, што са мной паехаў. Дэсантнік пагарджае страхам! — І вадзіла расхрыстаў каўнер кашулі, агаляючы цяльняшку. — У бардачку блакітны берэт захоўваецца, падай яго мне. Гэтая штука працуе спраўна. Прарвемся! Без уколу ў дупу не застанешся. Вось і піражкі Насцюхіны спатрэбіліся. Адаб’емся. Дэсантнік, узброены толькі адной сухой пайкай, ужо практычна несмяротны.

— Можа, павернем назад? Навошта спакушаць лёс?! — расхваляваўся Пад’ёбышаў. — Кожны з нас спакойна дажыве да ста гадоў, калі не будзе неабдумана рызыкаваць сабой.

— Дажыць да ста гадоў, не рызыкуючы сабой, добрая ідэя. Але нуднае жыццё — малапрыемны занятак. Не прывык я пазбягаць душашчыпальныя прыгоды, дзеля якіх загадваеш жыць сто гадоў і нават больш.

# Радыска ў снежні

Шалёны рытм жыцця змушае грэшных людцаў гнацца за нажывай. Аднак у гэтай бескампраміснай гонцы непазбежна настае момант, калі неўтаймаваны запал супакойваецца марай пра Санта-Марыю-дэль-Ф'ёрэ. У кожнага «гоншчыка» свая Марыя — непаўторная і жаданая, дзеля якой здзяйсняюцца невытлумачальныя глупствы. Таму не важна, хто ён — бяздумны смяльчак, непераўзыдзены штукар альбо ўсімі пагарджаны ахламон, нішто — ні франтавы акоп, ні футбольнае поле, ні задворкі прамтаварнай крамы не ў сілах абламаць цягу нашага чалавека да несумятлівай расслабухі.

Быў звычайны дзень, які нічым не вылучаўся сярод іншых. Па прасторах радзімы, наганяючы тугу і гаротныя думкі пра дзень наступны, галопам скакала інфляцыя. А тым часам у гандлёвай зале мідзі-маркету «Блеважніцкі» адбывалася планавае вучэнне па пажарнай бяспецы.

У гэтым хаосе трое менеджараў па продажах — Шурык, Вовік і Толік — мелі чысценькі і непрыстойна цвярозы выгляд: проста тры залатыя рыбкі ў сажалцы з кракадзіламі. Калі б Палумятаў, гаспадар маркету, злапаў бы зараз гэтых лайдакоў, то імгненна адправіў бы «залатую моладзь» разграбаць пыльныя лужыны на мармуровай падлозе, павучальна грозячы пальцам:

— Грошы любяць там, дзе чыста.



Дзякуючы мітусні вучэбнага пажару, тройцы малойчыкаў удалося непрыкметна знікнуць і схавацца ад граху далей у службовым адсеку.

Але сядзець без справы на пустых скрынках аказалася значна цяжэй, чым, напрыклад, ляжаць у гамаку і піць гарбатку ад «Фортнум-энд-Мэйсан» пад пералівы канарэек. Запаслівы Шурык вывудзіў з кішэні форменнай тужуркі пляскатую пляшку з каньяком.

— Змыем нуду шляхетнай грамуляй! — прапанаваў ён і, не марудзячы, па-гаспадарску зрабіў першы важкі глыток.

Няма ў свеце такога ідыёта, які б змог адмовіцца ад дармовага каньяку. Трывожнае чаканне штрафных работ змянілася лёгкім, гуллівым настроем. Трэці тост, як гэта прынята ў мужчынскіх кампаніях, быў за дам, што горача шэпчуць: «Дамс!»

За акном палілі старыя шыны — стваралі імітацыю пажару. Чорны смуродны дым дадаў бяседзе таямнічасці, і спружына фрывольных споведзяў сарвалася са стопара.

— Успаміны пра любоўныя прыгоды заўсёды прыемныя, — прамовіў Шурык, не ўтрымаўся і хіхікнуў пару разоў у кулачок. — Толькі малю, ц-с-с, п-с-с. Мой аповед — святая таямніца!

Вовік, а за ім і Толік, сціснуўшы кулакі, паказалі сваім рашучым выглядам, што з такіх, як яны, таямніцу не выцягнеш нават распаленымі абцугамі.

— Дык вось, сябры мае, — для складнасці аповеду Шурык зрабіў глыток каньяку, — ішоў дзікі калядны распродаж. Народ ашалела хапаў усё, за што бралі грошы. Адзін крэтын з настырнасцю серыйнага забойцы даставаў мяне ідыёцкім пытаннем:

— У вас тушканчыкавыя боцікі маюцца?

— Тушканчык?! Гэта такі пухнаты звярок мехам вонкі? — удакладніў я. — Безумоўна! У нас усё ёсць! Вядзіце свайго тушканчыка, абуем.

— Вы мяне не зразумелі! — абурыўся чувак.

— Я вас і разумець не хачу. Быў бы ў маіх руках цясак, пакрамсаў бы цябе, зануду, у дробны вінегрэт! — адвагі, так бы мовіць, надала жанчына фантастычнай прыгажосці, якая кіравалася проста да прылаўка. Залаты ланцужок ад Булгары, калье ад Дэ Бірс, чорная сукенка ад Вів'ен Вэствуд зіхцела з расшпіленага футра. Усё гэта рабіла яе неверагодна панадлівай. Але больш за ўсё ашаламляла не гэтая мішура, а чырвоная радыска, якую красуня шляхетна адкусвала галоўку за галоўкай проста з пучка, пабліскваючы бездакорна белымі зубамі.

Я не дурны і не сляпы. Яе вочы былі люстэркам душы. Гэта быў позірк наіўнага дзіцяці, якое мае патрэбу ў абароне. Уявіўшы сябе Рычардам Ільвінае Сэрца, я ледзь было не знёс прылавак, кінуўшыся яе ратаваць. Але не паспеў я і вокам міргнуць, як незнаёмка ператварылася ў грацыёзную пантэру і знішчальным поглядам проста прыбіла мяне да стэлажоў з чаравікамі. Я аслупянеў, калі патрапіў пад кантрасны душ яе вачэй.

— Хлопча! — ласкавы голас вывеў са здранцвення. — Колькі каштуюць гэтыя хадулькі на шпільках? — і ткнула мезенцам у бок грацыёзных туфлікаў.

Усе туфлі былі з цэннікамі. Магчыма, тут жа сцяміў я, яна задумала прапанаваць мне гульню, правілы якой належыла высветліць падчас фрывольнай размовы.

— Трыста! — паспешна адказаў я. — За прымерку.



Яна памерыла і паслухмяна расплацілася.

— А наогул, колькі яны каштуюць, калі я захачу купіць?

— Гэтая пара не прадаецца. Яе толькі мераюць! — усміхнуўся я і ў думках пахваліў сябе за знаходлівасць. Нахабна шпурляю цэннік у сметніцу і з найгранай выпадковасцю мякка кранаюся яе рукі.

— Дарагая, як надоўга ты прыліпла да гэтага прылаўка? — з'явіўся аднекуль дзядзька ў клубным пінжаку.

— Гэтак цяжка сустрэць у наш прадажны час ветлівага чалавека, які нічога не спрабуе табе прадаць, — не замарудзіла з адказам прыгажуня.

— Не разумею, што робіць твая рука ў кішэні штаноў гэтага юнака?

— Шукае запалкі.

— Языка няма спытаць? Каб папрасіць запалкі, досыць паварушыць языком, а не варушыць у яго кішэні чорт ведае чым.

— Паварушыць языком я пасаромелася. Бо я незнаёмая з гэтым маладым чалавекам.

«Божа мой! — ледзь не ўскрыкнуў я. — Вось чаму мне так добра! Яе рука праз маю кішэнь дацягнулася да мужчынскага запаветнага месца».

— Зрэшты, рабі, што табе заўгодна, каханая! Усе мы наскрозь прасякнуты недахопамі. Хтосьці больш, хтосьці менш. Ты проста анёл! А некалькі нязначных пункцікаў робяць цябе непрадказальнай і асабліва прыцягальнай. Усё, што ты вырабляеш, і ўсё, што ты гаворыш, — аднолькавая дрэнь. Але якое гэта мае значэнне, калі мы шалёна кахаем адзін аднаго. О-о-о! У Маскве ўжо дванаццаць, у Нью-Ёрку яшчэ поўнач. Пазней нас прачынаюцца і так сытна жывуць, сволачы. Бачу ў

гэтым сусветную несправядлівасць. Пайду заем крыўду марскім стварэннем з грылю. Стомішся прымяраць абноўкі, знойдзеш мяне ў рэстаране. Абяцаны мною лобстар будзе чакаць цябе, — і, напяваючы «цёмныя сілы нас злосна гнятуць…», фірмач растварыўся ў людскім натоўпе.

— У вас ёсць асобная кабінка, дзе б я магла яшчэ раз прымерыць гэтыя туфлі? — спытала красуня з выглядам, які не церпіць адмовы.

— Ёсць асобны калідор, які вядзе ў нікуды. Будоўля замарожана на нявызначаны тэрмін. Замураванае выйсце ўтварыла сімпатычны тупічок.

— Неадкладна вядзіце мяне ў тупічок. Не люблю астылага лобстара, — і сунула мне ў рукі лёгкі пакуначак.– Прэзерватыў з дзірачкамі, — шапнула яна, — забяспечвае выдатную вентыляцыю пры інтэнсіўным сэксе.

Ужо ў калідоры яна пацікавілася:

— Куды вядуць гэтыя шкляныя дзверы?

— У ванную! Ніхто не ведае, для якіх патрэб прыцягнулі сюды чыгуннае карыта. Знаходлівыя і вясёлыя прыстасавалі яго пад попельніцу. Зручна, ёміста і не трэба вытрасаць пасля кожнай цыгарэты.

Прысеўшы на край ванны, багіня загадкава паглядзела ў мае вочы, якія свяціліся нецярпеннем.

— Сваё жыццё дзялю на дзве часткі: каханне і сэкс, калі я з мужам, і ашалелы сэкс са смакам рамантыкі, калі муж саступае права на мяне іншаму. Але парой мне здаецца, што рамантычныя мужчыны знікаюць як від. Дакажыце, што я памыляюся!

Не здымаючы сукенку, яна сцягнула трусы і памахала імі як сцягам.

— Для пачатку я трошкі завяду цябе.



Стала зразумела: калі б гэтая дамачка апынулася ў логаве ворага, то сваімі фрывольнымі паводзінамі абяззброіла б там усіх у радыусе прамой бачнасці, чым забяспечыла б незаўважны падыход спецназаўскай брыгады.

— Божа мой! — не стрымаўся і ўсклікнуў я. — Хіба такое магчыма?!

У яе руках быў хіт сезону — трусікі ў дробную сетачку. Я ведаю толк у жаночых трусах. Мая калекцыя складаецца з трохсот васьмідзесяці шасці штук. Надзеўшы парык і калготкі, я хаджу прыбіраць жаночую душавую, дзе замест смецця падбіраю трусікі. Не раз я парываўся ахвяраваць сваё багацце дабрачыннай арганізацыі, але не змог перадужаць сябе і растацца з калекцыяй. Я сшыў з трусоў коўдру метр дваццаць на два дваццаць. Але спаць пад ёй не адважыўся. Пахі жанчын, якія насілі гэтыя трусы, маглі зрабіць мяне неўрастэнікам. Проста павесіў коўдру на сцяне ў багетнай раме.

— Дарагая, чаму ты трымаеш трусы ў руках? Мне спакайней, калі яны ў цябе на звыклым месцы, — гэта быў ізноў яе муж-ідыёт. Як ён нас адшукаў, было для мяне загадкай. Магчыма, у яго развіты нюх на сваю жонку

— Не чапляйся да трусоў. Я мерала туфлі, і яны аказаліся цеснымі. Прыйшлося зняць трусы ў спадзяванні, што толькі так змагу ў туфлікі ўступіцца. У калядныя дні хочацца падарунку. Я яго сабе знайшла. Зараз ты можаш не абцяжарваць сябе лётаннем ад прылаўка да прылаўка. З часоў Адама і Евы самая лепшая цацка для жанчыны — мужчына. Лепшай ніхто не прыдумаў.

Ён не сказаў у адказ ні слова, абняў яе, і дзіўная пара пакінула мяне. Затое яе трусікі засталіся ляжаць на краі ванны. Гэтыя трусы не-

вядомага куцюр'е ляглі ў аснову новай, значна большай коўдры, якую я мару сшыць. Перамога на ўсекентукійскім конкурсе коўдраў у заакіянскіх Штатах — мая самая вялікая мара. Сябры, гісторыя атрымала працяг, калі яна вярнулася за сваімі трусамі. Трусы я ёй не аддаў, але наўзамен прапанаваў сябе. Прапанова прыняла яе ў лютасць і мне на мне ж была паказана сапраўдная карыда. Язык не павернецца сказаць пра гэта інакш, чым мовай Эзопа. Словам, калі звярнуцца да алегорыі, то «даярка забадала быка да смерці». Інакш не скажаш, бо тады і на ёту не перадаш тых цудоўных адчуванняў, якія раптам зваліліся на маю галаву.

— Пра які язык і пра якую «зопу» ты кажаш? — занерваваўся Вовік.

Але Шурык, захоплены аповедам, праігнараваў пытанне.

— Не памятаю, як дабраўся дадому. Раніцай убачыў, што валасы, якія напярэдадні ўсталі дыбам, па-ранейшаму стаяць. Добра, што яны стаялі не на галаве. Не так прыкметна для староннiх вачэй. Але схадзіць падлячыцца да ведзьмака ўсё-ткі прыйшлося. Але і гэта яшчэ не ўсё! Прозвішча жанчыны — Палумятава. Яна жонка нашага боса! — і Шурык нервова зрабіў пару глыткоў з пляшкі.

Вовік, разумеючы, што прыйшла яго чарга быць апавядальнікам, глыбока ўздыхнуў і доўга, здымаючы хваляванне, выдыхаў.

— Жанчыны хочуць кахання, мужчыны прагнуць сэксу, а па сутнасці, і тыя і іншыя займаюцца адным і тым жа і не заўсёды адзін з адным. Не падумайце, што хачу пахваліцца, але я выдатны палюбоўнік. Першы любоўны досвед я атрымаў са свабоднымі жанчынамі. Потым перакінуўся на замужніх. Свабодныя пасля першай пасцелі малілі: «Мілы! Я без цябе не магу!» Смешна! Бо неяк жылі ўвесь гэты час без мяне?! Але аднойчы я занядбаў асцярожнасць і пагладзіў супраць поўсці ножку малазнаёмай фіфачкі. Думаў, праблемы з эрэкцыяй даканаюць мяне. Вудай, якую немагчыма падняць, цяжка лавіць кайф. Змагаючыся са смуткам, я дадумаўся, што жыву ў няправільную эпоху, з няправільнымі жанчынамі, няправільным жыццём. Перазагрузіць сябе бракавала духу. На дапамогу прыйшоў выпадак. Не ведаю, ці будзеце вы радыя маёй шчырасці, але я — гей. Пра гэта ніхто не ведае, і прашу маё прызнанне закапаць у сабе назаўжды, — Вовік зардзеўся, як дзяўчына, але каньяк сарваў ягоны язык з тармазоў. — Быў раскошны банкет, на які я патрапіў па валанцёрскім наборы. Мне даручылі абслугоўваць столікі. Паднесці свежанасечаную салату з гародніны, прыбраць за гасцямі брудны посуд — работка не вельмі прыемная. Але заўсёды было чым паласавацца. Музыка, тэкіла, джакузі. Госці не ведалі меры ў забавах. Калі ўсе захапіліся купаннем у фантане з шампанскім, забытае джакузі павабіла сваім сіроцтвам. Дзіка захацелася паджакузіцца, бо больш удалага моманту магло і не быць у гэты вечар. Не марудзячы, цалкам распранаюся, і тут… уваходзіць ён. Убачыўшы мяне голенькага, мужчына ўпіўся ў маё змяклае цела прагнымі вачыма і горача ўсклікнуў:

— Узлюбі бліжняга свайго! А інакш бліжні ўзлюбіць цябе і ўзрадуецца.

Мне не хапіла рашучасці супрацьстаяць націску. Заплюшчыўшы вочы, я ўжо не думаў пра наступствы. Проста даверыўся гэтаму чалавеку, мяркуючы, што горш, чым з жанчынай, мне не

будзе. Так я стаў палюбоўнікам нашага гаспадара Палумятава.

— Вось дык справы! — падскочыў Толік. — Зараз я разумею сэнс слоў «дрэнны той салдат, які не марыць спаць з генералам».

— Добра сядзім, — падагульніў Шурык і п'яна рагатнуў.

— Калі ўсё добра, у любы момант чакай дрэннага. Хоць ніколі не бывае так дрэнна, як можа быць яшчэ горш, — выдаў тыраду Толік і падышоў да дзвярэй. — Рыхтуйцеся, прыйшоў мой час распавесці пра сябе, але ў маім выпадку сціскаць-расціскаць кулакі дарэмна. Шчырасць за шчырасць. Гадкі я чалавек. Варта мне чхнуць, як уся мая зараза ліпне на ўсіх першых-лепшых. Праклятыя хваробы далі пабочны эфект. Дарма вы са мной гаварылі адкрыта! Захоўваць чужыя сакрэты — непасільная справа для мяне.

## Прагулка Баркляева

Страшэнная ноч. Шквальны вецер вырывае снасці з рук. Шалее штармавая хваля. Мора раве і б'ецца аб скалы. Але чым горшае надвор'е, тым ахвотней пускаецца ў плаванне фелюга, гружаная кантрабандай. Не шкадуюць сілы, грабуць адчайныя матросы да роднага берага, дзе можна крыху аддыхацца на гальцы ды сысці павуціннем катакомбаў у палац вядомага фарцоўшчыка графа Патоцкага. Чарговы барыш набліжае да мары, якая ў кожнага флібусцьера свая і нікім не залапаная. У барацьбе за жаданую мару нярэдка само жыццё становіцца разменнай манетай.

Баркляеў глыбока ўздыхнуў і тут жа выдыхнуў, каб пазбавіцца ад назойлівай мроі. «Былі ж людзі, якія не шанавалі іерархій, — падумалася яму, — якія пагарджалі ілжывымі языкамі і здрадлівым сяброўствам. Утрымацца, выстаяць на грэбні поспеху — гэта была доля сапраўднага кантрабандыста».

Загудзеў прынтар, і Баркляеў уставіў у правае вока манокль. Любіў ён падобныя штучкі, як і любіў выглядаць сапраўдным джэнтльменам, нават калі ворагі выкачалі ў дзярме ад пят да лысеючай макаўкі. За гульнёй думкі незаўважна падаспеў час ранішняга салабургера, накрытага льняной сурвэткай.

— Гутэн-шморгэн, Уладлен Пятровіч! — у кабінет увайшоў і прывітаўся на еўрасаюзны манер змрочнага выгляду чалавек з сівой шавялюрай.

— Шморгэн-гутэн, Гей Геіч! — у Баркляеве яшчэ цепліўся прысак добрага настрою. — Вашай страшэннай грымасай, Геіч, толькі канкурэнтаў палохаць: крычаць ім у нахабныя морды: «Ахтунг, панове! Вас паймелі! «Бабкі» на стол! Ствалы на дол!»

— Бос! Мяне сорак гадоў завуць Сам Самыч. Прашу вас, не забывайцеся на гэта. Перакручанае імя зневажае. А сёння вашая насмешка ўвогуле недарэчная! Па нечай злой волі мы тырчым у глыбокім анусе. Знізіўся попыт на прадукцыю. Заманаліся ўжо перапякаць і пераварваць.

— Прабач, Самыч! Не хацеў цябе гейскім словам пакрыўдзіць. Ды і ты добры! Надумаў анусам палохаць! Дай каманду прыбраць з упакоўкі тэрмін прыдатнасці. Тады ніхто не заўважыць, што нашыя вырабы псуюцца. Думай, Самыч, думай! Бо я пачну думаць, што дарма плачу табе зарплату.

— Бос! Вам не здаецца, што мая зарплата апошнім часам стала нагадваць рэшту? З такой зарплатай я не абавязаны думаць! Больш таго, маю поўнае і законнае права трошкі шкодзіць. Але больш за ўсё мяне дзівіць ваша здольнасць прымаць ідыёцкія бізнэс-рашэнні з вельмі сур'ёзным выразам твару.

— Малайчына, Самыч! Не круціш лісліва хвастом! Але Бог трываў і нам загадаў. Як там усё абернецца, нікому невядома: ці грудзі ў крыжах, ці галава ў кустах. Калізіі рынка непрадказальныя. Сабой рызыкаваць не маю права, бо кампаньёны не даруюць. Прабач, але гэта твая доля — падстаўляць галаву пад меч грамадскай думкі. А пакуль загадай падаць машыну. Пракачуся! Хачу панюхаць, чым народзец на ўскраінах дыхае. Надакучыла гарадская кругаверць. Мая філасофія простая, як шнуркі ў чаравіках: калі ёсць праблема, душы яе ў зародку. Сам праверу, чаму любімы мною народ насы вароціць ад нашай смачніны.

— На «Мазерацiку» паедзеце?

— Не. На чырвоным «Ламбарджыні», зацюнгаваным пад «Маздзюху». Не хачу разявак за горадам дразніць. Надзену задрыпаны пінжак, у якім езджу на дзядулявым ровары ў падатковую інспекцыю.

— Гарбаткі з бруснічным варэннем на дарожку сербаніце.

— Не ўгаворвай на гарбатку. Пасля гарбаты больш думаеш пра памперсы, чым пра дарогу.

— Ніначку з сабой вазьміце. Нудзіцца дзяўчына без мужчынскай ласкі.

Ніначка! Больш за бруснічнае варэнне Баркляеў любіў варэнне з Ніначкіных ласкаў. Гожы тварык, салодкія вусны, фантастычныя грудзі, акуратная фігурка, грацыя коткі. І пушок на скуры далікатны-далікатны, як на тэнісным мячыку. Яе татка аказаўся выдатным кулінарам: замясіў на двух яйках такую апетытную пампушку.

— Не, Самыч! Дэкальтэ Ніначкі адцягвае ўвагу ад надзённых спраў. А іх у мяне, сам ведаеш, церці неперацерці.

— Жаніліся б вы, Уладлен Пятровіч. Церці пад коўдрай — такая ж бязглуздзіца, як і гуляць у пінг-понг у кішэнях сваіх штаноў.

— Спакойна, Самыч! Я ананізмам за рулём не займаюся. Няма ў мяне трэцяй рукі. Хоць часам і магу сабе дазволіць, як інтэлігентны чалавек, злёгку паманіпуліраваць сваёй існасцю. Але толькі калі прыпаркуюся ў прыгожым месцы і пагружуся ў думкі пра Папялушку.

— Калі ваша душа прагне рамантыкі, то пакутуе, як правіла, нечая дупа. Марыць пра Па-

пялушку — пусты і бессэнсоўны занятак. Перавяліся Папялушкі. Магу падказаць без дабаўкі да зарплаты, якая жанчына вам патрэбна.

— Ну, і?! — на твары Баркляева прарэзалася непадробная цікавасць.

— Шукайце жанчыну без сэксуальнага доследу на аблічны. Гэта я вам кажу адказна, як стары, у сэнсе, мацёры сэксалюб.

Баркляева, безнадзейнага халасцяка, многія з пакрыўджаных жонкамі сяброў даўно хацелі з кім-небудзь «апыліць». Але Баркляеў устойліва трымаўся і любіў па-сапраўднаму толькі свой бізнэс. Законы попыту і прапановы ён упершыню спазнаў у бясхмарным дзяцінстве, гандлюючы цыгарэтамі ў школьнай прыбіральні.

Схамячыўшы на хаду салабургер, Баркляеў усеўся ў прамаздзюшаны «Ламбарджыні». Язда зачароўвала Уладлена Пятровіча. Настрой уздымаўся з кожным «умц-тумц» супермоднага дыджэя. Пайшоў прыватны сектар з расхлістаным па яры дачным пасёлкам. Паддаўшыся раптоўнай гуллівасці, Баркляеў прытармазіў ля жанчыны, якая самотна стаяла на абочыне, уся абчэпленая пакетамі, як навагодняя елка цацкамі.

— Мадам! Не падкажаце, каторая гадзіна?

— Ой! Гадзіннік дома, дурніца, забылася. Давайце да мяне заедзем. Я жыву недалёка. У мяне гадзіннік паказвае дакладны маскоўскі час. Заадно і каву ў пасцель падам.

— Кава ў пасцель — спакуслівa, — павесялеў Баркляеў. — Хараша вы каля ліхтарнага слупа танчылі, быццам каля шаста ў стрыпбары. Ёсць танцавальны вопыт?

— Шчыра кажучы, пра танцы даўно перастала думаць. Клеіла шлюбную аб'яву. Яшчэ парачка неаслупаваных засталася. Магу паказаць.



— Давайце, паказвайце. Я падобныя аб'явы ва ўсіх газетах чытаю.

Незнаёмка з усімі пажыткамі залезла ў машыну і працягнула Баркляеву лісток, вырваны з сшытка.

Бегла глянуўшы на пісаніну, Баркляеў пацікавіўся:

— Які дробны дэфект тут згаданы? Калі ён не вельмі інтымны, мне цікава зірнуць.

— Мой дэфект у школе настаўнікам мазгі дурыць.

— Ах, вось вы пра каго! — твар Баркляева расплыўся ў спагадлівай усмешцы. Прыроднага артыстызму яму было не займаць. — Дык дзе ж ваш дом? Пятнаццаць хвілін едзем.

— Ужо прыехалі, — аб'явіла жанчына. — Будзем час глядзець?

— Будзем.

Ступаючы па дарожцы, Баркляеў папрасіў:

— Не дайце знікнуць добраму настрою. Можна, я падфутболю вашага ката? Не цярплю тлустых лайдакоў, якія гультаявата грэюцца на сонцы.

— Зберажыце эмоцыі для важнейшай справы.

— Даўно паспелі змяніць асабістае жыццё?

— Я таямніцы са свайго жыцця не раблю. Жыла з Трафімам ад дараванняў да развітанняў. Ён мне штодня абяцаў: «Галаву адарву!» Надакучыла мне слухаць, купіла вядро кількі, паставіла на стол і кажу здзекліва: «На! Рві!» І рваў! Пакуль не ўпакавалі малахольнага ў псіхушку. Яму галаву дурной матка зрабіла. Трэсла калыску разам з дзіцём, вось і датрэслася. А дзіця — не груша, у яго мазгі рэдкія.

— Няўжо пасля Трафіма нікога не прыжылі?

— І дагэтуль заходзіць да мяне адзін тып. Чытае да самай ночы дзікія вершы. Кажа, што сам напісаў. Пакуль не разабралася, хто ён: непрызнаны геній ці звычайны імпатэнт.

Ва ўсіх жаночых довадах чыста рытуальны, шаманскі сэнс, лічыў Баркляеў, таму ніколі не надаваў ім значэння. Сам ён заўсёды казаў тое, што хацеў сказаць. Астатняе яго мала турбавала.

— У жаніхі вам не набіваюся, але пахваліцца нагоды не прапушчу: я выдатна гатую, шыю, вяжу, мыю.

— Калі дзяцей навучыцеся нараджаць, цаны вам на Багдадскім рынку не будзе. Прабачце за шчырасць. Але так збудавана жанчына. Нас немагчыма спыніць, калі побач разумны мужык.

Увайшоўшы ў дом і агледзеўшыся, Баркляеў спытаў:

— Чым, акрамя напісання аб'яў, займаецеся ў асабістым жыцці?

— Прадаю жаночыя гадзіннічкі. Адна гадзіначка на гадзіннічку — сто даляраў.

— Слухай, Люся! — без стуку ўвайшла маладжавая брунэтка з засосам на лбе. — Ой! Ты не адна?! Тады прабач.

— Пачакай, Света! Хто цябе пацалаваў у ілбешнік?

— З бацькам развіталася.

— Ад мяне чаго хацела?

— Папрасіць хачу. Пазагарай у нас у садзе без станіка.

— Пазагараю. Толькі не цяпер. У мяне госць.

— Разумею. Настойваць не буду. Але і падзяліць тваю радасць з нагоды спаткання не змагу. Ну, ты мяне зразумела?! — сыходзячы, маладзіца паспела з ног да галавы прабегчыся па Баркляеву ацэньваючым позіркам. Найбольш



яе ўразілі чаравікі-чэлсі «Джыл Сандэр» з воданепранікальнай скуры. — Нішцяк хадулі. Пашанцавала табе, Люся. Пажаніхаешся сёння з мужыком у шыкоўных шкарах. Толькі лапсардак на ім даўгаваты, не відаць, як мужчына на тваю прыгажосць рэагуе.

Света працавала ў абутковым буціку і ведала толк у добрых чаравіках.

— Люся, можа, твой чалавек падкажа, як адвучыць мужа агуркі апырскваць? Раніцай заспаны выходзіць на ганак і пырскае. Быццам нельга папырскаць у іншым месцы.

— Павер, не да цябе, а тым больш не да твайго мужа. Вы яе не слухайце, — зачыніла дзверы за Светкай Люся. — Яна як вып'е, вярзе ўсякае глупства.

— Трэба меркаваць, у яе ў садзе патаемны нудысцкі пляж? — усміхнуўся Баркляеў.

— Не, не пляж. Час падышоў траву ў садзе касіць, а мужа без стымулу прымусіць не можа. Учора, дурніца, загрымела ў чужую койку. У яе гэта завецца «пайшла піць піва з сябрамі». Зараз Стасік патрабуе кампенсацыю за сваю душэўную траўму.

— Вы надзвычайная жанчына! Усім патрэбная! А галоўнае, не гэткая меркантыльная скнара, як усе астатнія дочкі Евы.

— Не веру я ў сваю патрэбнасць з чужых слоў, пакуль сама не зразумею, што гэта так. На шалупінне словаў не кваплюся. Вось на агароднінакансерваваным заводзе я патрэбная. Там патрабуюцца пажылыя жанчыны для засолкі і маладыя дзяўчыны для закваскі. Падмарафечуся і сыду за малодку, хоць даўно ўжо не дзяўчына.

— Не хадзі на завод, прашу цябе! Заставайся такой, якая ты ёсць. Проста рыжай і дзівосна

прыгожай. Тады побач з’явіцца сапраўдны, моцны мужык.

— Дзе іх, моцных, на ўсіх набярэшся?! Пладзілі б іх, як бройлераў на птушкафабрыцы, першай бы ў чаргу стала. І запомні, калі «тыкаць» мне стаў, я не рыжая, а русая, можна сказаць карамельная. Ёсць розныя адценні. Рыжай мяне больш не называй.

— Добра. Аднак дзіўна ўсё гэта. Чым даўжэй на цябе гляджу, тым хутчэй з табой ва ўсім згаджаюся. Цікава, якім бацькам я мог бы стаць твайму шкаляру?

— Доўга не думай. Я кожнаму думшчыку больш дзвюх гадзін не даю.

— Тады прашу цябе, карамельная, распраніся. Хачу трошкі паглядзець, як ты выглядаеш без адзежы. Можа, дарма з табой мух лаўлю.

— Лавіць забараніць не магу. Але прашу, беражы сваю мухалоўку. Табе яе падвесілі не для аднаго разу. А паглядзець на мяне распранутую, нават трошкі, будзе не бясплатна. У нашым свеце толькі грошы маюць устойлівы попыт. Усе жаданні спраўджваюцца, калі ведаеш ім кошт. Сустракацца з мужчынам толькі дзеля грандыёзнага сэксу я ніколі не буду. Аргазмы не доўжацца доўга. А грошы, як іх ні назаві, заўсёды будуць грашыма.

— Любіце вы, жанчыны, папракаць мужчын, што нам ад вас патрэбны толькі сэкс. Але, пагадзіся, вам і прапанаваць больш няма чаго!

Гаворачы, ён глядзеў на Люсю і разважаў: ці меў яе сёння хтосьці, калі не сёння, то на гэтым тыдні, калі не на гэтым тыдні, то сёлета. Часавыя рамкі забароны на змешванне вадкасцяў у кожнай жанчыны розныя. Нешта пстрыкнула ў мазгах Баркляева, і ён проста сказаў:



— Ну, мне пара.

— Разумею, ногі ў мяне не такія, як табе хацелася.

— Ногі як ногі, сыдуць, каб на працу хадзіць. Бяры прыклад з котак — яны сваіх валасатых ног не саромеюцца.

— Пачакай, не адыходзь!

— Ну, чаго яшчэ табе трэба?

— Пабудзь трошкі.

— Навошта?

— Не хачу, каб цябе панеслі па дарожцы, усыпанай яловымі лапкамі. Света з мужам вар’яты. Забіць могуць, калі пачнеш ім перашкаджаць разбіраць тваю машыну. Яны свой заробак лепяць на крадзеных запчастках.

Баркляеў падышоў да акна. Сапраўды, нейкія людзі-цені шакалілі побач з яго «Ламбарджыні». Выдзяляўся пануры мужык з блукаючым позіркам і брыдкімі вушкамі прайдзісвета.

— Гэта ўнікальная машына. Яе запчасткі кувалдай не ўгоніш ні ў якую тачку.

— Пляваць ім на гэта. Пачакай.

— Што яшчэ?

— Я з табой па-добраму, а ты ўпарцішся. Каля брамкі ровар стаіць, вазьмі яго. Улегцы вернешся ў горад. Добрыя чаравікі берагчы трэба.

— Зухаватае ў цябе жыццё, Люся!

— Гэта прадзедава кроў ува мне бурліць. Быў час, ён морам на фелюгах са Стамбула кантрабанду цягаў.

— Глядзі, не разарыся на роварах.

— Не ўздумай у міліцыю заяўляць. Сведак у нашых месцах не бывае. Бяздумна рваць валасы на галаве таксама не раю. Іх у цябе не так шмат засталося. Разумная эканомія надоўга захавае шавялюру.

Баркляеў сеў на ровар і паглядзеў на Люсіна акно. У нейкі момант яму здалося, што яна стаіць за занавесай і плача, а можа і смяецца.

— Ёлупень! Захацелася кахання. Недарэчнага, жорсткага, бруднага, гарачага, далікатнага. Мае рацыю Геіч: з Ніначкай спакайней жыць.

Энергічна круцячы педалі, Баркляеў выскачыў з-за павароту і пераехаў здзіўленага пеўня. Птушку было шкада, і Баркляеў шчыра засмуціўся. Гаспадыня пеўня калупалася ў гародзе і ўсё бачыла.

— Прабачце, нядобра выйшла. Я б хацеў, калі дазволіце, неяк замяніць вам гэтага пеўня.

— Куры ў куратніку, — цётка стомлена махнула рукой у бок трухлявага хлеўчыка. — Ідзі, замяняй!

# Італьянская канапа

Задуменна дымела фабрычная труба. Абыякава глядзець на слупок дыму я ўжо не магла. Уяўленне ператварыла трубу ў гіганцкі фалас, які свідраваў пупавіну неба. Фалас любоўнага героя мроіўся мне ў кожным стаяку, што ганарліва тырчэў то тут, то там. У сваіх снах і летуценнях я не баялася мець справу з жахлівым канцом, бо стамілася на яве цярпець жах без канца. Героі сноў часта з'яўляліся ў вобліку псіхіятраў, крыўляліся і хорам страшылі мяне: «канец канцом сярод канцоў канец ты знойдзеш наканец».

З мноства белахалатных перавагу я ўсё ж аддавала мужу. Жонкай псіхіятра стала зусім выпадкова. Вася, мой першы, быў псіхапатам. Два месяца да вяселля мы моцна сябравалі, а таксама месяц пасля шлюбу. Проціборства нашых непахісных стыхій стамляла сваёй безвыходнасцю. Яго звадам і падазрэнням я не знаходзіла апраўдання. Васіль быў гаспадарлівым, але не больш за тое. Не хацелася быць квактухай у Васькіным куратніку. Гэта азначала растаптаць свабоду, якая мною шанавалася вышэй за дабрабыт у доме. Муж злаваўся, пляскаў дзвярыма, біў посуд. Бурбон! Пасля таго, як мы пасварымся, Васька стараўся не заўважаць мяне. Самотна ляжаць у халоднай пасцелі было сумна і няўтульна. Неяк раніцай я ледзь не абпалілася кавай, бо неасцярожна падумала: «Калі раптам

здарыцца нешта непапраўнае, то ніхто нават не апазнае маё голае цела. Гэтак з целам жартаваць нельга. Яно — мой здабытак і здольнае прыносіць радасць не толькі мне, але і ўсім, хто пажадае ім валодаць».

У адзін з вечароў Васіль нечакана прамовіў фразу, якая прагучала вельмі хораша:

— Зоя! У спальні гадзіннік стаіць.

— Калі ў спальні штосьці стаіць, я бязмежна шчаслівая.

— Ёсць і дрэнная навіна!

— Кажы сваю гадасць, але не спадзявайся, што мяне званітуе.

— Будуць дажжы.

Васька з нейкім сытым зачараваннем прамовіў гэтае слова. Сказаў бы ён «дажджы», я б стрывала. Але пачуць «дажжы» было на грані маіх душэўных сіл.

— У мяне таксама дрэнная навіна! — вырашыла адпомсціць траплу. — Я не цяжарная.

— Што будзем рабіць? — устрывожыўся муж.

— Будзем дабівацца выніку.

— О, Божа! — усклікнуў ён і склаў рукі на грудзях. — Ізноў гэтыя недарэчныя рухі цела, ад якіх баліць паясніца. Як хочацца жыць прыгожа, так, каб не катаваць сябе.

— Якое дзікае цемрашальства! — абурэнне забулькатала ўва мне праведным гневам. — Нават вожыкі савакупляюцца, хоць рабіць ім гэта ў сто разоў цяжэй — яны калючыя.

Не губляючы ініцыятыву, я напорыста перайшла ў наступ:

— Мне патрэбныя грошы. Хачу зрабіць тату на ягадзіцы. Лілею.

— Лілею на ягадзіцы ніхто не ўбачыць.

— Каму пашанцуе, той убачыць.



Пашанцавала другому мужу. Пазнаёмілася з ім рамантычна. Шпацыравала з першым мужам, пад’ехаў на машыне другі, пераехаў першага і забраў мяне з сабой, паабяцаўшы суцешыць.

Зачыняючы адны дзверы, жыццё адчыняе іншыя, дае новы шанс пачаць усё спачатку. Мне быў патрэбны чалавек, здольны пранікаць у несвядомае, і я атрымала мужам доктара-псіхіятра. Знаёмячыся, ён папярэдзіў: «Мая прафесія — нерваваць псіхаў. Рамантыкі ў гэтым мала, аднак людзі маюць ува мне патрэбу».

Зносіны з псіхіятрам сталіся для мяне ачышчальнай лазняй. З’явілася вера, што нарэшце знойдзецца першакрыніца ўсіх дзікіх фантазій. Аказалася, не ў адной мяне праблемы з псіхікай. Усім хоць нешта, але замінае жыць. Так ужо збудаваны чалавек. Выправіць мяне было ўжо нельга, а вось канчаткова змарнаваць магло атрымацца. Разам з новым мужам прыйшла цікавасць да парыўных захапленняў. Гэтаму вельмі спрыяла італьянская канапа з падагрэвам. Паспрабаваць сябе на канапе ў вобразе падабранай удавы стала дакучлівай ідэяй. Хатнія вечарынкі паслужылі добрай падмогай у выбары патрэбнага мужчыны для выпрабавання сябе і канапы.

Калі прыйшла чарговая пятніца, самцы, змовіўшыся, вырашылі напіцца. Быць прыгожай сярод п’яных не ўяўляе вялікай касметычнай складанасці. Гасцей з’ехалася больш, чым звычайна збіралася на сяброўскіх гулянках альбо нядзельных шашлыках. Кіраваў застоллем вясёлы грузін Гіві, амбіцыёзны мужычок. Яго галава, бліскучая, быццам більярдавы шар, мільгала ад фужэра да фужэра. Кучаравы куст валасоў, які выбіваўся з-пад кашулі, нявольна наганяў жаданне. Гэта была тонка прадуманая неахайнасць стылю, якая

вабіла нырнуць у поўсць і выкупацца ў ёй, як купаюцца куры ў дарожным пыле. Падміргнуўшы, балака сваім чэпкім поглядам, быццам прасам, прама на мне прагладзіў сукенку, абпальваючы сцёгны і грудзі. У адкрытай, абцякальнай адзежы стала горача, і яго вочы-чарцяняты, не цырымонячыся, распранулі мяне. Ён усміхнуўся той усмешкай, якой мужчына ўсміхаецца ў пасцелі, рыхтуючыся да… увогуле, рыхтуючыся.

Я разумела, што гаварун Гіві гэткі ж надзейны, як восеньскі прагноз надвор'я на вясну. Але гэты чалавек здолеў распаліць жарсць, што тлела ўва мне. Па маім целе прабеглі дрыжыкі, і я адразу зразумела, што азначае незразумелая раней фраза «знямога сэрца».

Свята было ў самым разгары, але ні гулянка, ні вясёлыя госці, ні муж, які таптаўся сярод іх, ужо не хвалявалі мяне. Хваляваў Гіві, і я, зачараваная ім, была на сёмым небе ад шчасця. Гарачае прыцягненне аказалася ўзаемным. Адчуванне, што гэтую ўзаемнасць ужо не прагнаць, бо і я прагну, і ён прагне, ускалыхнула маё нецярпенне. Я не лічыла сябе рабыняй пурытанскай маралі і ўлупіла прыгажунчыку проста ў шырокі лоб:

— Адкуль ты ўзяўся на маю бяду такі прыгожы?

— Адтуль! — і Гіві рабром далоні правёў мне па жываце. — Я радылса так быстра, што радытэлы пажэныцца нэ ўспэлы. Я был тры кыло трыста грам ы вылэтэл, как снарад ыз пушкы.

Чорт! Віно, якое плюскалася ў ягоным куфлі, прадракала буру. Мне гэта, канешне, падабалася.

— У цябе доўгія пальцы, — томна прыжмурыўшы вочы, прызнала я, — такімі пальцамі зручна іграць на піяніна.



— Нэ адгадала! — і ён прагна аблізнуўся, быццам перад ім паклалі апетытны ростбіф, пасыпаны зелянінай. — Я ыспытатэл! — Аказалася, доўгія пальцы Гіві служылі для мыцця прабірак і іншага лабараторнага посуду. — Хатытэ танцэват? — нечакана сарваўся ён у піке, як сапраўдны лётчык-ас. Танец даваў магчымасць абняцца і прыціснуцца.

Хацелася не толькі танчыць, хацелася прадэгусціраваць лабаранта і як мага хутчэй. Але непадкантрольны язык паддаўся эмоцыям і панёс несусветную лухту:

— Бывалыя людзі сцвярджаюць, што на дзікіх выспах у Акіяніі можна купіць жонку за пяць даляраў. Якая абуральная несправядлівасць! Небаракі заслугоўваюць большага!

— Вэс мыр жывёт на спэкуляцыы і астрава таму нэ ісключэнээ! — упэўнена запярэчыў Гіві, быццам ужо не раз купляў жонку. — А вы, дэвушка, пачым красывава палюбытэ? — і абняўшы мяне там, дзе ныркі, ён горача задыхаў, быццам ісландскі вулкан.

Замяшанне абвалакло маю гуллівую натуру. Як ні круці, але Гіві — чужы муж, а ў мяне ёсць свой. Кожнаму сваё, але чужое, хоць гэта цалкам невытлумачальна, здаецца смачнейшым. Свой, чужы, якая, блін, розніца! Абы муж і не муж, незалежна адзін ад аднога, з запалам выконвалі любоўную справу.

Узбуджаючыся, Гіві скакаў і прысядаў у самцовым танцы, тыкаючыся носам у мае сцёгны.

— Гіві! Знімі акуляры. Ты парвеш мне калготкі, — ухапіўшы танцора за вушы, я паспрабавала суцішыць каўказскі тэмперамент. Раптам новая думка абпаліла мяне: «Гэты ўпарты нахабнік зробіць усё, каб застацца без штаноў. Цікава, як хутка ў яго гэта атрымаецца?!»

— Гіві, акуратней кранай мае грудзі. Іх не трэба лапаць, іх трэба лашчыць.

«Пара браць сябе ў рукі, — тут жа падумала я. — Не! Лепш аддацца ў яго рукі. У рукі прабіршчыка-зацейніка».

Зусім недарэчы трэцім лішнім усплыў заклапочаны муж. Нервова прабарабаніўшы пальцамі мне па плячы, ён паспрабаваў разабрацца:

— Што ў цябе адбываецца з Гіві? Здаецца, у нашым статку завёўся воўк у авечай шкуры. Гэты воўк не хто іншы, як валасацік Гіві. Давяраючы сэрцу, а не пустым плёткам, хачу цябе перасцерагчы: ён не з тых, хто прапануе дамам згуляць на канапе ў шашкі. Ён прапануе гульню адкрытых позаў. Калі я пераехаў твайго псіхапата, ты абяцала кахаць мяне вечна.

— А пуркуа бы не па?! — загадкава ўсміхаючыся, томна прамовіла я. — Абяцаючы кахаць вечна, я не абяцала каханне аднаму. Рэўнасць — не лепшы дарадца ў сардэчных справах. Мае пачуцці патрабуюць добрага ўзрушэння. Аднадюбства прытупляе адчуванне навізны і няўмольна руйнуе самыя жалезабетонныя адносіны.

— Адчуванне навізны патрэбнае толькі пры набыцці мэблі. Прыгледзься, Гіві падобны да твайго бацькі, ён выліты твой бацька. Фліртуючы з Гіві, ты паддаешся вар'яцтву.

— Не прыплятай у мае адносіны з Гіві «эдыпаў комплекс». Калі Гіві падобны да майго бацькі, то я падобная да сваёй маці, — жыццё з псіхіятрам сяму-таму мяне навучыла. — Яшчэ пытанні ёсць? Не? Няма? Тады на! — і ўручаю мужу жменю таблетак. — Супакойся! — гаворачы «супакойся», я ілгала. Падробная віягра з пратэрмінаванага пургену — выдатны сродак пазбавіцца ад прыставучага мужа і правесці вечар без надакучлівага сачэння і заклікаў да сумлення.

Паслухмяна праглынуўшы таблеткі, мой сем'янін як прывід растварыўся сярод вясёлай аравы гасцей. Яго галава тузанулася раз-другі, абвяла, быццам надламаны сланечнік, і муж смешна зачыніўся ў прыбіральні. Будучы другі раз замужам, я па-сур'ёзнаму мужу не здраджвала. Праўда, у думках рабіла гэта з вялікім задавальненнем і ў любы зручны момант: у цягніку, аўтобусе, метро, тэатры… З Ванем, Санем, Пецем, Колем! Каго пасмееш, таго і паймееш. Толькі шальныя пацалункі былі ў мяне пад забаронай. На вусны не нацягнеш прэзерватыў.

— Мой баранчык, мой мандарынчык! — Гіві вошкаўся поруч мяне і нецярпліва паціраў рукі. — Нэт! Два мандарынчыка!

Потым ён пачаў шаптаць, як абажае тлусценькі задок, пацікавіўся, колькі смакаты я з'ела, пакуль атрымала такую фігуру, і нарэшце ўшчыкнуў за кожную палоўку маёй попы. Жадны камплімент, жадная пахвала майго інтэлекту не прыносілі мне столькі радасці, колькі высокая ацэнка маёй ду… прабачце, ніжняй цялеснай кампазіцыі. Свавольства, раскаванасць і шчырасць авалодалі мною. Танчачы з Гіві, я павісла на ягонай жылістай шыі.

— Чаму ты маўчыш пра мае грудзі?

— Трудна гаварыт аб тым, што находыш с трудом. А то, што ў тэбя послэ спыны, вызываэт ураган жэланый.

Развярнуўшы мяне, Гіві ўпаў на калені і ўпіўся зубамі ў мой зад як сапраўдны канібал. Потым ён пацалаваў мяне, але зусім не ў вусны, і мае ногі падкасіліся пад напорам вар'яцкага запалу.

Апрытомнела я на італьянскай канапе. Ад гасцей нас аддзялялі дубовыя дзверы. Неверагодная паводка пачуццяў перапоўніла Гіві, і ён зноў пацалаваў мяне. Некантралюемыя эмоцыі авалодалі мною: я сціснула сцёгны і паламала яму акуляры. Потым здарылася тое, што не магло не здарыцца. У чарговы раз я пераканалася: не яйкі ўпрыгожваюць чалавека, а чалавек яйкі. Нарэшце, як тая п'яўка, што ўдоваль насмакталася крыві, Гіві зваліўся з мяне.

— Гіві, ты вярнуў мне Рэнесанс! — прашаптала я, усё яшчэ лунаючы ў нябёсах.

— Што? — спалохаўся Гіві.

— Ты вярнуў мне Адраджэнне, дурненькі.

— Дарагая! — зацягваючы рэмень на штанах, Гіві вельмі сур'ёзна паглядзеў на мяне. — Я нэ знал, што ты — дэвушка, знал бы, нэ спэшыл.

— Калі б ты не спяшаўся, я б паспела зняць калготкі.

Прайшло некалькі дзён. Настырныя сумневы пакрамсалі мяне ўздоўж і ўпоперак.

— Я вырашыла прадаць італьянскую канапу, — з сумам у голасе даверыла сваё самае патаемнае візажыстцы Анастасіі. — Хачу ачысціць сумленне і зняць грахоўны груз з душы.

— Ты з глузду з'ехала! Не варта пазбаўляцца ад такой файнай канапы. Яна так прыемна грэе попку.

— Канапа — нямы дакор, які нагадвае пра маю здраду мужу.

— Дурніца! Калі б я пачала прадаваць усё, што нагадвае пра здраду мужу, у кватэры не засталося б нічога, акрамя абажура і праса.



# Ціха! Пагаворым пра шчасце!

Хутка напісаць смешную кнігу немагчыма. Творчы працэс прыгожы, але доўгі. Калі дзень за днём пішаш вясёлую адсябяціну, ёсць вялікая верагоднасцьператварыцца ў панурага, змрочнага чалавека. Пісьменніцкі крыж — цяжкая ноша, але калі ўзяўся яго несці, то нясі без стогнаў, ахаў і охаў.

Гумар патрэбны людзям. Ён робіць больш яскравым тое, што мы завём простым словам «жыццё». Пісаць з гумарам дапамагае інтуіцыя. Давяраючыся гэтаму пачуццю, імкнуся кожнае апавяданне давесці да «сімфанічнасці».

Творчасць не гарантуе вечнага поспеху. Слаўныя ўзлёты і бясслаўныя падзенні — неад'емная частка жыцця пісьменніка. Адзінае — трэба старацца, каб колькасць узлётаў усё ж пераўвышала колькасць падзенняў.

Калі свежыя думкі пачынаюць блукаць чорт ведае дзе, гэта сігнал, каб адарваць азадак ад крэсла і пайсці ў людзі дзеля жывых зносін. Калі пашанцуе, можна набрацца новых уражанняў і не толькі ўражанняў.

У дванаццаці хвілінах хады ад месца маіх творчых пошукаў прадпрымальныя людзі адкрылі прыбытковы барчык. У ім і куфаль піва можна выпіць з вялікім задавальненнем, і ёсць з кім пагаварыць пра парадоксы жыцця.

Жыццё, якое кіпела ў барчыку, уражвала мяне сваёй сапраўднасцю: тут заўсёды панавала

атмасфера непадробных чалавечых зносін — без прыўкрас і падманлівага глянцу. Чуткі і плёткі альбо набіралі тут сілу, альбо з ганьбай разбіваліся аб граніт непахісных контраргументаў. Вабіла ў барчык магчымасць сустрэчы з прататыпамі будучых герояў задуманых мною кніг. Літаратура без тыпаў і характараў блякне, губляе самабытнасць, ператвараецца ў пасрэднае чытво.

У бары тусаваўся местачковы народ, ахвотны каўтнуць з ранку куфаль піва.

— Гэй, пісьменнік! — паклікаў мяне Грышка, потны і надзвычай жвавы таўстун. — Бяры піва і падграбай да нашага століка!

Быў Грышка апрануты ў сваю звыклую ватоўку і спартовыя штаны ад «Найка».

— Даўнютка, стары, ты сюды не наведваўся. Я ўжо падумаў: усё, скончыўся пісьменнік! Раскрышыў мазгі, плетучы вязь інтрыг у чарговым рамане, ды з'ехаў на лугі квяцістыя пасвіць пчол. Наўпярод не пазбаўляй задавальнення пагаварыць пра жыццё з разумным чалавекам. Надакучыла бачыць скрозь і побач калючыя позіркі панурых мордаў. Хто яго ведае, што ў гэтых мордаў у галаве і якім бокам можа адгукнуцца шчырасць.

— Прабач, Рыгор! Выдавец запатрабаваў рукапіс тэрмінова здаць. Вось і сяджу суткамі, каламбурачы частку за часткай. А пагаварыць з табой заўсёды прыемна. Шчырая размова трымае ў тонусе апарат жывога ўспрымання жыцця.

Зрабіўшы пару глыткоў, я аблізаў вусны, смакуючы добрае свежае піва.

— Бяры, пісьменнік, рыбку! Частую! Чахонь — волжская царыца. Расшалушывай і дакладвай, над чым сядзеў круком увесь гэты час, складаючы немалыя высілкі на алтар мастацтва!



— Раман пішу пра чалавечае шчасце, — адрапартаваў я, скубаючы вяленую прыгажуню.

— Добра, калі шчасце ёсць, і дрэнна, калі даводзіцца жыць без яго. Сапраўднае шчасце — гэта калі табе зайздросцяць, а нагадзіць не могуць. Толькі ніхто твой раман з тых, хто тут піва п'е, чытаць не будзе. Іншых клопатаў хапае. Атрымліваецца, пішаш ты для народа, а народу твая пісаніна непатрэбная, нах. Буду яшчэ больш шчырым: не ў пашане ў нашай краіне духоўны пажытак. Не дадзена кнізе перамагчы ў супрацьстаянні з чаркай. Сам памяркуй, гарэлку ў чарку наліваюць сумленна і да краёў, а ў кнігах праўда жыцця пакрыта змрокам, і без бутэлькі гарэлкі не разбярэш, хто там дробны злодзей, а хто тайны вораг. А пасля другой бутэлькі, павер, не да разборак з кнігай. Пасля другой у мужыка іншыя інтарэсы рэжуцца: бабу зняць альбо чужынцу ў храпу даць. Праўду кажу, мужыкі?

— Справядлівыя твае словы, Лявоныч! — загаманілі пастаяльцы піўнухі. — Людзям праўда патрэбна, якой бы горкай на смак яна не здавалася.

— Без праўды месца тваім кнігам, пісьменнік, на Стамбульскіх кніжных развалах! — усміхнуўся дзядзечка, запакаваны ў «адзідас». — У Турчыманіі кніга — патрэбная рэч у гаспадарцы: і гарачую патэльню паставіш, і пад ногі падкладзеш, калі трэба кальян з антрэсоляў дастаць, і мангал распаліш, зазываючы турыстаў шашлычным дымком.

— Не разумею! — затараторыў худасочны акулярык, які сядзеў за столікам ля акна. — Чаму наш народ жыве адным жыццём, а літаратура цалкам іншым, не падобным да народнага жыцця. Пішы, пісьменнік, праўду! Падавай праўду

чытачу, як падаюць паліто, а не шпурляй у твар, як мокры ручнік. Вялікім станеш, калі зразумееш, якая кніга нашым людзям патрэбна. Літаратура не прыслуга для народа і прагрэсу і не сродак выхавання Сценек Разінаў, Ямелек Пугачовых, Паўлікаў Марозавых і іншых Карчагінаў. Літаратура павінна служыць праўдзе і прыгажосці, павінна жывіцца праўдай і прыгажосцю, як жывіцца мора рэкамі і рачулкамі. Хачу ўзяць у рукі раман, ад якога мурашкі па скуры пабягуць, валасы дыбам устануць, камяк з'явіцца ў горле. Ёсць у Вані Тургенева маленькі шэдэўрык. «Муму» называецца. Па сутнасці, вельмі страшная рэч. Пані там верхаводзіць. Сварлівая, істэрычная, сапраўдная шэльма. Герасім таксама не цукар. Заўжды цвярозы, працавіты, але нямы, безгалосы і гатовы выканаць любы страшны загад. Рабскае паслушэнства на пару з панскай жорсткасцю даходзіць у кнізе да катавання. Судзіць трэба такіх рабоў і паноў на людскім сходзе. Пані — за загад, Герасіма — за выкананне злачыннага загаду. І чэлядзь, гатовую пакорліва выконваць кожны панскі капрыз, пасадзіў бы без шкадавання на лаву правасуддзя. З такой пані і яе безаблічным народам у Муму заўсёды будзе толькі адзін, сумны канец. Вып'ем, сябры, за думную псіну Муму і за справядлівасць у нашай краіне!

— Горкая праўда не робіць чалавека шчаслівым, — уступіў у гутарку маладжавы чалавек з сур'ёзным тварам і з роўнай, па-вайсковаму скроенай спінай. — Праўда азлабляе чалавека. Дзеля агульнага спакою праўду лепш хаваць. Калі будзем без канца вініць, выкрываць, бровы хмурыць, то дачакаемся, што ніхто сваёй радасцю дзяліцца не стане, баючыся зайздроснікаў. Цяпер людзі цешацца, калі дом гарыць у паспяховага суседа, а таго, хто гіне, здымуць на камеру для інтэрнэту, перш чым ратаваць. Краіне патрэбны жалезны парадак. Людзей трэба часцей абшукваць. Абшукаў каго трэба і ўпёк куды трэба. Астатнія самі разбягуцца. Сапраўднае шчасце праз боль спазнаецца. Добра, калі боль раптоўны, але цярпімы. Адпусціў следчы пад падпіску пра нявыезд — радуйся, што глядзіш з вуліцы на вокны з рашоткай, а не наадварот.

— Давялося мне перажыць раптоўны боль, — падаў голас адзін усмешлівы хлопец, — моцна гараваў, калі жонка сышла. Думаў, не перажыву адзіноту. Супакоіўся, калі ўспомніў, што сышла не мая жонка. Сышла, і халера з ёй. Вызваліла тым самым месца для іншай жонкі.

— Дарэчы, пра жонак, — падтрымаў размову мужчына без асаблівых прымет. — Ішоў з грыбоў праз дачны пасёлак. Бачу, сядзіць на лаўцы дзіўны мужык. Валасы ўскудлачаныя. Шырынка расшпілена. Пінжак у дзярме. Але морда невытлумачальна шчаслівая. Махнуў ён рукой — да сябе кліча. Падыходжу, але трымаюся насцярожана. Ці мала што такому ў галаву ўзбрыдзе!

— Браток! Шчаслівчык я! — з несамавітай усмешкай на твары кажа мне дзівак. — Задавальненне атрымаў такое, быццам вэнджанай асятрынкай паласаваўся.

— І што гэта за задавальненне, якое можна з вэнджанай асятрынкай параўнаць?

— Дзеў-ка! Разумееш, браток, дзеў-ка! — і гэтулькі ў гэтым слове было летуценнай мілагучнасці, што я аж пахіснуўся ад наплыву млоснасці, якая раптам агарнула мяне. А шчаслівчык не суцішаецца. — Так дзеўка мяне ўзбадзёрыла, што сам дзіву даюся, як зрабіўся нястомным працаўнікам на любоўнай ніве. Апалонікі лезлі з

мяне, як лава з вулкану. Дагэтуль дрыжыкі ў целе суняць не магу. Хоць нішто не прадвяшчала любоўнага шчасця. Прывёз гаспадыні на дачу гной. Разгрузіў. Яна ў хату паклікала і разлічылася на раскладзенай канапе. І да дупы мне сталі рыпучыя спружыны і шэрая вільготная прасціна.

Бар працяла звонкая цішыня. Аповед грыбніка закрануў за жывое. Апрытомнелі, калі мужык, вялізны, як трохстворкавая шафа, паклаў на плячо апавядальніка далонь, падобную да бліна.

— А сам ты шчасця хочаш?

— Хто ж яго не хоча? — унікліва адказаў грыбнік.

— Кожны хоча, але не кожны ведае, што слова «шчасце» азначае «шчас я цябе»!

— Не дуры, Федзя! — тармазнуў задзіру Рыгор. — Сёння тваё пахмельнае шчасце ў чарцы гарэлкі, паднесенай пісьменнікам. Зрэшты, як і ўсіх тых, што тут сабраліся. А ўзамен за праставу дапаможам пісьменніку парадай, як трэба пісаць правільныя кнігі.

Федзя быў вядомы ў раёне чалавекалюб. Жыў па прынцыпе: «Той, хто супраць, — таму ў храпу». Калі Федзя быў не ў гуморы, супакоіць яго магла толькі паднесеная шклянка гарэлкі.

— Федзя! Выпі з намі! — прапанаваў я, зразумеўшы, куды хіліць Рыгор. — Частую.

— Нарэшце інтэлігенцыя павярнулася тварам да гегемона! — змякчэў Фёдар.

— Мужыкі! Пісьменнік да нас параіцца прыйшоў, а мы тары-бары развялі. Балаган учынілі, — падняўся з-за століка Грышка. — Стаўлю на галасаванне: хто за тое, каб пісьменніку дапамагаць, падыміце чаркі. Аднагалосна! Нават Федзя не супраць. Давай, пісьменнік, замаўляй трыклятую і ашчасліў нас, напаўняючы чаркі пад «марусін паясок». Надалей пішы, як сумленне падказвае. Такі наш першы наказ, — Рыгор пракашляўся і заспяваў: — «Пра што не падумаў, аб тым не раскажаш. Пра што не паплакаў, аб тым не спяеш…»

Пераходзячы ад століка да століка і наліваючы ў падстаўленыя чаркі гарэлку, я падумаў: «Лепшым пісьменнікам было, ёсць і будзе само жыццё. Пісьменнік мусіць вельмі пастарацца, каб ягоныя творы былі сапраўды жыццёвымі, а ўласнае жыццё, нават у самых неверагодных праявах, нагадвала тое, аб чым ён зможа напісаць. Апавяданне павінна быць адначасова і простым, і кранальным, а персанажы настолькі добрымі, каб іх змог упадабаць самы пераборлівы чытач. Пра такое апавяданне наўрад ці хто скажа, што яно — толькі «чарнілы на паперы», не больш.




Праўды не скажу, але і хлусіць не буду - - - - 3
Генерал Бум-Бум - - - - - - - - - - - - - - - - - - - 5
А раніцай ён абудзіўся - - - - - - - - - - - - - -15
Міца - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - 26
Дуняша - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - 38
Япона бляха - - - - - - - - - - - - - - - - - - - 50
Соль жыцця - - - - - - - - - - - - - - - - - - - 67
інакенцій - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - 74
Людовік - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - 84
Таямнічая місія - - - - - - - - - - - - - - - - - 100
Бабскі бунт - - - - - - - - - - - - - - - - - - - 110
Сто крокаў да апраметнай - - - - - - - - - - - 117
Бяссонне Клябанава - - - - - - - - - - - - - - - 128
Белыя каяблікі - - - - - - - - - - - - - - - - - 135
Сіноптык - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - 145
Фігура, пастава, паходка - - - - - - - - - - - - 168
Універмаг - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - 176
Цугцванг - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - 189
Левае Фабержэ - - - - - - - - - - - - - - - - - -207
31 снежня - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - 218
Варажбіткі - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - 231
Белае, чорнае, зялёнае - - - - - - - - - - - - -244
Лекар - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -258
Соска - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -267
«Джын» - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -282
Турамок - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -298
Радыска ў снежні - - - - - - - - - - - - - - - - 314
Прагулка Баркляева - - - - - - - - - - - - - - -323
італьянская канапа - - - - - - - - - - - - - - -333
Ціха! Пагаворым пра шчасце! - - - - - - - - - 341

